

Токар Мінскага станкабудаўнічага завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі Аляксандр Кастроў. Аб ім на старонцы 119 расказвае сакратар заводскага камітэта камсамола Леанід Навіцкі.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс
Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі
і Саюза пісьменнікаў БССР

**1**

СТУДЗЕНЬ.
1962.
Год выдання X.

**У ГЭТЫМ НУМАРЫ:**

Аповесць Лідзіі Арабей «МЕРА ЧАСУ».
Вершы Рыгора Барадуліна, Уладзіслава Нядзведскага, Анатоля Сербантовіча.
Апавяданне Язэпа Куралікава «АГАНЁК».

На вокладцы малюнак **Ю. Выхадцава «Да новых вышыняў».**

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас редакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон—93-854.

Фармат паперы $70 \times 108^1/_{16}$. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 8.000 экз. Цана 40 кап.
АТ 15533. Здадзена ў набор 1. XII. 61. Падпісана да друку 2. І. 62. Зак. 855.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
г. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспект, 79.



# *З Новым годам, дарагія сябры!*



**Шчырая гутарка завязалася паміж дэлегатамі XXII з'езда КПСС — старэйшым членам партыі Героем Сацыялістычнай Працы Аленай Дзмітраўнай Стасавай і маладымі камуністкамі з Беларусі: брыгадзірам Гомельскага дрэваапрацоўчага камбіната Лідай Саракалетавай (злева), наладчыцай Мінскага трактарнага завода Розай Прусавай (трэцяя справа), даяркай саўгаса «Свяцілавічы» Веткаўскага раёна Нінай Шамонінай (другая справа), брыгадзірам Гомельскай панчошна-трыкатажнай фабрыкі імя 8-е Сакавіка Нінай Масквічовай (першая справа).**

***У памяці народнай назаўсёды застанецца XXII з'езд КПСС, як гіганцкі маяк, які яркім святлом азарыў нашу дарогу ў камунізм. Тыя, каму пашчаслівілася прысутнічаць на гэтым выдатным партыйным форуме, нібы сваімі вачыма ўбачылі***

***рэальныя абрысы камуністычнай будучыні, адчулі ўрачыстасць яе прыходу...***

***Гэта былі незабыўныя дні, хвалюючыя часіны. У новым крамлёўскім Палацы з'ездаў было шмат цікавых сустрэч, задушэўных гутарак...***

***Рэдакцыя часопіса звярнулася да ўдзельнікаў гэтых сустрэч — дэлегатаў XXII з'езда КПСС з просьбай падзяліцца тымі думкамі, з якімі ідуць яны ў новы, 1962 год.***

***РОЗА ПРУСАВА — наладчыца Мінскага трактарнага завода, Герой Сацыялістычнай Працы:***

*У тыя асеннія дні, калі праходзіў XXII з'езд КПСС, настрой ва ўсіх быў вясновы. Мы ж прымалі новую Праграму партыі — грандыёзны план пабудовы камунізма. План, па якому ўсе казачныя мары стануць явай!.. Кожнае пасяджэнне было вялікай падзеяй. Глыбока západалі ў душу і асобныя сустрэчы.*

*У размовах з многімі дэлегатамі гутарка заходзіла пра мінскія трактары. І з вялікім гонарам за наш калектыў магу сказаць, што ні ад каго не чула я дрэннага слова.*

*А ў адзін з перапынкаў да групы дэлегатаў, у якой была і я, падышоў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў. Сардэчна павітаўся з кожным. Знаёмячыся з ім, я назвала завод, на якім працую.*

*— Ведаю! — усклікнуў Мікіта Сяргеевіч. — Добры трактар «Беларусь». Малайцы!*

*Мяне вельмі ўсхвалявала пахвала кіраўніка нашай дзяржавы, і нібы новыя крылы выраслі ў мяне.*

*Калі савецкі чалавек чуе такую пахвалу, сэрца яго настройваецца на новыя працоўныя подзвігі. І я хачу закончыць свой кароткі роздум энергічным заклікам Мікіты Сяргеевіча Хрушчова:*

*— За работу, таварышы!*

***НІНА ШАМОНІНА — даярка саўгаса „Свяцілавічы" Веткаўскага раёна:***

*У мяне пасля з'езда засталіся такія ўражанні, так многа пачуццяў, што нельга ўсё як мае быць расказаць. Гэта было ўсё так цудоўна, нібы ў якой казцы ці ў сне... Калі я слухала ўсхваляваныя прамовы дэлегатаў і гасцей з'езда, я яшчэ больш паверыла: так, камунізм прыйдзе, мы яго пабудуем, будзем жыць у ім!*

*Вярнуўшыся са з'езда, я разам са сваімі сяброўкамі з нечуванай энергіяй узялася за працу, за тое, каб хутчэй стварыць багацце сельскагаспадарчых прадуктаў.*

*Я абслугоўваю 59 кароў. А ў 1962 годзе ў мяне будзе група — сто кароў. Узяла абавязацельства — надаіць ад кожнай каровы па 2 500 кілаграмаў малака. Такое абавязацельства і ў маіх сябровак кандыдатаў у члены КПСС Н. Раманоўскай і В. Маліноўскай.*

***ЛІДА САРАКАЛЕТАВА — брыгадзір з Гомельскага дрэваапрацоўчага камбіната:***

*Ужо больш двух месяцаў, як закончыў работу гістарычны XXII з'езд партыі. А перад маімі вачыма ўсё яшчэ стаіць Палац з'ездаў, празрысты і светлы... Я ўсё яшчэ чую словы Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, іншых кіраўнікоў партыі і ўрада, дэлегатаў з'езда. Вялікі гонар выпаў мне, простай працаўніцы: я ўдзельнічала ў рабоце з'езда будаўнікоў камунізма, з'езда, які прыняў найважнейшы дакумент нашай эпохі — Праграму КПСС.*

*Ніколі не забуду я і сустрэчы са знатнымі людзьмі краіны — дэлегатамі з'езда. Мне давялося размаўляць з Валянцінай Гаганавай, са знатным кукурузаводам краіны Яўгеняй Далінюк, са старой камуністкай А. Д. Стасавай. Надоўга застануцца ў памяці гэтыя сустрэчы. Мы нават разам сфатаграфаваліся. А калі развітваліся, Стасава сказала нам, гамяльчанкам: «Цвёрда трымайце, дзяўчаты, эстафету камунізма, перададзеную вам камуністамі старэйшага пакалення».*

*Вярнуўшыся ў сваю брыгаду, я падзялілася з рабочымі сваімі ўражаннямі аб з'ездзе, расказала аб сваіх думках, планах. Мы будзем цвёрда трымаць эстафету камунізма — працаваць старанна, выпускаць прадукцыю толькі выдатнай якасці. Мы будзем жыць так, як наказвае нам маральны кодэкс будаўнікоў камунізма.*

***НІНА МАСКВІЧОВА — брыгадзір Гомельскай панчошнатрыкатажнай фабрыкі імя 8 Сакавіка:***

*Сэрца маё радасна білася, душа поўнілася нечуваным шчасцем, калі я слухала дарагога Мікіту Сяргеевіча Хрушчова. З пачуццём гордасці за нашу партыю, за нашу савецкую Радзіму прымалі мы Праграму роднай партыі.*

*Мне давялося сустрэцца і гутарыць на з'ездзе з Валянцінай Гаганавай, гэтай цудоўнай, славутай жанчынай. Аднойчы, у час перапынку паміж пасяджэннямі, мы гутарылі з Германам Цітовым. Праслаўлены касманаўт па маёй просьбе напісаў аўтограф піянерам гомельскай школы № 10, над якой мы шэфствуем.*

*Нібы на крылах, ляцела я з Масквы ў свой родны горад, да дарагіх і блізкіх сябровў па працы. Рашэнні з'езда надалі мне нябывалы прыток энергіі. І не толькі мне, а ўсёй нашай брыгадзе, якая ўжо заваявала ганаровае званне калектыву камуністычнай працы, усім рабочым нашай фабрыкі.*

*Новы год прынясе нам, швейнікам, як і ўсім савецкім людзям, новыя радасці. Заваюем яшчэ адзін важны рубеж на шляху да камунізма. Наша брыгада вырашыла прадоўжыць ударную працоўную вахту, якую яна несла напярэдадні з'езда і ў дні яго работы. Наша цвёрдае слова — выканаць сямігодку за шэсць гадоў.*

***ЦІМАФЕЙ ФАНДО — брыгадзір комплекснай будаўнічай брыгады трэста № 1 г. Мінска:***

*На ўсё жыццё запомніўся мне XXII з'езд партыі. Я ўжо не гавару пра агульныя ўражанні, якія склаліся ва ўсіх дэлегатаў. Удзельнічаць у вырашэнні палітычных пытанняў такой непараўнанай сілы, усведамляць, што падняты табою мандат з'яўляецца загадам гісторыі, ад гэтага сэрца захлынаецца. Веліч гэтых падзей ніколі не згасне!*

*Пра сябе скажу шчыра: толькі ў Крамлі проста і яскрава зразумеў я, што такое асабісты ўклад у будаўніцтва камунізма. Не буду гаварыць пра ўсе ўмовы стварэння камуністычнага грамадства, скажу толькі*



**Як сябры, сустрэліся на XXII з'ездзе партыі дэлегаты з Украіны і Беларусі. Сярод іх: знатны будаўнік з Мінска Цімафей Фандо (першы злева), вядомы данецкі шахцёр Герой Сацыялістычнай Працы Мікалай Мамай (трэці злева) і лепшы станочнік Беларусі Герой Сацыялістычнай Працы Аляксандр Віташкевіч (чацвёрты злева).**

Фота У. Кітаса.

*пра жыллё. Жылля трэба многа. Будуе яго краіна па плану. Кожны новы дом — часцінка будучыні. Значыць, наш патрыятычны абавязак — рыхтаваць кожны дом да здачы ў час. Вось гэтымі самымі рукамі, якія пішуць словы роздуму, я ствараю багацце, без якога няма чалавеку вялікай будучыні. Гэта ж так проста! І датычыць гэта, безумоўна, кожнай прафесіі. Кожны з нас — творца свайго і агульнага шчасця!*

***АЛЯКСАНДР ВІТАШКЕВІЧ — расточнік Мінскага завода аўтаматычных ліній, Герой Сацыялістычнай Працы:***

*Уражанні ад XXII з'езда вельмі багатыя, на ўсё жыццё. Там было сапраўды шмат цікавых і хвалюючых сустрэч. Але самыя незабыўныя — гэта сустрэчы простых людзей з нашымі вучонымі, грамадскімі і палітычнымі дзеячамі. На з'ездзе ўсе былі як адна сям'я. Гэта было сапраўднае яднанне партыі, урада і народа.*

*Нібы і цяпер я чую простыя і шчырыя словы Мікіты Сяргеевіча пры закрыцці з'езда: «Нашы мэты ясныя, задачы вызначаны. За работу, таварышы! За новыя перамогі камунізма!»*

*Вось і сёння, стоячы ля станка, я думаю пра гэта. У нас шмат яшчэ рэзерваў. Мы можам працаваць лепш. Мы можам павялічыць выпуск новай тэхнікі, а значыць, і наблізіць час камунізма. У мяне на рахунку — ужо чатыры гады сямігодкі. А ёсць у нас таварыш — Аляксандр Філіч, той Новы год страчае ў новай сямігодцы. І нам такое па плячы, асабліва маладым, у якіх наперадзе — захапляючыя перспектывы.*



# ЯСНАЯ ДАРОГА ПАКАЛЕННЯ

Зайздросны лёс выпаў нашаму сучасніку. Сваёй справай, якая б яна ні была — вялікая ці малая, ён піша гераічны летапіс, назва якога — будаўніцтва камунізма.

У пражытым, 1961 годзе было шмат выдатных падзей, якія запісаны залатымі літарамі ў гэтым летапісе. Воляй савецкага чалавека асвоены яшчэ дзесяткі тысяч гектараў цалінных зямель, першы савецкі атамаход паспяхова штурмаваў лёдавыя прасторы Арктыкі, у тайзе і ў стэпах выраслі новыя гіганты індустрыі. Смелыя сыны гераічнага савецкага народа Юры Гагарын і Герман Цітоў ажыццявілі спрадвечную мару чалавецтва — праклалі першую ў свеце трасу ў касмічную прастору, глянулі на нашу планету з далёкіх завоблачных высяў.

Багаты на падзеі і здзяйсненні быў 1961 год. Сярод іх асабліва вызначаецца адна векапомная падзея — гістарычны XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, які паказаў чалавецтву шлях да запаветнай мэты — камунізма. З'езд абмеркаваў і зацвердзіў новую Праграму партыі — Камуністычны маніфест нашай эпохі. Па размаху і веліччы пастаўленых задач, па глыбіні навуковага прадбачання і арганічнай сувязі з жыццём гэты дакумент з'яўляецца адным з самых выдатных твораў навуковага марксізма-ленінізма. У ім партыя ўрачыста абвясціла: «Цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме!»

Ленінскі камсамол, уся моладзь рэспублікі з гонарам і радасцю сачылі за работай гістарычнага партыйнага з'езда, горача і аднадушна адобрылі яго рашэнні. Натхнёныя гэтымі рашэннямі, маладыя патрыёты ўсе свае сілы, здольнасці і талент аддаюць справе хутчэйшага ажыццяўлення велічнай праграмы камуністычнага будаўніцтва. У змаганні за перамогу новага грамадства ў гушчы моладзі нараджаюцца новыя пачынанні, карысная ініцыятыва. Камсамольцы, юнакі і дзяўчаты праводзяць сапраўды гераічную работу ў пошуках новых, камуністычных форм працы і быту.

Нядаўна ў невялікім гарадку Чэрыкаве на Крычаўшчыне паявілася новая незвычайная ўстанова — «Няштатны райком камсамола». Яго невялічкі пакой па вечарах бывае вельмі ажыўлены. Сюды прыходзяць хлопцы і дзяўчаты, каб стаць на камсамольскі ўлік, параіцца па хвалюючых пытаннях жыцця. Частыя госці тут — сакратары камсамольскіх арганізацый калгасаў, школ, прадпрыемстваў. Работай няштатнага райкома кіруе бюро, у якое выбрана 11 чалавек — энергічныя, ініцыятыўныя камсамольскія актывісты.

Нараджэнне камсамольскага органа самакіравання, пра які расказ-

ваецца ў гэтым нумары часопіса, падказана самім жыццём. Крычаўскі раён вялікі, і работнікам штатнага райкома не заўсёды ўдаецца апаратыўна кіраваць усімі справамі камсамольцаў. У камсамольскіх актывістаў чэрыкаўскай зоны, у сваю чаргу, не заўсёды ёсць магчымасць дабрацца ў Крычаў. Вось тут на дапамогу і прыйшла новая форма сувязі з шырокімі масамі моладзі — няштатны райком.

За апошні час у камсамольскіх арганізацыях, якія згуртаваліся вакол няштатнага райкома ў Чэрыкаве, ажывілася жыццё, павялічыўся прыток лепшай моладзі ў камсамол, праводзяцца цікавыя культурна-масавыя і спартыўныя мерапрыемствы. Камсамольскія арганізацыі калгасаў «Прагрэс», «Камінтэрн», «Праўда», «Чырвоны араты», «Рассвет» умацаваліся, папоўніліся за лік лепшай моладзі.

Амаль што ў гэты ж час у другім канцы рэспублікі — на Віцебшчыне з'явілася яшчэ адна навіна ў камсамольскай рабоце — няштатныя аддзелы райкомаў камсамола. У Міёрскім райкоме ЛКСМБ, напрыклад, створаны аддзелы: камсамольскіх арганізацый, прапаганды і агітацыі, вучнёўскай моладзі, спартыўнай і абаронна-масавай работы. У аддзелах працуюць лепшыя камсамольцы-актывісты. Імі кіруюць няштатныя сакратары райкома камсамола.

Усё гэта — характэрныя рысы нашага часу, калі бурна завірыла творчая ініцыятыва, грамадская самадзейнасць моладзі. Усё гэта — парасткі новага, камуністычнага жыцця, калі вялікую ролю будуць адыгрываць органы самакіравання, што ўзнікнуць на грамадскіх пачатках.

На грамадскіх пачатках у рэспубліцы, як і ва ўсёй нашай краіне, ужо дзейнічаюць народныя ўніверсітэты культуры, школы передавога вопыту і сельскагаспадарчых ведаў, народныя тэатры, лектарскія групы, кабінеты палітасветы, сельскія клубы і бібліятэкі, кніжныя магазіны і кіёскі, канструктарскія і эканамічныя бюро, саветы маладых спецыялістаў і г. д.

Найбольш ярка праяўляюцца рысы новага ў руху брыгад і ўдарнікаў камуністычнай працы, у якім удзельнічае звыш 12 тысяч маладзёжных калектываў, што аб'ядноўваюць 220 тысяч юнакоў і дзяўчат Беларусі. Разведчыкі будучыні, як трапна назваў народ удзельнікаў гэтага патрыятычнага руху, нястомна шукаюць шляхі і рэзервы далейшага павышэння прадукцыйнасці працы, паляпшэння якасці прадукцыі, актыўна развіваюць камуністычныя формы быту. Пры гэтым яны, як і належыць разведчыкам, праяўляюць сапраўдную смеласць, бальшавіцкую прынцыповасць і настойлівасць. Так, камсамольцы трактарнага завода ўзялі пад свой камсамольскі кантроль выпуск прадукцыі высокай якасці, стварылі камітэт грамадскага кантролю. Яны аператыўна ўскрываюць прычыны парушэнняў тэхналагічнага працэсу, уносяць свае прапановы, накіраваныя на паляпшэнне якасці прадукцыі. Як вынік, на заводзе скараціўся апарат штатных кантралёраў, павысілася адказнасць кожнага рабочага за якасць прадукцыі, рэзка зменшыўся брак.

Добры прыклад развіцця грамадскіх пачаткаў у працы паказваюць наша тэхнічная інтэлігенцыя, маладыя рацыяналізатары і наватары. У рэспубліцы створана больш пяцісот грамадскіх канструктарскіх бюро, у якіх актыўна ўдзельнічаюць маладыя інжынеры, тэхнікі, передавыя рабочыя. Сваімі сіламі грамадскія канструктары ўдасканальваюць абсталяванне, укараняюць у жыццё рацыяналізатарскія прапановы і вынаходніцтвы.

Характэрна, што грамадскія канструктарскія бюро не абмяжоўваюцца задавальненнем інтарэсаў толькі свайго прадпрыемства. Яны выходзяць на шырокую дарогу творчасці. Грамадскія канструктары Віцебскага завода радыёдэталей, напрыклад, стварылі спецыяльную групу для аказання дапамогі калгасу «Перамога» Віцебскага раёна. Яны ў вольны час распрацавалі чарцяжы падвяснои дарогі, а моладзь рамонтна-механічнага цэха па гэтых чарцяжах зрабіла і перадала калгасу неабходнае абсталяванне.

Такіх прыкладаў з кожным днём становіцца ўсё больш.

Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў на XIII з'ездзе ВЛКСМ гаварыў: «Грамадскасць, у тым ліку і камсамольская, павінна адыгрываць усё большую ролю ў барацьбе з недахопамі і заганамі, за ўсталяванне новага ў нашым жыцці. Няправільна рабіць так, каб усё ішло праз дзяржаўныя органы. Якая ўжо тут самадзейнасць, калі ўсюды будуць настаўнікі і нянькі ў выглядзе платных інструктараў, прапагандыстаў, трэнераў па фізкультуры і іншых работнікаў!».

Наша надзённая задача — усяляк падтрымліваць і заахвочваць ініцыятыву тых камсамольскіх арганізацый, якія на грамадскіх пачатках ствараюць клубы і бібліятэкі, арганізоўваюць саветы камуністычнага быту. Іх гаспадарамі, іх удзельнікамі з'яўляюцца самі юнакі і дзяўчаты. І зразумела, што яны робяць усё магчымае, каб грамадскія культурна-асветныя ўстановы працавалі ўзорна.

Варта адзначыць першыя крокі работы савета за камуністычны быт, які створан у Савецкім раёне Мінска. У ім працуюць ініцыятыўныя дзяўчаты: студэнтка медыцынскага інстытута Ізаліна Вялічка, акушэрка Лілія Абражэй, паштовыя работніцы Аксана Хамлюк і Раіса Канцавая, выхавальніцы дзіцячых садоў Галіна Мінакова і Люба Арцішэўская, тэхнік Тамара Захарэнка і другія. Людзі розных прафесій аб'ядналіся, каб змагацца за камуністычны быт. Дзяўчаты пабывалі шмат у якіх сем'ях, памаглі многім бацькам уздзейнічаць на свавольных дзяцей і г. д.

Напэўна, трэба, каб камсамольцы стварылі такія саветы ў кожным горадзе і калгасе, у домакіраўніцтвах і ў кожным інтэрнаце. Разам з народнымі дружынамі гэтыя саветы павінны настойліва змагацца за ўзорны парадак, супраць розных праяў старасветчыны, супраць благіх звычак — п'янства, хуліганства, гультайства.

Мы будуем такое грамадства, дзе поўнасцю раскрыюцца душэўныя багацці чалавека, дзе грамадская праца на карысць калектыву стане першай жыццёвай неабходнасцю. Ужо цяпер у нас паяўляецца ўсё больш «устаноў», якія працуюць на грамадскіх пачатках. Для іх неабходны кадры, людзі, якім гэтая справа па душы. Будзе правільна, калі камсамольскія арганізацыі зоймуцца падрыхтоўкай такіх людзей — аматараў, якія будуць мець, апрача асноўнай, яшчэ і грамадскую спецыяльнасць.

Першыя крокі ў гэтым кірунку зроблены. Працуюць сотні школ грамадскіх прафесій, якія рыхтуюць культасветработнікаў, камсамольскіх лектараў, прапагандыстаў-кнiганошаў, спартыўных інструктараў і г. д. Школы гэтыя даказалі сваю жыццёвасць, і ім трэба шырэй адкрываць дарогу.

На жаль, асобныя камітэты камсамола, мясцовыя органы культуры, народнай асветы не ўлічваюць той важнай ролі, якую заклікаты адыграць грамадскія школы ў жыцці нашай моладзі. Невыпадкова, што яшчэ ёсць школы, дзе вучоба вядзецца на нізкім узроўні, у адрыве ад практыкі, ад жыцця. Яшчэ не знайшлі дарогу ў школы грамадскіх прафесій дзеячы прафесійнага мастацтва, члены нашых творчых саюзаў — пісьменнікаў, журналістаў, мастакоў, кампазітараў.

Школы грамадскіх прафесій маюць вялікую будучыню. Іх варта акружаць увагай, аказваць ім усямерную дапамогу і падтрымку.

Маладое пакаленне нашай краіны з'ўляецца жывым сведкам ге-

раічных здзяйсненняў, станаўлення новых камуністычных грамадскіх адносін, выхавання новага чалавека. Маральны кодэкс будаўніка камунізма, сфармуляваны ў новай Праграме КПСС, становіцца законам нашага жыцця, нормай паводзін, суддзёй учынкаў і спраў моладзі. Камсамольскія арганізацыі ўсёй сваёй дзейнасцю заклікаyы змагацца за ажыццяўленне прынцыпаў маральнага кодэксу, дамагацца, каб яго запаведзі сталі свяшчэннымі для кожнага маладога чалавека. Трэба, каб юнакі і дзяўчаты свядома выхоўвалі ў сабе высокія маральныя якасці, лепшыя рысы характару савецкага чалавека.

Дарога нашага пакалення шырокая і ясная. Яна, нібы гіганцкім маяком, асветлена новай Праграмай КПСС, якую прыняў XXII з'езд роднай партыі. І вядзе гэтая дарога ў светлую будучыню, у камунізм.

Сёння мы знаходзімся на парозе вялікага дваццацігоддзя. За гэтыя дваццаць ударных гадоў насустрач камунізму нам трэба пабудаваць першакласную ў свеце цяжкую індустрыю, стварыць квітнеючую сельскую гаспадарку, узняць на новую вышыню навуку і культуру.

VIII пленум ЦК ЛКСМБ, які адбыўся ў снежні мінулага года і абмеркаваў вынікі работы XXII з'езда КПСС і задачы рэспубліканскай камсамольскай арганізацыі, вызначыў канкрэтную праграму дзеяння для кожнага юнака і дзяўчыны Беларусі па практычнаму ажыццяўленню велічнай Праграмы партыі.

Цяпер нельга марна траціць ніводнай хвіліны. З першых дзён новага, 1962 года трэба ўзяць ударны тэмп, імклівы разгон. Толькі пры такой умове мы зможам здзейсніць нашы вялікія планы і задумы.

За работу, таварышы!

З Новым годам, з новымі поспехамі, дарагія сябры!

**Савелій ПАЎЛАЎ,**
**намеснік загадчыка аддзела**
**прапаганды і агітацыі ЦК ЛКСМ Беларусі.**

**Рыгор БАРАДУЛІН**

# ТАВАРЫШ ПАРТЫЯ



аварыш Партыя,
прашу
Адну хвіліну ўвагі сёння.
Што легла шчыра на душу,
Хачу табе сказаць усё я.

Хачу сказаць ад тых імя,
Сваёю ўласнаю рукою
Хто сцяг на полюсе ўзнімаў,
Хто браўся ўзагрудкі з ракою,

Хто ад завей шалёных слеп,
Прапісаны на працы стала,
Каб лёг на стол цалінны хлеб
І каб Сібір цяплейшай стала.

Я толькі ненавіджу тых,
Хто скнарай над сабой
трасецца,
Тых алілуйшчыкаў святых:
Мёд на язык, а лёд—на сэрца.

Тых ненавіджу запявал
З іх пафасам ілжыва палкім,
Што нат
«Інтэрнацыянал»
Спяваць хацелі б
па шпаргалках.

Ты ж рухам ленінскай рукі
Куродым ўсіх кадзіл адгоніш!
Хай злосна каркаюць крукі;
Нічым нас не стрымаць
сягоння!

Хачу запэўніць я цябе,
Што здзейснім мы Тваю
праграму.
Камуны светлы дзень цяпер
Не за высокімі гарамі.

Хачу, каб ты заўжды была
Такой, як ёсць, — праўдзівай,
шчырай,
Бо з-пад твайго бярэ крыла
Узлёт
наш камсамольскі вырай!

## СМАГА

Суслік моліцца,
склаўшы лапы.
— Як я,
так заплакала б неба хоць!..
Каб,
быццам вужоў,
учарнелай ляпай
маланкі
глытала непагадзь.
Арла размарыла,
рассохлася дзюба,
сухім
падавіўся клёкатам.
Калі ж у раллю
жалудамі з дуба
ударацъ
дажджыны далёкія?!.
Вятры
сіпяць ад удушша ледзьве.
— Спёка,
сухмень
замучылі...
Няўжо
нагамі ступаюць
недзе
па зябкай вадзе
паплавамі зыбучымі?
Плыве ўдалеч
з сонейкам-сцягам
стэп
пад высакавольтнымі мачтамі.
Да кожнай кроплі
цягнецца смага,
нібыта дзіця
да грудзей матчыных.
Я смагу люблю
з сухімі губамі
за тую прагу



са сквапным позіркам,
што шлангам пажарным
вясёлку згінае
і выпівае
прадоннае возера!

## ЛАЗНЯ НА ГРАНІЦЫ


а благі настрой не лайся,
На хандру хранічную,
А заходзь адразу ў лазню,
Лазню прыгранічную.

Льюць на камяні з імпэтам
Самай поўнай меркаю.
На палку,
як на НП тым, —
Аж відаць Амерыка.

Венік схвошчацца—не злуйся,
Палупцуйся розгамі.
Пахне лістам, нібы ў лузе
Ці ў гаі бярозавым.

Старшына паважна крэкча
На палку палкоўнікам.
Мітуслівасць недарэчы —
Будзь, як бог, спакойны тут.

Пара,
сіл на дваццаць конскіх,
Дзверы рве з прабоямі.
Па прыступках млявых, коўзкіх
Коціць долу воінаў.

Будзь тут пільны па-салдацку,
Дый не пудкай пліскаю,
А не то — пахаладацца
За граніцу выскачыш.

Э, мароз, ты не апудзіш
Сцюжаю завейнаю.
Гэту лазню помніць будзеш
Да зялёных венікаў!..

## ПРА ПОМНІКІ


за тое, каб мёртвых помнілі,
Як і помнілі ўсіх жывых.
Каб душою, ўдзячнасці поўнаю,
Не забылі ніколі іх.

Чалавека матляла, кідала,
Гартавала ў крутым віры,

А з яго, бач, зляпілі ідала,
Папрыгладзілі ўсе віхры.

Так стараліся пэцкалі-скульптары.
Так паліў іх узлёт і гнеў, —
Плён патугі з рухамі скутымі
Па стандарту акамянеў.

Строга па разнарадцы развезены
(Не забыты ніводзін раён).
Змацаваны знутры жалеззямі,
Фарбаваны пад бронзу шаблон.

Я не знаю магілы бацькавай,
Дзе яна, на якой зямлі?
Можа гэта магіла брацкая,
Мо грудок, што вятры змялі.

Мо гарыць у электрапромніках,
Можа ў цемры з відна да пазна?
Ды ў фігуры стандартнага помніка
Бацьку я не магу пазнаць!

* * *

**— Мы з вамі на дне былога Палескага мора, — сказала мне дзяўчына ў забоі салігорскай шахты.**

Я на дне
Палескага мора
Б'ю плаўнікамі,
зяўлю шчэлепы.
Нехта мне вокам агністым моргнуў.
Чым далей плыву —
тым яшчэ лепей.

Я ў затоку бліскучую выплыў.
Ваколле лязгае,
рыпае.
Усё мне на дне знаёма, звыкла,
Быццам
я нарадзіўся рыбаю.

Мне да спадобы
салёны прысмак.
Хваля мяне пагойдвае.
Гуляю ў хованкі
з морам капрызным,
Заплыўшы ў затоку пагодную.

Нарэшце ў кадзь,
бы ў жалезны невад,
Я злоўлен рукамі дужымі.
Прасолены,
рыбай гляджу я на неба,
Якой у лёдзе
прабілі аддушыну...



Шахцёрку здаў,
пад душам папорскаў
(Мароз ледзяныя арэхі трэскае).
І зноў я —
прэсны,
і аб Салігорску
Пішу
інфармацыю прэсную.

## ДАЖДЖАВАЯ ВАДА

Дождж азалелы скакаў са стрэх,
Рабіўся вадой дажджавой у кадцы.
Бараду белахмарую гром састрыг
І раптам пачаў заікацца.

Няма барады,—
куды ўхмылку хаваць?
Ды, закасаўшы рукавы,
З вясёлкі крывую касу каваць
Па просьбе Жніўня пачаў, рухавы.

Б'е па вясёлцы кувалдай ззаўха,
Гартуе ў азёрах — кадзях вялізных.
Пажар — горан громаў — не хоча
сціхаць,
Сушняк языком шурпатым вылізвае...

Гартуе ў кадцы з вадой дажджавой
Гром сярпы з мітуслівых маланак...

З праставалосаю галавой
Ранак выводзіць цябе на ганак.

Над поўнай кадкай згінаешся ты,
Прамень глядзіць на заспаную скоса.
І падаюць, быццам маланак жмуты,
Ў ваду дажджавую
косы...

## ПАРОМ

Пагодліваю летняю парой
Нагружаны бухматымі вазамі
Зялёнай хмарай сунецца паром.
Каб не адбеглі берагі ў бакі —
Тугім канатам моцна іх звязалі,
І злосна ўсталі стромы на дыбкі.

Але прымаюць берагі паром —
У берагоў з паромам свой пароль.

Сам Чэрвень
за паромшчыка стаіць.
Плывуць вазы—няма затрымкі руху—
Нібы з лугоў уброд пайшлі стагі.
Спацеў паромшчык, замарыўся
ўшчэнт.
Балюча шыю рэжа пацяруха,
Ды пад'язджае воз,
яшчэ,
яшчэ...

А зверху крыкнуць хочацца
рублю:
«Трымаю воз, адзін я ўсё
раблю!»
Спякотай дыхае ля вуха конь.
Ад мурагу
пазелянелі цуглі.
Гарыць агнём у Чэрвеня далонь —
Канат сціскае сёння ад відна.
Ды воз за возам валакуцца цугам.
Рака прапахла мурагом да дна.
А сонца пазірае з неба скоса —
Спаборнічае Чэрвень
з Сенакосам.
Гэй, Чэрвень,
ты адзін запарышся,—
Бяры мяне к сабе ў таварышы!..

* * *


арога такая,
што мала веры,
Гарантыі болей —
трымацца аберуч.
Якая дарога,
такі і аўтобус,
Ды лепш дрэнна ехаць,
чым добра топаць.
Заняты
кожны сваім
пасажыры:
Хто дэтэктывам,
хто — булкай з сырам.
Ды ўперадзе —
раптам! —
на ўсю дарогу
Месяц заняўся
вялізным стогам.
Стог загарэўся,
пылае на ўзгорку.
Вунь пакацілася
іскрай зорка.
Змоўклі кпіны,
змоўклі жарты.
Вачэй не зводзіць
ніхто з пажара...
Шпіён не злоўлены,
сыр не з'едзены —
Глядзяць на поўню,
як на агледзінах



На маладую
радня жаніхова.
І больш ні гуку,
і больш ні слова...
Мяняюцца
самыя хмурыя
месцамі —
Хочацца ўсім
быць бліжэй да Месяца.

# ЖУРАВІНКА

Закахаўся ў дзяўчынку-
журавінку...
З народнай песні.


е шукаў я спарышоў
І балот, імшарын,
Аж пакуль цябе знайшоў
Вельмі ж шмат абшарыў.

Ой ты, ягадка мая,
Ой ты, журавінка.
Напаткаў жа цябе я
Якой паравінкай?

Спёку выцерпеў, імжу.
Мая баравая,
Анікому не скажу,
Дзе цябе сарваў я.

Вобраз твой з сабой
насіў,
Сніў і ўдзень і ўночы.
А цябе як раскусіў —
Аж заплюшчыў вочы...





*Лідзія Арабей — аўтар дзвюх літаратуразнаўчых манаграфій: аб жыцці і творчасці паэтэсы-рэвалюцыянеркі Цёткі і аб Хвядосе Шынклеру. У 1960 годзе выйшаў яе зборнік апавяданняў для дзяцей «Калібры». Летась у бібліятэчцы «Вожыка» выдадзены зборнік гумарыстычных апавяданняў «Кватэра № 3».*

*«Мера часу» — першая аповесць пісьменніцы.*

**Лідзія АРАБЕЙ**

# МЕРА ЧАСУ

Мал. А. Кашкурэвіча.

### Аповесць

1

Ліпы, што раслі на вуліцах горада, пачыналі жаўцець. Вецер паволі хадзіў вакол кожнага дрэва, нібы абмацваючы яго, спрабуючы, ці моцна трымаюцца медзякі-лісты, ці не пара скідаць іх на дол. Ды пакуль не вельмі багатай была яго здабыча. Сонца, хоць ужо і не так пякло, як у жніўні, яшчэ ярка свяціла ў чыстым сінім небе.

Зоя ішла па вуліцы, з прыемнасцю падстаўляючы пад цёплыя праменні свой твар, свае загарэлыя рукі. На ёй была стракатая сукенка, падпераханая шырокім чырвоным поясам. Светлыя валасы, неяк адмыслова зачэсаныя ўгору, ззаду трымала вялікая шпілька — такая прычоска цяпер была модная. Невялічкая, быстрая, з нясмелым позіркам крыху коса пастаўленых вачэй, Зоя нагадвала зайчыка. Можа таму і звалі яе сяброўкі ў школе Зайчыкам. А можа гэта мянушка пайшла ад імя — Зоя, Зоечка, Зайчык. Яна не крыўдзілася на мянушку і нават адгукалася, калі яе так звалі.

Але школа, сяброўкі — усё гэта мінулае. З сённяшняга дня ў яе пачынаецца новае жыццё. Яна будзе працаваць на гадзіннікавым заводзе ў зборачным цэху. З сённяшняга дня яна — самастойны, дарослы чалавек. Антаніна Іванаўна, Зоіна маці, сказала, што пакуль ім на жыццё хапае і бацькавай пенсіі. Але ўсё роўна палову заробку яна будзе аддаваць маці, а на астатнія — нашые сабе сукенак, справіць новае паліто.

Зоя ўвайшла ў тралейбус, села ля акна. Насустрач ёй пабегла вуліца. На прыпынках стаялі доўгія чэргі. Зоі здавалася, што ўсе людзі, якіх яна бачыць, спяшаюцца да нейкай сваёй работы. І ёй было радасна, што яна, разам з усімі, едзе працаваць. Але ва ўсіх такія спакой-

ныя, упэўненыя твары. Усе недзе ведаюць сваю работу. А што ёй загадаюць? І ці здолее яна працаваць, ці навучыцца?

...Нясмела зайшла Зоя ў прасторны светлы цэх. У ім было, як у вялікай лабараторыі. Агромністыя, на ўсе сцены, чыста памытыя вокны, бліскучы лінолеум пад нагамі. І кругом на ўсіх — белыя халаты.

Начальнік цэха коратка зірнуў на яе і скіраваў свой позірк некуды ўглыб цэха. У белым халаце, крыху паўнаваты, з невялікімі залысінамі, ён здаўся Зоі падобны на доктара, якога выклікалі з палiклінікі, калі Зоя прастуджвалася. І калі ён палез у вялікую кішэню белага халата, ёй здалося, што зараз ён дастане адтуль трубку, якою слухаюць хворых. Але начальнік цэха дастаў нейкі жалезны інструмент, падобны на пласкагубцы. Ён зноў паглядзеў на Зою і ўжо даўжэй затрымаў на ёй позірк, нібы прыкідваючы, чаго яна варта.

— На якую ж аперацыю вас паставіць?— спытаўся ён, ляпаючы незнаёмым Зоі інструментам па цвёрдай шырокай далоні. Пасля павярнуўся і пайшоў наперад, аглядаючы доўгія стужкі канвеера.

Зоя не ведала, ці ёй трэба стаяць на месцы і чакаць, ці ісці за ім. Але начальнік цэха азірнуўся і рукою паклікаў яе.

— Вы хоць што-небудзь пра зборку ведаеце?— спытаўся ён, калі Зоя дагнала яго.

— Не,— адказала Зоя.

Начальнік цэха зноў спыніўся, пастаяў, падумаў, усё ляпаючы па далоні інструментам, пасля сказаў:

— Пастаўлю вас на праўку валаска і баланса, на гэтую аперацыю нам патрэбны людзі, — і паклаў інструмент у кішэню, нібы той памог яму вырашыць пытанне і цяпер ужо быў непатрэбен.— Рэня!— паклікаў ён, паварочваючыся да канвеера.

Зоя зусім не ведала, што такое праўка валаска, праўка баланса. Да таго ж вельмі строга хмурыў бровы начальнік цэха. І яна адчула, што радасны настрой, з якім нядаўна ехала сюды, пачынае спадаць, а трывога ўсё больш расце ў яе сэрцы.

А начальнік цэха падводзіў ужо яе да нейкай дзяўчыны.

— Вось, знаёмцеся,— сказаў ён.— Рэня Валожына. Яна будзе вас вучыць.

— Сядайце, калі ласка,— паказала Рэня на круглае, як у цырульні, крэсла, што стаяла з другога боку канвеера.

Калі начальнік цэха пайшоў, Зоя села на крэсла, адчуваючы на сабе цікаўныя позіркі дзяўчат.

— Паглядзіце пакуль, як мы працуем,— сказала Рэня, не адрываючыся ад работы.

Уздоўж стужкі канвеера, нізка нахіліўшыся да яе, сядзелі дзяўчаты ў белых халатах і аднолькава завязаных белых марлевых касынках. Пасля таго, як у планачцы, прымацаванай да канвеера, загаралася чырвоная лямпачка, стужка пачынала павольна рухацца. Праз некаторы час яна спынялася, а потым зноў загараўся чырвоны агеньчык, і стужка зноў рухалася. Дзяўчаты пінцэтамі бралі нейкія малюсенечкія дэталі і прымацоўвалі іх да металічнай пласцінкі. Час ад часу яны перадавалі нешта адна адной і гаварылі незразумелыя для Зоі словы — «на другі ход», «на ангрэнаж». Часам гаварылі звычайнае: «Учора новы кінафільм глядзела...», «А Вера замуж выйшла, ведаеш?».

Зоя непрыкметна разглядала Рэню. «Прыгожая»,— падумала яна. У Рэні былі тонкія цёмныя бровы, якія, нібы птушыныя крылы, разляталіся на яе гладкім белым ілбе. І ўвесь твар у яе быў нейкі гладкі, чысты. Каля вуснаў ляжала ледзь прыкметная рысачка, якая рабіла выраз твару мяккім і добрым. Рэня сядзела, нізка нахіліўшыся да канвеера, прыставіўшы да вока лупу, якая на драцяным абручыку трымалася ў яе на галаве. Часам яна паднімала лупу на лоб і тады рабілася падобнаю на шахцёра.



Злева ад Рэні сядзела дзяўчына з быстрымі, вясёлымі вачыма. Часам яны паблісквалі так гарэзліва, што, здавалася, дзяўчыне трэба было стрымлівацца, каб не зарагатаць альбо не выкінуць якую штуку.

Справа ад Рэні працавала, не паднімаючы галавы і нават ні разу не глянуўшы на Зою, дзяўчына з круглым ружовым тварам. У яе былі светлыя вейкі і залацістыя, густыя бровы, якія амаль збягаліся ў пераноссі кожны раз, калі яна нахілялася да канвеера.

Нечакана ў цэху пачулася музыка. Ігралі знаёмую мелодыю з кінафільма.

— Мусіць Жэня ліст ад жонкі атрымаў і настрой у яго добры, што вясёлую музыку паставіў,— сказала дзяўчына з гарэзлівымі вачыма. Яна бліснула імі на Рэню, чакаючы, што тая ёй адкажа.

— Калі так, хай часцей палучае,— падтрымала жарт Рэня.— Ну, цяпер мы з вамі крышку зоймемся, я наперад нарыхтавала дэталей,— сказала яна Зоі. Потым акуратна дастала з шуфлядкі нейкія інструменты, паклала іх перад сабою.

— Дык вось,— паказала яна рукою на доўгую стужку,— перад вамі канвеер. Першая аперацыя на ім — рэмантуар. Устаўляецца ключ гадзінніка, акунднае кола, пераводныя рычагі. Робіцца завод гадзінніка. Ставіцца рэмантуарны мост. У нас ідзе першы ангрэнаж, потым другі ангрэнаж — барабан, барабанны мост і барабаннае кола. Пасля другі ход — анкерны мост і анкерная вілачка. Поруч — перавес баланса. Наша аперацыя — праўка валаска і баланса. Далей — змазка. Пасля змазкі — стрэлкі...

Зоя старалася зразумець і запомніць, што гаварыла Рэня, аднак, словы, якія яна чула першы раз, здавалася, не толькі запомніць, але і выгаварыць было цяжка. Рэня, напэўна, заўважыла збянтэжанасць на Зоіным твары, бо ўсміхнулася.

— Спачатку гэта ўсім здаецца вельмі складаным,— спагадліва сказала яна,— але пасля вы ўсё зразумееце. Будзеце тэхмінімум праходзіць. А цяпер я вас з нашай аперацыяй пазнаёмлю. Вось гэты пінцэт для праўкі валаска. Гэты — для праўкі баланса. А гэта — ляўцыркуль,— адзін за адным брала яна ў рукі інструменты, якія нядаўна дастала з шуфлядкі.— А вось баланс,— паказала Рэня на жоўтае колца.— А гэта сам валасок. Ад таго, ці правільна пастаўлены валасок з балансам, залежыць ход гадзінніка. Разумееце?

Гэта было зразумела. Што такое пінцэт — Зоя ведала, а ляўцыркуль — хоць і смешнае слова, а запомніць яго лёгка. Варта толькі да знаёмага слова цыркуль дабавіць «ляў».

— Баланс з валаском правіцца ў ляўцыркулі,— тлумачыла Рэня,— так што спачатку вы будзеце трэніравацца, як устаўляць баланс у ляўцыркуль.

Спрытна падчапіўшы баланс з прымацаваным да яго валаском і на сваім ляўцыркулі паказаўшы, як трэба ўстаўляць яго, Рэня паклала жоўтае колца перад Зояй.

Рэня ўсё рабіла вельмі лёгка і проста, і Зоя вырашыла, што паўтарыць усё гэта ёй будзе зусім не цяжка. Але калі ўзяла яна ў рукі пінцэт і ляўцыркуль, то збянтэжылася. Рукі былі нейкія няўклюдныя, няспрытныя, як граблі. Пінцэт у руцэ дрыжаў, і нават падняць баланс было не вельмі проста. А калі яна нарэшце падняла яго і пачала ўстаўляць у ляўцыркуль, акуратненькая чорная спружынка валаскаператварылася ў заблытаны, пакамечаны скрутачак.





Зоя разгубілася.

— Нічога, нічога,— супакойвала яе Рэня.— Вось вам другі баланс.

Але і другі баланс Зоя сапсавала.

Увесь першы дзень яна толькі і рабіла, што спрабавала ўстаўляць баланс у ляўцыркуль, але ў канцы дня не ўмела гэтага рабіць, як і ў пачатку.

Дахаты Зоя пайшла невясёлая.

## 2

Ішоў час. Скончыўся яшчэ адзін рабочы дзень, і дзяўчаты шумнаю гурбою пакідалі цэх. У белых халатах, у белых марлевых касынках, яны, неяк падобныя адна на адну, нагадвалі чараду белых лебедзяў. Але вось паскідалі халаты і касынкі, апранулі якая паліто, якая плашчык і адразу зрабіліся зусім розныя. Дзяўчаты разыходзіліся, спяшаліся дахаты.

Рэня ішла адна. Сяброўкі Валя і Люба засталіся выпускаць насценную газету, а ў яе сёння былі заняткі ў інстытуце.

Наперадзе Рэня ўбачыла сваю новую вучаніцу Зою. Яе абміналі шумныя групкі дзяўчат, а яна ішла, як здалося Рэні, самотная, невясёлая.

Рэня разумела, што Зоі цяжка на рабоце. Кожную раніцу яна садзіцца на сваё крэсла за канвеерам такая свежая, акуратная, а пад канец дня шчокі яе бляднеюць, касынка спаўзае набок, з-пад яе выбіваюцца валасы. А цяпер, здалёк, Зоя здалася Рэні зусім дзяўчынкаю, дзіцем. Можа такою рабіла яе вельмі кароценькае блакітнае паліто, а можа і ўся постаць, самотная і разгубленая. І хоць сама Рэня была ўсяго на тры гады старэйшая за Зою, яна адчула сябе раптам дарослым чалавекам, ёй захацелася дагнаць Зою і сказаць дзяўчыне нешта добрае, спагадлівае. І наогул Рэня не разумее, чаму ў яе да гэтай дзяўчыны ўзнікла нейкае асаблівае пачуццё. Зоя — трэцяя яе вучаніца. Ранейшыя таксама прыходзілі на завод пасля дзесяцігодкі. І ў іх на першым часе нічога не атрымлівалася, і тыя пакутавалі, але да іх Рэня ставілася звычайна. А гэта...

Рэня паскорыла крок, але тут падышоў тралейбус, Зоя падбегла і ўскочыла ў яго. Рэні не трэба было ехаць на тралейбусе, яна жыла недалёка, у інтэрнаце. «Скажу Валі і Любе, калі будуць браць білеты ў кіно, хай возьмуць і на Зою»,— падумала яна.

Чым бліжэй падыходзіла Рэня да інтэрната, тым менш думала пра завод, пра Зою. Перад вачыма ўсплывау столік — маленькі жоўты падрапаны столік, які стаіць пры ўваходзе ў інтэрнат і ля якога заўсёды сядзіць цётка Феня.

Рэні так і ўяўляўся белы канверт на гэтым століку — ліст ад Юры. Можа, ліст ужо ляжыць там, і на яго ўсе абыякава пазіраюць. І толькі Рэня аж засвеціцца з радасці, убачыўшы гэты канверт і адразу пазнаўшы яго, нават не разгледзеўшы яшчэ на ім свайго прозвішча.

Рэня зноў паскарае хаду, адным рыўком адчыняе дзверы.

Ляжыць... Вядома, ляжыць! Ах, Юра, як добра... Каб ты ведаў, якая гэта радасць — атрымаць ад цябе ліст! Схапіць яго і бегчы па лесвіцы ў пакой, прымасціцца ў куточку, нецярпліва распячатаць, дастаць некалькі лісткоў, спісаных тваім прыгожым, дробным почыркам, і чытаць іх. Прачытаць раз — скарэй, скарэй, каб хутчэй ведаць усё, пра што ты напісаў, а пасля перачытаць другі раз, ужо больш спакойна, думаючы над кожным словам. А потым перачытаць і трэці раз і, нарэшце, позна вечарам зноў дастаць твой ліст і яшчэ перачытаць яго, каб заснуць, ужо на памяць ведаючы кожны радок.

«Родная мая, любая,— пісаў Юра.— Лічу дні да нашай сустрэчы, хоць іх яшчэ вельмі і вельмі многа. Аж да зімовых канікул. Каб хутчэй ішоў час, імкнуся запоўніць яго з раніцы да вечара. А гэта мне няцяжка, бо работы багата. З самага пачатку года, як і казаў табе, узяўся за дыплом. Матэр'ялу ў мяне ўжо вельмі многа, так што хлопцы жартуюць, што я адразу хачу кандыдацкую дысертацыю напісаць.

Каб ты ведала, як хочацца хутчэй скончыць інстытут і паехаць працаваць. Калі я паступаў у інстытут, то тады яшчэ не разумеў, якая гэта паважаная, высакародная спецыяльнасць — быць інжынерам-

мостабудаўнікам. Я нават не ведаю, як табе растлумачыць, чаму я лічу гэту спецыяльнасць такою высакароднаю. Скарачаць адлегласць... падаваць руку людзям... не, не тое, не тое я адчуваю, калі думаю аб сваёй будучай спецыяльнасці, нейкія асаблівыя пачуцці поўнілі мяне, калі я сёлета быў на практыцы і ўжо нечым памагаў на будаўніцтве.

Але я ўсё пра сябе пішу. А як там твае справы? Ці думаеш ты так пра мяне, як я пра цябе? Я, ведаеш, цяпер гляджу на ўсе жаночыя гадзіннікі. А можа каторы — мінскі? Нядаўна ў нас тут, у інтэрнаце, збіралася кампанія і ў адной дзяўчыны я ўбачыў ваш гадзіннік. Паверыш, нібы прывітанне ад цябе атрымаў.

Часта думаю, як нялёгка табе і працаваць і вучыцца. Але ты вучобы не кідай. Час ідзе хутка. Я вось і не агледзеўся, як інстытут канчаю. Хоць ты і вельмі занятая, я буду прасіць, каб ты пісала мне і больш, і часцей. А пакуль усяго табе найлепшага, самы блізкі мой, самы дарагі чалавек. Цалую цябе моцна-моцна.

Твой Юра».

Рэня некалькі разоў перачытала ліст і толькі тады пачала распранацца. Паволі скідала паліто, берэт, вешала ўсё ў шафу, а сама ўсміхалася. «Ці думаю я пра яго так, як ён пра мяне... Дурненькі... Ды ці бывае хвіліна, каб я пра цябе не думала... Пачую па радыё песню, якую ты так любіш —

Пока я ходить умею,
Пока глядеть я умею,
Пока я дышать умею —
Я буду идти вперед...—

і мне здаецца, што гэта ты спяваеш. А каб ты ведаў, як часта гляджу я на каляндар, лічу дні, колькі іх да студзеня... Бо і ты ж для мяне самы блізкі, самы дарагі на свеце чалавек».

Яна пачала рыхтаваць вячэру, напяваючы:

И снег, и ветер,
И звезд ночной полет
Меня мое сердце
В тревожную даль зовет.

Пасля памешвала ў каструльцы кашу і гартала старонкі кнігі — праглядала заданне сённяшняга семінара.

## 3

Рэня вырасла ў дзіцячым доме. Бацька яе загінуў на фронце. Маці забілі паліцэйскія. Бацька, спешна адыходзячы на вайну, забыўся дома пашпарт. Пайшоў толькі з вайсковым білетам. І маці вельмі берагла гэты пашпарт, хавала яго, а калі куды хадзіла, дык брала яго з сабою. Аднойчы яна пайшла ў вёску мяняць на харчы запалкі, соль і мыла. Бацькаў пашпарт узяла з сабою. Яна вярталася ўжо назад, калі ў лесе яе затрымалі паліцэйскія. Пачалі абшукваць і знайшлі пашпарт. Вырашылі, што жанчына несла яго партызанам. Тут жа, пры дарозе, і застрэлілі яе, забраўшы дзесятак яек і кавалачак сала, якія маці несла пяцігадовай Рэні.

Гэта было ўжо ў 1944 годзе. Скора Савецкая Армія выгнала захопнікаў, і дзяўчынку ўзялі ў дзіцячы дом.

Там былі дзеці, якіх вайна зрабіла сіротамі. Але час ішоў, і ў некаторых з іх аб'ўляліся бацькі. У Мані Ражковай, худзенькай дзяўчынкі з тонкімі белымі коскамі, бацька, як выявілася, не загінуў. Праз пяць год пасля вайны ён знайшоў дачку і забраў яе з дзіцячага дома. Рэня сябравала з Маняю, і калі сяброўку забіралі, яна з зайздрасцю пазірала, як ішла Маня, трымаючыся за бацькаву руку. У Валодзі Кажухова знайшлася маці. Гэта была не маладая, бедна апранутая жанчына. Адзін рукаў яе паношанай світкі быў запіхнуты ў кішэню — у жанчыны не было рукі. Яна ўвесь час плакала, выціраючы вочы рогам вялікай чорнай хусткі. Плакала і ўсміхалася, і пакуль збіраўся Валодзя, хадзіла за ім следам, як прывязаная. А Рэня пазірала на яе і думала: «Ну, хай бы і мая мама была жывая... Хай бы знайшла мяне тут...»

Многа год самым гарачым жаданнем было ў Рэні — каб у яе аб'явіліся бацькі. Яна не верыла ў смерць маці, не верыла, што бацька загінуў. Яна чакала, што нехта знойдзе яе, забярэ з Калінаўкі. Не таму, што дрэнна было ёй у дзіцячым доме. Не. Тут былі сябры. Тут была Разалія Сямёнаўна, да якой бегла Рэня, калі хто крыўдзіў яе. Але ўсё-такі Рэня чакала. Чакала і спадзявалася.

Аднак ніхто не прыязджаў па Рэню, і дзяўчынка, падрастаючы, пачынала разумець, што каб быў у яе хто з блізкіх, то ўжо знайшоў бы яе. А калі за трынаццаць год так ніхто і не з'явіўся, то чакаць больш і не варта. Наперадзе было жыццё. Яно клікала на свой шырокі, нязведаны прастор, і мары дзяўчыны беглі туды.

Калі з гадзіннікавага завода ў дзіцячы дом прыйшла адносіна з просьбай прыслаць трох дзяўчынак, Разалія Сямёнаўна першай назвала Рэню.

— У дзяўчынкі залатыя рукі,— гаварыла яна дырэктару дзіцячага дома Івану Гаўрылавічу.— І ў вышывальным гуртку яна лепшая рукадзельніца, і ў сталярнай майстэрні не горш за хлопчыкаў працуе. Вунь, пудэлачак, што яна зрабіла, на выстаўцы стаіць, — паказала Разалія Сямёнаўна ў бок залы, дзе размяшчалася выстаўка работ выхаванцаў.

— Усё гэта я ведаю, Разалія Сямёнаўна,— гаварыў Іван Гаўрылавіч, дастаючы з шафы папку з дакументамі Рэні Валожынай.— Толькі можа яна захоча ў інстытут паступаць.

Разалія Сямёнаўна таксама задумалася. Хіба не хацела яна Рэні самага лепшага. Ды і не толькі Рэні, а ўсім дзецям, якія вось тут, на яе вачах падрасталі. Хіба не хацела б яна, каб Рэня вучылася, але ж конкурсы цяпер вялікія: ці паступіць!..

— Давайце спытаемся ў яе,— паклаў на стол папку Іван Гаўрылавіч.— А наогул, яна дзяўчынка здольная, старанная. Захоча, будзе працаваць і вучыцца. На завочным аддзяленні, на вячэрнім.

Як толькі Рэня даведалася, што ў яе ёсць магчымасць паехаць працаваць на гадзіннікавы завод, у думках, у марах яна ўжо была там — хадзіла па цэху, сядзела за канвеерам, рабіла нейкую сваю, яшчэ невядома якую, але важную работу. У марах яна ўжо жыла ў вялікім горадзе, гуляла па яго прыгожых вуліцах. «А вучыцца я абавязкова пайду. На вячэрні... У політэхнічны»,— думала Рэня.

Прыходзіў у марах да яе і юнак, якога яна сустрэне ў Мінску. Можа, ён на заводзе працуе і не ведае, што скора прыедзе Рэня, і яны сустрэнуцца? А можа ён вучыцца ў інстытуце, куды паступіць і яна? Ён абавязкова вельмі разумны, прыгожы, дужы, адважны. Яны разам будуць працаваць і вучыцца, хадзіць у кіно, тэатры.

Юнак не прымаў у Рэніным уяўленні рэальнага аблічча. Яна не магла ўявіць сабе яго вачэй, твару. Тым больш не магла яна дапасаваць героя сваіх патаемных мараў да каго-небудзь са знаёмых хлопцаў і асабліва да тых, з якімі расла, гадавалася ў дзіцячым доме. «Той» юнак быў з іншага жыцця, якога яшчэ не ведала Рэня, але якое прыйдзе да яе, скора наступіць.

Калі цяпер Рэня ўспамінае ўсё гэта, ёй робіцца смешна. Яна думала, што той адзіны, якога мусіць сустрэць яна ў жыцці, недзе

далёка. А ён, выходзіць, увесь час быў побач. Рэня і падумаць не магла, што ім мог аказацца Юра, той самы Юра, які гадаваўся і рос разам з ёю, часам, цягаў нават за косы. Праўда, яшчэ даўно, калі яны былі зусім малыя, Рэня неяк раз падумала, што Юра незвычайны хлопчык. Яна добра памятае той выпадак.

Аднойчы ў дзіцячы дом прыехала прыгожа апранутая жанчына. На ёй было доўгае паліто, вузкае ў стане і шырокае ўнізе, чорныя туфлі на высокіх абцасах, у руках чорная бліскучая сумачка. Аказалася, што гэта Юрава маці, якая доўга шукала яго і толькі цяпер знайшла. Яна паехала з Юрам у мястэчка і адразу купіла яму прыгожы шарсцяны гарнітур, паліто, не такое, як насілі ўсе ў дзіцячым доме, жоўтыя чаравікі. З дзецьмі яна гаварыла ласкава, частавала цукеркамі. Але калі пагладзіла сваёю белаю рукою з пафарбаванымі пазногцямі Рэню па шчацэ, рука гэта здалася Рэні халоднай. Ад яе не было так хораша, як ад рукі Разаліі Сямёнаўны.

Юра паехаў з дзіцячага дома на блакітнай «Пабедзе», і хлопчыкі доўга беглі за машынаю.

А праз год Юра вярнуўся ў дзіцячы дом. Прыйшоў абадраны, брудны, з вялікаю драпінаю праз усю шчаку. Ён хаваўся ад міліцыі, зайцам ехаў на цягніку і на аўтобусе. Юра сказаў, што жыць там, «у іх», не хоча, бо гэта не яго бацькі. Яны хацелі ўсынавіць яго, а ён не хоча ўсынаўляцца. Юра нічога не расказваў, як там яму жылося і чаму не палюбіў ён сваіх прыёмных бацькоў.

Праз некаторы час тая самая жанчына зноў прыязджала ў дзіцячы дом. Феня Буракова, якая заўсёды ведала вельмі многа сакрэтаў, прыбегла да Рэні і пачала расказваць, што яна падслухала, аб чым гаворыць «тая цётка», як яна яе называла, з Іванам Гаўрылавічам.

— Яна так сварыцца на Юру, так сварыцца,— шаптала Феня.— Кажа, што ён няўдзячны хлопчык. Каб застаўся ў іх, дык яму б на ўсё жыццё было вельмі добра... А так і сабе нашкодзіў і іх зняславіў, уцёк, нібы яны яго крыўдзілі... Яна прасіла, каб Іван Гаўрылавіч паклікаў Юру і спытаўся, ці дакранулася яна да яго калі хоць пальцам... А Іван Гаўрылавіч супакойвае яе. Кажа, што і сам шкадуе, што так атрымалася, але прымусіць Юру, каб ён вярнуўся, не можа. Дык ведаеш, што яна сказала? Яна сказала, што і не хоча, каб Юра вяртаўся, а толькі хоча сказаць, што яны дрэнна тут дзяцей выхоўваюць. А далей я не чула, што яны гаварылі...

Рэня хоць і не вельмі любіла Феніны сакрэты, на гэты раз слухала з цікавасцю. Пасля яны разам з Феняю пабеглі, каб дачакацца, пакуль выйдзе тая жанчына ад Івана Гаўрылавіча. А калі жанчына садзілася ў сваю «Пабеду», Рэня паказала ёй язык. Яна была рада, што Юра ўцёк.

Так і застаўся Юра ў дзіцячым доме. Тут скончыў дзесяцігодку, адсюль паехаў у Ленінград паступаць у інстытут.

Юра быў на год старэйшы за Рэню і калі ад'язджаў, Рэня, разам з іншымі дзецьмі, праводзіла яго. Яны гурбою пайшлі на станцыю, па чарзе падносячы Юраў чамадан. Тады Рэня зайздросціла Юру, што вось ён ужо скончыў дзесяць класаў і едзе ў вялікі, слаўны горад, а ёй яшчэ трэба чакаць цэлы год. І не вельмі думала Рэня, ці сустрэнуцца яны з Юрам яшчэ калі-небудзь.

Сёлета Рэня ў час адпачынку ездзіла дадому, у Калінаўку. Паехала да Разаліі Сямёнаўны, да Івана Гаўрылавіча. Многія выхаванцы і выхаванкі, пакуль не жаніліся, не выходзілі замуж, прыязджалі ў адпачынак, на канікулы «дадому», як яны гаварылі. У гэта лета сабралася асабліва многа былых выхаванцаў. Разалія Сямёнаўна выцягнула ўвесь запас раскладушак, каб як размясціць гасцей.



Прыехаў на свае канікулы і Юра. Вось тут усё і здарылася. За гэты месяц, поўны красак і сонца, птушынага шчэбету і пахучых суніц, Юра зрабіўся для Рэні самым дарагім чалавекам на свеце. Цяпер яна вельмі любіць успамінаць тыя сонечныя ліпеньскія дні. Успамінаць да драбніц усе сустрэчы, усе словы, якія гаварыў Юра.

У дзень прыезду пайшла Рэня ў сад паглядзець, як падраслі тыя дрэвы, якія яна некалі пасадзіла. Падыходзіць да чарэшні, а на ёй сядзіць хлопец у белай кашулі, рве спелыя чырвоныя ягады і па адной, асцярожна, кладзе ў кошык. Рве, кладзе і спявае: «Пока я ходить умею, пока глядеть я умею...»

— Хто гэта на маю чарэшню ўзлез? — грозна спыталася Рэня, прыглядаючыся і не пазнаючы, хто зрабіў напад на яе гадаванку.

Хлопец перастаў спяваць, павярнуўся, леваю рукою рассунуў галіны, і на Рэню глянулі два смяшлівыя кавалачкі неба.

— Гэта ты, Юра?!—хутчэй ужо здзіўлена, чым грозна, сказала Рэня.

А Юра пазіраў на яе зверху ўніз і ўсміхаўся. Неяк вельмі хораша ўсміхаўся.

— Дык чаму гэта вы, паважаны грамадзянін, на маё дрэва ўзлезлі? — адразу ўзяла жартаўлівы тон Рэня.

— Справа ў тым, паважаная грамадзяначка, што дрэва гэта не ваша, а маё,— адказаў Юра.

— Як гэта ваша? Дрэва належыць таму, хто яго садзіў...

— Зусім правільна... А паколькі я яго садзіў, дык і чарэшні абіраю.

— Як гэта? — збілася з жартаўлівага тону Рэня.— Пяты рад ад плоту — мае дрэвы, я добра запомніла.

Юра яшчэ зручней прымасціўся, нібы збіраючыся сядзець на дрэве вельмі доўга, і загаварыў:

— У наш век, у век космасу, радзіме патрэбны адукаваныя людзі. І як дрэнна, што адна з яе дачок, дажыўшы да дваццаці пяці гадоў, не навучылася лічыць нават да пяці.— Ён гаварыў наўмысна сур'ёзна, з робленым дакорам.— У якім радзе стаіць гэта дрэва? Давай, дзяўчынка, будзем лічыць па пальцах...

Рэня, не даслухаўшы да канца Юравай павучальнай тырады, павярнулася спіною да чарэшні, на якой ён сядзеў, і пачала лічыць рады.

— І праўда,— цераз плячо глянула яна на Юру.— Прашу прабачэння,— зрабіла Рэня рэверанс і зноў перайшла на жартаўлівы тон: — Але мне можна дараваць, што я да пяці лічыць не ўмею, бо я ж — рабочы клас. А ты хоць і ў навуку падаўся, а лічыць таксама не навучыўся. Мне не дваццаць пяць гадоў, а дваццаць адзін!

Рэня стаяла пад дрэвам, а Юра сядзеў на ім, і яны перакідваліся жартамі.

— Хоць я і недавучка, але затое рыцар. Я магу падараваць табе гэта дрэва. На, бяры яго, — сказаў Юра і раптам скочыў з чарэшні проста да Рэні. Яна аж войкнула — спалохалася, што хлопец скочыў з такой ладнай вышыні. Але Юра прызямліўся вельмі ўдала, нават не рассыпаўшы чарэшняў, што былі ў кошыку.

Пасля яны хадзілі па садзе і ўспаміналі, якое дрэва, які куст тут хто пасадзіў. Кусты агрэсту разрасліся густа-густа. Усе яны былі ўсыпаны дробнымі зялёнымі ягадкамі. Юра сарваў адну, пажаваў і скрывіўся.

— Кіслая... аж Ленінград відаць — пажартаваў ён, а пасля пачаў расказваць пра горад, у якім вучыцца, пра сваё студэнцкае жыццё, пра сяброў. А Рэня расказвала пра Мінск, пра гадзіннікавы завод. І было ім абодвум лёгка і радасна.

Назаўтра яны разам з іншымі выхаванцамі пайшлі на прысядзібны ўчастак дзіцячага дома палоць кукурузу. Атрымалася так, што Рэня

працавала побач з Юрам. Яны зноў жартавалі, палолі навыперадкі — хто лепш і хто хутчэй.

Шпарка пабеглі гарачыя дні. Праходзілі яны ў рабоце на гародзе, на сенакосе. А вечарамі і госці, і старэйшыя гаспадары збіраліся ў альтанцы, што, увітая дзікім вінаградам, стаяла ў садзе. Пад столлю ў альтанцы цьмяна гарэла электрычная лямпачка. Садзіліся — хто на лавачкі, хто проста на падлогу, хто на парэнчы. Ішлі цікавыя размовы. Гаварылі пра кнігі, пра новыя кінафільмы, спрачаліся аб тым, якое жыццё можа быць на Марсе і калі паляціць на Месяц чалавек. Спрачаліся аб дружбе, аб каханні. І Рэня заўсёды была разам з Юрам. Яна думала аб тым, як добра праходзіць сёлета яе адпачынак і прызнавалася сама сабе, што не быў бы ён такі шчаслівы, каб не прыехаў сюды Юра.

Аднойчы ў час работы на гародзе ў мяккай цёплай зямлі сустрэліся іх рукі. Чорныя ад зямлі маленькія Рэніны трапілі ў вялікія і дужыя Юравы. Ён некалькі хвілін пазіраў у твар Рэні, а тая чырванела і не ведала, што сказаць.

Яна адчувала, як цяплела ў яе далоні шурпатае каліва свірэпкі, якое яна толькі што вырвала з градкі, і дотык гэтай травіцы разам з поціскам Юравай рукі вельмі хораша аддаваўся ў яе сэрцы.

З таго дня яны стараліся як мага раней адысці ад грамады, што збіралася ў альтанцы. Яны блукалі па садзе і пасля ўжо не чулі, як разыходзіліся ўсе астатнія. Аблітыя белым святлом, дрэвы не варушылі ніводным лістком. Яны адпачывалі. Спалі іх цені, улёгшыся на густой высокай траве, як на пярыне. Спалі ўсе гукі. І Юра з Рэняю, нібы баючыся парушыць гэты сон, гаварылі шэптам альбо зусім маўчалі.

А калі Юра асцярожна браў Рэню за плечы і нясмела туліў яе да сябе, калі яго вусны дакраналіся да яе твару, тады і дрэвы, і цені, і трава прачыналіся і пачыналі кружыцца. І Рэня кружылася разам з імі. І ёй трэба было прыхінацца да шырокіх Юравых грудзей, каб утрымацца на зямлі.

Хутка Рэня зразумела, што калі раней свет і жыццё маглі існаваць для яе і без Юры, то цяпер Юра і жыццё — гэта было ўжо адно цэлае, аддзяліць адно ад другога было немагчыма.

Канчаўся Рэнін адпачынак. Трэба было ехаць і Юру, бо з пятнаццатага ліпеня ў яго пачыналася практыка. Яны разам збіраліся на станцыю, разам пакавалі чамаданы. Разалія Сямёнаўна напрыносіла ім розных скруткаў і пакуначкаў, якія, казала яна, вельмі спатрэбяцца ў дарозе.

— Вось тут вараная курыца. Тут каўбаса. Тут хлеб,— паказвала яна Рэні.— А гэта табе, Юрачка,— паклала яна ў Юраў чамадан даволі ладны пакунак, загорнуты ў газету.

Калі чамаданы былі ўпакаваны і ўсе прыселі перад дарогаю, Разалія Сямёнаўна раптам неяк асабліва паглядзела на Рэню, пасля на Юру.

— Харошая вы пара, — нечакана сказала яна.

— Праўда? — ажывіўся Юра.

Рэня ўсміхнулася. У прыжмураных вачах Разаліі Сямёнаўны таксама заіскрылася ўсмешка.

— Канечне праўда. Хіба я вам калі няпраўду гаварыла. Але вось паедзеце вы ад нас, і можа ўжо не скора я вас абоіх убачу...

Адплываў перон, пакідаючы на маленькай чыгуначнай станцыі Юру, Разалію Сямёнаўну, хлопцаў і дзяўчат, якія таксама іх праводзілі. Рэня махала ім рукою. А Юра стаяў наперадзе ўсіх, шыракаплечы, у белай кашулі з расшпіленым каўняром, і вецер раскідаў яго светлыя валасы.

Але вось знік і перон. Насустрач цягніку ўжо бегла жытняе поле.



А Рэня ўсё старалася яшчэ хоць раз глянуць туды, дзе відаць былі кроны высокіх таполяў, што раслі каля маленькай чыгуначнай станцыі.

### 4

Зоя прыйшла з работы, кінула капялюш на канапу, паліто на крэсла. Спынілася пасярод пакоя, не ведаючы, што рабіць далей.

Пачуўшы, што прыйшла дачка, Антаніна Іванаўна выйшла з кухні. На твары гэтай жанчыны нібы навечна застыў нейкі клопат. Ён хаваўся ў яе шэрых вачах, у зморшчынках, што разбягаліся ад іх на скроні, у тонкіх рысках, якія ляжалі і пад вачыма і каля вуснаў.

— Стамілася, дачушка? — спыталася яна ў Зоі, падбіраючы і вешаючы яе паліто, капялюш. Прыбраўшы ўсё, яна зноў таропка пайшла на кухню.

— Садзіся, дзіцятка. Міша, кідай газету, абедаць будзем, — на хаду сказала яна.

— Міхал Паўлавіч адклаў газету, падышоў да буфета, застукаў талеркамі. Ён быў у вайсковай гімнасцёрцы без пагонаў і без пояса, у шараварах ад піжамы і ў хатніх пантофлях. Хоць зусім розныя былі яны — гэты пажылы чалавек і маладая, свежая Зоя, калі ўважліва прыгледзецца да іх, можна было ўбачыць, як падобны яны адно на аднаго.

Зоя памыла рукі, прычасалася, села за стол.

— Ну, як там твае «балансы»? — ставячы перад Зояй талерку, спытаўся Міхал Паўлавіч.

— Ат,— махнула рукою Зоя, узяла кавалак хлеба, адкусіла.

— Не выходзіць? — з кухні спыталася Антаніна Іванаўна, пачуўшы, аб чым загаварыў бацька.

— Проста немагчыма,— ледзь не са слязьмі адказала Зоя.

— Нічога, дачка, вывучышся. Не адразу, вядома,— тонам, якім гавораць з зусім малымі дзецьмі, сказаў Міхал Паўлавіч.

— І наогул работка...— гаварыла Зоя.— Сем гадзін, не разгінаючы спіны... А вочы баляць як... Аслепнуць можна.

— Дык, можа, кідай, дачушка,— нерашуча сказала Антаніна Іванаўна, спыняючыся ля дачкі.— Калі цяжка, дык кідай. Што ж ты будзеш надрывацца... Яшчэ, праўда, вочы сапсуеш...— крыху памаўчаўшы, дадала яна.

Зоя моўчкі нахілілася над талеркаю. Моўчкі еў і бацька. Антаніна Іванаўна таксама села за стол.

— Не сышоўся клінам свет на гэтым заводзе. Іншую работу знойдзем,— сказала яна.

— Але працаваць усюды трэба,— заўважыў бацька.— Рабочы дзень усюды сямігадзінны.

— Мішачка, але ж ці трэба ёй сляпіцца на гэтым, на гадзіннікавым? — умольна паглядзела Антаніна Іванаўна на мужа.

— А іншыя ж працуюць і нічога... Самі казалі, што гэты завод для Зоі самы лепшы... Не вельмі лёгка было мне і ўладзіць яе туды. А на іншым заводзе яшчэ цяжэй будзе.

— Дык не абавязкова ж на завод... Можа, сакратаркаю куды...

— Не вельмі ходкая цяпер гэта спецыяльнасць,— адставіў талерку Міхал Паўлавіч.— Ды што ты хочаш, каб яна ўсё жыццё паперкі перакладала? Нічога, Зойка,— павярнуўся ён да дачкі.— Не вешай носа. Навучышся. Не святыя гаршкі лепяць. А працаваць, брат, нідзе не лёгка — і ён нахіліўся, паляпаў яе па плячы.

Пасля абеду Зоя ляжала на канапе, глядзела ў столь і думала: «Няўжо ж цяпер так будзе ўсё жыццё... Кожны дзень на работу, кожны

дзень гэтыя «валаскі» ды «балансы». Ці навучуся я калі так спрытна ўсё рабіць, як Рэня... А калі і навучуся... Усё роўна кожны дзень адно і тое ж, і так усё жыццё».

Зоя глянула на свой маленькі, у пазалочаным корпусе гадзіннік, каб ведаць, колькі часу, але сам выгляд гадзінніка не прынёс, як звычайна, ёй радасці. Яна ўбачыла не прыгожы цыферблат з тонкімі пазалочанымі стрэлкамі, а, здаецца, праз шкло і ўвесь корпус ківаўся перад ёю ў сваім вечным руху баланс, наводзячы сум і дакуку. Калісьці, яшчэ школьніцай, Зоя марыла аб уласным гадзінніку. Калі захочаш, можна падняць пальчыкам рукаў сукенкі і глянуць — колькі часу. На ўроках можна заўсёды даведацца, колькі засталося да перапынку. І ці думала калі Зоя, што яна будзе працаваць на гадзіннікавым заводзе, сама будзе рабіць іх і так няўзлюбіць гадзіннікі. І проста дзіўна, што Рэня можа захапляцца такой работаю. І зусім не стамляецца яна. І вочы ў яе не баляць... Можа, у Рэні талент, а ў Зоі няма? Але ж не адна Рэня працуе ў цэху. Там больш за трыста дзяўчат, што ж, і ў іх ва ўсіх талент, і толькі ў Зоі няма?

Не, мусіць, няма таленту і ў Іны Горбач, на якую сёння сварыліся дзяўчаты, што стрэлкі неахайна паставіла. Калі начальства сварыцца, то гэта хоць і непрыемна, але яшчэ так-сяк. Але калі пачынаюць сварыцца самі дзяўчаты... Мусіць, нічога няма горш. Дык, можа, і праўда — кінуць завод, як мама кажа. Зоя і сама ўжо крадком думала пра гэта, але ёй рабілася чамусьці сорамна. Сорамна было кідаць завод, так мала папрацаваўшы, ды яшчэ, уласна, і не працаваўшы. Яна ж пакуль вучаніца. Ды і тата, мусіць, не вельмі рады будзе. Пачне кпіць, а можа і сварыцца...

Настрой у Зоі быў дрэнны. Ёй нават не хацелася ўставаць і ісці да дзяўчат. А сёння ж Рэня, Валя і Люба запрасілі яе ў кіно...

І ўсё ж Зоя паднялася, падышла да шафы. І як толькі ўзяла ў рукі новую шарсцяную сукенку, адразу павесялела. Яна доўга стаяла перад люстэркам, аглядаючы сябе, папраўляючы то каўнер, то паясок. Зоя падабалася сама сабе. Яна бачыла, што яна прыгожая, а гэта, зрэшты, для дзяўчыны самае галоўнае,— думала яна.

— Куды ж ты, дачушка?— убачыўшы, што Зоя збіраецца, спыталася Антаніна Іванаўна.

— Да дзяўчат пайду... У кіно, можа, сходзім,— адказала Зоя.

— Схадзі, схадзі, дачушка,— падахвоціла яе маці. Яна прыйшла ў пакой з кухні з талеркаю ў руцэ. Ручніком, які быў перакінуты цераз плячо, яна выцірала талерку і пазірала на Зою, як на хворую, гатовая патураць кожнаму яе жаданню.— Толькі позна не гуляй,— кінула яна ўжо наўздагон Зоі.

Міхал Паўлавіч стаяў ля пісьмовага стала і перабіраў у шуфлядцы паперы. Ён пісаў успаміны аб сваім баявым жыцці. Гэта было нешта накшталт запісак. Міхал Паўлавіч удзельнічаў у баях на возеры Хасан, быў на Фінляндскім фронце. З другім Беларускім фронтам дайшоў да Берліна. Цяпер Міхал Паўлавіч лічыў сваім абавязкам расказаць пра гэтыя баявыя паходы моладзі, расказаць, як змагаўся для яе сённяшні дзень.

Антаніна Іванаўна падышла да мужа, ружоваю ад гарачай вады, яшчэ крыху вільготнаю рукою ўзяла яго за локаць.

— Што ж нам рабіць з ёю?— паказала яна на дзверы.

Міхал Паўлавіч яшчэ з хвіліну не адрываўся ад папер, пасля паглядзеў на жонку. Яго вочы былі спакойныя, нават вясёлыя, і Антаніна Іванаўна сама адразу паспакайнела. І ўсё ж яна хацела пераканаць мужа, што мае права непакоіцца.



— Вось ты ўсміхаешся, Міша,— сказала яна,— а дзіця ж пакутуе. Так ёй, беднай, цяжка. Ты глядзі, як пахудзела за гэты месяц.

Міхал Паўлавіч склаў паперы, зачыніў шуфлядку.

— Не паднімай ты трывогі там, дзе яе няма. І не кажы ты ёй, каб яна кінула работу. Спесціла ты дзяўчыну. Не прывыкла працаваць, вось ёй і цяжка.

Антаніна Іванаўна пакрыўдзілася.

— Як гэта я яе спесціла?

— Ты не крыўдзіся, Тоня,— мякка сказаў Міхал Паўлавіч,— але вось сама падумай, ці памыла Зоя калі падлогу, ці згатавала есці.

— Антаніна Іванаўна сашчапіла рукі.

— Мішачка, а што ж я буду рабіць, калі Зоя пачне падлогу мыць ды есці гатаваць... Нашто ж я вам тады?.. Яна ж вучылася, а цяпер, вунь, працуе... Дык чаму ж я павінна была яшчэ дома прымушаць яе нешта рабіць? А сама хіба вылежвалася б?

— Вось у тым і бяда, што з самага пачатку ў нас пайшло не так, як трэба было.

— А божа мой,— села на канапу Антаніна Іванаўна.— Ці не збіраешся ты мяне ўпікаць, што я ўсё жыццё была толькі хатняю гаспадыняю...

— Што ты, Тоня,— падышоў Міхал Паўлавіч да жонкі.— Ну няўжо мы на старасці будзем крыўдзіць адно другога ды ўпікаць.

— Хіба не старалася я ўсё жыццё, каб было ў нас хораша,— гаварыла Антаніна Іванаўна праз слёзы.— Ці я вораг свайму дзіцяці. Я хацела, каб Зоечка шчаслівая расла. Хопіць таго, што адно дзіця загінула... Ці магла ж я не аддаць усяго, што мела, адзінай дачцэ?

Міхал Паўлавіч схамянуўся. Каб ён ведаў, што так павернецца гаворка, то і не пачынаў бы яе. Успамін пра дзіця, якое забрала ў іх вайна, быў цяжкі ўспамін. Цяпер Міхал Паўлавіч ведаў, што жонка не скора супакоіцца. А яна ўжо сядзела, закрыўшы твар далонямі, і Міхал Паўлавіч бачыў, як пацяклі ў яе па пальцах слёзы.

Міхал Паўлавіч абняў жонку за плечы, а яна прыхінула галаву да мужавай рукі і гаварыла, жалілася:

— Божа мой, колькі гадоў прайшло, а як успомню я тое дзіця, так і пачынае разрывацца сэрца.

— Супакойся, Тоня,— гладзіў жончыны плечы Міхал Паўлавіч.— Ты ж ведаеш, што слязьмі Шурыка не вернеш.

Ён пазіраў на партрэт у жоўтай рамцы, які вісеў на сцяне над паліцай з кнігамі. Адтуль глядзеў вачыма, поўнымі дзіцячай радасці, іх першынец-сын.

## 5

Стол у інтэрнаце быў накрыты для гасцей. Пасярод стаяла глыбокая талерка з традыцыйным для ўсіх інтэрнацкіх вечарынак вінегрэтам. На маленькіх талерках ляжала пакрышанае на тонкія скрылікі ружовае сала і хатняга вырабу каўбаса. Вельмі дарэчы прыслалі сёння Любе з вёскі пасылку.

За бутэлькі з нарзанам і ліманадам сарамліва хавалася, нібы адчуваючы, што не месца ёй тут, у жаночым інтэрнаце, пляшка з гарэлкаю.

Сёння Рэні споўнілася дваццаць два гады.

— Гэта ж падумаць, дзяўчаткі,— гаварыла сваім сяброўкам Рэня,— так многа!

— Многа,— згадзілася строгая Люба, якой было дваццаць адзін.

— Многа,— згадзілася і Валя, якой нядаўна споўнілася дваццаць.
Валя на гадзіннікавым заводзе апынулася выпадкова. Яна прыехала з Гродна ў Мінск паступаць у інстытут. Хацелася ў медыцынскі. Чаму — сама не ведала. Можа таму, што школьная сяброўка паступала ў медыцынскі. Але Валя не прайшла па конкурсу. Не доўга думаючы, вырашыла паступіць працаваць на гадзіннікавы завод.
— Хоць не доктар, а ў белым халаце хаджу,— жартавала яна цяпер.
Люба прыехала ў Мінск з Дуброўны пасля дзесяцігодкі. Яна не любіла расказваць пра сябе, але Любіна маці, маленькая жанчына з цвёрдымі вузлаватымі пальцамі, якая часам прыязджала да Любы, вечарамі, седзячы з дзяўчатамі ў інтэрнаце, гаварыла:
— Вось ужо любіць мая Любачка гэтыя гадзіннікі. Яшчэ як у школу хадзіла, дык, бывала, сама рамантавала іх, хоць, дальбог жа, ніхто яе не вучыў. Былі ў нас старыя ходзікі, ды часта спыняліся. Дык Люба, бывала, сама іх разбярэ ды і паправіць. Не кожны і хлопец на такое здатны,— з замілаваннем пазірала матка на дачку, якая спакойна слухала, што тая расказвала.— А як скончыла школу — у Мінск, кажа, паеду, на гадзіннікавы завод.
Трэці год працуюць Рэня, Люба і Валя ў адной брыгадзе, а сёлета папрасіліся, каб іх пасялілі ў інтэрнаце ў адным пакоі. І цяпер дзяўчаты яшчэ больш пасябравалі.
У дзверы пастукалі.
— Пошта, тэлеграма,— аб'явіла Валя, якая першая падбегла да дзвярэй.— Табе, Рэня.
— Ад Юры,— засвяцілася Рэня.
— «Віншую днём нараджэння. Жадаю шчасця, радасці, здароўя, поспехаў рабоце і вучобе. Чакаю сустрэчы. Юра»,— чытала яна.
У дзверы зноў пастукалі. Прыйшлі Жэня і Валодзя. Жэня — высокі, светлавалосы, у чорным гарнітуры і бялюткай, як снег, кашулі, выглядаў такім франтам, што дзяўчаты ахнулі.
— Жэнечка, які ж ты прыгожы, ну проста жаніх,— смяялася Валя.
Валодзя таксама быў у новым гарнітуры — шэрым з сіняю іскрынкаю, але што б ён ні апрануў, заўсёды выглядаў нейкім мешкаватым, медзведзяватым. А ў новай адзежыне адчуваў сябе тым больш няёмка. Ён быў рады, што дзяўчаты не вельмі звяртаюць увагу на яго, але ўсё роўна чырванеў — ужо таму, што быў у гасцях у дзявочым інтэрнаце.
Неўзабаве прыйшла Зоя.
— Маладзец, што не спазнілася,— пахваліла яе Рэня. Не, яна ніяк не можа зразумець, чаму ёй так прыемна бачыць Зою.
— Пазнаёмся, Зоя,— падвяла яе Рэня да хлопцаў.— Гэта наш электратэхнік Жэня. Той самы Жэня, які нас музыкай цешыць.
— Сёння ён цэлы дзень сумныя пласцінкі ставіў, мусіць, даўно ліста ад жонкі не меў,— уставіла Валя.
— А вось гэта — Валодзя. Ты яго кожы дзень бачыш у другой брыгадзе, але, напэўна, не ведаеш, што ён у нас гурткам турыстаў кіруе. Зараз ён трошкі асмеліцца і пачне цябе ў гурток агітаваць.
Прыйшлі яшчэ хлопцы і дзяўчаты. Тоненькая, чарнявая Каця Белякова, як толькі ўвайшла, адразу заспявала. У гэтай Каці заўсёды нейкі ясны, натхнёны твар. Можа ад песень, з якімі яна неразлучная. Ці ідзе яна, ці стаіць, ці сядзіць — заўсёды спявае. То лірычную, душэўную песню завядзе, то пачне вясёлую, жартаўлівую. Вось і цяпер — распранаецца, а сама спявае:

Вечарынка у калгасе,
у «Чырвоным аратаі»...



— Не ў «Чырвоным аратаі», а ў «Чырвоным гадзінніку»,— смяецца Валя.
Каці памагаў распранацца Алег — невысокі, шырокі ў плячах, і ад гэтага нібы квадратны.
— Гэта наша канструктарскае бюро. Ён новыя мадэлі гадзіннікаў прыдумвае,— рэкамендавала яго Зоі Рэня.
Гаспадыня запрасіла ўсіх за стол. Зоя апынулася паміж імяніннііцай і Жэнем. Налілі чаркі.
— За здароўе імянінніцы!
— За тваё здароўе!
— За тваё шчасце, Рэня!
Пасля, калі крыху перакусілі, для другога тоста ўзяў слова Алег. Яго ведалі як дасціпнага на слова, жартаўніка, і калі ён устаў за сталом,— квадратны, з чорнымі вусікамі і непрывычна сур'ёзнымі вачыма, усе заўсміхаліся, чакаючы ад яго нейкага жарту. Валя страляла ў яго вачыма, ужо гатовая зарагатаць. Алег зрабіўся яшчэ больш сур'ёзны.
— Вось вы ўсе ўсміхаецеся, а я буду гаварыць зусім не смешнае,— сказаў ён, абвёўшы ўсіх вачыма.— Рэня,— павярнуўся ён да гаспадыні і лёгка пакланіўся ёй.— Другі тост, наколькі мне вядома, трэба ўзнімаць за бацькоў, якія выгадавалі імяніннііцу. Але ўсе мы ведаем, што бацькоў у цябе няма, што вырасла ты ў дзіцячым доме.— Алег крышку запнуўся, пераступіў з нагі на нагу. Усе перасталі ўсміхацца і ўжо сур'ёзна, уважліва слухалі, што будзе далей гаварыць Алег.— Але ты вырасла вельмі харошым чалавекам. На заводзе працуеш і ў інстытуце вучышся, таварыш цудоўны. Дык давай вып'ем за здароўе тых, хто выхаваў цябе такую. Назаві нам каго ты хочаш з тых цудоўных людзей, і мы вып'ем за яго здароўе!— І Алег высока падняў чарку.
Усе весела павярнуліся да Рэні. А яна сядзела крышку разгубленая, не ведаючы, што сказаць.
— Нагаварыў,— пацiснула яна нарэшце плячыма.— Такая ўжо я харошая. Ды і задачу даў — назваць каго-небудзь з цудоўных людзей... Іх вельмі многа было... Але калі так,— нарэшце вырашыла яна,— давайце вып'ем за Разалію Сямёнаўну!
Ніхто з тых, што сядзелі за сталом, не ведалі, хто такая Разалія Сямёнаўна, але ўсе дружна прынялі тост.
Зоя ўпершыню пачула, што Рэня расла ў дзіцячым доме, і цяпер з цікавасцю і павагай зірнула на яе. Зоі здавалася, што чалавек, які вырас у дзіцячым доме, павінен быць не такі, як іншыя людзі. Яна ўяўляла сабе такіх людзей зморанымі, сумнымі, худымі, няшчаснымі. А Рэня зусім не такая. І ўжо зусім не падобна яна на няшчасную. Прыгожая, вясёлая, яна выглядала зусім шчаслівым чалавекам. Няшчаснаю на нейкую хвіліну адчула сябе Зоя. «Як добра ім усім,— падумала яна. — Нікому з іх не цяжка працаваць, і жыць у інтэрнаце весела. А я... Ці мела я права прыходзіць сюды?..» Зоя апусціла вочы. Гэта адразу заўважыў Жэня.
— Вам што, сумна?— спытаўся ён.— Ну, я не дазволю, каб мая суседка ды сумавала,— весела сказаў ён, даліваючы ў Зоіну чарку віна. Жэня пачаў гаварыць з Зояй, жартаваць, і яна павесялела. За сталом аб нечым гаварылі, спрачаліся, і Зоя пачала прыслухоўвацца.
— Камунізм для нас не нехта будуе, а мы самі,— гаварыў Валодзя. Твар у яго быў ружовы, ружовая была шыя пад расшпіленым каўняром.
— Правільна, Валодзечка, правільна, і я будую камунізм,— весела

адазвалася Валя.— Але ўжо як пабудую, то кожны дзень буду ў новай сукенцы хадзіць. Вельмі ў мяне на сукенкі патрэбнасць вялікая!

— Да таго часу, пакуль камунізм пабудуюць, у цябе, Валечка, патрэбнасць на сукенкі зменшыцца,— крыкнуў ёй цераз стол Алег.

— У жанчыны на сукенкі патрэбнасць не меншае ніколі,— адказала яму Валя.

— Вось вы жартуеце,— адазвалася Каця.— А колькі ёсць людзей, якія не хочуць будаваць камунізм для ўсіх, а робяць яго самі для сябе. Задавальняюць свае высокія патрэбы, як толькі могуць.

— Такія людзі, вядома, ёсць,— згадзіўся Валодзя.— І я думаю, што лягчэй пабудаваць матэрыяльную базу камунізма, чым выхаваць чалавека сапраўднага камуністычнага грамадства. Але і гэта павінны рабіць мы самі. Трэба акружаць пагардаю людзей, якія жывуць толькі для сябе...

— Хопіць спрачацца!— жартаўліва-строга сказаў Жэня.— Сярод нас няма такіх людзей. А ў доказ таго, што ўсе мы не для сябе асабіста жывём, хай кожны напоўніць чарку і талерку не свае, а суседавы,— і ён пацягнуўся да Зоінай чаркі.

Усе дружна засмяяліся.

— Ой, мне больш ужо не трэба,— засланяла Зоя рукамі сваю чарку.

Пасля адсунулі стол, уключылі радыёлу і пачалі танцаваць. Жэня адразу запрасіў Зою. Танцаваў ён вельмі добра. Калі пасля Зою запрасіў Валодзя і, танцуючы, збіваўся з такту, наступаў на ногі і чырванеў, Зоя падумала, што Жэня танцуе куды лепш. А далей атрымалася так, што яна амаль увесь час танцавала толькі з Жэнем. Ён стаяў побач і, як толькі ігралі новую пласцінку, запрашаў на танец. І Зоі гэта вельмі падабалася. Падабалася, што такі прыгожы, зусім дарослы, нават жанаты хлопец вылучыў яе з іншых. А што вылучыў, гэта Зоя адчувала не толькі па тым, што ён яе адну запрашаў танцаваць. Вельмі многа гаварылі Жэневы вочы, якія ўвесь час глядзелі на яе.

Пасля зноў селі за стол. Зноў пілі віно, елі вінаград, яблыкі. Каця, якой даўно хацелася спяваць, прыплюшчыла вочы, адхінулася на спінку крэсла і пачала мяккім, прыемным голасам:

Ой, бярозы ды сосны,
Партызанскія сёстры...

Валя выскачыла з-за стала, узяла гітару. Песню адразу падхапілі. Спявалі добра, зладжана. Было відаць, што не першы раз збіраюцца яны вось так разам, не першы раз спяваюць гэтую песню. Толькі Зоя не ведала слоў. Крыху лепш пайшло ў яе, калі заспявалі «Падмаскоўныя вечары». Зоя пазірала на Алега, які сядзеў насупраць і дырыжыраваў хорам.

Раптам Зоя адчула, як на плечы ёй лягла рука. Гэта была Жэнева рука, Зоя адразу здагадалася, хоць і не павярнула да хлопца галавы. Стол і ўсе госці на імгненне некуды зніклі. Нават песні не стала чуваць. Пасля ўсё зноў заняло сваё месца. Нібы здалёк, вярталася песня. А Жэнева рука ляжала на плячах — цяжкая, цёплая, прыемная. «Ці не бачыць хто? Трэба скінуць яго руку, нядобра так»,— нарэшце вырашыла Зоя і лёгка павяла плечуком. Але Жэня не прыняў рукі, а, здавалася, яшчэ мацней прыцінуў яе. І Зоя больш не спрабавала яе скінуць. Яна пачала спяваць мацней, хочучы паказаць, што нічога такога з ёю цяпер не адбываецца.

«Але ж ён жанаты»,— на нейкую хвіліну зблытала словы песні думка. Аднак слова «жанаты» зусім не пасавала да Жэні — такога маладога, прыгожага, харошага, і Зоя пакінула пра гэта думаць. Ёй хораша, і няхай. Яна не збіраецца адбіваць яго ў жонкі.



6

Хоць было ўжо вельмі позна, Антаніна Іванаўна не спала. Яна адчыніла дзверы, спыталася, ці не хоча Зоя есці.

— Што ты, мамачка, я ж у гасцях была,— засмяялася тая.

Лежачы ў сваёй чыстай, мяккай пасцелі, Зоя ўспамінала ўвесь сённяшні вечар. У вушах яшчэ звінела музыка. Зоя бачыла вясёлыя твары Валі, Любы, Рэні, Валодзі. Але больш за ўсё ўспаміналіся Жэневы вочы, якія ўвесь вечар сачылі за ёю.

Жэня папрасіў дазволу праводзіць яе дахаты. Яны ішлі па прыціхлым праспекце. Зрэдку іх пераганялі амаль пустыя тралейбусы. Часам мільгаў зялёны агеньчык таксі. Але скора яны збочылі з праспекта, пайшлі па мала асветленай вуліцы.

— Вы такая прыгожая, Зоечка,— гаварыў Жэня, нахіляючыся да яе і стараючыся глянуць ёй у вочы.— Я сёння, як убачыў вас, дык спалохаўся, каб не закахацца...

Зоя маўчала. Жэневы словы прыемна аддаваліся ў грудзях, але і трывожна рабілася ад іх.

— Я намнога старэйшы за вас, мне ўжо дваццаць пяць гадоў, і, паверце мне, я ведаю, што такое здараецца не часта. Я ўжо вельмі даўно не адчуваў таго, што цяпер адчуваю,— і ён узяў Зоіну руку. Зоя асцярожна выслабаніла свае пальцы.

— Але ж у вас жонка ёсць,— сказала Зоя, нясмела выгаварваючы слова «жонка».

— Так, ёсць, я гэта ні ад каго не хаваю,— сказаў Жэня глухаватым голасам. Зоі здалося, што ён нечага не дагаварвае, і яна паглядзела на яго. У зеленаватым святле вітрыны Жэнеў твар здаўся Зоі бледным і сумным, і ёй стала шкада яго.— Вось бачыце,— уздыхнуў Жэня.— Кажаце, жонка ёсць. А жонка не хоча ехаць да мяне, пакуль мне не дадуць кватэры. Жыве ў сваіх бацькоў у Полацку...

Жэня гаварыў такім тонам, што Зоі ўсё больш і больш рабілася яго шкада.

— Але хопіць гаварыць пра сумнае,— усміхнуўся ён.— Мне з вамі так хораша, так радасна, што я забыўся сёння на ўсе свае жыццёвыя непрыемнасці,— і ён зноў узяў Зоіну руку. Зоя і цяпер хацела выслабаніць яе, але Жэня крышку мацней заціснуў яе пальцы, і яна засталася ў вялікай мяккай Жэневай руцэ.

— Мне вельмі хацелася б сустрэцца з вамі яшчэ калі-небудзь,— сказаў ён.

— Што вы, хіба можна?— нясмела адазвалася Зоя.

— О, ды вы, аказваецца, не Зоечка, а Зайчык, такі нясмелы, труслівы зайчык,— трымаў ужо абедзве Зоіны рукі Жэня.

Зоі спадабалася, што Жэня назваў яе так, як некалі звалі сяброўкі ў школе.

— Адкуль вы ведаеце, што мяне Зайчыкам завуць?—засмяялася яна.

— Я ўсё ведаю,— мнагазначна сказаў Жэня.— І ведаю, што нам з вамі абавязкова трэба сустрэцца. Ну, няўжо вы не захочаце са мною сустракацца толькі таму, што я жанаты? Я ж прапаную вам сябраваць, а ад сяброўства нельга адмаўляцца. Ну, дык згода?

Зоя маўчала. Яна не ведала, што адказаць. Так хораша, так сур'ёзна з ёю яшчэ ніхто не гаварыў. Зоя ўспомніла Віцю Кудрэвіча, які вучыўся з ёю ў адным класе і быў закаханы ў яе. Зоя ведала гэта і часта прасіла, каб Віця даў спісаць ёй цяжкую задачу, якой у яе не хапіла цярпення рашыць. Віця бурчэў: «І сама б магла рашыць, каб пасядзела»,— але выцягваў з сумкі сшытак і кідаў ёй на парту.

Бывала, вечарамі Віктар прыходзіў да яе, але як сядзе да прыёмніка, дык цэлы вечар і галавы не падніме. «Ці гэты хлопец гаварыць умее?» — пыталася Антаніна Іванаўна, калі Віця, прасядзеўшы цэлы вечар і не сказаўшы ніводнага слова, ішоў дахаты.

Стоячы з ёю каля пад'езда, Віця толькі тое і рабіў, што выварочваў наском чаравіка камені з бруку. А хіба хоць калі-небудзь сказаў ён што-небудзь пяшчотнае? Калі былі з ім удваіх, падоўгу расказваў аб спартыўных спаборніцтвах, называў імёны і прозвішчы нейкіх левых і правых абаронцаў, нейкіх баксёраў, нібы ўсё гэта было вельмі цікава Зоі. А Жэня... З ім так хораша, так незвычайна. Ён нейкі таямнічы — як герой рамана. І ад кожнага дотыку яго рукі сэрца пачынае стукаць часцей.

— Ну, дык згода?— зноў спытаўся Жэня.

«Ну і што тут дрэннага, калі я згадзілася», — лежачы ў ложку, спрачаецца з некім Зоя. Хіба і сапраўды нельга сябраваць з хлопцам толькі таму, што ён жанаты? Бедны Жэня»,— уздыхнула яна, успомніўшы, які сумны твар быў у яго, калі ён гаварыў пра жонку.

Цікава, а што б сказалі ўсе тыя, хто быў сёння на вечары, каб даведаліся, што яны з Жэнем дамовіліся сустрэцца? Перад Зояй усплыў твар Валодзі — чырвоны, разгарачаны. «Які ён сур'ёзны,— з павагаю падумала Зоя.— І які разумны».

А Рэня... Што б сказала Рэня? Гэта ж падумаць, яна, аказваецца, ў дзіцячым доме жыла... А я і не ведала».

— Мама,— ціха паклікала Зоя Антаніну Іванаўну, глянуўшы на дзверы спальні.— А гэтая Рэня, ведаеш, у дзіцячым доме гадавалася... У яе няма ні бацькі, ні маці.

Але Антаніна Іванаўна нічога не адказала. Відаць, яна ўжо спала. Ды і Зоі раптам вельмі захацелася спаць. Яна паднялася на ложку — у доўгай белай, з тонкімі карункамі каля шыі, начной кашулі, пацягнулася да выключальніка, націснула на невялічкую чорную кнопку. Адразу зніклі і зубчаты цень на сцяне ад люстры, і сама люстра, і сцены. Усё паглынула чарната. Зоя апусціла галаву на падушку і, як толькі дакранулася да яе, нібы зноў падхапіў, закруціў яе танец, адрываючы ад зямлі. Яшчэ раз глянулі на яе Жэневы вочы, і пасля ўсё — і музыка, і танец, і дзяўчаты, і Жэня — усё змяшалася разам і знікла.

Зоя моцна заснула.

## 7

— Паглядзі, Рэня, ці добра я зрабіла,— падала Зоя пінцэтам баланс з валаскам.

Рэня скончыла правіць свой баланс, дастала яго з ляўцыркуля, паклала пад празрысты пластмасавы каўпачок, узяла Зоін. Яна штурхнула пальцам баланс, уважліва праз лупу прыглядаючыся, як ён круціцца.

— Яшчэ крышку б'е,— сказала Рэня. Яна прывычным рухам узяла пінцэт, паправіла ў адным месцы, у другім, вызваліла баланс з ляўцыркуля, перадала пінцэтам Зоі.— Вось так будзе добра. Ты не спяшайся, рабі памалу,— параіла яна Зоі.

Зоі было і прыкра, і крыху сорамна. Сорамна, што Рэня папраўляла работу, на якую яна патраціла пятнаццаць мінут. Добра гаварыць Рэні — не спяшайся. Калі яна не будзе спяшацца, то ёй паўгадзіны прыйдзецца сядзець над кожным балансам. А стужка ж канвеера рухаецца цераз кожныя дзве мінуты. Калі ж яна сядзе працаваць самастойна? Яе нават за канвеер для вучняў, які рухаецца цераз кожныя пяць мінут, невядома калі пасадзяць. Не, нічога, мусіць, з яе не выйдзе.

Зоя штурхае і штурхае баланс, папраўлены Рэняю, і не хочацца ёй вымаць яго і ўстаўляць новы. Як гэта, аказваецца, марудна і нудна ўсё. Каб можна было скоранька навучыцца ды сесці працаваць самой— зусім бы іншае было. А так — не, у яе няма ніякага цярпення. Век не навучыцца яна так спрытна ўсё рабіць, як Рэня. Але некалі ж і ёй здавалася, што век не навучыцца яна ўстаўляць баланс у ляўцыркуль, што век не паправіць яна ніводнага валаска. Ды вось жа навучылася. І як нечакана... Яшчэ за дзень да гэтага не магла зладзіць з балансам. То ён вывальваўся з ляўцыркуля, то так заціскаўся, што і пакруціць было немагчыма, то ламаліся цапфы. А назаўтра раніцаю яна ўзяла пінцэт у рукі, падхапіла баланс, і ён нібы сам ўскочыў у ляўцыркуль. Той дзень так лёгка было працаваць. І час хутчэй пайшоў, і спіна не балела. Аднак скора аказалася, што гэта была толькі адна перамога, і Зоя зноў засумавала. А цяпер — ні канца не відаць, ні краю.

Нядаўна яна спяшалася папраўляць баланс, каб патраціць на яго праўку як мага менш часу, а цяпер сядзіць і толькі штурхае і штурхае жоўтае колца, заціснутае ў ляўцыркулі, і не шкада ёй мінут, што праходзяць дарэмна.

Сэрца пачынае праці̇наць сум, а за сумам прыходзіць стомленасць, хоць рабочы дзень яшчэ толькі пачаўся. Калі сумна рабілася сядзець на ўроку, можна было пашаптацца з сяброўкаю, перакінуць якую запіску альбо проста ўзяць цікавую кніжку і пачытаць. А тут жа ні з кім не пашэпчашся. Усе заняты, усе працуюць.

З нейкаю абыякавасцю дастала яна свой баланс з ляўцыркуля, умацавала другі, няпраўлены. Падставіла лінеечку, узяла пінцэт. Доўга круціла, прымервала, правіла пінцэтам, зноў круціла. Зноў брала пінцэт, зноў правіла. Раптам здалося, што яна сама цяпер усё сапсавала. Сама скрывіла дэталь. А стужка канвеера ідзе, ідзе. Ужо некалькі разоў загараўся чырвоны агеньчык. Ужо некалькі балансаў папраўіла Рэня, і яны паплылі, паехалі па стужцы канвеера. А ў Зоі зусім апусціліся рукі. З сумам пазірае яна на вялікі электрычны гадзіннік, што вісіць у цэху. «Хоць бы гімнастыка хутчэй, ці што», — думае яна. Але да гімнастыкі яшчэ больш чым паўгадзіны.

— Глядзіце, ды яна, здаецца, спіць, — пачула Зоя прыглушаны шэпт Любы. Зоя схамянулася. Ёй здалося, што гэта пра яе сказалі. Яна глянула на Любу, але тая пазірала не на яе, а некуды ў канец канвеера, за Рэню. І Рэня, і Зоя паглядзелі туды і зразумелі, пра каго гаворыць Люба. Іна Горбач сядзела, нізка схіліўшыся над канвеерам у нейкай нязручнай позе. Рот у яе быў крыху адкрыты, твар нібы не жывы, як у чалавека, які спіць.

— Разбудзіць Горбач, — сказала Люба Рэні такім тонам, якім звычайна перадаюць па канвееры якую-небудзь просьбу або загад. Рэня перадала тое самае Валі.

— Разбудзіць Горбач, — перадала далей і Валя.

Але Іна, аказваецца, не спала. Яна пачула, што сказала Валя, і, не паварочваючы галавы, скасіла ўбок Валі светлыя, крыху на выкаце вочы.

— А мы думалі, што ты спіш, — засмяялася Валя.

— Гэта яна працуе так — як сонная муха,— не пакідаючы работы, нібы сама сабе, сказала Люба. — А пасля зноў гадзіннікі будуць вяртацца на дэкатаж.

Зоя раз-пораз пазірала на Іну. Тая перамяніла позу, але твар у яе быў, як і раней, сонны, абыякавы. Ён не ажывіўся нават тады, калі па радыё пачуўся спартыўны марш. Усе спынілі работу, пасталі каля сваіх канвеераў.

Зоі зрабілася весялей. Яна слухала каманду, якая перадавалася па радыё, і паглядала на Іну, якая стаяла перад ёю. Рэня і Валя таксама пазіралі на яе, моргалі адна адной і ўсміхаліся. Скамандуюць рукі ўгору, — усе паднялі рукі, а Іна яшчэ стаіць, дакранаючыся кончыкамі пальцаў да наскоў чаравік. Даюць каманду — рукі апусціць, — а яна іх яшчэ толькі ўгору паднімае. А як пачалі бег на месцы, ніяк не магла папатрапіць у нагу.

Некаторы час пасля зарадкі Зоя працуе весялей, а пасля пачынае пазіраць на гадзіннік — чакаючы абеду. Пасля абеду час пойдзе хутчэй, — думае яна. А там — знаёмы прыпынак аўтобуса са шчытом, на якім наклеены рэкламы кінафільмаў. Вечарам на гэтым прыпынку яе будзе чакаць Жэня. У яго ўжо ёсць білеты ў кіно.

Спачатку Зоі было нялоўка, што яна ходзіць на спатканні да хлопца, у якога ёсць жонка. А пасля неяк перастала пра гэта думаць. З кожным днём Жэня рабіўся ўсё больш блізкі. Ёй падабалася, калі ён гаварыў, што яна прыгожая, што яму вельмі патрэбна яе дружба. Пры гэтым Жэня ўздыхаў, і ёй здавалася, што ён нечага не дагаварвае.

І Зоя думала, што Жэнева жонка непрыгожая, злосная жанчына. Яна не любіць Жэню, не хоча да яго прыязджаць, не разумее, што яму сумна і цяжка тут аднаму.

Зоя ўяўляла, як будуць сядзець яны з Жэнем сёння ў кіно, як будзе трымаць ён яе руку ў сваёй, пасля праводзіць дахаты і гаварыць пяшчотныя словы.

У канцы рабочага дня засіпеў рэпрадуктар, рыхтуючыся пачаць перадачу.

— Няхай бы маю любімую пласцінку паставілі, — уздыхнула Валя.

Але па радыё пачулася не музыка. Сакратар камсамольскага бюро Сцяпан Шугалаў перадаваў аб'яву.

— Увага, увага, — чуўся Сцяпанаў голас, — сёння пасля работы аб'яўляецца суботнік па пасадцы дрэў на тэрыторыі завода. На суботнік выходзіць першы зборачны цэх. Збірацца ля першага корпуса.

Сцяпан прачытаў аб'яву другі раз, пасля зайграла музыка. Загарэлася лямпачка канвеера, і стужка паплыла, падносячы работніцам новыя камплекты. Яна плыла паволі, нібы пад музыку вальса, якая чулася цяпер. Пасля стужка спынілася, а Зоі здалося, што канвеер усё яшчэ рухаецца.

«Суботнік... А як жа кіно?.. У Жэні сёння выхадны, ён будзе чакаць мяне...»

— А ведаеш, Рэня, у двары гадзіннікавага завода нельга садзіць таполяў,— чуе Зоя Валін голас.

— Ведаю, — адказвае ёй Рэня. — Калі таполі пачынаюць цвісці, з іх такі пух ляціць. Дык каб ён не трапляў у цэхі завода, іх тут і не садзяць.

Зоя чуе галасы сяброўак, але не разумее, аб чым яны гавораць.

«Што ж рабіць, можа не ісці на спатканне, ці на суботнік не пайсці?» — думае яна.

Зоя адчувае, што далоні ў яе зрабіліся вільготныя. Гэта ад хвалявання. А вільготнымі рукамі, яна ведае, нельга дакранацца да дэталей.

«Ат, мае ж дэталі ўсё роўна не ідуць у работу, — абыякава думае яна.— Дык якая розніца — вільготныя ці невільготныя рукі...»

## 8

— Слухай, Рэня, ці не пасадзіць мне тваю вучаніцу на іншую аперацыю? — спытаўся начальнік цэха Ігар Барысавіч. Ён стаяў у Зоі за



спіною і цераз яе галаву гаварыў з Рэняю. Ён ужо даўно падышоў да іх канвеера, доўга стаяў ля Зоі, пазіраў, як яна працуе. Зоя хоць і не глядзела на Ігара Барысавіча, адчувала, што ён пазірае на яе рукі, бо яны зусім не слухаліся.

Яна чамусьці баялася начальніка цэха. Баялася позірку яго строгіх шэрых вачэй, яго нахмураных броваў. І варта было ёй убачыць, што начальнік цэха кіруецца да іх канвеера, як сэрца яе пачынала біцца мацней. А цяпер, пачуўшы, што сказаў Ігар Барысавіч, Зоя і зусім паклала ляўцыркуль.

— А чаму, Ігар Барысавіч? — апусціла руку з пінцэтам і Рэня.

— Ну, аперацыя гэта складаная, і, я бачу, не вельмі ў тваёй вучаніцы атрымліваецца. Можа, лепш яе на лягчэйшую пасадзіць.

— Ай, Ігар Барысавіч, — зноў узялася за работу Рэня, бо пайшоў канвеер.— Шкада кідаць, калі ўжо столькі зроблена. Ёй цяпер галоўнае — скорасць набраць. Ды вы ж самі казалі, што на праўку валаска і баланса нам патрэбны людзі... Нічога, навучыцца.

Ігар Барысавіч пастаяў, падумаў, увесь час ляпаючы па шырокай далоні ляўцыркулем, які заўсёды насіў з сабою ў кішэні халата.

— Ну, глядзі, — сказаў ён нарэшце Рэні. — На тваю адказнасць гэта паненка.

— Хі... паненка, — засмяялася Валя. — А яна ў нас і праўда трошкі паненка. Скажы, ты чаму ўчора на суботніку не была? — грозна спыталася Валя.

Цяпер Зоя не чакала такога пытання. Яна чакала зусім іншага. Яна думала, што пасля таго, як пойдзе Ігар Барысавіч, сяброўкі пачнуць супакойваць яе, спачуваць. Можа, будуць гаварыць, які злосны і несправядлівы Ігар Барысавіч, што няма ў яго «індывідуальнага падыходу». А замест гэтага — кплівае Валіна пытанне.

— Маўчыш, думаеш, я не ведаю, чаму, — хітра ўсміхнулася Валя. Яна нахілілася да Любы і ціха, каб не чуў на канвееры ніхто, акрамя Любы і Рэні, амаль прашаптала. — Яна ў кіно хадзіла... Ды не абы з кім, а з нашым Жэнечкам... А я павінна цябе папярэдзіць, — нечакана сур'ёзным тонам загаварыла Валя, пазіраючы Зоі проста ў вочы, — што з Жэнькам табе няма чаго хадзіць у кіно і наогул сустракацца. Разумееш?

Валя зноў узялася за работу.

— Ой, глядзі, Зойка, — строга глянула на яе Люба. — Прыедзе Жэнева жонка, мала чаго застанецца ад тваёй моднай прычоскі.

— А што... што тут такога?.. — заікнулася Зоя. — Што ж тут такога, калі ў кіно хадзілі?

— Калі ўсе ідуць на суботнік, няма чаго ў кіно ісці, — адрэзала Люба.

Усе змоўклі, занятыя работаю. Зоі вельмі хацелася, каб нешта сказала Рэня. Ёй было важна ведаць, што цяпер думае Рэня пра яе. Яна ўвесь час чакала, што Рэня зараз заступіцца. Заступілася ж яна за яе перад Ігарам Барысавічам. Але тая маўчала. Зоя паглядзела на яе. Рэня сядзела, нізка схіліўшыся над работаю. Толькі дзве невялічкія зморшчынкі збегліся ў яе на пераноссі. Цяпер Зоя не памятае — ці заўсёды ў Рэні, калі яна працуе, гэтыя зморшчынкі, ці толькі цяпер.

— Пасля работы сход брыгады, — прайшло па канвееры.

— Накачка будзе, — шапнула Валя.

— Табе больш за ўсіх, бо ты гаворыш вельмі многа, — адрэзала Рэня.

— А што, — паціснула плячыма Валя. — Я сваю работу рабіць паспяваю. Магу яшчэ іншаму канвееру памагаць.

Сходы брыгады звычайна адбываліся тут жа ля канвеера, і цяпер дзяўчаты шчыльней ссоўвалі свае крэслы, масціліся перад стужкай канвеера, каб сядзець усім разам. У цэнтры стаяла майстар брыгады Вольга Мікалаеўна, жанчына гадоў сарака, сярэдняга росту, паўнаватая, з мяккім, дабрадушным тварам.

Прыйшоў Ігар Барысавіч. Спачатку ён стаяў крыху воддаль, паклаўшы рукі ў кішэні халата і чакаючы, калі пачнецца сход. Пасля Люба ўстала са свайго крэсла і запрасіла яго сесці. Ён падзякаваў, сеў, а Люба прымасцілася на адным крэсле з Рэняю.

— Гаварыць мы сёння будзем пра якасць нашай работы, — пачала Вольга Мікалаеўна.— У апошні час нам з кантроля вяртаюць больш гадзіннікаў — і на дэкатаж, і з кантрольна-выпрабавальнай станцыі. І праверка паказала, што вінаваты тут не дэталі, на якія вы часта наракаеце, а зборка. Асноўны брак ідзе па ангрэнажу і па стрэлках.

Дзяўчаты сядзелі сцішаныя, з апушчанымі галовамі.

— Усе вы не першы дзень тут працуеце, і не пачынаць вам тлумачыць, — гаварыла далей Вольга Мікалаеўна, — што на зборцы, як нідзе ў іншым месцы, усё залежыць ад зладжанасці калектыву. Работа аднаго чалавека ўліваецца ў работу ўсіх астатніх, і калі адзін працуе дрэнна, дрэнную будзе і работа ўсяго канвеера. Дык няўжо ж не сорамна табе, Ніна, — павярнулася яна да светлавалосай дзяўчыны, — падводзіць сваіх сябровак. А раней жа ангрэнаж у нас заўсёды быў у парадку. Неахайнасць я за табою заўважыла першы раз, няхай гэта будзе і астатні... Яшчэ часта ідуць у нас недастаткова чыстыя гадзіннікі, — гаварыла ўжо Вольга Мікалаеўна не адной Ніне, а ўсім. — Значыць, недастаткова мы змагаемся за чысціню. А бруд — галоўны наш вораг.

Вольга Мікалаеўна пачала гаварыць аб неабходнасці вельмі ўважліва і шчыра адносіцца да работы на сваім участку. Яна называла імёны і прозвішчы дзяўчат, за якімі заўважана неахайнасць у рабоце, і строга іх распякала.

— І яшчэ адно пытанне, — цяжка ўздыхнула Вольга Мікалаеўна, — гэта пытанне пра Горбач. Я таму і вас, Ігар Барысавіч, запрасіла, што сама ўжо проста рады не дам.

— Дык чаго ж тут больш думаць, — прагучаў у цішыні строгі голас Ігара Барысавіча. — Трэба прымаць адміністрацыйныя меры.

— Думала ўжо і я так, — махнула рукою Вольга Мікалаеўна. — Мы то без яе абыдземся. Але куды яна ад нас пойдзе? Недзе ж ёй трэба працаваць. Дык збыць яе куды-небудзь, ды яшчэ характарыстыку ёй добрую напісаць, каб скарэй ад нас узялі... І такое часам робіцца. Не падзякуюць нам тыя, да каго яна ад нас трапіць. — Вольга Мікалаеўна глянула на Іну Горбач. А тая пазірала некуды за акно. Нібы так прывыкла яна да таго, каб на яе сварыліся, што прымае ўсё гэта як нешта звычайнае. — Проста не ведаю, як з яе зрабіць чалавека!.. — паціснула плячыма Вольга Мікалаеўна. — І каб жа зусім не ўмела яна працаваць. Дык не! Калі захоча, працуе акуратна. А пасля зноў... Сядзіць за канвеерам сонная, працуе абы-як. І якія меры да яе прымаць — проста не ведаю. Пераставіць на іншую аперацыю? Дык ужо ж перастаўлялі. На стрэлках яна сядзіць пасля ангрэнажу.

Са свайго месца падняўся Ігар Барысавіч.

— Вельмі вы мякка гаварылі тут са сваёй брыгадаю, — сказаў ён і зрабіў доўгую паўзу, нібы даючы дзяўчатам падрыхтавацца да тых строгіх і патрабавальных слоў, якія ён скажа. — Працэнт браку, які пайшоў цяпер у вас, патрабуе не размовы, а канкрэтных мер. Людзі сямігодку ў чатыры гады выконваюць, а мы з такою работаю з сямігодкі дзесяцігодку зробім. Ліберальнічаеце вы, Вольга Мікалаеўна. Ужо і па ангрэнажу брак пайшоў. Бачаць усе, што з дрэннымі работнікамі цацкаюцца, і самі горш працаваць пачынаюць. Вы як сабе хочаце, а я перад дырэкцыяй пастаўлю пытанне аб звальненні Горбач з работы. Хопіць. Не маленькая. Не дзіця. Я ёй у нянькі не наймаўся. І з дысцыплінай у вас нікуды не варта. Работніцы за канвеерамі гавораць цэлы дзень. Баранава вечна сядзіць, як на іголках.

Баранава — гэта Валя. Пачуўшы, што сказаў Ігар Барысавіч, яна падняла на яго наївінныя вочы, паглядзела, нібы не разумеючы, за што на яе сварацца.

— Чаму, напрыклад, ваша вучаніца... — як яе прозвішча? — што з Валожынай працуе... — пашукаў вачыма Зою Ігар Барысавіч.

— Булат, — падказаў нехта.

— Так, Булат. Чаму яна ўчора не была на суботніку? Толькі ж на завод прыйшла, а ўжо дысцыпліну зрывае.

Калі Зоя пачула сваё прозвішча, яна ўся неяк сціснулася, — нібы ўдарыў яе хто. Адразу нейкім глухім і далёкім здаўся ёй голас Ігара Барысавіча.

— І наогул гэта вучаніца пакуль мне не падабаецца. Нешта работа ў яе руках не гарыць і не гасне. Яна больш на свой гадзіннік паглядае, чым на інструмент. А Рэня ад вас, Вольга Мікалаеўна, ліберальнічаць вучыцца. Хацеў Булат на іншую аперацыю паставіць, — не трэба, кажа, я яе навучу. Я, вядома, мог у Валожынай і не пытацца, а перапаставіць Булат, і кончана. Я ж яшчэ, можа, начальнік цэха... Але пачакаю, пагляджу, што з гэтай Булат будзе. Каб не атрымалася толькі яшчэ адна Горбач.

Зоя не ведала, куды дзецца ад сораму. Яе параўноўвалі з Інай Горбач, з якой яна сама ў душы насміхалася. Дык няўжо і яна такая самая? Няўжо і ёй прыйдзецца прывыкаць да сораму, да якога мусіць, ужо прывыкла Іна. Не, калі на тое пайшло, дык і без гэтай работы можна абысціся. Сляпіся цэлы дзень, а на цябе яшчэ сварацца. І Зоіны вочы робяцца падобныя на два поўныя азяркі. Яна хавае іх, каб не ўбачылі дзяўчаты, каб не ўбачыў Ігар Барысавіч...

## 9

Назаўтра Зоя не прыйшла на работу.

— Можа, захварэла, — у голас падумала Рэня.

— Трэба будзе схадзіць да яе, — сказала Валя.

А Зоя ў гэты час сядзела ў прыёмнай дырэктара завода з заявай, напісанай на лістку белай у клетачку паперы. Яна цвёрда парашыла пайсці з завода.

...Учора пасля сходу яна прыйшла з работы сумная. Распранулася і адразу лягла на канапу тварам да сцяны. Антаніна Іванаўна перапалохалася.

— Што з табою, дачушка? Што здарылася?

Зоя расплакалася.

Маці супакойвала яе, як малую дзяўчынку.

— Ну, што такое, раскажы, — ледзь і сама не плакала Антаніна Іванаўна.

Выціраючы далонямі слёзы, Зоя пачала расказваць, як чапляецца да яе начальнік цэха, як абазваў яе паненкаю, а сёння на сходзе пры ўсіх сказаў, што работніцы з яе не выйдзе.

— І што гэта за начальнік там у вас такі! — абурылася Антаніна Іванаўна. — Як гэта ён можа так гаварыць на работніц. У газету б пра яго напісаць.

— Вельмі ён спалохаецца тваёй газеты! Ён жа ўпэўнены, што праўда на яго баку.
Антаніна Іванаўна задумалася, уздыхнула.
— Дык тады, дачушка, кідай работу. Няма чаго табе здароўе псаваць,— цвёрда сказала яна.
— Дык тата ж не хоча, каб я кідала...
— Ну, цяпер я сама з ім пагавару,— супакойвала дачку Антаніна Іванаўна.
Зоя памылася, прычасалася. Антаніна Іванаўна шпарка расстаўляла перад ёю талеркі.
— А тата дзе?
— Пайшоў ў бібліятэку, скора прыйдзе,— адказала Антаніна Іванаўна. — А ты заўтра ж нясі заяву аб звальненні. Другую работу знойдзем. Не хачу я больш тваіх слёз бачыць.
«Канечне, самае лепшае, гэта кінуць завод,— думала Зоя.— Няма чаго дарэмна траціць час. Каб ведала, што гэта будзе так цяжка, даўно б ужо з завода пайшла, яшчэ тады, як мама першы раз сказала. Ды ўсё спадзявалася, што прывыкну... Каб жа хоць трохі выходзіла нешта, а то круціш гэтыя балансы, а яны не слухаюцца. І яшчэ гэты Ігар Барысавіч... А ён калі ўжо чапляцца пачаў, то не пакіне ў спакоі...»
І хоць усё, здаецца, гаварыла за тое, каб кінуць работу, цвёрдай пэўнасці ў Зоі не было. Вось каб не дзяўчаты — Валя, Люба і асабліва Рэня... Нібы яна зробіць ім нешта нядобрае, абразіць іх, пакінуўшы работу.
«А што я ім і што яны мне? — апраўдваецца сама перад сабою Зоя.— Кожны шукае, дзе яму лепш. Калі яны сапраўдныя сяброўкі, то хай парадуюцца за мяне, калі я знайду лепшую работу».
І ўсё ж поўнай яснасці ў думках не было.
— Параюся з Жэнем, — уздыхнула яна і глянула на гадзіннік.
Стрэлкі паказвалі сем, а спатканне з Жэнем было назначана на восем.
— Яшчэ цэлая гадзіна,— з сумам падумала Зоя і, каб чым заняцца, узяла з паліцы, што стаяла каля канапы, свой альбом. Успомніла, што Жэня ў мінулы раз падарыў ёй сваю фотакартку. Дастала яе з кішэні паліто, спачатку хацела паставіць у канцы альбома, пасля перадумала, адгарнула першую старонку. Тут стаялі дзве фатаграфіі — Зоіна і Міхала Паўлавіча, калі ён быў яшчэ малады. Зоя была сфатаграфавана ў профіль, з крыху паднятаю галавой, з ледзь прыкметнай усмешкаю на вуснах. А Міхал Паўлавіч тут зусім не быў падобны да таго, якім бачыла яго Зоя кожны дзень. З фатаграфіі на яе пазіраў юнак у белай кашулі з расшпіленым каўняром, з капою кучаравых валасоў.
Зоя дастала фатаграфію бацькі, не гледзячы, паклала яе ў сярэдзіну альбома, а на яе месца асцярожна, каб не пакамечыць ніводнага ражка, пачала ўстаўляць фатаграфію Жэні.
Калі Зоя выйшла на вуліцу, было без дзесяці хвілін восем. Сыпаў дробны асенні дождж. Налятаў вецер, і дрэва, што стаяла каля дома, пагрозліва заківала голымі галінамі.
«Бр...»— скаланулася Зоя.
Жэня чакаў яе на прыпынку аўтобуса. Без шапкі, з паднятым каўняром паліто, ён стаяў, прыхінуўшыся спіною да шчыта з рэкламамі кінафільмаў і паціху нешта насвістваў. Убачыўшы Зою, пайшоў ёй насустрач.
— Добры вечар, Зайчык, — узяў ён Зою пад руку.
Яны павярнулі ў мала асветлены завулак. Цяпер Жэня чамусьці не запрашаў Зою ў кіно, не гулялі яны па праспекце.



— Ну і пагодка...— глянуўшы на неба, з якога церусіў густы дробны дождж, сказаў Жэня.
— Я кідаю работу... Не буду больш на заводзе працаваць,— пазіраючы сабе пад ногі, прагаварыла Зоя.
— Праўда? Чаму?
— Не падабаецца мне працаваць у вас,— не захацела расказваць пра ўсё Зоя.
Жэня некалькі хвілін ішоў, ціха насвістваючы.
— Я іншую работу знайду... Не адзін ваш завод на свеце.
— Ты ведаеш,— сказаў нарэшце Жэня.— А гэта нават добра, што ты будзеш працаваць у іншым месцы... Разумееш?
Зоя зразумела. Жэня лічыць, што гэта лепш для іх. На заводзе ведаюць, што ён жанаты... Яно і праўда. Ужо кпілі з яе дзяўчаты, што з Жэнем у кіно хадзіла. І ўбачыў жа іх там нехта! Можа, і Жэню ўжо казалі што-небудзь такое хлопцы...
Дождж сыпануў яшчэ мацней — нібы жменяю хто кінуў Зоі ў твар калючую морась. Зоя шчыльней захінула на грудзях паліто.
— Пагодка...— зноў сказаў Жэня і, азірнуўшыся, ці не бачыць хто, абняў Зою, прытуліў да сябе.
— Куды мы пойдзем?
— Сёння не будзем мерзнуць і мокнуць... Адзін мой сябар паехаў у камандзіроўку і мне ключ пакінуў. Бачыш, як нам пашанцавала... Зараз пойдзем да яго на кватэру.
— Ой, што ты, — адхіснулася Зоя.
— Чаму?.. Ты што, баішся? Вось дзе сапраўдны заяц.
— Што ты, Жэнечка...
— Ну, хіба лепш мокнуць на вуліцы?.. А ў яго кватэра асобная, ніхто нас не ўбачыць.
Зоя маўчала. Ёй і хацелася пабыць разам з Жэнем, пасядзець у цёплай, чыстай кватэры, і разам з тым нейкі страх агортваў яе.
А Жэня ўзяў яе пад руку і павёў. Куды — Зоя не ведала, але паслухмяна пайшла за ім.
Яе сэрца вельмі моцна стукала, калі Жэня тонкім доўгім ключом адмыкаў нейкія незнаёмыя дзверы. Ён памог ёй распрануць мокрае паліто, кінуў яго на крэсла, узяў Зою за плечы. Доўга глядзеў ёй у вочы, а пасля нечакана моцна прытуліў да сябе:
— Каб ты ведала, якая ты мне дарагая...
Люстра асвятляла незнаёмы, чужы пакой. А Жэня цалаваў яе рукі, твар, вусны. І Зоі здалося, што нічога не існавала больш, акрамя Жэневых гарачых вуснаў. Яна забылася пра ўсё — пра завод, пра сяброўак. А калі позна вечарам, перад самым расстаннем, зноў усё ўспомніла, ёй здалося, што ўсё ўжо вырашана. Так, яна кіне завод. Жэня ж сказаў, што так лепш будзе.
...І вось сядзіць яна з заявай ў прыёмнай дырэктара.
Нарэшце, дырэктар застаўся ў кабінеце адзін. Зоя паднялася, нерашуча падышла да дзвярэй.
— Можна зайсці?— нясмела спыталася яна, спыніўшыся на парозе.
Дырэктар сядзеў за сталом і нешта пісаў.
— Калі ласка,— сказаў ён, адкладваючы ўбок ручку і ўважліва пазіраючы на Зою.
Зоя зрабіла некалькі крокаў да стала, падала заяву. Але не паспеў дырэктар прабегчы яе вачыма, як дзверы адчыніліся, і ў кабінет увайшоў Ігар Барысавіч.
— Добры дзень,— сказаў ён дырэктару і глянуў на Зою, нібы пы-

таючыся: «А ты тут чаго?»— Я да вас, Іван Іванавіч, наконт адной работніцы,— сказаў ён дырэктару.
— Пасядзіце хвілінку,— паказаў дырэктар Зоі на крэсла, што стаяла ля акна, і паклаў заяву на стол.
— Гэта з чацвёртай брыгады, Горбач, яна на стрэлках працуе,— гаварыў Ігар Барысавіч, апускаючыся на крэсла ля дырэктаравага стала.
— У Вольгі Мікалаеўны?— спытаўся дырэктар.
— Ага. Дык па віне гэтай работніцы вечна брак у брыгадзе. Учора сход быў. Сама Вольга Мікалаеўна не ведае, што з гэтай Горбач рабіць. А я думаю, што няма чаго з ёю цацкацца. Трэба зволньніць. Вось і прыйшоў да вас.
Ігар Барысавіч гарачыўся. На яго высокім з залысінамі ілбе ад хвалявання выступілі ружовыя плямы. Пры слове «зволньніць» ён зрабіў рэзкі жэст рукою.
Іван Іванавіч слухаў начальніка зборачнага цэха і стукаў пальцамі па Зоінай заяве.
— А яна што — аперацыі не асвоіла? Чаму брак у яе?— спытаўся ён спакойна, роўна.
— А ліха яе ведае,— падняўся з крэсла Ігар Барысавіч: яму, мусіць, цяжка было гаварыць седзячы.— Аперацыю то, мусіць, ведае, бо часам і акуратна працуе, але пасля зноў брак ідзе...
— А што Вольга Мікалаеўна кажа?
— Вольга Мікалаеўна, Вольга Мікалаеўна...— махнуў рукою начальнік цэха.— Не ведаеце вы яе? Ліберальнічае. Разводзіць рукамі, не ведае, што рабіць, а звальняць не хоча. «Шкада», кажа.
— Вы так пра Вольгу Мікалаеўну не гаварыце,— устаў з-за стала Іван Іванавіч.— Яна вельмі харошы і работнік, і чалавек. Мы разам з ёю тут пачыналі ўсё,— паказаў рукою вакол сябе дырэктар. Ён прайшоў у куток кабінета да макета завода. На макеце завод выглядаў такім, якім будзе ён у канцы сямігодкі і нагадваў невялікі гарадок. Узвышаліся карпусы і пабудовы, якіх цяпер яшчэ не было. Рады невялічкіх зялёных дрэў паказвалі, дзе будуць праходзіць вуліцы. На макеце раскінуліся скверы, спартыўныя пляцоўкі. Тэрыторыю завода ўпрыгожвалі два фантаны.
Іван Іванавіч некалькі хвілін глядзеў на макет, пасля зноў павярнуўся да Ігара Барысавіча.
— З Вольгаю Мікалаеўнай мы пачыналі ўсё гэта,— кіўнуў ён на макет.— Мы з ёю прыехалі сюды, калі тут яшчэ нічога не было. Адзін пустыр... Мы з ёю вагоны з абсталяваннем разгружалі, на сабе скрынкі цягалі...
Іван Іванавіч адышоў ад макета, прайшоўся па кабінеце, стаў каля Ігара Барысавіча.
— Гэта я вам расказваю не для таго, каб пахваліцца — вось якія мы харошыя,— а для таго, каб вы, новы тут чалавек, ведалі: тое, што мы цяпер маем — вялікае для нас дасягненне. Альбо ўзяць кадры,— усміхнуўся дырэктар і зноў пачаў хадзіць па кабінеце.— У нас жа рабочыя — адна моладзь. І што вы думаеце, мы ж з іх вунь якіх спецыялістаў выхавалі! А што было раней? Ды ці ведаеце вы, што я тут бацькоўскія сходы склікаў, як у школе. Трэба было выхоўваць, гадаваць людзей, а людзі гэтыя яшчэ — што дзеці. Вось і выклікаў маткак ды бацькоў, каб разам выхоўваць іх ды працаваць вучыць. З таго часу і павялося, што я сам, асабіста, кадрамі займаюся. Вы сядайце, сядайце,— паказаў ён Ігару Барысавічу на крэсла.
Іван Іванавіч гаварыў спакойна, роўна. Нібы паддаючыся яго



ўраўнаважанасці, паспакайнеў і начальнік . Чырвоныя плямы сышлі з яго ілба. Ён паслухмяна сеў на крэсла, склаў на каленях рукі.
— Што я вам хачу сказаць, Ігар Барысавіч,— сеў і дырэктар.— Мы выпускаем гадзіннікі і за план, вядома, адказваем перад дзяржавай. Браку нам таксама ніхто не даруе і змагацца з ім мы павінны ўсімі сіламі. Але справа ў тым, што мы не толькі за гадзіннікі адказваем. Мы адказваем і за людзей, якія да нас прыходзяць. А на нас з вамі, Ігар Барысавіч, асаблівая адказнасць. Паколькі працуе ў нас адна моладзь, дык мы з вамі павінны быць і настаўнікамі... З гэтых юнакоў і дзяўчат,— дырэктар кіўнуў на Зою, якая сядзела, апусціўшы галаву,— як з воску, усё, што хочаш, выляпіць можна. З кожнага з іх можна зрабіць сумленнага, сапраўднага чалавека. А можна і недагледзець, не дапамагчы ў час і чалавек зусім сапсуецца.
Іван Іванавіч дастаў з пачка, які ляжаў на стале, папяросу. Прыкурыў. Патушыў запалку. Кінуў у попельніцу.
— Ці такая ўжо безнадзейная гэта Горбач? Вы пераканаaны? — спытаўся Іван Іванавіч. І, не дачакаўшыся адказу, сказаў: — Калі Вольга Мікалаеўна не хоча звальняць — пачакаем. Ведаеце, самае простае — выкінуць чалавека з калектыву. А ці зробіцца ён ад гэтага лепшы?..
Ігар Барысавіч паціснуў плячыма, развёў рукамі, нібы кажучы: як сабе хочаце, вы — дырэктар, вам відней.
— Але майце на ўвазе, што план я ў вас патрабаваць буду, і брак вы павінны ліквідаваць,— сказаў дырэктар тонам, які павінен быў азначаць, што размова скончана.
Начальнік цэха ўстаў, прамармытаў «я разумею» і пайшоў да дзвярэй. Але ўся постаць яго гаварыла, што ён не разумее, не ведае, як зрабіць, каб і дрэнную работніцу пакінуць і брак знішчыць.
— А гэтую вашу Горбач прышліце сёння ў абед, калі ласка, да мяне,— сказаў Іван Іванавіч, калі начальнік цэха быў ужо каля дзвярэй.
Калі Ігар Барысавіч пайшоў, дырэктар зрабіў некалькі зацяжак, пасля паклаў папяросу, узяў у рукі Зоіну заяву.
— «Прашу зволньніць з работы»,— пачаў уголас чытаць ён. Прачытаў заяву, паклаў яе перад сабою, уважліва паглядзеў на Зою. Зоя, як перад настаўнікам, калі яе выклікалі, устала. Яна то паднімала вочы, то апускала ўніз.
— Дык чаму ж гэта вы хочаце зволньніцца?— пачула Зоя пытанне. І яна сказала першае, што прыйшло ў галаву:
— Я звальняюся, бо мы едзем адсюль. Едзем у другі горад...
— Вось як,— зноў узяў папяросу дырэктар. Яна патухла, і ён зноў прыкурыў яе, кінуў у попельніцу запалку.— Што ж, шкада.— І, выцягнуўшы з вазачкі, што стаяла на стале, тоўсты чырвоны аловак, напісаў на ражку Зоінай заявы: «Задаволіць».

## 10

А ў белым, сонечным цэху, як заўсёды, рухаліся, пульсавалі стужкі канвеераў, падносячы дзяўчатам плаціны. Як заўсёды, ажывалі ў канцы канвеера маленькія механізмы, пачыналі біцца іх сэрцы, чотка адмяраючы час: цік-так, цік-так, цік-так...
Скора гэтыя гадзіннікі апынуцца на прылаўках магазінаў, а пасля трапяць і да пакупнікоў. Іх будуць купляць маладыя дзяўчаты, у якіх усё жыццё наперадзе. Магчыма, гадзіннік будзе дапамагаць ім лічыць мінуты, каб ніводная з іх не прапала дарэмна.

Будуць купляць гадзіннікі і пажылыя жанчыны. Магчыма, паглядаючы на іх і думаючы аб шпаркім бегу часу, некаторыя з іх будуць шкадаваць, што не на тое яго патрацілі, не на тое, на што трэба было патраціць.

І хоць для ўсіх аднолькаваю будзе мера часу, але, напэўна, не ўсе аднолькава будуць яго адчуваць. Тым, у каго дзень з раніцы да вечара ў клопатах, у справе, будзе здавацца, што гадзіннік спяшаецца. І будуць марудна паўзці стрэлкі для тых, хто не будзе ведаць, куды дзець гэтае вялікае багацце — час, які табе адпушчаны на жыццё.

Ціха ў цэху, а за гэтыя ж некалькі мінут прыбавілася яшчэ некалькі гадзіннікаў. І ўсе яны дружна выстукваюць: цік-так, цік-так, цік-так. Пабеглі, пераганяючы адна другую, стрэлкі. Гадзіннікі ўжо жывуць, яны пачалі ўжо сваю работу.

Пасля нядаўняга сходу асабліва стараюцца дзяўчаты з брыгады Вольгі Мікалаеўны. Не чуваць лішніх размоў за канвеерам. Нават на твары Іны Горбач ажыўленне і зацікаўленасць. Учора за змену дзяўчаты выпусцілі сто семдзесят гадзіннікаў. Пасля ста пяцідзесяці, якія яны звычайна давалі, гэта ўжо добры паказчык. Вольга Мікалаеўна часта падыходзіла да Каці Беляковай, якая сядзіць на кантролі, сочыць за якасцю. Здаецца, усё ідзе добра.

Раптам Рэня адчула, што ў цэху нешта адбываецца. Яна азірнулася. Па цэху праходзіла нейкая дэлегацыя. Некалькі мужчын і адна жанчына. І хоць былі яны ўсе ў белых халатах і ўжо таму не маглі вылучацца адзеннем, адразу было відаць, што гэта госці замежныя. Нешта ў рысах твару, у прычосках, у манеры трымацца было не наша. Спераду дэлегацыі ішоў Іван Іванавіч.

Рэня паглядзела на гасцей і вярнулася да работы. Скора яна нават забылася пра іх. Замежныя госці на заводзе — не дзіва. Яны ў апошні час даволі часта з'яўляліся тут. Але для замежных гасцей завод быў, напэўна, дзівам. Яны хадзілі па цэху, з вялікай цікавасцю пазіраючы, як працуюць дзяўчаты, нешта паказвалі адзін аднаму, круцілі галовамі. Сярод англійскіх слоў вельмі часта гучала: «конфейер, конфейер».

Турысты прайшлі праз увесь цэх, спыняючыся каля кожнага канвеера. Рэня не заўважыла, як двое з іх — немаладая жанчына з прыгожа прычасанымі валасамі і лысаваты поўны мужчына з акулярамі ў залатой аправе — спыніліся блізка ля яе. Яны глядзелі, як старанна працавала Рэня, не заўважаючы іх прысутнасці, іх цікаўных позіркаў.

— Гэта прыгожая строгая дзяўчына, напэўна, ударніца. Ці як тут у іх кажуць?..— сказала жанчына па-англійску свайму спадарожніку.

— У яе арыстакратычныя рукі,— ва ўпор разглядаючы Рэню, сказаў мужчына.

Пачуўшы размову, Рэня падняла вочы і сустрэла позіркі жанчыны і мужчыны. Мусіць, у Рэніных вачах нешта такое было, бо цікавасць гасцей раптам змянілася нялоўкасцю. А Рэня ва ўпор пазірала на іх і ледзь стрымлівалася, каб не засмяяцца. Яна зразумела, што яны сказалі.

— О, вы разумееце па-англійску?—спыталася жанчына, і гэтае «о» сказалі не толькі яе вусны, а і вочы, якія зрабіліся раптам круглыя.

— Так, я разумею па-англійску,— адказала Рэня тонам, за якім гучала: а вы што думалі, можаце тут гаварыць абы-што і вас ніхто не зразумее?

— О, вельмі добра, вельмі добра,— старалася ўсміхацца як мага больш ветліва замежная госця, але з твару яе не сыходзіла нялоўкасць. Яна скоранька ўзяла свайго спадарожніка пад руку і павяла яго ад Рэні.



— Ой, Рэнечка, якая ты маладзец,— з захапленнем пазірала на сяброўку Валя.— Па-англійску гаварыць умееш... А я, дурная, не пайшла з табою ў інстытут... А што яны табе сказалі?

— Нічога не сказалі, працуй вось,— хавала радасную ўсмешку Рэня.

Падышоў Ігар Барысавіч. Твар у яго быў урачысты.

— Бачылі, як канвеер разглядаюць? Дзіва! У іх жа ні ў кога няма. Ні ў Англіі, ні ў Францыі, ні нават у Амерыцы. У нас упершыню гадзіннікі на канвеерах збіраць пачалі.

Звычайна строгі твар Ігара Барысавіча свяціўся, як у дзіцяці. Рэня не вельмі любіла начальніка цэха. Ён здаваўся ёй злосным чалавекам. Але цяпер ён нават падабаўся ёй.

— А чаго яны тут стаялі? Пыталіся што-небудзь?

— Мы з імі па-англійску гаварылі,— глянула Валя на начальніка цэха сваімі гарэзлівымі вачыма.

— Ну-ну,— адразу зрабіўся сур'ёзны Ігар Барысавіч. Ён вырашыў, што Валя жартуе, не жадаючы адказваць на жарт, нахмурыў бровы і пайшоў уздоўж канвеера.

А Рэня не-не ды ўспомніць збянтэжаныя вочы замежнай турысткі, і ёй робіцца весела. Сэрца поўніцца гонарам за свой завод, за свой цэх, за свой канвеер, які заўсёды робіць такое ўражанне на турыстаў.

Яна ўспомніла Любіну бабку, якая нядаўна прыязджала ў Мінск і некалькі дзён пражыла ў іх інтэрнаце. Маленькая, сухая, крыху згорбленая, яна першы раз была ў Мінску. «Баюся, дзеткі, што памру скора, а перад смерцю захацелася Мінск пабачыць, на Любачку яшчэ раз паглядзець,— казала бабка дзяўчатам.— Не пускала мяне дачка, ды я ўпрасіла». Зусім старая, але жвавая, бабка ўсім цікавілася. Яна аглядала газавую пліту на кухні ў інтэрнаце, сама спрабавала запаліць яе. Хадзіла па калідорах, заглядала ў іншыя пакоі і ўсё круціла галавою, цмокала языком.

Дзяўчаты павазілі бабку па Мінску на таксі. Яна, няўмела спяшаючыся, садзілася ў машыну, а сеўшы каля шафёра, паважна склала рукі і старалася зрабіць сур'ёзным твар. Але вельмі скора ўся важнасць зляцела з бабкі. Яна жыва азіралася, вохкала ад захаплення, і вочы яе блішчалі зусім молада.

— Во пакаталася сёння!..— казала яна вечарам.— Сам пан наш некалі так не ездзіў. Ды што пан! Каня запражэ ў брычку і рады, і глядзіць на ўвесь свет так, што крукам носа не дастанеш. Каб ён бачыў, як яго батрачка на гэтым, як яго, «зіле» ездзіла, дык бы ў зямлі перавярнуўся.

Бабка з дзяўчатамі піла чай, частавала іх варэннем, прывезеным з Дуброўны.

— Ешце, дзеткі, ешце,— вымала яна ўсё новыя шклянкі і шкляначкі.— Надта ж вы харошыя і надта ж мне ўгадзілі. Цяпер і паміраць можна, хоць і не хочацца, дзеткі. Ой як не хочацца.

— Ды вы, бабка, яшчэ доўга будзеце жыць,— супакойвала яе Валя.— Яшчэ Любу замуж аддасцё, праўнукаў дачакаецеся.

— Дай бог, дай бог, — ківала галавою бабка. — А якія ж гэта вы гадзіннікі тут робіце? — пыталася яна пасля, як ужо быў выпіты цэлы чайнік чаю і прыбрана са стала пасуда. — Ці будзільнікі ці такія, што на сценках вісяць?

— Хіба ж ты, бабка, дагэтуль не ведаеш, што мы тут робім ручныя гадзіннікі, жаночыя, — з дакорам сказала Люба.

— А хто яго ведае, якія... Ведаю, што гадзіннікі, — апраўдвалася бабка.

— Вось такія гадзіннікі, во, — паказала ёй Валя свой маленькі пазалочаны гадзіннік.

— Ах, які ж прыгожы, — аглядала яго бабка, асцярожна трымаючы ў тоўстых, крыху скручаных раматусам пальцах. — І многа ж вы іх робіце? — цікавілася бабка.

— Многа, вельмі многа. У дзень чатыры тысячы!

— Аёячкі!.. — войкнула бабка. Яна аддала Валі гадзіннік, паглядзела на Любіну руку, на Рэніну, у якіх паблісквалі такія самыя гадзіннікі. — Не дзіва, што цяпер у кожнай дзяўчыны гадзіннік. Наша Стэфка Самахвалава на ферму да кароў ідзе і рукою з залатым гадзіннікам памахвае. Але што ёй! Ці ёй у гнаі там трэба калупацца? Панасоўвае каровам на вымя дудкі з правадамі і песні спявае. А кароў электрычнасць доіць. І некалі ж, бывала, — падперла бабка шчаку рукою,— на ўсю Дуброўну ў аднаго Пархвена быў гадзіннік, ды і той стаяў. На гэты гадзіннік уся вёска хадзіла глядзець, як на дзіва. Гэта да той вайны было, я тады яшчэ ў дзеўках хадзіла. Дык збяромся да Пархвена, і ён нам расказвае, як расказваў яму яго дзед, а яго дзеду яшчэ яго дзед расказваў, што некалі ў нас у Дуброўне гадзіннікі рабілі. Цэлая фабрыка была. Рабілі гадзіннікі і цару адпраўлялі. А пасля цару не спадабалася, што вельмі далёка ад яго фабрыка тая ды што не можа ён сам камандаваць, каб больш гадзіннікаў рабілі. Пагналі яго служкі тады фабрыку бліжэй да цара, а па дарозе яна згубілася.

— Ну, гэта, бабка, ваш Пархвен ужо казкі казаў, — засмяялася Валя. — Не магло тады, так даўно, як вы гаворыце, быць фабрыкі недзе ў Дуброўне.

— Хто яго ведае, дзеткі, можа і казкі. Але нашто было чалавеку хлусіць. І той гадзіннік, такі круглы, з тоўстым шклом, што ў яго ў скрыні ляжаў, ён казаў, што з той фабрыкі. А ці так гэта было — хто ж яго ведае. Цяпер ні Пархвена няма, ні таго гадзінніка. Пархвена яшчэ ў тую вайну забілі, а гадзіннік — хто яго ведае, дзе дзеўся. Можа, дзеці растрэслі.

— Гэта вельмі цікава, тое, што вы расказваеце, — сказала Рэня. Яна вельмі ўважліва слухала бабку. — Калі тут і не ўсё праўда, то штосьці-небудзь ды ёсць. Такія легенды так сабе не нараджаюцца.

Рэні бабчын расказ запаў у памяць, і праз некаторы час, седзячы ў бібліятэцы, яна заказала кнігі па гадзіннікавай справе. У іх было вельмі многа цікавага, такога, чаго яна не ведала дагэтуль, пра што не гаварылі на тэхмінімуме, і Рэня з цікавасцю ўсё гэта чытала. У адным вельмі старым даведніку яна знайшла вельмі цікавыя звесткі. Аказваецца, не казку расказваў сваім аднавяскоўцам дзядзька Пархвен. Сапраўды, у 1784 годзе ў Дуброўне была адкрыта першая ў свеце фабрыка гадзіннікаў і першая ў свеце школа гадзіннікавых майстроў. Рэня з цікавасцю ўчытвалася ў скупыя радкі даведніка. Чаму так мала тут напісана? Чаму так мала падрабязнасцей?

Яшчэ ў васемнаццатым стагоддзі ў Дуброўне рабілі гадзіннікі не горшыя, чым рабіў іх славуты французскі майстар Брэгет. Імя Брэгета захавалася. Яго ўпамінае нават Пушкін у «Яўгені Анегіне». А вось пра той факт, што не ў Германіі і не ў Швейцарыі, не ў Францыі і не ў Англіі, а на Беларусі, у вёсцы Дуброўне, яшчэ ў 1784 годзе была адкрыта першая ў свеце фабрыка гадзіннікаў і першая ў свеце школа майстроў гадзіннікавай справы, — чаму пра гэта можна даведацца толькі са скупых радкоў даведніка?

Чаму ў Беларусі, у глухім кутку Расіі, куды амаль зусім не даходзілі здабыткі тэхнікі, адкрылася такая фабрыка? А чаму Швейцарыя, краіна зялёных лугоў, па якіх ходзяць статкі пародзістых кароў, і якая, здаецца, павінна была займацца толькі вырабам масла ды сыру, чаму Швейцарыя адзін час займала першае месца ў свеце па вырабу гадзіннікаў?

Відаць, і ў Беларусі былі ўмовы, бо калі б не было іх, не прыйшла б у заняпад фабрыка пасля таго, як перавялі яе ў іншае месца.

Усе гадзіннікі, якія рабіліся ў Дуброўне, адпраўляліся ў Пецярбург, у імператарскі двор. Там імі і распараджаліся. Але распараджаліся там не толькі гадзіннікамі, але і чалавечымі душамі. Некаму з яснавяльможных асоб прыйшло ў галаву перавесці фабрыку і школу ў адну з падмаскоўных вёсак.

Цяжкім быў шлях майстроў пешшу праз многія сотні кіламетраў. Толькі на адных калёсах везлі яны з сабою хлеб ды галоўны інструмент фабрыкі. Прыйшлі ў чужую вёску, а там нават і страхі над галавою няма. У нейкім хлеве, што стаяў на ўскраі сяла, асталяваліся на жытло майстры. Нечага чакалі. Даядалі тое, што прывезлі з сабою. Цешыліся чуткамі, што сам цар клапоціцца аб іх фабрыцы, што ідзе ўжо да іх абоз з хлебам, з інструментам новым, у Маскве нарыхтаваным.

Не прыйшоў абоз. З'елі людзі хлеб ды пачалі разбрыдацца. Хто назад у сваю вёску падаўся, хто да мясцовых паноў у прыгонныя трапіў, а некаторыя зніклі немаведама дзе.

Так і распалася фабрыка, і не было з таго часу ў Расіі гадзіннікаў сваёй вытворчасці. Ды і не вельмі непакоіла гэта яснавяльможных асоб. Айчынная вытворчасць, думалі яны, вельмі няпэўная гэта справа. Куды прасцей карыстацца работаю замежных умельцаў.

Перад Рэняю раскрывалася ўся гісторыя гадзіннікавай справы ў нашай краіне. Да самага Кастрычніка не было ў Расіі гадзіннікаў сваёй вытворчасці. Нават тыя «гарбузы», на якіх было напісана па-руску «Павел Бурэ» і якія на тоўстых залатых ланцугах насілі купцы ды кулакі, нават тыя самыя «гарбузы» рабілі замежныя капіталісты, якія мелі ў Расіі свае фабрыкі.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі ладзіць сваю гаспадарку ўзяліся сапраўдныя гаспадары, з'явіўся і першы айчынны гадзіннік. За масавы выпуск гадзіннікаў у нас узяліся толькі пасля Айчыннай вайны, а ўжо ззаду засталіся і Швейцарыя, і Францыя, і Англія. Яшчэ зусім нядаўна які-небудзь аматар замежных бэбахаў тыцкаў пальцам у чорны цыферблат нячыста здабытага гадзінніка і хваліўся: «Швейцарскі!», што павінна было азначаць: гадзіннік у яго найлепшай маркі.

А цяпер замежная пані-турыстка пальчыкам паказвае на невялічкі гадзіннік, што блішчыць на яе далікатным запясці, і з акцэнтам, ледзь выгаварваючы па-руску, кажа: «соф'ецкі». І гэта значыць, што гадзіннік у яе найлепшай маркі.

Дык не дзіва, што з такою цікавасцю хадзілі замежныя турысты па заводзе, круцілі галовамі, аглядаючы канвеер, з цікавасцю пазіралі, як працуюць дзяўчаты. Можа хацелі яны разгледзець, дзе схавана тое цуда, якое падпарадкавалі сабе камуністы? Можа хацелі разабрацца, у чым сакрэт іх поспехаў?

Рэня ўспомніла замежную госцю з прыгожа прычасанымі валасамі. У вачах гэтай жанчыны былі збянтэжанасць і нялоўкасць.

Цэх жыве сваім звычайным рабочым жыццём. Вось уздоўж канвеера ідзе Ігар Барысавіч. На хвілінку спыніўся каля Рэні, хацеў нешта сказаць, але яго паклікалі, і ён пайшоў далей.

Каця Белякова, якая сядзіць на кантролі, не вяртае сёння гадзіннікаў на дэкатаж. Значыць, усе яны зроблены добра. А як радасна, калі спорыцца работа! Тады ты здаешся сабе такім значным і адчуваеш, што не дарэмна жывеш на свеце, ты — патрэбны чалавек.

## 11

Калі і на другі дзень Зоя не прыйшла на работу, Рэня вырашыла схадзіць да яе, хоць раней гэты вечар меркавала аддаць заняткам — трэба было рабіць практыкаванне па англійскай мове, рыхтавацца да заліку. «Я ненадоўга,— думала Рэня.— На гадзінку. Можа, яна сапраўды хворая...»

Дзверы адчыніла Антаніна Іванаўна. Яна ведала Рэню, бо тая ўжо некалькі разоў прыходзіла да Зоі, і цяпер абрадавалася ёй.

— Ой, што вы, што вы!..— сумелася Рэня, калі Антаніна Іванаўна пачала ёй памагаць распранацца. — Я сама, сама... Ды не бярыце вы паліто, яно такое мокрае.

— Трэці дзень дождж сыпле, — вешаючы Рэніна паліто, скардзілася Антаніна Іванаўна.— Ды нічога не зробіш. Восень. Добра яшчэ, што кастрычнік быў цёплы.

Выціраючы насоўкай мокрыя рукі, Рэня ўвайшла ў пакой. Міхал Паўлавіч сядзеў за сталом і нешта пісаў. Перад ім ляжаў цэлы стус тонкіх і тоўстых кніжак. Міхал Паўлавіч паўзверх акуляраў паглядзеў на Рэню, усміхнуўся.

— А дзе ж Зоя?— спытала Рэня.

— Зараз, Рэнечка, прыйдзе. Ты пасядзі, яна да краўчыхі пабегла. Гэта тут, недалёка,— разгладжваючы рукамі цыратавы фартух, гаварыла Антаніна Іванаўна.

— Да краўчыхі?— здзівілася Рэня. Яна была ўпэўнена, што Зоя захварэла.— Дык хіба яна не хворая?

— Дзякуй богу, здаровая. А што?— перастала разгладжваць фартух Антаніна Іванаўна.

— Дык чаму ж яна не ходзіць на работу?

Антаніна Іванаўна села, склала рукі.

— А хіба яна вам нічога не сказала?— здзівілася Антаніна Іванаўна і неяк адразу запнулася, не ведаючы, ці гаварыць пра тое, пра што сама дачка не сказала сваёй сяброўцы.

— Я нічога не ведаю,— паціснула плячыма Рэня.— А што здарылася? — спыталася яна ў Антаніны Іванаўны, але, не дачакаўшыся адказу, павярнулася да Міхала Паўлавіча.

Міхал Паўлавіч зняў акуляры, сабраў спісаныя лісткі, паклаў іх у тонкую зялёную папку.

— Я сам, Рэнечка, толькі сёння пра ўсё даведаўся,— сказаў ён.— Гэта ж яна работу кінула, звольнілася. Цяжка, бачыце, ёй там, — апошнія словы ён сказаў з'едліва.

— А і цяжка, Мішачка, каб не было цяжка, не кінула б,— павярнулася да мужа Антаніна Іванаўна. Мяккая і лагодная за хвіліну да гэтага, яна ўся неяк натапырылася, як квактуха, убачыўшы, што нехта хоча схапіць яе кураня.

Міхал Паўлавіч нібы не чуў, што сказала жонка.

— Вось,— падняў ён тонкую зялёную папку.— Успаміны пішу. Узрадаваўся, што на пенсію выйшаў... палкоўнік. А мне, мусіць, не ўспамінамі трэба займацца, а сённяшнім днём,— і ён з горычу кінуў папку на стол.— У сваёй хаце парадку не навяду.



— Як жа гэта так... Нікому нічога не сказаўшы, не параіўшыся... Мы ўсе думалі, што яна хворая,— гаварыла Рэня.

— Разумееце... — хадзіў Міхал Паўлавіч па пакоі. — За ўсё жыццё ніколі пальцам да яе не дакрануўся, а тут, паверыце, захацелася зняць папружку.

— Ах, Мішачка,— успляснула рукамі Антаніна Іванаўна.— Ну, хіба можна так нават гаварыць... Вось яна і адчувае, што ты такі злосны, таму і бегае недзе. У хаце сядзець не хоча.

— Як жа гэта так,— паварочвалася Рэня то да Антаніны Іванаўны, то до Міхала Паўлавіча. — Яна ж ужо асвойваць работу пачала... Яшчэ крыху, і самастойна працавала б...

— А яна кажа, што не выходзіла ў яе нічога,— сказала Антаніна Іванаўна.— А што цяжка ёй, дык гэта я веру. Вунь, на трэску высахла за гэтыя тры месяцы. Ды яшчэ начальнік там нечага на яе ўз'еўся. Сварыўся на сходзе.

— Вось дурніца, —закіпяцілася Рэня. — Сварыўся... А на каго ён не сварыцца... Гэта ў яго характар такі. А што цяжка ёй, дык усім спачатку, з непрывычкі, цяжка. Яна ў вас проста да работы не прывучаная.

— Во, во, — спыніўся пасярод пакоя Міхал Паўлавіч. — І я тое самае кажу. Раздурыла дачушку, — кінуў ён жонцы.

— Я ведаю, што я ва ўсім вінавата, ты ўжо казаў мне гэта, — і куточкі губ у Антаніны Іванаўны задрыжэлі.— Адно дзіця страціла, другое раздурыла...

— Не трэба, не трэба,— захвалявалася Рэня. Яна зразумела, на што намякала Антаніна Іванаўна, бо Зоя расказвала ёй пра няшчасце, якое здарылася ў іх сям'і. Цяпер Рэня спалохалася, каб размова не перайшла на тое, пра што, яна ведае, вельмі цяжка гаварыць і бацьку, і маці. І яна загаварыла пра Зою.— Я проста не ведаю, што цяпер і параіць ёй. Адно скажу, што зрабіла яна вялікае глупства. Гэта трэба неяк паправіць. Але як?

— Пагаварыце вы з ёй, Рэня,— пазіраючы некуды ўбок, сказаў Міхал Паўлавіч. — Цяпер такі свет пайшоў, што дзеці больш сяброў слухаюць, чым бацькоў.— Яму, відаць, было няёмка, што Антаніна Іванаўна пры чужым чалавеку пачала гаварыць пра тое, пра што яны і між сабою не заўсёды адважваліся гаварыць.

Антаніна Іванаўна ўздыхнула і выцерла далонямі вочы. Яна і сама, відаць, не ведала, што цяпер рабіць — ці да канца абараняць дачку, ці згадзіцца з мужам.

— Божа, божа,— прашаптала яна.— Малыя дзеці — малое гора, вялікія дзеці — вялікае гора.

— Я з Зояй абавязкова пагавару. Як так можна,— сказала Рэня. Ёй было крыўдна і за Міхала Паўлавіча, і за Антаніну Іванаўну, і за сябе. І нават нейкая злосць разбірала яе на Зою.

— Дык ты пасядзі, Рэнечка, пачакай,— паднялася з крэсла Антаніна Іванаўна. Яшчэ некалькі хвілін назад рухавая, быстрая, яна раптам нібы абвяла і цяпер, цяжка ступаючы, пайшла ў кухню. Міхал Паўлавіч стаў ля акна, заклаўшы рукі за спіну, і пазіраў у цёмныя шыбы, па якіх стукаў дробны дождж.

Рэня пасядзела некалькі хвілін. На вочы ёй трапіў тоўсты чырвоны альбом, які ляжаў на паліцы. Рэня падышла, узяла яго, разгарнула і адразу ўбачыла дзве фатаграфіі. На адной была Зоя ў даволі эфектнай позе, з другой фатаграфіі, крышку нахабна, як здалося Рэні, на яе глядзеў Жэня. Не думаючы аб тым, ці добра гэта, ці не, яна выцягнула Жэневу фатаграфію з альбома і зірнула на надпіс. «Любаму Зайчыку ад злоснага Воўка» — прыгожым почыркам было выведзена на ражку.

Пад подпісам стаяла вельмі свежая дата. «Дык вось як далёка зайшло ў іх... «Любаму Зайчыку»... Што ж яны сабе думаюць, і яна і ён... Не, трэба будзе і пра гэта адкрыта з ёю пагаварыць. Вось табе і малая, і бедненькая,— злавалася Рэня. «Я яе дзіцем лічу, хачу памагчы ёй, а яна, бач, з жанатым хлопцам каханне завяла!»

Рэня зусім раззлавалася. Яна на хвіліну нават сумелася — ці трэба ёй тут сядзець і чакаць Зою? Можа, яна лепш за яе ведае, што рабіць... Але адразу яшчэ большы жаль да Зоі і нават страх за яе ахапілі Рэню. «Не, так не будзе... Я схаплю яе за плечы і буду трэсці, пакуль яна не прачнецца, пакуль не ўбачыць, што з усяго гэтага можа атрымацца».

Рэня паставіла фатаграфію на месца. Пачала далей праглядаць альбом. Якіх толькі Зоіных здымкаў тут не было! І зімою, і летам, і ў горадзе, і за горадам. У купальніках і ў сукенках, у паліто і ў світары. З мамаю і з бацькам, адна, з сяброўкамі. Уся невялікая біяграфія Зоі ляжала тут, як на далоні, і жыццё яе здавалася суцэльным святам.

Адна фатаграфія ляжала здымкам уніз, не ўстаўленая ў сваё гняздзечка. Рэня ўзяла яе, перавярнула і адхіснулася.

— Юра,— не прашаптала, а выдыхнула яна. Нейкую хвіліну яна сядзела, як скамянелая, а пасля рэзка нахілілася да фатаграфіі, упілася ў яе вачыма. Не, гэта быў не Юра. Але як падобны... Такія ж вочы, такія ж рысы твару, такія ж кучаравыя валасы над высокім ілбом. Хто ж гэта? Ды гэта ж, здаецца, Міхал Паўлавіч... малады... Божа мой, і бывае ж такое...

— Вось і чай скора гатовы будзе, а Зоі ўсе няма... Забавілася,— увайшла Антаніна Іванаўна. — Альбом разглядаеце? — нахілілася яна да Рэні.— Вось бачыце, які Міхал Паўлавіч быў малады... Гэта ў той год, як мы пажаніліся. Яму было тады дваццаць тры гады...

А Рэня глядзела на фатаграфію і не магла супакоіцца. «Трэба ж, так падобны на Юру»,— думала яна. У той дзень, калі Юра праводзіў яе з Калінаўкі ў Мінск, ён быў у такой самай белай кашулі з расшпіленым каўняром. І такі самы высокі лоб, такія самыя вочы, вусны, выраз твару...

Рэня пачула, як адчыніліся дзверы. Дробна застукалі абцасы. Прыйшла Зоя. Рэня закрыла альбом. Усярэдзіне ў яе нешта дрыжала, але яна ўзяла сябе ў рукі. Трэба было падрыхтавацца да непрыемнай гаворкі. І як пачаць? З чаго?

Убачыўшы сяброўку, Зоя збянтэжылася.

— Даўно ты прыйшла? — прывітаўшыся, спытала Зоя.

— Ды ўжо... даўнавата.

— А я да краўчыхі бегала,— старалася спакойна, нават абыякава гаварыць Зоя. Твар у яе быў ружовы ад холаду, на валасах блішчэлі кропелькі дажджу. Яна хадзіла па пакоі, нібы не ведаючы, як схаваць збянтэжанасць, нялоўкасць. Антаніна Іванаўна стаяла ля дзвярэй. Яна ўсё разгладжвала рукамі свой цыратавы фартух, чакаючы, што пачне гаварыць дачцэ Рэня. Але Рэні не хацелася, каб Антаніна Іванаўна слухала іх размову. Ёй здавалася, што лепш застацца з Зояй з вока на вока. І Антаніна Іванаўна зразумела Рэню, яна паклікала Міхала Паўлавіча і пакінула іх адных.

## 12

Дождж сыпаў і сыпаў. Здавалася, усё расплылося ад яго — доўгага, цягучага, несупыннага.

Рэня чакала тралейбуса. Вось ён падплыў,— з вялікімі вокнамі,



нечым падобны на акварыум. Рэня ўскочыла ў яго, села ля акна, адхінулася на мяккую спінку сядзення. За шклом, па якім цяклі тонкія струменьчыкі дажджу, плыла вуліца. Але Рэня, хоць і глядзела ў акно, не бачыла, што за ім робіцца. Яна ўспамінала Зоіны вочы—збянтэжаныя і разам упартыя, калючыя. «Як кепска ўсё атрымалася,—думала Рэня.— Я ж зусім не хацела з ёю сварыцца. А нагаварылі адна адной непрыемнага, крыўднага». І над усім, што сама сказала Зоі, што пачула нядаўна ад яе, звінелі словы: «Не твая справа».

«А можа і праўда не мая справа,— думала Рэня.— У яе ёсць бацька і маці. Хай яны за яе адказваюць. Кінула завод — хай цяпер робіць, што хоча. Пагляджу, дзе яна знойдзе сабе лёгкую работу. Ці яна хоча там працаваць, дзе рабіць нічога не трэба, і грошы нізавошта атрымліваць?» Яна так і сказала Зоі...

— Менш за ўсё я думаю пра грошы, яны мне наогул непатрэбныя,— зняважліва кінула ёй на гэта Зоя.

— Ты грашыма не раскідайся, бо цаны ім не ведаеш,— загарэлася тады Рэня.— Не зарабіла яшчэ. Дасюль на татавай пенсіі жыла і, мусіць, век за нейчаю спіною жыць збіраешся...

— Не твая справа,— зноў чуе Рэня Зоін голас і бачыць яе халодныя, як ільдзінкі, вочы.

— Альбо, можа, за Жэню замуж збіраешся? Ад жонкі яго адбіць хочаш? — не выбірала ўжо далікатных слоў Рэня. Цяпер яна ўспомніла, як успыхнула Зоя, як пачырванеў яе твар, як раставалі раптам вочы-ільдзінкі і слёзы, ці то сораму, ці злосці, затуманілі іх.

— Не твая справа, не твая справа! — амаль шэптам паўтарала яна адно і тое ж.

«Дык, можа, і праўда не мая справа? — горка думае Рэня. — Навошта мне лезці ў чужое жыццё?» «А чаму яно чужое,— нехта іншы спрачаецца з ёю.— Хіба Зоя была табе чужая ўвесь гэты час? Ты ж яе вучыла, сябравала з ёю. І пасля, ты ж — камсамолка. А хіба можа быць камсамолка абыякаваю да свайго сябра, калі бачыць, што гэты сябар робіць нешта не так, як трэба? А можа ты вінавата ў тым, што Зоя кінула завод? Ты ж была яе настаўніцаю... Ах, каб можна было вярнуць Зою ў цэх! Я з яе вачэй не спускала б! Але Зоя і слухаць не хоча пра тое, каб вярнуцца назад, на завод!.. А ўся гэта гісторыя з Жэнем... Антаніна Іванаўна, мусіць, і не ведае нічога. Няўжо і тут не мая справа? Няўжо не павінна я ўмяшацца?..»

Рэня выйшла з тралейбуса. Абмінаючы лужыны, спяшаючыся, убегла ў пад'езд інтэрната. Цётка Феня ў вялікай шарсцяной хустцы, у ватоўцы драмала ля свайго століка. Калі стукнулі дзверы, яна расплюшчыла вочы, крыху няўцямна глянула на Рэню, але хутка пазнала яе і, шырока пазяхнуўшы, зноў прыплюшчыла вочы.

Валя і Люба ўжо спалі. Асцярожна, каб не нарабіць груку, Рэня распранулася, лягла ў ложак. Пасля халоднай, мокрай вуліцы было прыемна апынуцца ў цёплай, чыстай пасцелі, і Рэня скора адчула, як яе пачала агортваць дрымота. Яшчэ мільгалі ў думках абрыўкі размовы, чуўся Зоін голас, усплываў твар. Пасля Рэня заснула.

Прачнулася ноччу, нібы штурхнуў яе хто. Нешта ёй прыснілася, але яна не магла ўспомніць, што. Пасля ёй здалося, нібы яна ўсё яшчэ трымае ў руках Зоін альбом. Ага, успомніла! Ёй прыснілася, што яна зноў гартае Зоін альбом, пераглядае фатаграфіі... Нібы зноў узяла яна ў рукі здымак і выдыхнула: «Юра!» А можа ўсё гэта і не прыснілася. Можа так запала ў памяць тая фатаграфія, што Рэня спала і думала пра яе... Юра... так падобны на Міхала Паўлавіча...

Нібы электрычным токам, працяло ўсё цела дзяўчыны. Яна ўраз пад-

нялася, села. Думкі кругам пайшлі ў галаве, аж зрабілася неяк нядобра. Рэня сціснула далонямі скроні.

«У вайну ў нас згубіўся хлопчык»,— успомніліся ёй Зоіны словы.— Яму было тады тры гады». У якім жа годзе гэта здарылася? Ага, у сорак першым... Значыцца, цяпер яму павінна быць... Рэня ніяк не магла палічыць, колькі год павінна быць яму цяпер. Нарэшце, палічыла. Цяпер яму павінна быць дваццаць два. Ну вось, Юру скора будзе дваццаць тры...

Рэня сядзела, моцна сціснуўшы рукамі скроні. «Не можа быць, каб такое моцнае падабенства было выпадковае. А Зоя... Яна ж таксама падобна на Юру... Ці гэта мне ўжо цяпер здаецца?...»

Ёй захацелася зараз жа, цяпер, ноччу знайсці фатаграфію Юры і паглядзець на яе.

Яна ўстала, упоцемках адчыніла чамадан, які стаяў пад ложкам, вобмацкам пачала шукаць пачак з фатаграфіямі. Ніяк не магла знайсці яго і выкідала на падлогу бялізну, абрус, новыя туфлі. Карабок упаў на падлогу, стукнуў. Прачнулася і павярнулася на ложку Валя.

— Што там такое? — спыталася яна сонным голасам.

— Нічога, нічога, гэта я,— прашаптала Рэня.

Нарэшце, пачак у руках, але ў пакоі цёмна, Рэня не хоча паліць святла, каб не прачнуліся сяброўкі. Асцярожна, на пальчыках ідзе яна да дзвярэй, адчыняе іх. У калідоры вельмі ціха і цьмяна гарыць лямпачка. Рэня спачатку, як была, у адной кашулі, выбегла ў калідор, пасля схамянулася. Яшчэ выйдзе хто... Вярнулася, вобмацкам знайшла халат, накінула на плечы. Фатаграфіі паклала на падаконнік і пачала перабіраць, шукаючы толькі тыя, дзе Юра. Вось апошняя, ён нядаўна прыслаў. У касцюме, з гальштукам, старанна прычасаны. Ой, здаецца, не падобны,— аж пахаладзела Рэня. Але так здалося ў першае імгненне. Збянтэжыў касцюм і гладка прычасаныя валасы. Канешне, Юра вельмі падобны на маладога Міхала Паўлавіча.

Яна разглядае другія фатаграфіі. Вось Юра ў гурце дзяцей з дзіцячага дома. Тут недзе і Рэня, але сябе яна цяпер не шукае. Фатаграфія невыразная. На гэтым здымку Юра зусім хлопчык, і Рэні здаецца, што ён тут вельмі падобны на Зою. Рэня ўсё ўглядаецца і ўглядаецца ў фатаграфіі — у адну, у другую, у трэцюю. Нарэшце, сабрала ўсё і вярнулася ў пакой. Вакол цемень і цішыня. Колькі ж гэта часу? Тры гадзіны... Зноў лягла ў ложак. Яна ўся калацілася. І ад холаду, і ад хвалявання. Захацелася зноў устаць, апрануцца і зараз жа пабегчы да Булатаў. Нічога, што ноч. Гэта ж так важна... Тое, што сёння яна пасварылася з Зояю, здалося такім дробязным, нязначным. Яна нават зноў была паднялася і села на ложку, але стрымала сябе. «А што, калі ўсё гэта — мае выдумкі... Расхваляваць Антаніну Іванаўну, Міхала Паўлавіча, а пасля акажацца, што ён зусім не іх сын...».

І Рэня зноў лягла, укрылася, стараючыся сагрэцца, супакоіцца. «Трэба заўтра пайсці да іх і пагаварыць пра ўсё. Пакуль з адным толькі Міхалам Паўлавічам. Цікава, а як звалі іх сына? Я нават не ведаю, не пыталася. Трэба напісаць Юру. Толькі асцярожна. Ён не паверыць. Скажа — аднойчы ў мяне ўжо знайшлася маці... Але гэта не тое, гэта зусім іншае...

І раптам Рэніна сэрца ледзь не захлынулася з радасці. Няхай няма ў яе ніякіх доказаў, што Юра — сын Антаніны Іванаўны і Міхала Паўлавіча, у душы яна адчувала, што гэта так, што не можа быць, каб такое падабенства было выпадковае...

«Ціха, ціха,— супакойвае сама сябе Рэня.— Можа гэта яшчэ ўсё не так...» І яна зноў пачынае лічыць гады, стараецца ўспомніць, ці не



расказваў ёй Юра што-небудзь пра сваё дзяцінства. Але нічога ўспомніць не можа. Ды і сам Юра, напэўна, нічога не памятае.

## 13

Рэня не спала ўсю ноч. Толькі пад раніцу крыху задрамала, але назаўтра не адчувала стомленасці. І хоць дзень быў такі, як усе, звычайны, яна ўвесь час адчувала, што адбылося нешта асаблівае. Яна вырашыла пакуль нічога не гаварыць дзяўчатам. Здавалася, калі хоць каму-небудзь раскажа пра гэта, дык усё акажацца няпраўдаю. «А вось пра тое, што Зоя кінула работу, трэба расказаць Валі і Любе. Яны ж яшчэ нічога не ведаюць. Раскажу ім у час абеду».

Рэня нават не чакала, што так разззлуюцца на Зою дзяўчаты.

— Яе за такое з камсамола выключыць трэба, а што вымову ўляпіць, дык абавязкова,— заявіла Валя.

— Ці ж так можна? Не сказаўшы нікому нічога? — падтрымала Валю Люба.

— Па-першае, за тое, што чалавеку работа не падабаецца, з камсамола яго не выключаюць. А па-другое, калі яе з камсамола выключыць, дык лепшай ад гэтага яна не зробіцца,— супакойвала дзяўчат Рэня.

— Не, ты падумай, яе вучылі, ёй грошы плацілі, а яна плюнула на ўсіх і пайшла,— размахвала рукамі над сталом з талеркамі Валя.— Хоць мяне многія лічаць і легкадумнай, але я б так не зрабіла.

— Маладая, дурная,— з горыччу сказала Рэня.

— Ты за яе вельмі заступаешся,— адсунула сваю талерку Люба.— А табе больш за ўсіх на яе крыўдзіцца трэба, бо ты яе вучыла.

— Маладая,— з'едліва ўсміхнулася Валя.— Як з жанатым хлопцам гуляць, дык не маладая.

— Кінь, Валя, гаварыць абы-што,— махнула рукою Люба. Яна хоць і ведала, што Зоя і Жэня ў кіно разам хадзілі, але лічыла, што нічога асаблівага ў іх адносінах няма, што дзяўчаты проста разносяць плёткі.

— Паслухайце, што я вам скажу,— і Рэня нахілілася да Валі і Любы.— Я выпадкова даведалася, што ў іх ужо сапраўды нешта большае, чым сяброўства.

— Во, бачыш,— павярнулася да Любы Валя.— А ты яшчэ не верыла...

— Ды калі гэта праўда, то я проста не ведаю, што яму трэба зрабіць,— аж пачырванела Люба.

— Мы павінны пайсці да Жэні і пагаварыць з ім як мае быць, — сказала Рэня.

Як толькі скончыўся рабочы дзень, сяброўкі накіраваліся ў радыёвузел. З Жэнем яны сутыкнуліся ля самых дзвярэй. Ён ужо збіраўся ісці.

— Вярніся, кавалер,—узяла яго пад руку Валя.—Пагаварыць трэба.

— Чаго гэта вы? — убачыўшы строгія твары дзяўчат, сумеўся ён.

— Чаго ты круціш галаву нашай Зоі? — сказала Валя.— Яна дзіця зусім, а ў цябе жонка ёсць.

— А-а, дык вось чаго вы... — бесклапотна засмяяўся Жэня.— А я думаю — што за дэлегацыя такая.

— Паслухай, усе мы лічым, што ты паводзіш сябе амаральна,— спакойна, але сурова сказала Люба.

— А якая нарэшце, ваша справа? — пачаў злавацца Жэня.— І на-

колькі мне вядома, Зоя ўжо не працуе ў вашай брыгадзе, так што ваша апека тут зусім лішняя.

— Не працуе ў нашай брыгадзе! — развяла рукамі Люба.— Калі не працуе ў нас, дык нам павінна быць усё роўна, што з ёю будзе? Так, па-твойму? — пыталася яна ў Жэні.

— І што за АБС такое ў нас на заводзе? — пацісnуў плячыма Жэня.— Ведаеце, што такое АБС? Агенцтва «Адна баба сказала»... Па вуліцы прайсці з чалавекам нельга — адразу нагавораць сорак бочак арыштантаў.

— Нам пра ўсё не АБС сказала, а сам ты сказаў. Я бачыла тваю фатаграфію ў Зоі,— спыніла яго Рэня.

— Яшчэ адмаўляецца! — з абурэннем гаварыла Валя.— І не сорамна табе? Круціш дзяўчыне галаву...

— Я ў камітэт камсамола заяву на цябе напішу, няхай камсамольскі сход абмяркуе твае паводзіны,— гразілася Люба.

Жэня адчуў, што дзяўчаты не жартуюць, і прымірэнча загаварыў:

— Ну, чаго вы напалі, як сарокі, нібы ў нас з Зояй было нешта такое, што парушае правілы маралі. Мы проста сябруем з ёю. А што фатаграфію падарыў, то так... Хацеў прыемнае зрабіць дзяўчынцы.

— Прыемнае... — скрывілася Валя.— Падумаеш, шчасце якое. Золатца такое ненаглядное!

— Яна ведае, што ў мяне жонка ёсць, я яе не ашукваў,—зноў пачаў злавацца Жэня.— Ды і не рабіце вы з мухі слана, нічога ў нас, акрамя сяброўства, не было!

Разгарачаныя, усхваляваныя, ішлі дзяўчаты дахаты. Лаялі Жэню, лаялі Зою, лаялі сябе, што раней не ўмяшаліся ў іхнюю «дружбу».

— І як ён у нас тады апынуўся,— недаўменна спытала Люба.— Тады, калі быў дзень твайго нараджэння.

— Ды я Валодзю запрашала, а Жэню ўжо таму, што з ім у адным пакоі жыве,— апраўдвалася Рэня.

— А думаеце, так ён нас і паслухае... Трэба жонцы ліст напісаць, каб прыязджала,— сказала Валя.

— Не, гэта нядобра, ліст жонцы пісаць,— паморшчылася Люба.

Рэня ішла моўчкі. Яна ўспомніла, як учора гаварыла з Зояй, якія ўпартыя і халодныя былі ў Зоі вочы. А Рэні ж сёння трэба ісці да Міхала Паўлавіча. Зоя падумае, што яна прыйшла мірыцца... «Ну і няхай... Хіба гэта цяпер можа мець значэнне?»

## 14

Вечарам Рэня загарнула ў лісток усе Юравы фатаграфіі, паклала іх у сумачку. Яна вельмі хвалявалася. Ёй суджана было прынесці ў хату людзям ці вялікую радасць, ці горкае расчараванне. І разам з тым Рэня лічыла, што не расказаць аб сваіх здагадках яна не можа. Таму і вырашыла гаварыць пакуль толькі з Міхалам Паўлавічам. Ён — мужчына. Яму лягчэй будзе ва ўсім разабрацца. Але як застацца з ім удваіх?.. Хіба паклікаць на вуліцу і там усё растлумачыць?

Яшчэ не ведаючы, як пачне гаворку, Рэня націснула чырвоную кнопку званка. Дзверы адчыніў Міхал Паўлавіч. Ён быў у светлай паласатай піжаме, у пантофлях на босую нагу, у руках трымаў разгорнутую кніжку. Рэня вырашыла тут, адразу, ля дзвярэй, пакуль ніхто іх не чуе, сказаць, што ёй неабходна пагаварыць з ім.

— Са мною асабіста? — перапытаў Міхал Паўлавіч.— Можа з Зояй што здарылася? — затрывожыўся ён.



— Не, не з Зояй. Я пра другое,— спяшалася гаварыць Рэня. — Але трэба толькі з вамі.

— Дык заходзьце, заходзьце. Зоі няма дома. А Антаніне Іванаўне нездаровіцца, яна ў спальні. Здаецца, спіць нават.

Міхал Паўлавіч пачакаў, пакуль Рэня распранулася, і яны абое паціху ўвайшлі ў пакой. У пакоі гарэла адна толькі настольная лямпа пад зялёным абажурам. Яна ярка асвятляла стол, а ўсе астатнія рэчы нібы туліліся ў цёмных кутках і каля сцен. На падлозе ляжалі акуратна пасцеленыя палавікі. Тут было чыста, цёпла, утульна, толькі, як здалося Рэні, крышку самотна. Можа гэта ад цішыні, якая, здаецца, прытулілася тут недзе.

Міхал Паўлавіч асцярожна зазірнуў у спальню і ціха зачыніў дзверы.

— Спіць,— сказаў ён Рэні.— Дык што ў вас такое? — амаль шэптам спытаўся ён.

Рэня сядзела на крэсле ля стала і пазірала на партрэт, які ледзь вырысоўваўся на сцяне. Міхал Паўлавіч сеў ля Рэні. Яна, усё яшчэ пазіраючы на партрэт, спыталася:

— Скажыце, Міхал Паўлавіч, як звалі вашага сына?

— Аляксандр,— адказаў ён, толькі цяпер заўважыўшы, куды скіраваны позірк госці.

Надзеі ў Рэні адразу зрабілася менш. Аляксандр і Юра — зусім розныя імёны. Але трэба было расказаць усё.

Не спяшаючыся, Рэня выняла з сумачкі пачак, разгарнула.

— Вось, паглядзіце,— падала яна Юраву фатаграфію.

Міхал Паўлавіч узяў акуляры, якія ляжалі на стале ля настольнай лямпы, адзеў іх, паглядзеў спачатку на Рэню, пасля ўважліва пачаў разглядаць здымак.

— Прыгожы хлопец, але я яго не ведаю,— сказаў ён.

— А знаёмых вашых, каго-небудзь, не нагадвае ён вам?

Міхал Паўлавіч уважліва глядзеў на фатаграфію.

— Не... Здаецца, не,— няўпэўнена пакруціў ён галавою.

— Дзе Зоін альбом? — устала Рэня. Яна ўключыла святло і адразу ўбачыла альбом. Ён ляжаў на паліцы ля канапы. Рэня ўзяла яго, пачала таропка гартаць.

— Вось, паглядзіце,— паклала яна поруч фатаграфіі маладога Міхала Паўлавіча і Юры.— На гэтым здымку ён яшчэ не так падобны на вас, маладога, як у жыцці. Тут ён у касцюме, у гальштуку, валасы прылізаныя, а сёлета, калі ён быў у такой самай белай кашулі з расшпіленым каўняром... разумееце, я як убачыла гэту фатаграфію, дык адразу была падумала, што Юра...

— Хто ён... дзе ён... — хрыплаватым голасам спытаў Міхал Паўлавіч; яго пальцы, калі ён хацеў узяць са стала фатаграфію Юры, задрыжалі.

— Гэта Юра... Юра Наватораў. Я разам з ім была ў дзіцячым доме... У Калінаўцы... Цяпер ён у Ленінградзе вучыцца ў інстытуце.

Міхал Паўлавіч адхіліўся на спінку крэсла. Рэня ўбачыла, як заблішчэлі кропелькі поту ў яго на высокім ілбе і над верхняй губою.

— Вам нядобра? — спалохалася Рэня і дакранулася рукой до яго пляча.

— Не, не,— Міхал Паўлавіч адвёў Рэніну руку. З кішэні піжамы ён выняў насоўку і пачаў выціраць ёю лоб, нос, шчокі.

— Акрамя гэтых фатаграфій у мяне ніякіх доказаў... Бачыце, нават імя і прозвішча не тыя. Можа ўсё гэта выпадкова. Але, ведаеце, трэба

праверыць. Я таму і вырашыла гаварыць толькі з вамі, не трывожыць пакуль Антаніну Іванаўну...

— Так, так,— падтакваў Міхал Паўлавіч.— У яе хворае сэрца... Дык у якім, вы кажаце, дзіцячым доме, у Калінаўцы? Дзе гэта?

— Гэта пад Гомелем. А дзе ён у вас згубіўся?

— Дзе згубіўся? — перапытаў Міхал Паўлавіч.— Згубіўся не тут. Але ўсяляк бывае... Дык як, кажаце, яго завуць? Юра Наватораў? Не, імя і прозвішча зусім не тыя, але, сапраўды, ён падобны,— і Міхал Паўлавіч зноў пачаў углядацца ў фатаграфію. — Мне трэба паехаць у Ленінград... Трэба абавязкова яго ўбачыць...

— Не хвалюйцеся,— супакойвала яго Рэня.— Юра сам павінен скора сюды прыехаць. На зімовыя канікулы. А вы раскажыце лепш мне, як усё здарылася. Магчыма, гэта дапаможа высветліць што-небудзь.

Міхал Паўлавіч устаў, няроўнаю хадою пайшоў да дзвярэй, якія вялі ў кухню. Рэня чула, як стукаў ён там шклянкаю — піў ваду. Пасля ў люстэрку, якое вісела на сцяне ў пакоі, яна бачыла, як стаяў ён некаторы час, паціраючы рукою грудзі.

Вярнуўшыся ў пакой, ён зноў доўга разглядаў здымак.

— Ён сапраўды падобны на мяне... Няўжо можа быць?!.

Высокі сівы чалавек, які зведаў на сваім жыцці нямала гора і радасці, які не раз глядзеў у вочы смерці, мусіць, ніколі так не хваляваўся, як у гэтую хвіліну. Са смерцю можна было змагацца. Яе можна было перамагчы. А што зрабіць тут, каб надзея не засвяціла зманлівым промнем, які пасля патухне, пакінуўшы яшчэ большую цемру. Міхал Паўлавіч глянуў на Рэню, і ў яго позірку былі страх і радасць, надзея і боль.

Ён зноў устаў, падышоў да дзвярэй, якія вялі ў спальню. Пaглядзеў, ці не прачнулася Антаніна Іванаўна. Адно імгненне ён нібы вагаўся — ці не разбудзіць яе і не расказаць ёй пра ўсё. Але ўздыхнуў, шчыльна прычыніў дзверы і вярнуўся да Рэні.

— Я тады з імі не быў і нічога не бачыў, але Антаніна Іванаўна колькі разоў расказвала, так што я, лічыце, ведаю ўсе падрабязнасці,— пачаў Міхал Паўлавіч. Ён, відаць, стараўся супакоіцца, і, хоць голас яго час ад часу дрыжаў, твар паспакайнеў, толькі вочы суха блішчэлі.— Да вайны мы жылі ў Гродна. А як пачалася вайна, вы ж ведаеце, што рабілася першыя дні. Хаця вы, магчыма, нічога і не ведаеце, не памятаеце. Вы ж тады яшчэ былі дзіцем... як мой Шурык, мусіць...

Дык вось, наша вайсковая часць заняла абарону. Мы стаялі цвёрда. Біліся да апошняга патрона. Не адна сотня фашыстаў навекі засталася ў нашай зямлі, толькі на яе ступіўшы. Але і нашых многа лягло. Гінулі, як героі, а пра іх подзвігі мала хто ведае. Вось таму я і пішу свае запіскі. Хачу расказаць пра герояў, якія загінулі ў першых баях.

Самі разумееце, што ў тыя дні я не мог забегчы дахаты нават на хвіліну, каб хоць сказаць ім — ад'язджайце. Ды Антаніна Іванаўна і сама здагадалася, што трэба рабіць. Звязала нейкі клунак, Шурыка на рукі і разам з суседкамі — на станцыю. У вагон неяк убіліся. Даехалі так-сяк да Мінска. А ў Мінску немец у той час вакзал бамбіў. Яны акурат трапілі пад бамбёжку. Пачалі гарэць вагоны, цэлыя саставы. Людзі бегаюць, крычаць, выцягваюць з агню параненых, забітых, абгарэлых. Жанчыны ўзнялі паніку. У адзін голас пачалі крычаць, што цягніком далей ехаць нельга — усе станцыі бамбіць немец, цягнікі абстрэльвае. Вырашылі, што трэба ісці на шашу, на машынах выбірацца. Наіўныя, думалі, што так і ходзяць там машыны, як да вайны, так і выглядаюць шафёры, каго б гэта падвезці.

Пайшлі яны, групка жанчын з дзецьмі, цераз увесь горад на Маскоўскую шашу. А Мінск гарэў. На вуліцах валяліся груды чамаданаў, скруткаў з розным дабром. На тратуарах стаялі швейныя машыны. Вецер ганяў фіранкі ў пустых кватэрах, а да іх ужо дабіраўся агонь. Пасля аказалася, што ў той дзень і я праходзіў праз Мінск. Можа, і блізка дзе каля іх быў, ды ў вайсковых свая дарога...

Ледзь яны выбраліся на шашу. А машыны, што праязджалі па ёй, і не думалі іх падбіраць. На адных было поўна сваіх бежанцаў, а вайсковыя машыны не бралі цывільных.

Пайшлі яны пешкі. Я ўяўляю, як цяжка было ёй,— паказаў вачыма Міхал Паўлавіч на дзверы спальні, дзе адпачывала Антаніна Іванаўна.— Яна ж тады была ўжо цяжарная... Як падумаю пра ўсё гэта, дык і цяпер дарую ёй многае... Дык вось, неяк дайшлі яны да Барысава, а далей не хапіла сілы ісці. Ды і пераканаліся, што не ўцячы ад немца пешкі. Зноў пабрылі на станцыю. А ў Барысаве на цягнік сесці яшчэ цяжэй аказалася. Тут яна згубіла сваіх спадарожніц, з якімі аж з Гродна ехала. Тыя неяк раней уціснуліся ў таварны вагон. Убілася пасля і яна. Дапамог нейкі лейтэнант, расказвала.

— Міша,— пачуўся з другога пакоя слабы голас Антаніны Іванаўны.

Міхал Паўлавіч перастаў гаварыць, выразна паглядзеў на Рэню і прыклаў далонь да вуснаў, даючы знак, каб яна маўчала. Пасля ўстаў, паціху адставіў крэсла, падышоў да дзвярэй, адчыніў іх.

— Зоя прыйшла? — спыталася Антаніна Іванаўна.

— Не, Зоі няма, ты ляжы, ляжы, паспі яшчэ крыху.

— А з кім ты там гаворыш?

— Гэта Рэня... Мы... Я чытаю ёй свае запіскі,—стараючыся гаварыць абыякава, адказаў Міхал Паўлавіч.

Пад Антанінай Іванаўнай зарыпеў ложак. Міхал Паўлавіч увайшоў у спальню. Некалькі хвілін ён аб нечым гаварыў з Антанінай Іванаўнай, пасля выйшаў, зноў зачыніў за сабою дзверы. З шуфлядкі стала выняў знаёмую Рэні зялёную папку, паклаў перад ёю на стол, скоранька развязаў, дастаў адтуль густа спісаныя чарнілам старонкі, расклаў на стале.

— Угаварыў не ўставаць яшчэ. А гэта няхай ляжыць,— паказаў ён на старонкі.— Калі і Зоя прыйдзе, скажам, што запіскі мае чыталі. Дык вось,— пазіраючы на дзверы, якія вялі ў спальню і паніжаючы голас амаль да шэпту, пачаў расказваць далей Міхал Паўлавіч. — Пад'язджалі яны ўжо да Оршы, ды спыніліся на раз'ездзе — быў закрыты семафор. І ў гэты час у небе з'явіліся самалёты з чорнымі крыжамі. Убачылі іх людзі, пачалі выскокваць з цягніка, пабеглі пад адхоны, у поле, да лесу. А немец па іх секанула з кулямётаў.

Антаніна Іванаўна з Шурыкам выскачыла з вагона, кінулася з ім пад елачкі, што раслі ўсцяж чыгункі. Хавала дзіця, туліла да сябе. А ён не плакаў і толькі пазіраў спужанымі вачанятамі. Антаніна Іванаўна часам і цяпер прачынаецца ноччу са слязьмі. Шурыка, кажа, зніла, як беглі з ім ад самалётаў...

Ды не дабегла яна да елачак. Ці яе паранілa, як толькі выскачыла яна з вагона, ці пасля, як бегла, не памятае. Помніць толькі, як перакуліліся ў яе вачах тыя елачкі, як, падаючы, яна старалася не прыдушыць сваім целам Шурыка. А калі падбіралі яе жыхары пасёлка, што недалёка ад раз'езда быў, дык ні цягніка, ні дзіцяці ўжо не было. Сярод забітых Шурыка не знайшлі. Можа, калі адыходзіў цягнік, забраў хто Шурыка. Падумалі, што маці мёртвая. Ды хто ўгадае, як там было...

— А што вы думаеце, можа так і было,— прашаптала Рэня.— Можа, як паляцелі самалёты, ды як пачалі людзі зноў у цягнік садзіцца, можа і ўзяў хто...

— Можа і так... Але Антаніна Іванаўна не ведала нікога з тых, што ехалі з ёю ў цягніку.
— А як жа Антаніна Іванаўна? Як з ёю далей было? — спыталася Рэня.
— Два месяцы яна ляжала ў чужых людзей хворая. Даглядалі яе. Лячылі. Цяпер нам гэтыя людзі, як родныя. Так Антаніна Іванаўна і засталася на акупіраванай тэрыторыі. Там і Зоя нарадзілася. Я іх толькі ў тысяча дзевяцьсот сорак пятым годзе знайшоў. І пра ўсё, што з імі здарылася, даведаўся толькі пасля. А Шурыка, як ні шукалі ўсе гэтыя гады, не знайшлі.
— Я напішу Юру ліст... Усё можа быць... А раптам гэта ён,— горача шаптала Рэня.
— А вы яго даўно ведаеце? Ён вам нічога не расказваў? — дапытваўся Міхал Паўлавіч.
Рэня нейкую хвіліну нібы нешта ўспаміна́ла.
— Міхал Паўлавіч!— схапіла яна яго раптам за руку.— Ведаеце, можа так і было, як вы думаеце. Наш дзіцячы дом у час вайны быў эвакуіраваны ў Варонежскую вобласць. Толькі ў сорак пятым усе вярнуліся ў Калінаўку... Можа Шурык трапіў у дзіцячы дом у сорак першым, а пасля пераехаў сюды.
Міхал Паўлавіч устаў, пачаў хадзіць па пакоі і ўсё цёр, цёр далонямі твар.
— Але імя... Імя зусім не тое, і прозвішча... А ён ужо гаварыў. Ведаў, як завуць яго. І прозвішча ведаў.
— Нічога не магу вам сказаць,— уздыхнула Рэня.
Яны б, мусіць, яшчэ доўга гаварылі, ды ўстала Антаніна Іванаўна, выйшла да іх. Выгляд у яе быў сапраўды нездаровы.
— А Зоі ўсё няма, — уздыхала яна, ходзячы па пакоі. — Кожны вечар позна дахаты прыходзіць. Ты, Рэнечка, не ведаеш, з кім яна там гуляе? Хай бы вось з табою сябравала.
Рэні не хацелася трывожыць Антаніну Іванаўну, расказваць ёй пра Жэню.
Міхал Паўлавіч праводзіў Рэню да дзвярэй.
— Дзякуй вам, — сказаў ён ціха. — Цяпер я не супакоюся, пакуль усё не высветлю.
— Няма за што пакуль дзякаваць,— усміхнулася Рэня.— Бывайце здаровы. Зоі прывітанне перадайце. Скажыце ёй, што я мірыцца прыходзіла і не дачакалася.

## 15

Дождж, які сыпаў ледзь не тыдзень, прайшоў. Часам з-за нізкіх хмар, што плылі над горадам, выблісквала сонца. Яно на нейкі міг асвятляла вуліцы і зноў тухла, не паспяваючы сагрэць халоднае, сырое паветра.
Зоі было крыху непрывычна хадзіць па вуліцах у рабочы дзень. Раней, калі была на рабоце, яна прывыкла ўжо да горада, якім бывае ён пасля пяці гадзін, у выхадныя дні. А ўдзень ён нейкі іншы. Па вуліцах ходзяць гаспадыні з сумкамі, нянькі сядзяць у скверыках з дзецьмі, праходзяць вучні з ранцамі, з партфелямі. Некуды спяшаюцца хлопцы і дзяўчаты з папкамі. Мусіць, студэнты.
А Зоя не спяшаецца нікуды. Аглядае вітрыны, заходзіць у магазіны. Але хутка надакучыла адной блукаць па вуліцах. «Да каго б схадзіць?— думае яна.— Можа да Соні Шымановіч?» З таго часу, як Соня паступіла ў інстытут, а Зоя на завод, яны не сустракаліся. А некалі ж у школе сябравалі.



Зоя паглядзела на гадзіннік. Было тры гадзіны. «Ну вось, а заняткі ў яе ў два канчаюцца».
Зоя ішла да сяброўкі і ўяўляла, як тая ўзрадуецца, убачыўшы яе. Ды і сама яна была рада ўбачыць Соню. Гэта ж падумаць, так даўно не сустракаліся! Соня пачне расказваць ёй, як вучыцца, з кім сябруе. «Ці расказаць ёй пра Жэню?» Не, пра Жэню Зоя вырашыла не расказваць.
... Спачатку ёй здалося, што Соня не пазнала яе. Інакш хіба глянула б сяброўка на яе такімі дзіўнымі вачыма — нібы бачыць Зою ўпершыню? Соня ледзь была відаць з-за гары кніжак, сшыткаў і нейкіх папер, якімі быў завалены ўвесь стол. Разам з ёю за сталом сядзелі худы хлопец з тонкім доўгім носам і кучаравая дзяўчына з каротка падстрыжанымі валасамі. І ўсе яны пазіралі на Зою так, нібы яна звалілася з неба. Соня прашаптала: «Зойка...» Але ні ў вачах яе, ні ў голасе не было вялікай радасці. А хлопец і дзяўчына зусім не хавалі сваёй нездаволенасці.
— Гэта ты? — нібы ўсё яшчэ не верыла Соня.— А мы, бачыш, зубрым.
Зоя распранулася, села.
— Вось, знаёмся,— без асаблівага энтузіязму паказала на сваіх сяброў Соня.
— Барыс,— буркнуў даўганосы худы хлопец, страсянуўшы Зоіну руку, і тут жа ўзяў з груды на стале кнігу, пачаў таропка гартаць яе. Больш ад яго Зоя не пачула ніводнага слова.
— Света,— сказала каротка падстрыжаная кучаравая дзяўчына, падаўшы мяккую, вялую руку. Яна нахілілася да Барыса, і яны разам пачалі глядзець у кнігу.
— Ну, як ты маешся? — крыху збянтэжаная такім прыёмам, спыталася Зоя.
— Ой, Зоечка,— уздыхнула Соня,— ты ж бачыш,— паказала яна абедзвума рукамі на стол, завалены кнігамі.— Паслязаўтра залік, а выкладчык у нас такі строгі, такі строгі... На адно пытанне не адкажаш — адпраўляе. А мы яшчэ нічога-нічога не ведаем. Вось сядзім, зубрым, зубрым...
— А я гуляла... Даўно цябе не бачыла... Дай, думаю, зайду, —нібы апраўдвалася Зоя.
— Маладзец, што зайшла,— не вельмі шчыра сказала Соня.— Каб вось не залік...
— А многа ў вас залікаў?
— Ой, не кажы!— узялася рукамі за галаву Соня.— Спачатку залікі, пасля экзамены. Пяць залікаў, пяць экзаменаў.
Барыс кашлянуў. Света сядзела, як на іголках.
— А як твае справы?—відаць, толькі з далікатнасці спыталася Соня.
— Мае — нічога, так сабе,— невыразна адказала Зоя. Не пачне ж яна пры чужых людзях што-небудзь расказваць Соні.— А нашых каго-небудзь бачыла?
— Надзю Біцяй нядаўна бачыла. Ты ж ведаеш, яна на медсястру вучыцца. Колю Сіліцкага неяк спаткала. З завода ішоў.
Барыс кашлянуў мацней. Света дэманстрацыйна ўздыхнула. Соня кінула на іх позірк, поўны адчаю.
— Ну, добра,— пачырванела Зоя.— Я бачу, што перашкаджаю вам. Пайду.

Акурат у гэты момант у Барыса з рук выпала кніжка, і Соня нахілілася, каб падняць яе. Можа таму яна нічога не адказала Зоі.

Зоя ўстала, пачала апранацца. Развіталіся з ёю Барыс і Света куды з большай прыязнасцю, чым віталіся і знаёміліся.

«Да Соні няма чаго прыходзіць, пакуль не здасць сесіі,— думала Зоя, ідучы дахаты.— У Надзі таксама, мусіць, якія-небудзь залікі».

Назаўтра вечарам Зоя вырашыла схадзіць да Колі Сіліцкага.

— О! Зойка! —узрадаваўся ён.— Не забываеш старых сяброў, маладзец! А я, ведаеш, апошні час нікога з нашых не бачыў... Але не, хлушу. Соню Шымановіч нядаўна сустракаў.

— Яна мне расказвала.

Коля, відаць, толькі што памыўся. Яго чорныя, гладка прычасаныя валасы, былі вільготныя. На свежай блакітнай кашулі яшчэ былі відаць складкі ад праса. Ён сядзеў за сталом і пілаваў, чысціў пазногці.

— Разумееш,— сур'ёзна растлумачыў ён,— работа шліфоўшчыка такая брудная... Мазут уядаецца ў рукі — ні адскрэбсці іх, ні адмыць, і пад пазногцямі заўсёды чорна. А мне далі ролю Рамэа ў спектаклі. А які ж можа быць Рамэа з бруднымі пазногцямі...

— А, вось што... — усміхнулася Зоя.

— Пачакай,— пільна паглядзеў ён на Зою,— а з цябе атрымалася б цудоўная Джульета! Ты на гадзіннікавым працуеш? Пераходзь да нас, на станкабудаўнічы... Але не, — махнуў ён рукою, успомніўшы, што ў школе Зоя зусім не цікавілася драматычным гуртком.—У цябе няма драматычнага таленту. А каб да тваёй знешнасці ды яшчэ талент, ты б выконвала толькі ролі гераінь.

— Ты лепш скажы, як жывеш, як працуеш,— спыталася Зоя.

— Як жыву? Вось сёння ў нас генеральная рэпетыцыя. І каб ты ведала, як здорава атрымліваецца! У нас кіраўнік — артыст з тэатра. Раней мы ставілі «Выбачайце, калі ласка», дык наш спектакль па радыё перадавалі. Можа, слухала?

— Не, не слухала... Ну, а работа? Падабаецца табе?

— Ды работа добрая. Я ўжо даўно самастойна працую. Зарабляю не менш, чым восемдзесят рублёў у месяц. Толькі вось рукі... А які ж гэта Рамэа, калі ў яго рукі мазут уеўся. А ў нас у гуртку ўсё павінна быць, як у сапраўдным тэатры.

Не, акрамя як пра свой драматычны гурток, ні пра што іншае не мог гаварыць Коля.

Раптам ён глянуў на гадзіннік і пачаў збіраць пілачкі і нажніцы.

— Ой, на генеральную рэпетыцыю пазнюся... Ты выбачай, калі ласка.

— Што ж,— няпэўна сказала Зоя.

— Маладзец, што прыйшла,— свяціўся радасцю Колеў твар.

Але Зоя не ведала, ці сапраўды гэта ёй быў так рады Коля, ці таму, што сёння ў яго генеральная рэпетыцыя і ён будзе іграць Рамэа. Ён махнуў Зоі рукою на развітанне.

— Паслухай! — крыкнуў ужо здалёк.— Прыходзь да нас у клуб глядзець спектакль! У нядзелю яго паказваем! — і пабег, не азіраючыся.

## 16

Зоя прачнулася позна.

У кватэры было ціха, маці, мусіць, пайшла ў магазін, бацька таксама некуды выйшаў. Ніхто не перашкаджаў Зоі ляжаць і думаць. І Зоя думала. Думала, што цяпер ёй вельмі добра. Не трэба ўставаць упоцемку, калі так хочацца спаць, калі самым вялікім шчасцем здаецца



паляжаць у ложку яшчэ хвілінку. Не трэба ехаць у перапоўненым тралейбусе, сядзець цэлы дзень сагнуўшыся, сляпіцца над валаскамі ды балансамі.

Зоя думала пра ўсё гэта, каб пераканаць сябе, што яна павінна ляжаць і радавацца. Але проста дзіўна — радасць ніяк не прыходзіла. Наадварот, нейкае непрыемнае пачуццё, падобнае на трывогу, вось ужо каторы дзень з самай раніцы апаноўвае Зою.

Атрымалася неяк так, што Зоя апынулася адна. Усе нейкія занятыя, некуды бягуць, спяшаюцца, і нікому няма ніякай справы да Зоі, нікому яна не патрэбна. Раней ёй здавалася, што ў яе не хапала часу, каб пагуляць, схадзіць да сяброўак, каб пачытаць, адпачыць. Цяпер у яе быў час, але яна не ведала, што рабіць, з кім гэты час бавіць.

Яна ўстала, апранула цёплы халацік. У кухні на століку пад сурвэткаю стаяла снеданне, падрыхтаванае Антанінай Іванаўнай — звараное ўсмятку яйка, катлета. На пліце стаяў гарачы чайнік. Зоя паснедала, закрыла сурвэткаю брудную талерку, кубак. Пачала хадзіць па кватэры, не ведаючы, чым заняцца.

«Трэба іншую работу шукаць,— падумала яна.— Але якую? Што я ўмею рабіць?»

Узяла кніжку, што не так даўно прынёс ёй Жэня. Новы раман Рэмарка. Нядаўна яна прачытала «Трыумфальную арку». Цікава, як жывуць людзі, як кахаюць. Ніякія там не муж і не жонка... Нават і не гавораць, і не пытаюцца пра гэта. Праўду кажа Жэня, што для сапраўднага кахання гэта нічога не значыць.

Зоя села на канапу, укрыла ногі крысом халата, пачала чытаць. Але хутка і чытаць ёй надакучыла.

Прыйшла Антаніна Іванаўна. Паставіла на падлогу сумку з прадуктамі, нават не распранаючыся, села на крэсла, доўга аддыхвалася.

— Паверхі гэтыя зусім адбяруць у мяне здароўе,— паскардзілася яна.— А ты, дачушка, што рабіла?

— Чытала.

— А я табе клубнічкі марожанай прынесла. Кампоцік звару. Ты ж любіш клубнічны кампот, праўда?

Прыйшоў і Міхал Паўлавіч. Толькі распрануўся і адразу за папяросу. А ён жа быў кінуў курыць. У апошні час ён нейкі не такі, як заўсёды. Устрывожаны, заклапочаны. Не так даўно Зоя падгледзела, што ён напісаў аж тры лісты і крадком ад мамы панёс на пошту. Што гэта за лісты такія? Раней жа ў яго ад мамы сакрэтаў, здаецца, не было. Можа, у выдавецтвы лісты? Але чаму крадком ад мамы? На Зою нібы і не злуецца, што работу кінула.

Марудна цягнецца дзень. А Зоя сёння, каб магла, то падагнала б яго. На восем гадзін назначана спатканне з Жэнем. І сёння гэтага спаткання Зоя чакае, як ніколі. Нешта ўжо вельмі сумна было ёй. Яна нават злавіла сябе на адчуванні, нібы зноў сядзіць за канвеерам, трымае ў ляўцыркулі баланс з валаском і яны не такія ўжо і праціўныя. Зоя вельмі здзівілася сама сабе і нават раззлавалася. Яна знарок пачала ўспамінаць, як блыталіся тыя валаскі, як нельга было ўставіць баланс у ляўцыркуль, як балелі ад напружання вочы, ныла спіна. Яна хацела заглушыць ледзь прыкметнае пачуццё жалю, якое заварушылася ў ёй.

«Усё роўна пра тое, каб вярнуцца на завод, і думаць няма чаго. Ніхто мяне назад не возьме»,— сказала яна сама сабе.

Але з Жэнем сёння асабліва хацелася сустрэцца. Хай бы расказаў што — пра завод, пра дзяўчат. Мусіць, на яе месцы ўжо сядзіць новая вучаніца. Думаць пра гэта было непрыемна.

Зоя, можа, выбегла б з хаты на якую гадзіну раней, чым было назна-

чана спатканне, але стрымала сябе. Прыйсці на спатканне раней за Жэню ёй не дазваляў дзявочы гонар. І яна цярпліва чакала.

Апусціўшы рукі ў кішэні паліто, звонка стукаючы абцасамі чаравікаў па тратуары, ішла Зоя па вуліцы. Падзьмуў вецер і сыпануў у твар жменьку дробненькіх сняжынак. Першы нясмелы снег. Ад яго Зоі зрабілася весялей. Скора зіма... канькі, лыжы... А зараз яна паверне за рог і ўбачыць знаёмую постаць Жэні. Ён будзе стаяць з паднятым каўнярам, без шапкі. Хоць і холадна ўжо, мароз бярэцца, а Жэня ўсё ходзіць без шапкі. Смешны... Харошы... Ад тугі, якая тачыла Зою цэлы дзень, не засталося і следу.

Зоя звычайна здалёк пазнавала Жэню. І ён здалёк пазнаваў яе і кіраваўся насустрач. Але сёння на ўмоўленым месцы Жэні не было. Зоя ішла да прыпынку аўтобуса, да шчыта з рэкламамі, каля якога звычайна стаяў ён, чакаючы яе, і азіралася, ці не пакажацца зараз і ён. А яго не было. «Ох, і дам жа, як з'явіцца,— злавалася Зоя.— Як гэта ён можа пазніцца, прымушаць мяне чакаць...»

Стаяць на адным месцы было нязручна. Ёй здавалася, што ўсе людзі ведаюць, чаго яна стаіць тут, і яна пайшла ў той бок, адкуль мог паказацца Жэня. Час ад часу яна азіралася на шчыт з рэкламамі, ці не чакае ўжо ён там.

Яна прайшла да канца вуліцы. Вярнулася назад. Думала, што цяпер-то ён ужо напэўна там. Аднак яшчэ здалёк убачыла, што каля шчыта, як і раней, нікога няма.

Снег пасыпаў спарней, тоненькім пластом пакрываючы тратуар, і прахожыя пакідалі на ім, бялюткім і свежым, чорныя сляды. Павольна кружачыся, апускаліся сняжынкі на Зоіна паліто, збіраліся ля манжэтаў, на каўнярах, на плячах.

Мінула ўжо больш паўгадзіны. У яе змерзлі рукі, пачалі стыць ногі. Але пайсці адсюль яна не магла, бо гэта значыла б згадзіцца з тым, што Жэні яна сёння не ўбачыць. І Зоя зноў хадзіла па адным баку вуліцы, па другім. Вось ужо і дзевяць. Надзеі, што Жэня яшчэ з'явіцца, у яе ўжо амаль няма. Ёй вельмі горка. Яна ўжо не саромеецца і стаіць на адным месцы ля прыпынку аўтобуса. У яе стаміліся вочы ўзірацца ў слаба асветленую вуліцу. Нават кружыцца галава. Самае вялікае жаданне ў яе цяпер — убачыць Жэню. Яна ўжо не злуецца на яго, яна гатова ўсё дараваць яму, абы ўбачыць. Але дзе ён? Чаму яго няма? Можа, ён дома, у інтэрнаце?

Яна і не заўважыла, як ногі самі прывялі яе сюды. Вось ён, новы чатырохпавярховы будынак. Ярка свецяцца вокны.

Зоя вельмі баіцца, каб не сустрэць тут каго знаёмага. Яны ж адразу здагадаюцца, чаго яна тут. І Зоя шпарка ідзе па тратуары паўз будынак. Амаль дабегла да канца вуліцы. Ну, што ж рабіць далей? Вярнуцца дахаты? Але інтэрнат, як магніт, цягне яе да сябе. «Ну, яшчэ раз... яшчэ раз прайду»,— думае Зоя. Яна ўжо нібы забылася, чаго тут. Надзеі сустрэць Жэню амаль няма.

І раптам убачыла яго. Жэня шпарка крочыў ён насустрач. У руках у яго былі нейкія пакункі, кішэні паліто адтапыраны. Ён не бачыў Зоі, а яна яшчэ здалёк пазнала яго і застыла. Сэрца ў яе калацілася моцна-моцна. Ногі зрабіліся нейкія зусім бяссільныя.

Жэня нешта насвістваў ідучы. У яго быў бесклапотны і нават вясёлы твар. Але калі ён убачыў Зою, нешта падобнае на спалох мільганула ў яго вачах.

— Зойка? — прашаптаў ён і азірнуўся.— Ты чаго тут? Хадзі сюды,— і ён узяў яе за локаць, адвёў далей ад святла.





— Я... я чакала цябе... Чаму ты не прыйшоў? — шаптала, нібы апраўдваючыся, Зоя.

— Ты разумееш,— Жэня вёў усё далей ад святла Зою.— Жонка прыехала. Я ніяк не мог... Не мог нават выбегчы папярэдзіць...

Усё перадумала Зоя, чаму не мог прыйсці Жэня, а пра жонку нават і не ўспомніла. А яно вось што! З нейкаю крыўдаю разглядала Зоя пакункі, якія нёс Жэня. З кішэняў тырчалі рыльцы бутэлек. У руках з паперы вытыркалася колца каўбасы, у нязграбна загорнутым пакунку быў відаць бохан хлеба.

— Ты прабач,— шаптаў Жэня.— але я не магу тут стаяць... Яшчэ ўбачыць тут нас хто ды ёй даложыць. — Ён паімкнуўся ісці, але раптам спыніўся, нібы вагаўся, думаў нешта, пасля зноў вярнуўся да яе. — А калі хочаш, то пачакай крыху, — зашаптаў ён. — Ці лепш мы сустрэнемся на тым самым месцы... Толькі пазней... гадзін у адзінаццаць. Я завяду жонку да знаёмых... Не будзе ж яна ў інтэрнаце начаваць... Завяду яе, а тады мы сустрэнемся.

Зоя адмоўна пакруціла галавою.

— Ну, не хочаш, не трэба. Як яна паедзе, тады сустрэнемся,— зноў азірнуўся Жэня.— А цяпер я павінен ісці. Ну, бывай,— і ён пабег.

Зоя засталася адна на тратуары. Яна раптам адчула, як ёй холадна, як змерзла яна за гэты доўгі вечар. Усярэдзіне ў яе ўсё проста трымцела. Не спяшаючыся, яна павярнулася і пайшла. Ішла, як ашаломленая. Так, яна ведала, што ў Жэні ёсць жонка, але была ўпэўнена, што Жэня кахае яе, Зою. Яна менш за ўсё думала пра тое, да чаго могуць прывесці яе адносіны з Жэнем. І зусім не збіралася яна «адбіваць» яго ад жонкі. І тым не менш, ёй здавалася, што калі Жэня сапраўды пакахаў яе, то ён не павінен хаваць гэтага ад той, невядомай ёй жанчыны. Што ж рабіць, калі так здарылася. Яны абое мусяць павініцца перад ёю. А тут — гэты Жэнеў спалоханы твар, гэта жаданне ўцячы ад яе... Нешта незнаёмае, чужое ўбычала яна ў ім. І словы «жонка», «жанаты» пачалі набываць для Зоі ўжо іншы сэнс. Раней здавалася, што Жэнева жонка існуе толькі ў размовах, у пісьмах, ну, часам, у кпінах. А яна раптам аказалася жывым чалавекам, прыехала ў Мінск, і да яе пабег Жэня. Яе ён можа адкрыта прывесці ў інтэрнат, а Зоя павінна туляцца пазавуголлю, каб убачыць яго, каб з ім сустрэцца. Перад тою ён адчувае сябе абавязаным, а Зоя — так сабе. Вось чакала, мерзла ўвесь вечар, а ён не прыйшоў і віны сваёй перад ёю не адчувае.

Думаць так было крыўдна, і Зоя пачала шукаць апраўдання Жэню. «А можа ён таксама перажывае,— думала яна.— Можа, ён і не рады, што яна прыехала. Ён жа сказаў, каб я пачакала, ён завядзе жонку начаваць да знаёмых, і мы з ім сёння ж сустрэнемся...»

Але Зоя не магла ўявіць сабе, як гэта яна сустрэлася б з Жэнем, ведаючы, што тут, недзе блізка, яго жонка...

І раптам ёй вельмі захацелася паглядзець на Жэневу жонку. Што яна за жанчына? Як выглядае? Якая яна, тая, што мае поўнае права быць з Жэнем, мае права ненавідзець Зою і нават ёю пагарджаць?

Зоя шпарка ідзе па вуліцы, а думкі круцяцца толькі вакол аднаго — як яе ўбачыць. Жэня павядзе жонку на кватэру. Пачакаць, пакуль яны выйдуць з інтэрната? Але яна і так змерзла. Аднак неадольнае жаданне паглядзець на саперніцу прымусіла яе вярнуцца.

Насупраць інтэрната невялікі скверык, і Зоя ідзе туды, каб там стаяць і чакаць, пакуль яны не з'явяцца ў дзвярах.

Снег ужо даволі густа ўслаў тратуар, галіны дрэў, агароджу сквера. Ад снегу зрабілася намнога святлей. Перад Зоінымі вачыма калышацца адзінокі засохлы лісток, які чамусьці не зляцеў з дрэва. Лісток дрыжыць на ветры, адганяе сняжынкі. І Зоіна сэрца дрыжыць, як гэты лісток.



«А што, калі зайсці ў двор інтэрната і паглядзець у акно... Яго ж пакой на першым паверсе»... З хвіліну вагаецца Зоя і ідзе цераз вуліцу.

Першае, другое, трэцяе,— лічыць Зоя вокны.— Якое ж тут іхняе? Ды вось.. Нават не завешана фіранкаю. Зоя раптам спужалася, што з акна яе могуць убачыць, хоць і ведала, што са светлага покоя не відаць нічога на цёмнай вуліцы. І ўсё ж яна адбеглася ўглыб двара, прыхінулася да невысокага дрэўца. Дрэўца ўздрыгнула, сыпанула на Зою снегам, але яна нават не заўважыла гэтага. Уся яе ўвага была прыкавана да ярка асветленага акна. Там, у пакоі, за сталом, сядзелі, Жэня, Валодзя і яна. Жэня наліваў чаркі, нешта гаварыў, смяяўся. Смяялася і яна. Зоя нібы глядзела нямы кінафільм. Яна нічога не чула, толькі бачыла, што за акном нешта гаварылі, смяяліся. Жэнева жонка была ў белай блузцы, валасы гладка зачасаныя назад. «Мусіць, у яе каса» — падумала Зоя. Але адсюль яна не магла добра разгледзець твару. І Зоя, азірнуўшыся, ці не глядзіць хто, зрабіла некалькі крокаў да акна.

Калі Зоя часам старалася ўявіць сабе Жэневу жонку, тая паўставала перад ёю непрыгожаю, злоснаю жанчынаю. Нездарма Жэня пакахаў яе, Зою. А з тою ён ажаніўся проста выпадкова і цяпер каецца. Так разважала Зоя. І як здзівілася яна, калі ўбачыла вельмі мілы, вельмі харошы твар. Крыху кірпаты невялічкі нос і круглыя шчокі рабілі гэты твар амаль што дзіцячым. І ўвесь ён свяціўся нейкай шчырасцю, быў поўны нейкага бязмежнага давер'я. Вялікія вочы з наіўнай радасцю пазіралі на Жэню. Вось там, за сталом, паднялі чаркі. Жэня выпіў і пачаў накладаць закуску ў сваю талерку, у жончыну. Яна смяялася, спыняла яго руку сваёю. Валодзя нахіліўся да іх і нешта расказваў. І ўсе зноў смяяліся, а Зоя, як загіпнатызаваная, не магла адарваць вачэй ад твару маладой жанчыны. А тая нешта пачала расказваць Жэню, а пасля ўстала з-за стала і пайшла да дзвярэй, дзе стаяў яе чамаданчык і чырвоная сумачка. Калі яна павярнулася спіною да акна, Зоя ўбачыла доўгую светлую касу. Але чаму Жэнева жонка такая тоўстая? — падумала Зоя, глянуўшы на фігуру жанчыны, калі тая стала бокам да акна. І раптам здагадка, як агнём, апаліла яе. «Ды яна ж... Яна... У яе дзіця скора будзе...» — ледзь не крыкнула Зоя. А тая стаяла ў шырокай белай блузцы, адзетай навыпуск на спадніцу, і нешта шукала ў чырвонай сумачцы. Час ад часу яна паварочвалася да Жэні, нешта гаварыла яму і весела смяялася. Нарэшце, яна знайшла канверт, дастала з яго ліст, разгарнула і, на хаду чытаючы, зноў пайшла да стала. Валодзя ўскочыў і падставіў ёй крэсла. А жанчына чытала ліст, пазірала на Жэню і смяялася, ён слухаў яе, таксама смяяўся, а пасля нахіліўся да яе і некалькі разоў пацалаваў у шчаку.

Зоі захацелася сесці або прыхіліцца да чаго-небудзь. Яна адышла ад акна і пабегла з двара.

Ён пацалаваў яе, значыцца, ён яе кахае... І яна кахае яго, бо вунь якімі вачыма на яго пазірала... І цяжарная... У яе скора будзе дзіця... І як жа мог ён, Жэня, гаварыць Зоі, каб яна яго пачакала... Яна, Зоя, не ведала, што яго жонка цяжарная, а ён жа ведаў!

І раптам Зоя адчула агіду да сябе. Нібы ўвесь час яна рабіла нешта вельмі брыдкае.

Змучаная, разбітая прыйшла яна дахаты. Антаніна Іванаўна ўжо спала. Міхал Паўлавіч хадзіў узад-уперад па пакоі і курыў. Ён нічога не сказаў Зоі, і яна хутчэй прайшла ў другі пакой, распранулася, кінула адзежу абы-дзе і лягла ў ложак. Толькі тут дала яна волю свайму жалю. Плакала ціха, каб не пачуў бацька, каб не прачнулася маці.

## 17

— Дачушка, ну што ж ты ўсё ў хаце сядзіш, ты ж бы хоць на вуліцу пайшла пагуляла,— угаварвала Антаніна Іванаўна Зою, якая ляжала на канапе і, паклаўшы рукі пад галаву, пазірала некуды перад сабою. Антаніна Іванаўна села ля яе. Зоя глянула на маці, і сэрца Антаніны Іванаўны сціснулася — столькі суму ўбачыла яна ў доччыных вачах.

Зоя нічога не адказала.

— І што гэта робіцца ў хаце? — сашчапіла рукі Антаніна Іванаўна.— І бацька нейкі сам не свой. Вунь, зноў пайшоў недзе. І цябе нешта точыць. Ні з яго, ні з цябе слова не выцягнеш. Ці я вам чужая, што вы мне нічога не гаворыце? Не шкадуеце вы мяне зусім,— уздыхнула Антаніна Іванаўна.

— Мамачка, я не ведаю, што ў таты, а ў мяне нічога не здарылася,— адказала Зоя.

— Ну як жа нічога не здарылася, калі ты вунь як змізарнела... Я думала, кінеш работу, дык адразу паправішся, папаўнееш, а ты яшчэ больш высахла.

— Гэта табе здаецца, мамачка, я такая, як і была.

— Ох, дачушка, не абманеш ты матку. Але не хочаш гаварыць, не трэба,— і Антаніна Іванаўна цяжка паднялася, пайшла ў кухню. Зоя чула, як застукала яна там пасудаю.

Зоя заплюшчыла вочы. Яна гнала ад сябе думкі пра Жэню. Хацела выкрэсліць яго з свайго сэрца назаўсёды. Старалася больш нават не ўспамінаць яго. Але гэта было не так проста. Туга тачыла яе, і часам Зоі здавалася, што яна нават хоча сустрэцца з Жэнем, каб усё сказаць яму, каб хоць чым аблегчыць душу. Яна сказала б яму, што ён нядобры чалавек, сказала б, што і яна была дурная. Ды Жэня знік, і Зоя цяпер зусім адна. Каму раскажаш пра ўсё гэта? З кім параішся? З мамаю? Толькі расхвалюеш яе, напалохаеш.

Няхай бы дзяўчаты прыйшлі. Пабыць з кім-небудзь, пагаварыць абы пра што, каб толькі ўвесь час не думаць пра адно і тое ж. Ды ніхто да яе не прыходзіць. І Рэня больш не паказваецца. Праўда, у Рэні скора сесія, Рэні няма часу. А Валя з Любаю?

Зоя ўстала, пахадзіла па кватэры, падышла да акна. Ёй раптам захацелася на вуліцу, на сонца, на мароз. Яна апранула паліто, завязала пуховую шэрую хустку і выйшла на двор.

У двары гулялі дзеці. Бегалі, крычалі, даганялі адно аднаго. Па прымерзлай зямлі, мала дзе прысыпанай снегам, хлопчык цягаў санкі. Двое другіх валтузіліся пасярод двара, адбіраючы адзін у другога ржавае кола. Каля іх стаяла дзяўчынка ў белым футры, падвязанай чырвоным паскам. Пад футрам у дзяўчынкі, мусіць, было апранута яшчэ многа адзежын, бо яна была тоўстая, як кулёк.

— Ідзі, пагуляй з імі, — пачула раптам за сабою крыху насмешлівы голас Зоя. Яна азірнулася. На лавачцы ля пад'езда ў паліто з чорным коцікавым каўнярам сядзела цётка Маша, нянька з чацвёртай кватэры. Цётка Маша трымала на руках дзіця, загорнутае ў ватовую коўдру, і з насмешкаю пазірала на Зою. Каля цёткі Машы сядзела жанчына ў ватоўцы і чырвонай невялікай хустачцы, завязанай пад бараду.

Зоя адвярнулася, нічога не адказаўшы на кпіны. І тут яна пачула за сабою шэпт. Цётка Маша гаварыла жанчыне, якая сядзела з ёю: «Такая дзяўчына, а не працуе, не вучыцца... На гадзіннікавым заводзе працавала, дык звольнілі...»



Як варам абдало Зою. Яна павярнулася і пабегла дамоў. Распранулася, кінула паліто і хустку.

— Чаго ж так скора? — здзівілася Антаніна Іванаўна. Яна стаяла перад Зояю з закасанымі рукавамі, рукі яе былі ў муцэ. І на твары ў яе была мука, але Зоя нават не сказала, каб яна выцерла твар.

Зоя зноў лягла на канапу, але хутка паднялася, узяла газету і пачала чытаць аб'явы.

«Патрабуюцца: бухгалтары... старшыя бухгалтары... інжынеры-электрыкі... тэхнікі па ацяпленню», — чытала Зоя.— «Завод імя Кірава набірае вучняў па спецыяльнасцях.... токары, слесары, шліфоўшчыкі».

Яна апусціла газету на стол. Успомніла, як яшчэ ў дзесятым класе хадзілі яны на экскурсію на завод імя Кірава. Стук і грукат тады напалохалі Зою. Яна баялася падысці блізка да станка. Ёй здавалася, што зараз нешта зваліцца на яе і заб'е. Дык як жа яна пойдзе вучыцца на токара, слесара або шліфоўшчыка, калі баіцца станкоў, баіцца вялізнага цэха?

Вечарам Зоя не знаходзіла месца і зусім нечакана для сябе вырашыла схадзіць да дзяўчат у інтэрнат.

Калі яна адчыніла дзверы іхняга пакоя, ёй спачатку здалося, што не туды трапіла. Каб не Валя, якая, убачыўшы Зою, як на спружынах, падскочыла з канапы, Зоя павярнулася б і пайшла.

— Зойка!— кінулася да яе Валя.— Які́м цябе ветрам сюды занесла? Хадзі, хадзі,— цягнула яна Зою за руку.

— Што гэта ў вас, перамены нейкія?— аглядаючы пакой, спыталася Зоя.— Яшчэ адзін ложак. І шафа раней, здаецца, не тут стаяла.

— І не кажы,— махнула рукою Валя.— Перамена дэкарацыі. Ведаеш, хто цяпер з намі жыве? Інка Горбач.

Гэта сапраўды было дзіўна.

— Чаму так? У яе ж бацькі ў Мінску.

— Распранайся, распранайся,— тузала Валя Зою за рукаў.— Ну, у нас тут такія перамены... ты ж нічога не ведаеш... Дурніца, чаму ты раптам кінула завод?

Яны селі на канапе. Зоя азіралася. Хоць цяпер стаяў тут чацвёрты ложак, у пакоі, як і раней, было ўтульна, чыста. Прыемна пахла антонаўкамі. Валя падкурчыла пад сябе ногі, зручней умасцілася і пачала расказваць Зоі пра навіны.

— Гэта ўсё з таго сходу пачалося, яшчэ як ты была, Помніш? Тады Інку Горбач і Вольга Мікалаеўна лаяла, і Ігар Барысавіч. Дык вось з таго сходу за яе і ўзяліся. Сам дырэктар выклікаў да сябе. І што ты думаеш, тут, аказваецца, і мы ўсе былі вінаватыя. Не ведалі, як яна жыве. А ў яе айчым — п'яніца. І маці не лепшая... Айчым з маткаю ў Інкі грошы ўсе адбіралі, нават білі. Цэлыя ночы гарэлку п'юць ды гуляюць. Інка спаць не магла. Яны і яе гарэлку піць прымушалі... Адным словам, пастанавіў камітэт камсамола перавесці Інку ў інтэрнат. А мы вырашылі ўзяць яе ў свой пакой. Яна так узрадавалася. І цяпер, ведаеш, зусім другая дзяўчына. Праўда, бывае яшчэ і ложак не прыбярэ, і пасуду не памые... Дык мы так далікатна, ала сурова,— і Валя сціснула свой маленькі кулачок, — напамінаем ёй... І на рабоце яна цяпер зусім іншая. Не спіць ужо за канвеерам. Ой, а ты не ведаеш, што ў нас на канвееры робіцца!— пляснула рукамі Валя.— Пензенцы нас на спаборніцтва выклікалі змагацца за званне брыгады камуністычнай працы. Ігар Барысавіч смяецца: «Куды вам, хоць брак перастаньце выпускаць». Але дарэмна ён так пра нас гаворыць, бо ў апошні

час мы брак звялі да мінімуму,— з крыўдаю на Ігара Барысавіча сказала Валя.— Дык вось, ён кажа «куды вам», а Вольга Мікалаеўна— сваё: «Нам туды, куды і ўсім... Да камунізма...» І што ты думаеш? Прынялі мы выклік, і цяпер ужо так стараемся, так стараемся... І ведаеш, колькі мы даем гадзіннікаў? Сто дзевяноста за змену! Во! І яшчэ ў нас устанаўліваюць аўтаматыку. Гэта так цікава! Ты ж ведаеш, ва ўсім свеце зборка гадзіннікаў ідзе ўручную. Такіх аўтаматаў яшчэ не прыдумалі, а ў нас пачынаюць устанаўліваць. Але табе, можа, усё гэта не цікава?— насцярожылася раптам Валя.

— Не, не, цікава, расказвай,— адказала Зоя.

Ёй сапраўды было цікава. Яна нават зайздросціла Валі. У тае няма ніякага гора. Ёй весела. І жыць ёй так цікава. Ды не адной Валі, а ўсім дзяўчатам. Зоя цяпер зайздросціла нават Іне Горбач. Вунь, яна разам з дзяўчатамі жыве, працуе. Няўжо ж яна, Зоя, горшая за ўсіх?

— Чакай, я цябе яблыкамі пачастую,— ускочыла з канапы Валя. Яна падбегла да Любінага ложка, выцягнула з-пад яго скрынку. Там у тонкіх белых стружках ляжалі вялікія жоўтыя антоны. Валя дастала некалькі яблык, паклала на стол.

— Бяры, частуйся,— сказала яна. Гэта Любе бацькі з калгаса прыслалі, але ў нас тут усё агульнае. Еш.

Зоя ўзяла яблык, выцерла далоняй, адкусіла.

— А дзе Рэня?— спыталася яна.

— Рэня сёння ў інстытуце,— засоўваючы скрынку з яблыкамі пад ложак, адказала Валя.— Ты падумай, вось ужо на другім курсе! Летам пяройдзе на трэці. А я такая дурніца. У медыцынскі не папала і на вячэрняе аддзяленне паступаць не захацела. А час так ляціць. Вось і я ўжо на трэці курс пераходзіла б.— Яна зноў села на канапу, з хрустам адкусіла яблык. — На лета і я паступаць буду. І Люба таксама. Абавязкова, вось убачыш,— з поўным ротам гаварыла яна.— Ну, а ты як жывеш? Нешта пахудзела. — І, не чакаючы адказу, зноў загаварыла:— А ведаеш, да Жэні жонка прыязджала. Цяжарная. Пабыла тут дзён пяць і паехала. І Жэня з ёю. Узяў адпачынак і паехаў.

Валя гаварыла пра гэта нібы між іншым, нібы і не думала яна, што гэта цікавіць Зою. Яна прыкінулася, што не заўважыла і таго, як пачырванела Зоя. А тая таксама старалася зрабіць выгляд, што гэта яе зусім не цікавіць.

— Ну, дык як ты?.. Працуеш ужо дзе?— перавяла на іншае гаворку Валя.

— Не, нідзе не працую, — не гледзячы Валі ў вочы, адказала Зоя.

— Дурніца, ну, нашто ты кінула наш завод? — зноў паціснула плячыма Валя.

## 18

Каля дома Зою сустрэў Міхал Паўлавіч.

— Дзе ты ходзіш, Зоечка, я ўжо даўно чакаю цябе.

— Чакаеш? Чаму? Што-небудзь здарылася?

— Мама захварэла. Прыязджала хуткая дапамога.

— Мамачка,— кінулася ў пад'езд Зоя.

— Чакай, — узяў яе за руку Міхал Паўлавіч, і па тым, як моцна сціснуў ён яе, Зоя зразумела, што бацька хвалюецца.— Не ідзі пакуль дахаты. Там каля мамы цётка Маша, а мне з табою трэба пагаварыць.



— А што, што з мамаю? — чырвонаю шарсцяною рукавічкаю Зоя выцірала слёзы, што паплылі ў яе з вачэй.

Міхал Паўлавіч абняў дачку за плечы.

— Не плач, Зоечка, з мамаю нічога страшнага. Ты ж ведаеш яе сэрца. Яно ў яе яшчэ з вайны хворае. Доктар сказаў, што трэба, каб яна з тыдзень паляжала ў бальніцы, трэба розныя аналізы зрабіць, кардыёграму... А тут... разумееш...

Зоя не разумела. Яна не верыла, што ў хваробе маці няма нічога сур'ёзнага. Чаму ж тады бацька такі ўсхваляваны, чаму чакаў яе на вуліцы?

— Паслухай, дачушка, што я табе скажу,— яшчэ мацней абняў Міхал Паўлавіч Зою, павёў у скверык, што быў каля іхняга дома. — Хацеў я ўсё гэта зрабіць сам. Хацеў да часу не гаварыць вам, але не магу трываць больш, ды і дапамога мне твая цяпер патрэбна... Вось, бачыш?— і Міхал Паўлавіч дастаў з кішэні паліто сіні канверт. — Бачыш? Хадзі сюды, на лавачку.— Яны селі проста на снег, які даволі тоўстым пластам ляжаў на лаўцы.— Паслухай, што я табе пачытаю.— Ён дастаў з канверта ліст, разгарнуў яго.— Вось слухай. «У дакументах значыцца, што Юра Наватораў паступіў у наш дзіцячы дом 30 чэрвеня 1941 года. Прынёс яго малодшы лейтэнант Наватораў Барыс Сцяпанавіч, 1920 года нараджэння, беларус. Малодшы лейтэнант Наватораў заявіў, што маці хлопчыка загінула ў час налёту нямецкіх самалётаў на эшалон. Наваторавым мы і запісалі Юру, бо свайго прозвішча ён не сказаў. З Вашага ліста відаць, што хлопчык, якога прынёс малодшы лейтэнант Наватораў, згубіўся пры абставінах, падобных да тых, у якіх згубіўся ваш сын. Аднак пацвердзіць, што Юра — Ваш сын, я пакуль што не магу. У той час да нас такім чынам трапляла многа дзяцей. Многіх з іх мы пераводзілі ў іншыя дзіцячыя дамы. Магчыма, наступіла б большая яснасць, каб мне ўдалося знайсці лісты, якія пісаў да нас малодшы лейтэнант Наватораў. А што ён пісаў, я добра памятаю. Памятаю нават, што ён хацеў усынавіць Юру... А потым прыйшло паведамленне, што лейтэнант Наватораў загінуў на Волзе. Калі лісты Наваторава захаваліся, то яны недзе ў нашым архіве. Я абяцаю вам пры першай магчымасці заняцца пошукамі. Не ведаю, ці скора прышлю адказ, бо архіў у нас вялікі. Але галоўнае ——знайсці лісты. Прайшло шмат часу...»

— Разумееш, Зоечка, — хрыплым голасам гаварыў Міхал Паўлавіч. Парыў ветру падхапіў лісток і ледзь не вырваў у яго з рук. Міхал Паўлавіч прыціснуў лісток рукою да калена, пасля пачаў таропка складваць, ратуючы ад ветру і ад дробных сняжынак, якія пасыпаліся з дрэва.— А калі яшчэ мець на ўвазе Рэніны фатаграфіі, то я думаю...

— Якія фатаграфіі?— не разумела бацьку Зоя.

— Ах, ты ж нічога не ведаеш, — пацёр бацька далоняй няголеную сёння шчаку.

І Міхал Паўлавіч расказаў Зоі ўсё. Пра тое, як прыходзіла да яго Рэня і прыносіла фатаграфіі, пра яе здагадку і як пасля гэтага ён зноў пачаў шукаць Шурыка... І вось...

Зоя сядзела, баючыся паварухнуцца.

— Дык вось, я хацеў паехаць у дзіцячы дом... Сёння, заўтра... Трэба памагчы гэтай добрай жанчыне шукаць лісты. А тут мама захварэла, і яе трэба ў бальніцу класці. Можна, вядома, пачакаць, пакуль мама ачуняе, але дзе ўзяць цярпення, сілы?

— А яна нічога не ведае?

— Не,— пакруціў галавою бацька.
— Правільна, правільна,— згадзілася Зоя.
І раптам яна адчула вялікую ўдзячнасць да бацькі. Ён гаварыў ёй пра тое, чаго не сказаў нават маме. Значыцца, ёй можна давяраць, з ёю можна гаварыць, як з чалавекам, і нават раіцца. Рашэнне прыйшло адразу.
— Татачка,— схапіла яна бацьку за руку.— Дазволь мне паехаць. Я ўсё зраблю, што трэба. Я памагу шукаць лісты. Вось убачыш...— На Зоіны вочы зноў набеглі слёзы. Яна то выцірала іх, то хапала бацьку за руку.
— Думаў я, Зоечка, ці не паслаць цябе, ды баюся. Баюся адну пускаць...
Па тым, як сказаў гэта бацька, Зоя зразумела, што ён хацеў бы, каб яна паехала. Ён сапраўды думаў, ці не паслаць яе. Таму і чакаў яе на вуліцы, таму і хацеў пагаварыць, параіцца.
— Пусці, татачка, пусці,— яшчэ гарачэй пачала прасіцца Зоя.— Нічога са мною не здарыцца. А ты будзеш кожны дзень да мамы хадзіць.
— Ды, мусіць, прыйдзецца,— згадзіўся нарэшце бацька.— А цяпер пайшлі дахаты. Ох, як дрэнна, што мама захварэла,— уздыхнуў Міхал Паўлавіч.

## 19

Зоя сядзела ў купэ, узлакаціўшыся на столік, прымацаваны ля акна. Сонца кацілася на захад, а цягнік, здавалася, бег і бег за ім. Часта мільгалі слупы, а правады то перасякалі сонца, то падымаліся вышэй за яго, то падалі некуды ўніз. Зоя, не адрываючыся, глядзела ў акно, на прастор, які за ім кружыўся. І думкі таксама кружыліся ў яе галаве. Як добра, думала яна, што тата дазволіў ёй паехаць. Яна будзе вельмі старацца, каб хоць чым-небудзь дапамагчы. І няўжо сапраўды можна знайсці брата? Пра гэта Зоя раней не думала. У яе жыццё слова «брат» увайшло як водгук нейкай трагедыі, як водгук таго страшнага, што называецца вайною. Яна не раз чула сумны расказ маці, і калі думала пра брата, дык уяўляла яго маленькім хлопчыкам, такім, як на партрэце, што вісіць у іх на сцяне. Дык няўжо іх Шурык — той прыгожы юнак, якога яна бачыла на фотаздымку ў Рэні?
Перад ад'ездам Зоя хадзіла да яе. Расказала, што едзе ў Калінаўку. Распытвала пра Юру.
Рэня і Міхал Паўлавіч праводзілі Зою на станцыю. Рэня падрабязна, каторы раз, растлумачвала Зоі, як дабрацца да Калінаўкі са станцыі. На развітанне яна абняла, пацалавала Зою.
Сонца апускалася ўсё ніжэй. Вось ужо дакранулася да зубцоў далёкага лесу. На хвіліну застыла над ім, нібы накалолася на верхавіны елак, пасля пакацілася ўніз.
«Значыцца, Рэня таксама кахае,— думала Зоя, пазіраючы на чырвоны акрайчык, які хутка, амаль на вачах, знікаў за лесам.— Кахае Юру, які, магчыма, акажацца маім братам. Вось у іх, напэўна, сапраўднае каханне. Не тое, што было ў мяне. Нездарма Рэня ні з адным хлопцам тут не гуляе. І ён, бачыш, з Ленінграда на канікулы да яе прыедзе. А хіба не магло і ў мяне быць такога кахання? Чыстага, харошага...»
Нарэшце зусім сцямнела. У купэ запалілася святло. Зоя адвярнулася ад акна.



## 20

— Гэта добра, што вы прыехалі. Дапаможаце мне. Бачыце, колькі нам з вамі прыйдзецца лістоў перагледзець,— гаварыла Зоі Разалія Сямёнаўна.
Яны стаялі ў невялічкім кабінеце перад канцылярскаю шафаю, забітай рознымі папкамі — жоўтымі, ружовымі, зялёнымі. Папкі былі тоўстыя і тонкія, новыя і старыя, з абадранымі, пакамечанымі ражкамі.
— Гэта наш архіў. Сюды я складаю лісты, якія да нас прыходзяць. Сёння ж і пачнем, Зоечка, а зараз пойдзем паснедаем. Калі прыехалі да нас, то ўжо будзеце нашым госцем.
І вось Зоя трэці дзень у Калінаўцы. Адразу пасля снедання яна ідзе ў невялічкі кабінецік на другім паверсе і адкрывае шафу, у якой захоўваюцца лісты. Як многа папак перагледзела ўжо яна, як многа перагартала лістоў... У канвертах і без канвертаў, напісаных чарнілам і алоўкам. Пісьмаў, напісаных прыгожым почыркам і надрапаных няўмелаю рукою, сярод якіх многа і дзіцячых. Пісьмаў яшчэ свежых, на чыстай белай паперы і пісьмаў, напісаных вельмі даўно. Лісткі пажоўклі, чарніла расплылося, аловак сцёрся, і часта вельмі цяжка разабраць, што ў іх напісана. І адкуль толькі не ішлі гэтыя лісты. З Масквы і Вільнюса, з Дарагабужа і Алма-Аты, з Полацка і Мазыра, з Гродна і Вілейкі, з Ялты і з Варонежа.
Разалія Сямёнаўна сказала Зоі, каб яна вельмі ўважліва чытала подпісы — пад лістамі і на канвертах. Трэба было знайсці прозвішча Наватораў. І Зоя шукала. Але часам нейкае слова альбо сказ прыцягвалі яе ўвагу, і Зоя пачынала чытаць увесь ліст — адзін, другі. Лісты былі адрасаваны больш за ўсё Разаліі Сямёнаўне і Івану Гаўрылавічу. Некаторыя пачыналіся проста: «Дарагія таварышы!»
Пісалі бацькі, якія шукалі сваіх дзяцей, бацькі, якія дзяцей сваіх знайшлі. Пісалі самі дзеці, калі ад'язджалі куды, альбо назаўсёды пакідалі Калінаўку.
«Дарагая Разалія Сямёнаўна!— чытала Зоя ў адным лісце.— Хачу напісаць вам аб сваёй вялікай радасці. У мяне нарадзілася дачка. Яна цудоўная дзяўчынка. Вельмі прыгожая і здаровенькая, вялікая. Ёй тры месяцы, а ў кансультацыі кажуць, што яна, як пяцімесячная. Дачку сваю мы з мужам назвалі Розачкаю, у ваш гонар. Я свайму мужу многа пра вас расказвала, і ён вас ужо ведае. Калі будзе ў вас час, прыязджайце да нас у госці. Муж у мяне вельмі харошы, і мы будзем вам вельмі рады.
Каця Верамейчык».
Зоя ведала, што перачытваць лісты ёй няма часу. У яе і так пачынала ўжо круціцца ў галаве. Часам ёй здавалася, што нічога яна тут не знойдзе, што не могуць захавацца лісты, якія пісаліся дзевятнаццаць гадоў таму назад, і рукі ў Зоі апускаліся. Але яна ўспамінала хворую маму, уяўляла брата і зноў пачынала шукаць.
«Дарагі Іван Гаўрылавіч!— чытала яна праз некаторы час нейчы ліст.— Гэта пісьмо я пішу вам сваімі ўласнымі рукамі. Навучыўся. Сёлета я нават паступіў у педагагічны інстытут. Ёсць у мяне і дзяўчына. Завуць яе Валя. Яна мне сапраўдны сябар і верны таварыш. Так што жыццё ў мяне толькі пачынаецца, а я вам некалі казаў, што яно ў мяне скончылася. Дзякуй вам за ўсё, што вы для мяне зрабілі. На ўсё жыццё буду лічыць вас сваім бацькам.
Эраст Гардэладзе».

І зноў лісты. «Дарагая Разалія Сямёнаўна!» «Дарагі Іван Гаўрылавіч!» «Дарагія таварышы!»... І подпісы, подпісы. У Зоі ўжо ёсць знаёмыя сярод тых, хто тут жыў. Яна ўжо некаторых пазнае па почырку. Вось роўненькія, як пад лінейку напісаныя, радкі. Круглыя літары. Пад лістом будзе подпіс — «Оля Свірыдава». Ну, так і ёсць. А вось гэты—дробненькі і густы-густы — Таіра Сатыбалдзіна з Алма-Аты.

А тых, патрэбных лістоў, усё няма. І як пераблыталіся тут яны! Вось ліст, датаваны 1952 годам, а разам з ім ляжыць ліст, напісаны ў 1946 годзе. А ёй трэба тыя, што пісаліся ў 1942. Яна яшчэ ніводнага не знайшла такога старога. Хаця, вось ужо блізка. Пад пісьмом дата — 12 студзеня 1944 года.

«Дарагія таварышы!

Я даведаўся, што мой сын Уладзімір Тарасавіч Патапенка знаходзіцца ў вашым дзіцячым доме. Перадайце майму сыну, што бацька яго пакуль што яшчэ жывы, што ён помсціць фашысцкаму зверу за кроў і слёзы нашага народа. Перадайце яму, што як толькі задушым фашысцкага ката, я адразу прыеду па яго і забяру яго. А таксама перадайце майму сыну, што яго бацька мае ўзнагароды — ордэн Айчыннай вайны другой ступені і медаль «За адвагу». А вам усім я нізка кланяюся за тое, што вы гадуеце майго сына. Няхай жыве наша вялікая савецкая Радзіма! Смерць фашысцкім акупантам!

Радавы Тарас Патапенка».

І зноў пошукі. Дзе ж яны, тыя лісты, вельмі і вельмі патрэбныя? Няўжо няма... Няўжо згубіліся...

І раптам нібы нешта ўдарыла Зою па вачах. Нейкае знаёмае прозвішча. «Наватораў». Ну, так, Наватораў... Складзены трохвугольнікам лісток, з палявою поштаю замест адраса. Пажоўклы, пакамечаны трохвугольнік.

— Разалія Сямёнаўна,— ледзь выгаварыла Зоя.— Вось ён... Вось...

## 21

Каторы раз перачытваюць яны гэтыя лісты. Хімічны аловак дзе сцёрся, дзе расплыўся, і спачатку было вельмі цяжка прачытаць, што ў іх напісана. Але цяпер Зоя і Разалія Сямёнаўна ўжо на памяць ведаюць іх.

Зоя знайшла два лісты ад лейтэнанта Наваторава. І каб не трапіўся ёй другі ліст, то першы, напэўна, вельмі мала і сказаў бы ім. У першым лісце малодшы лейтэнант Наватораў пісаў, што ён адчувае сябе абавязаным перад хлопчыкам, якога прынёс у дзіцячы дом і якому далі яго прозвішча. Ён пісаў, што калі скончыцца вайна і ён застанецца жыць, то прыедзе і забярэ Юру, усынавіць яго. «Скажыце Юру, што ў яго ёсць бацька, каб ён не лічыў сябе круглым сіратою»,— пісаў малодшы лейтэнант Наватораў.

Прачытаўшы гэты ліст, Разалія Сямёнаўна засумавала. «Высакародны ты быў чалавек, малодшы лейтэнант Наватораў,— думала яна.—Добрае сэрца прабіла варожая куля. І чаму я не распытала ў цябе тады ўсё падрабязна, не запісала ўсё як след. Вайна... Час быў страшэнны. Немец ірваўся да нас. Мы толькі прыехалі на новае месца, у эвакуацыю. Усё гэта так. Але чаму я не кінула ўсе іншыя справы і не пагаварыла з табою...»





І нібы ў адказ на горкія думкі Разаліі Сямёнаўны. Зоя падала ёй другі ліст Наваторава. Яны, значыцца, ляжалі блізка адзін ад аднаго.

«Дарагія таварышы!

Я пісаў ужо вам, што згодны ўсынавіць Юру, няхай толькі скончыцца вайна і каб толькі скарэй мы разбілі ненавіснага ворага. Але можа Юраў бацька жывы. Можа ён, як і я, цяпер ваюе з праклятымі фашыстамі.

Калі Юраў бацька застанецца жывы, трэба абавязкова дапамагчы яму знайсці сына. Але як гэта зрабіць? Як адшукаць чалавека, калі мы і прозвішча яго не ведаем. А магчыма, ён быў нават мой зямляк, бо жанчына з хлопчыкам садзілася ў цягнік ў Барысаве, а я там пражыў усё сваё жыццё.

Гітлераўскія захопнікі прынеслі нашым людзям вельмі многа пакут. Толькі яны маглі зрабіць такое. Колькі забітых жанчын, дзяцей я бачыў на дарогах. І Юрава маці, як я разумею, была цяжарная.

Цяпер вечар, і мы сядзім ў акопах...»

— Стойце, чакайце,— перабіла Разалію Сямёнаўну Зоя.— Ён там напісаў... Гэта я...

— Што ты? —не адразу зразумела Разалія Сямёнаўна.

— Жанчына цяжарная... Гэта мама мной хадзіла...

Зоя была бледная, як ліст паперы.

— Табе нядобра?— спалохалася Разалія Сямёнаўна.

— Не, не,— шаптала Зоя, а сама апускалася на стул.

Разалія Сямёнаўна перачытвала ліст.

— Значыцца, Юра твой брат,— з цяжкасцю выгаварыла яна нарэшце. Разалія Сямёнаўна абняла Зою. Тая прыпала галавою да яе пляча. Абедзве плакалі.

Пасля яны смяяліся. Смяяліся і плакалі. Зноў і зноў перачытвалі ліст.

## 22

— Мама, ну чаго ты ўсё плачаш?— гаварыў Юра Антаніне Іванаўне, абдымаючы яе.— Ці ты не рада, што я знайшоўся?

— Божа мой, тайком ад мяне, хаваючыся...— выцірала далонямі слёзы Антаніна Іванаўна.— Ды трэба ж было паказаць вам яго мне,

ды я ж адразу пазнала б яго... Дзіця ты маё роднае, пакутнік ты мой вялікі...— прыгаварвае Антаніна Іванаўна і зноў заліваецца слязьмі.

— Ну, на пакутніка ён не вельмі падобны. Паглядзі, які высокі, здаровы, прыгожы,— глухаватым ад хвалявання голасам гаворыць бацька.

Міхал Паўлавіч стаіць каля Юры, і абодва яны, аднолькавага росту, плячыстыя, цяпер добра відаць, як падобны адзін на аднаго.

Антаніна Іванаўна нагадвае цяпер Рэні маці Валодзі Кажухова, якая некалі знайшла свайго сына і прыехала за ім у Калінаўку. Яна таксама ўвесь час плакала і, як прывязаная, хадзіла за Валодзем. Так цяпер ходзіць за Юрам Антаніна Іванаўна. З пакоя ў пакой, з кухні ў калідор і назад у кухню.

А Юра неўпрыкмет з цікавасцю аглядае кватэру, пазірае на канапу, на столік, на паліцу з кнігамі, на драўляныя ложкі ў спальні з гарою вялікіх і малых падушак. Гэта дом яго бацькоў, значыцца, і яго дом.

Антаніна Іванаўна стаіць ля Юры і дзвюма рукамі трымае яго за локаць. Юра адчувае мяккія матчыны пальцы, і сэрца яго агортвае нязнаная дагэтуль радасць. Ля яго стаіць яго маці!..

Ён пазірае на матчыны рукі. Ружовыя, у маршчынках рукі. Але якія яны мяккія, ласкавыя. Ды і ўся маці такая ж мяккая, ласкавая,— і шчака яе, і хада, і голас. Іменна такою яе ўяўляў сабе Юра.

А бацька... Іменна такога бацьку і хацеў мець Юра. Бацьку, якім можна ганарыцца. Вось стаіць ён, з сівымі скронямі, былы камандзір, некалькі разоў паранены, шмат разоў узнагароджаны...

— Дык хто ж ты ў нас — Шура ці Юра? — пытаецца Міхал Паўлавіч.

— Канечне, Шура, Шурачка,— адказвае за сына Антаніна Іванаўна.

— Але ж ён прывык ужо... і ў дакументах у яго — Юра,— не згаджаецца бацька.

— Як хочаце, так і завіце,— смяецца Юра.

Вечарамі да іх збіраюцца суседзі, знаёмыя. Павіншаваць Булатаў з такой радасцю, паглядзець на Юру. Міхал Паўлавіч каторы раз паказвае лісты, расказвае, як, нарэшце, пацвердзілася, што Юра Наваторaў — гэта той самы хлопчык Шура Булат, якога некалі вайна разлучыла з бацькамі.

— А чаму ж яго Юрам назвалі? — пытаецца цётка Маша, якая таксама прыйшла да Булатаў паглядзець на знойдзенага сына.

— А мне расказвалі,— тлумачыць Юра,— што калі спыталіся ў мяне, як мяне завуць, дык я сказаў «Урык». Гэта, мусіць, азначала Шурык, а ў дзіцячым доме падумалі, што Юрык, ды так і запісалі.

— Так, так, сынок, ты ніяк не мог літару «ш» вымавіць,— усцешылася Антаніна Іванаўна, пачуўшы новую падрабязнасць.— Памятаеш, Мішачка? — павярнулася яна да мужа.

Міхал Паўлавіч заківаў галавою.

— А ведаеш, мама,— узяў Юра руку Антаніны Іванаўны,— я вось цяпер, калі пачынаю ўспамінаць, то неяк смутна-смутна, нібы кінафільм, які глядзеў даўно-даўно, бачу доўгую белую дарогу, якая бяжыць некуды далёка-далёка. А па гэтай дарозе ідуць людзі. Многа людзей. Мяне нясуць на руках, а я пазіраю на гэтую дарогу, на дзяўчынку, якую вядзе за руку жанчына... Пасля яшчэ ўспамінаю, як нешта трашчала і грукатала і як беглі, крычалі людзі...

— Было ўсё гэта, Шурачка, было,— ківае галавою Антаніна Іванаўна і зноў выцірае далонямі памакрэлыя вочы.

— Ну, досыць, досыць,— паціскае Юра мяккую матчыну руку.— Не будзем больш пра гэта гаварыць.



— Ты яшчэ пасля хваробы добра не ачуняла,— непакоіцца і Міхал Паўлавіч.

— Што ты, што ты!..— замахала на яго рукамі Антаніна Іванаўна.— Я цяпер ад усіх хвароб назаўсёды вылечылася.

...Ужо некалькі дзён, як Юра дома, а Антаніна Іванаўна не можа паверыць свайму шчасцю. Тую ноч, калі Юра ўпершыню начаваў у роднай хаце, яна амаль зусім не спала. Толькі пад раніцу крыху звяла вочы. Прачнулася, уся мокрая ад халоднага поту. На нейкую хвіліну здалося, што ўсё гэта прыснілася, што ўсё гэта толькі сон, зноў сон, які так часта за доўгія дзевятнаццаць год бачыла Антаніна Іванаўна — нібы сын яе знайшоўся, нібы ён зноў з імі. Яна падхапілася, босая пайшла ў другі пакой, стала ля канапы, на якой спаў Юра.

Не, гэта не прыснілася Антаніне Іванаўне, яе сын быў тут. У акно падала святло ліхтара, які гарэў на вуліцы, і ў пакоі было не зусім цёмна. Антаніна Іванаўна доўга глядзела на сына, слухала, як ён роўна, спакойна дыхаў. Яна больш не лягла ў ложак. Калі на вуліцы пачало шарэць, яна пайшла ў кухню. Ціхенька, каб не стукнуць ніводнай талеркаю, пачала рыхтаваць снеданне.

«Як толькі прачнецца, хай усё будзе гатова,— думала яна.— Бедны хлопчык, усё жыццё не ведаў матчынай ласкі, ніхто ніколі не пашкадаваў яго, не папесціў. Хоць цяпер, хоць гэтыя кароткія дні хай будзе яму добра. А там жа зноў інстытут, інтэрнат, сталоўкі!» Маці зрабілася страшна ад думкі, што дні канікул скончацца і ён паедзе зноў, яго зноў не будзе з імі. «Хай бы ўзяў адпачынак на які год у інстытуце,— думае Антаніна Іванаўна.— Там жа таксама людзі сядзяць, павінны зразумець, што значыць праз дзевятнаццаць год бацькоў сваіх знайсці».

Як толькі Юра расплюшчыў вочы, Антаніна Іванаўна прыбегла да яго з талеркаю, на якой стаяў вялікі белы кубак, поўны пахучай свежай кавы, і ляжала нядаўна спечаная ружовая булачка.

— На, сыночак, вып'і. Раніцою гэта добра. Ды не ўставай яшчэ.

Для Юры гэта было нечакана. Ён сеў на ложку, нялоўка ўсміхнуўся.

— Мамачка, нашто гэта ты? — сказаў ён.— Я да такога не прывык.

— А ты прывыкай, прывыкай, сынок,— ставячы талерку на крэсла, што стаяла ля ложка, гаварыла Антаніна Іванаўна.— Гэта толькі на здароўе. Вып'і, вып'і,— узяла яна яго за плечы.

— Ну, добра,— сказаў Юра.— Вып'ю, але болей ты так не рабі. Мне нават сорамна.

Калі ўсе паснедалі і Антаніна Іванаўна ўзялася прыбіраць са стала, Юра спыніў яе.

— Мы з Зояй пасуду прыбяром. А ты адпачні ідзі. Ты сёння ўстала рана.

— Што ты, сынок,— пляснула рукамі Антаніна Іванаўна.— Хіба я табе дазволю з пасудай займацца? Ды і не стамілася я. А што ўстала рана, то ці магу я спаць, калі радасць у нас такая.

Але Юра ўжо збіраў талеркі. Зоя кінулася яму памагаць.

— А што ж я буду рабіць, дзеткі,— пляскала рукамі Антаніна Іванаўна.

Міхал Паўлавіч весела пазіраў на дзяцей.

— Што, маці? Выходзіць, дзеці работу адабралі? Нічога, не бядуй.

Калі пасля Антаніна Іванаўна ўзялася прыбіраць у хаце і, сабраўшы палавікі, паклала іх ля дзвярэй, каб вынесці на двор і выбіць, Юра схапіў іх і знік за дзвярыма. Не паспела Антаніна Іванаўна агледзецца, як ён ужо што сілы трос іх на двары.

І зноў Антаніна Іванаўна, склаўшы рукі, пазірала на сына.

А Юра бачыў, як тупае маці па кватэры, гатуе, мые, прыбірае, і яму

рабілася шкада яе. Яму было нават няёмка што яна для яго так стараецца, і ён усё шукаў, чым бы памагчы ёй. Калі назаўтра Антаніна Іванаўна надумалася мыць падлогу, ён не даў ёй гэтага рабіць.

У Антаніны Іванаўны ўжо не было сілы спрачацца, а Міхал Паўлавіч ціхенька кпіў:

— Во, можа Юра навучыць нашу Зою падлогу мыць, бо яна ж не ўмее.

Яшчэ зусім нядаўна Зоя любіла падоўгу прастойваць перад люстэркам, і так і гэтак зачэсваць валасы, мераць новыя сукенкі. Зоя лічыла, што яна прыгожая, а гэта — галоўнае, гэта — важней за ўсё.

Але ў апошні час яна пачала абмінаць люстэрка. Ужо каторы раз спрабавала яна зірнуць на сябе не звонку, а знутры, паглядзець на сябе вачыма староннята чалавека. І яна пачынала адчуваць, што страціла ў жыцці нешта вельмі важнае. Зоя больш не падабалася сама сабе.

Яна вельмі баялася, каб не даведаўся Юра пра тое, што было ў яе з Жэнем. Яна вельмі прасіла Рэню, каб тая нічога не гаварыла Юру пра яе. Рэня абяцала. Але ці стрымае яна слова? У іх жа з Юрам вунь якія адносіны. Яны, мусіць, усё-ўсё адзін аднаму расказваюць.

І Зоі зноў зрабілася крыўдна...

Рэня цяпер амаль кожны вечар бывала ў Булатаў. З работы адразу ішла да іх. Тут чакалі Рэнінага прыходу і без яе не садзіліся абедаць. А пасля абеду ўсе збіраліся разам. Антаніна Іванаўна садзілася ў крэсла, складвала на каленях рукі і глядзела на Юру. Рэня і Зоя ўмошчваліся на канапе, прыхіляліся адна да адной і слухалі, пра што гаварылі Юра і Міхал Паўлавіч. А Міхал Паўлавіч заводзіў з Юрам доўгія размовы пра міжнародныя падзеі, пра Юраву прафесію. Юра расказваў яму пра масты. Аб іх ён гаварыў з захапленнем.

— Ты разумееш, што такое мост? Гэта твор мастацтва. Як і кожны твор мастацтва, ён мае свой нацыянальны характар з'яўляецца як бы комплексам, неад'емнай часткаю архітэктуры, уласцівай той альбо другой краіне. Адзін выгляд маюць масты Італіі — яны лёгкія і далікатныя. Ну, як лірычныя вершы. І зусім іншыя масты сярэдневяковай Іспаніі. Гэта ўжо эпічная паэма. Альбо масты Францыі, Парыжа. Колькі ў іх элегантнасці! А ёсць масты-вуліцы, масты-базары...

Міхал Паўлавіч слухаў сына, не зводзячы з яго позірку. Усё, што расказваў сын, было цікава, але самае галоўнае было тое, што гэта расказваў яго сын, што яго сын — дарослы чалавек і такі разумны, харошы.

«Масты, масты» — уздыхае Міхал Паўлавіч. Для яго масты часцей за ўсё былі сродкамі камунікацыі. Ён узрываў тыя масты, па якіх мог прайсці вораг, і спешна наладжваў масты-пераправы для сваіх часцей. Колькі іх, мастоў, прыйшлося ўзарваць за час Айчыннай вайны! Ён тады не думаў, што масты, якія ён узрываў, былі творамі мастацтва. Проста іх было вельмі шкада ўзрываць.

— А масты старой Расіі? — гаварыў Юра. — Яны, як і ўся старая Русь, былі драўляныя. А якія геніяльныя праекты мастоў стваралі рускія вучоныя! Узяць хаця б мост Кулібіна, спраектаваны яшчэ ў васемнаццатым стагоддзі. Праектам Кулібіна захапляліся вучоныя ўсяго свету. Яны называлі Кулібіна вялікім артыстам. Дарэчы, Рэнечка, — павярнуўся ён да Рэні. — Кулібін мае дачыненне і да тваёй спецыяльнасці.

— Ведаю, — хітра прыжмурыла вочы Рэня. — Кулібін зрабіў і цудагадзіннік, велічынёю з качынае яйка. Кожную гадзіну ён званіў, у ім адчыняліся дзверцы, і маленькія артысты паказвалі прадстаўленне, — як вучаніца ўрок, адказала Рэня.



Юра і Рэня не хавалі сваіх адносін ад Антаніны Іванаўны і Міхала Паўлавіча, ад Зоі. Юра заўсёды з нецярпеннем чакаў, калі прыйдзе з работы Рэня. А Рэня, як толькі ўбягала ў хату, адразу пыталася: «А Юра дзе?»

Аднойчы Антаніна Іванаўна завяла Юру ў спальню, зачыніла за ім дзверы, пасадзіла ў крэсла. Юра зразумеў, што маці хоча нешта сказаць яму.

Антаніна Іванаўна падышла да Юры, пагладзіла яго светлыя валасы, пацалавала ў шчаку.

— Шурачка, — загаварыла яна. — А як у вас з Рэняю? Што вы думаеце рабіць... Вы ўжо аб усім дамовіліся ці яшчэ не?

— А яна табе падабаецца, мама? — спытаўся Юра.

— Ды яна мне ўжо як дачка.

— Праўда? — усміхнуўся Юра. — Ну, тады я вельмі рады.

Антаніна Іванаўна расчулілася, у вачах яе бліснулі слёзы.

— Дык, сыночак, — сказала яна, — узялі б вы тады ды зарэгістраваліся... Пакуль твае канікулы, і вяселле згулялі б.

Юра хвіліну сядзеў, збянтэжаны. Пасля падняўся, падышоў да акна. Стаў ля яго і некаторы час пазіраў, заклаўшы за спіну рукі, пасля павярнуўся да маці.

— Дзякуй табе, мамачка, за тое, што ты сказала. Але, ведаеш, — усміхнуўся ён. — Вось скончу інстытут — яшчэ ж усяго паўгода засталося і тады... Тады мы з Рэняй і пажэнімся.

— Што ж, табе відней, сынок,— уздыхнула Антаніна Іванаўна. — Толькі вось паедзеш жа ты зноў. Хай бы Рэня ўжо ў нас жыла. Гэта ж так добра, калі сям'я вялікая.

— Дык яна ў нас і будзе, мама.

## 23

Зіма прыбрала горад на свой лад. Дахі дамоў былі белыя. Галіны дрэў страсалі іней на плечы і на капелюшы прахожых. Звонка гучалі галасы і смех дзяцей, што гулялі ў скверыку. Хлапчукі, выкачаныя ў снезе, на каньках з'язджалі з горкі. Падалі, збіваліся ў кучу і зноў карабкаліся на гару. Юра з Зояй пастаялі, паглядзелі на дзяцей.

— Ведаеш што, давай пойдзем сустракаць Рэню, — сказаў Юра.

— Давай, — згадзілася Зоя.

Калі яны пад'ехалі да завода, з прахадной пачалі выходзіць работніцы. Замільгалі сінія, зялёныя, чырвоныя капелюшы і хусткі. На белым снезе, які прасціраўся вакол, усе колеры здаваліся асабліва яркімі.

У Зоі раптам моцна забілася сэрца. Яна і не думала, што так расхвалюецца тут. З нейкім жалем пазірала на дзверы прахадной. Гэта ж нядаўна вось так канчала рабочы дзень і яна. А цяпер яна тут чужая: стаіць збоку і пазірае, як разыходзяцца дзяўчаты, рассыпаюцца, як пацеркі з ніткі. А заўтра зноў збяруцца разам...

Праходзілі знаёмыя дзяўчаты. Многіх з іх Зоя ведала толькі ў твар. Але кожную хвіліну маглі паказацца з іх цэха, з іх брыгады. І хацелася Зоі ўбачыць каго, і было боязна, і яна то адыходзіла ад Юры, то бліжэй падступала да яго, нібы нават хавалася за яго спіну. А Юра пільна сачыў за дзяўчатамі, выглядваючы Рэню.

— Мы тут яе, чаго добрага, прапусцім, — сказаў ён нарэшце і ўзяў Зою за руку. — Хадзем бліжэй да прахадной.

А вось і Рэня. Русыя кудзеркі выбіліся з-пад невялічкай футравай

шапачкі. Густыя бровы на белым ілбе, як крылы чорнай птушкі. I сама Рэня, як птушка — лёгкая, шчаслівая. Вось убачыла Юру з Зояй, падбегла да іх.

— Ты не стамілася — пазірае ў Рэніны вочы Юра і страсае з яе пляча сняжынкі. — Калі не, то давайце пагуляем.

— Давайце, — ахвотна згадзілася Рэня.

— Але можа ты есці хочаш? Ты ж з работы, — схамянуўся Юра.

— Пакуль што не, — усміхаецца яна, — а вось як пагуляем, то і апетыт разгуляецца.

— Дык ведаеце што, давайце паедзем у горад, пакажыце мне ваш славуты пуцеправод, што каля Дома ўрада.

Былі так званыя «гадзіны пік». На прыпынку тралейбуса стаяла доўгая чарга, але яны неяк селі. Юра з Рэняю пасля прасунуліся наперад, а Зою скора адціснулі на заднюю пляцоўку, у самы канец тралейбуса. Але Зоя не адчувала цеснаты, не звяртала ўвагі на штуршкі і на тое, што стаяць нязручна.

Ёй раптам вельмі захацелася, каб і яна ехала цяпер з работы. Хай бы кожны дзень была вось такая цесната. Гэта ж такое шчасце — быць разам з усімі. Ты, як і ўсе, едзеш з работы, як і ўсе, заўтра пойдзеш зноў. I паслязаўтра...

На прыпынку каля Дома ўрада выходзіла вельмі многа пасажыраў.

— Фу, ледзь даехалі, — папраўляў паліто, шапку Юра. — Як цябе там, сястрычка, не задушылі? — падаў ён руку Зоі, якая апошняй паказалася ў дзвярах.

Яны хадзілі па мосце, любаваліся горадам.

— Чакай, я ніяк не магу сарыентавацца,— брала Рэня Юру за руку.— Гэта якая вуліца? Маскоўская? Ой, не, гэта Бабруйская, — пазнавала яна.— Маскоўская там, у канцы моста. Глядзі, Юра, як хораша тут.

— Вядома, хораша. I горад ваш харошы. Прыгожы горад.

— Дзіва! — радавалася Рэня.

Яны зноў хадзілі па мосце, глядзелі на праспект, абрысаваны лініямі агнёў. Злева велічна ўзвышаўся будынак Дома ўрада. Шэры змрок апускаўся на горад. Успыхвалі неонавыя надпісы. Загараліся фары аўтамашын. I безліч аганькоў — зялёных, чырвоных, сініх пачынала мільгаць на вуліцах. Прыбывала пешаходаў.

Рэня з Юрам жартавалі, смяяліся. А Зоя ішла сцішаная і ўвесь час маўчала. Юра заўважыў гэта.

— А ты, сястрычка, чаму сёння такая невясёлая?

— Ат, нічога. Не звяртайце на мяне ўвагі.

Антаніна Іванаўна не магла дачакацца дзяцей. Яна прыслухоўвалася да кожнага стуку на лесвіцы, пазірала праз акно на асветленую ліхтарамі вуліцу.

— Нарэшце,— з палёгкаю ўздыхнула яна, калі дзеці з'явіліся.— I дзе гэта вы так позна галодныя ходзіце?

Яна адразу кінулася падаваць абед, забегала, замітусілася.

За сталом Рэня і Юра расказвалі, як яны гулялі па горадзе.

Антаніна Іванаўна з трывогаю пазірала на Зою. Не падабалася ёй дачка — нейкая бледная і сумная.

Калі прыбралі са стала і Зоя з Рэняй пайшлі ў кухню мыць пасуду, Антаніна Іванаўна ўздыхнула.

— Бачыце, якая яна... Што гэта з ёй робіцца?

Міхал Паўлавіч кашлянуў, устаў, прайшоўся па хаце.

— Я ведаю, чаму яна такая,— сказаў ён.— Але нічога, уладзім як-небудзь.



— Я, тата, таксама ўсё ведаю,— сказаў Юра.— I думаю, што нам трэба з ёю пагаварыць.

— Я якраз сёння і збіраўся гэта зрабіць.— заявіў Міхал Паўлавіч.

— Толькі не крыўдзіце вы яе,— затрывожылася Антаніна Іванаўна.

— Ну што ты, маці!..— усміхнуўся Міхал Паўлавіч.— Хіба адна ты яе шкадуеш?

Калі дзяўчаты скончылі работу, Міхал Паўлавіч паклікаў Зою:

— Хадзі сюды, дачка. Садзіся. Трэба нам з табою пагаварыць.

Зоіна сэрца ёкнула. Яна адразу здагадалася, пра што будзе гаварыць з ёю бацька. Ну, няўжо ён не мог пагаварыць як-небудзь так, каб не чуў Юра? I разам з тым нейкая надзея засвяцілася ў яе душы. Ёй так нядобра было ўвесь апошні час, так сорамна за сябе, так хацелася адчуць сябе іншым чалавекам... Дык можа зараз,.. цяпер штонебудзь вырашыцца...

Паслухмяна села яна на крэсла, склала на каленях рукі, апусціла вочы.

Гладзіла, распраўляла рукою абрус Рэня.

Антаніна Іванаўна ўся падалася да Зоі, нібы гатовая кожную хвіліну кінуцца дачцэ на дапамогу.

— Зацягнуліся, дачка, твае канікулы,— стараючыся глянуць Зоі ў твар, сказаў Міхал Паўлавіч.

Зоя яшчэ ніжэй апусціла галаву.

— Трэба ж, мусіць, некуды ісці табе працаваць. Як ты думаеш? — гаварыў бацька.

Зоя нічога не адказала.

— Падыімі вочы, дачка,— падышоў да яе Міхал Паўлавіч.— Тут жа ўсе свае. Усе мы любім цябе і дабра табе жадаем. Памагчы хочам. Ну, скажы, куды ты хочаш?

Зоя маўчала.

— Ох, якая ж ты ў мяне,— уздыхнуў бацька.— Бачу я, што зноў ты без мяне не абыдзешся. Але памятай, — бацька цяжка паклаў на стол руку,— гэта апошні раз. Больш я за цябе чырванець не буду. Больш каб ты мне работы не кідала.

Міхал Паўлавіч крыху перачакаў, пасля строга і ласкава, як гавораць з малым дзіцем, якое насвавоіліла, працягваў:

— Сёння я сустрэў аднаго свайго знаёмага. Ён на заводзе медпрэпаратаў працуе. Ім там у лабараторыю патрэбна вучаніца. Я спытаўся, ці не маглі б узяць цябе. Дык ён сказаў, што можна. Работа цікавая. I зарабляць там будзеш добра. Так што дамовіліся?

Зоя зноў не сказала ні слова.

— Ты нарэшце скажаш што-небудзь? — пачаў злавацца бацька.— Хочаш ты ў лабараторыю ці не?

— Не,— адказала нарэшце Зоя.

— Дык чаго ж ты хочаш?— з недаўменнем уставіўся на яе Міхал Паўлавіч.

— Я б хацела вярнуцца на завод, але...— запнулася Зоя.

— А божачкі, — пляснула рукамі Антаніна Іванаўна. — Ты ж казала, што там табе было цяжка...

— Я б хацела вярнуцца,— падняла нарэшце вочы Зоя. Гэта былі Зоіны і не Зоіны вочы. Нешта новае было ў іх.

Зоя і сама здзівілася таму, што сказала. Яна даўно ўжо шкадавала, што кінула завод, але сама не ведала, што ёй так хацелася туды вярнуцца. Толькі калі бацька прапанаваў ісці на іншую работу, зразумела яна, што больш за ўсё ёй хацелася б у цэх, за канвеер.

Некаторы час у пакоі было зусім ціха.

— Як гэта добра, Зоечка,— радасна сказала Рэня. Яна падскочыла да Зоі, абняла яе.— Як добра, што ты хочаш вярнуцца на завод!

— Але не возьмуць мяне, не возьмуць,— з адчаем паглядзела на яе Зоя.

— Хай Міхал Паўлавіч сходзіць да дырэктара, пагаворыць. Вы ж сходзіце, праўда? — паглядзела на яго Рэня.

— А па-мойму, не трэба, каб тата хадзіў, — загаварыў Юра, які дагэтуль маўчаў і толькі прыслухоўваўся да таго, аб чым гаварылі. Цяпер ён неяк выпрастаўся, падцягнуўся і, здавалася, зрабіўся яшчэ вышэй ростам.— Не трэба, каб хадзіў тата,— паўтарыў ён.— Зоя — дарослы чалавек. Яна павінна ўжо адказваць за свае ўчынкі. Сама звольнілася з завода, хай сама цяпер пастараецца і вярнуцца. Другі раз будзе добра думаць, перш чым нешта зрабіць. А то прывыкне ўсё жыццё за нечую спіну хавацца. Ты не крыўдзіся на мяне, Зоя, за мае словы. Але зрабіла ты нядобра, калі пайшла з завода. Цябе вучылі, табе грошы плацілі за тое, што вучылі, дзяржава на цябе спадзявалася... Дык вось, ты сама павінна паправіць памылку.

Юра скончыў гаварыць, прайшоўся па пакоі, спыніўся, чакаючы, што скажа на гэта Зоя, што скажуць астатнія.

— Але не возьмуць мяне на завод, не возьмуць,— прыклала далонь да грудзей Зоя.

— Не возьмуць, тады будзеш думаць, што рабіць далей, а паспрабаваць вярнуцца трэба. Так я гавару, Рэня?

— Дырэктар вельмі добры чалавек, ён прыме цябе, — угаварвала Зою і Рэня.

— Не, ты скажы, ці правільна я кажу, што Зоя павінна сама выправіць памылку?

— Вядома, Юрачка, правільна,— згадзілася Рэня.

— А вы, мама, тата...

— Што ж, няхай паспрабуе,— кінуў недаверлівы позірк на дачку Міхал Паўлавіч.

— Ой, не ведаю, не ведаю,— уздыхнула Антаніна Іванаўна.

Ноччу Зоя доўга не магла заснуць, усё думала, што ёй рабіць. Уяўлялася, як скажа ёй дырэктар: не, мы не можам прыняць вас на завод,— і ёй рабілася сорамна. Але калі ўяўлялася, як і заўтра, і паслязаўтра яна будзе пакутаваць ад думкі, што зрабіла вялікую памылку,— ёй станавілася яшчэ горш. Успаміналіся цэх, дзяўчаты ў белых халатах. Зоі вельмі хацелася зноў туды, да іх. Цяпер яна прыгадвала не тыя хвіліны, калі было цяжка, а тыя, калі ў яе нешта атрымлівалася. Зноў хацелася ўзяць у рукі інструмент. Цяпер бы яна так старалася...

## 24

Назаўтра яна ўстала рана і пачала збірацца на завод. Паглядзела на адну сукенку, на другую, але чамусьці не захацелася апранацца вельмі прыгожа. Дастала чорную спаднічку і сінюю шарсцяную кофтачку, у якой ездзіла ў Калінаўку. Проста зачасала валасы.

Нясмела адчыніла яна дзверы дырэктаравага кабінета.

Іван Іванавіч, нізка схіліўшыся да стала, гартаў нейкія паперы. Калі Зоя падышла да яго, ён падняў галаву і, нібы нешта ўспамінаючы, паглядзеў на яе.

Зоя трымала ў руках заяву, не адважваючыся падаць яе.

— Ну, давайце, што там у вас,— працягнуў Іван Іванавіч руку да лістка. Ён шпарка прабег вачыма напісанае, паклаў лісток на стол, а сам зноў уважліва паглядзеў на Зою.



— Гэта вы мне некалі сказалі няпраўду? — прагаварыў ён нарэшце.— Гэта вы прасілі звольніць у сувязі з пераездам?.. Цікава, цікава,— хмурыў бровы дырэктар.— То вы падавалі заяву аб звальненні з работы і так хацелі пайсці з завода, што нават ашукалі мяне, то зноў прыйшлі з заявай, каб вас прынялі. Як я павінен разумець гэта?

«Адкуль ён даведаўся, што я сказала яму няпраўду? Мусіць, спытаўся ў Ігара Барысавіча, а той у дзяўчат»,— прыйшла думка.

— Чаго ж вы маўчыце?— строга пазіраў на яе дырэктар.— У вас былі якія-небудзь сур'ёзныя прычыны для звальнення?

— Не,— адказала Зоя.

— Чаму ж цяпер вы хочаце вярнуцца на завод?

«Цяпер не варта і прасіцца, не даруе ён мне, што схлусіла»,— падумала Зоя і ледзь не заплакала ад крыўды і злосці на самую сябе.

— Маўчыце. Вазьміце вашу заяву,— падаў ён Зоі лісток.— Я не магу то звальняць людзей, то зноў вяртаць іх. У мяне няма гарантыі, што праз тыдзень вы зноў не прыйдзеце да мяне з заявай аб звальненні.

Зоя, не пазіраючы на дырэктара, узяла паперку, пайшла.

А Іван Іванавіч глядзеў, як павольна, апусціўшы рукі і плечы і неяк адразу абвяўшы, ішла Зоя да дзвярэй. Яна раптам здалася яму дзіцем, якога вось толькі што пакаралі, і яно, разумеючы, што зрабіла нядобра, паслухмяна ідзе, каб стаць у кут і адбываць там сваё пакаранне.

— Пачакайце!..

Зоя аж спалохалася, так нечакана спыніў яе дырэктар. Яна нясмела азірнулася.

— Ідзіце сюды,— паклікаў ён сурова.— Дайце вашу заяву.

Зоя падала яму лісток.

— Перадам вашу заяву ў камітэт камсамола. Хай абмяркуюць яе на сходзе,— паклаў ён лісток на край стала.— Калі вашы таварышы вырашаць прыняць вас назад у свой калектыў, тады і я згаджуся. А не захочуць яны, то і я не залічу вас. Усё... Ідзіце,— важка паклаў ён руку на Зоіну заяву.

Гэтыя дні Зоя жыла, як у сне. Яна ела, апраналася, хадзіла гуляць з Рэняй і Юрам, але рабіла ўсё гэта механічна. Яна ведала, што кожны дзень яе могуць выклікаць на камсамольскі сход. Усе будуць пазіраць на яе, шаптацца паміж сабою. Наўрад ці хто-небудзь заступіцца за яе.

— Не хвалюйся ты так, усё будзе добра,— супакойвала яе Рэня.— Дзяўчаты абяцалі падтрымаць.

Але Зоя ўсё роўна не знаходзіла сабе месца.

І вось гэты дзень прыйшоў. У пакоі адпачынку, дзе звычайна адбываліся ўсе сходы, сабраліся камсамольцы зборачнага цэха. Усе ў белых халатах, толькі Зоя ў чорнай спадніцы і ў сіняй шарсцяной кофтачцы. І ёй здаецца, што ад гэтага яна асабліва прыкметная тут, што на яе ўсе пазіраюць.

Да Зоі цьмяна даходзіць, што адбываецца навакол. Абыякава слухае яна, як расказваюць свае біяграфіі дзяўчаты, якіх сёння прымаюць у камсамол. І толькі калі да стала, дзе сядзеў прэзідыум сходу, падышла Іна Горбач, Зоя крыху здзівілася. «Няўжо Інку Горбач у камсамол прымаюць»,— падумала яна.

Сцяпан Шугалаў, сакратар бюро, вёў сход. Ён стаяў за сталом, невысокі, плячысты. Усе ў прэзідыуме строгія, сур'ёзныя, і Зоіна сэрца ледзянела, як толькі думала яна, што скора, вось зараз, яны пачнуць

гаварыць пра яе. Яна бліжэй падсоўвалася да Рэні, тулілася да яе пляча.

— Дык хто за тое, каб Горбач прыняць у камсамол? — спытаўся Сцяпан Шугалаў.— Аднагалосна. Віншуем вас, таварыш Горбач,— падышоў ён да Іны. Іна неяк нялоўка падала яму руку і скоранька пайшла на месца. Яна села каля Любы, і Валя з Рэняю павярнуліся да яе, павіншавалі.

— Наступнае пытанне нашага сходу — заява камсамолкі Зоі Булат.

Зоіна сэрца страпянулася. Сцяпан Шугалаў чытаў яе заяву, і словы, якія пачула Зоя, здаліся ёй чужымі, незнаёмымі. Проста не верылася, што гэта яна іх напісала.

— Якія будуць меркаванні? — абвёў вачыма залу Сцяпан Шугалаў.

Усе маўчалі. Ніхто не прасіў слова.

— Ну, таварышы, прашу. Справа сур'ёзная.

— Дайце мне слова,— узнялася нарэшце рука.

— Галя Слесарэнка? Калі ласка.

Да стала падышла высокая тонкая дзяўчынка. У яе былі доўгія ногі, доўгія рукі, доўгі, нібы крыху выцягнуты, твар.

— Хацела б я зразумець,— строга пачала Галя Слесарэнка,— што прымусіла Булат напісаць вось гэту заяву,— яна паказала тонкім доўгім пальцам на лісток, які ляжаў перад Сцяпанам Шугалавым. — Ці яна адчула, што без завода не можа жыць, ці адчула, што зрабіла памылку, кінуўшы яго, ці проста так — іншай, лягчэйшай работы не знайшла? Можа яна зноў кіне завод, як толькі з'явіцца на яе гарызонце нешта лепшае, больш выгаднае, — пыталася Галя Слесарэнка, і яе доўгі твар, здавалася, выцягваўся яшчэ больш.— Але, выбачайце, заводу не выгадна браць такую вучаніцу. Заводу патрэбны кадры. Вучаць людзей для таго, каб яны пасля працавалі, а браць вучаніцу, якая праз некалькі месяцаў кіне завод, гэта значыць кідаць дзяржаўныя грошы на вецер,— узмахнула сваімі доўгімі рукамі Галя Слесарэнка. — Завод не можа быць прытулкам для асоб, якія не ведаюць, чым заняцца і пырхаюць з месца на месца. У нас не яслі, не дзіцячы сад, у нас вытворчасць, — строга сказала яна.— Але можа Булат многа думала, перш чым напісаць гэту заяву, — яна зноў паказала на лісток, які ляжаў перад Сцяпанам Шугалавым,— і яе рашэнне ўжо не такое безадказнае, як ранейшае... Тут трэба падумаць,— нечакана закончыла яна і пайшла на месца.

— Та-ак,— устаў Сцяпан Шугалаў.— Хто наступны?

Зноў узнялася рука. Хлопца, які прасіў слова, Зоя бачыла першы раз, але побач з ім сядзеў Жэня. «Значыцца, ён ужо вярнуўся з адпачынку», — пранеслася думка.

Зоя нават не пачула, як прозвішча хлопца, што прасіў слова. А той хутка ішоў да трыбуны, упэўнена, важка ступаючы.

— Вось тут таварыш Слесарэнка правільна сказала, што ў нас вытворчасць, складаная, адказная вытворчасць, — сказаў ён і зрабіў паўзу.— Наш завод лічыцца адным з лепшых у Савецкім Саюзе, а мы павінны дабівацца, каб ён яшчэ лепшы быў. А што самае галоўнае на заводзе? Самае галоўнае гэта людзі, кадры. Для таго, каб завод наш выйшаў на першае месца, нам трэба мець вельмі зладжаны, моцны калектыў. І я лічу, што мы павінны павесці барацьбу за такі калектыў. Не шкадуючы, нам трэба адсяваць дрэнных работнікаў, каб заставаліся ў нас толькі моцныя, выпрабаваныя людзі. А ці будзем мы мець у асобе Булат такога работніка? Я вельмі сумняваюся, бо ўчынкі Булат гавораць не ў яе карысць. Дык ці варта нам прымаць назад у калектыў чалавека, які хутчэй за ўсё будзе перашкаджаць нам ісці



наперад, да камунізма? Я думаю, што не,— рашуча страсянуў ён галавою і пайшоў на месца.

— А ты ў нас для камунізма ўжо гатовы? — прагучэў раптам нейчы голас.

Хлопец спыніўся, як укапаны, і павярнуўся ў той бок, адкуль крыкнулі.

Нехта засмяяўся.

— Ды больш гатовы, чым ты,— пагардліва адказаў ён на выкрык і сеў на месца.

Зоя бачыла, як Жэня нахіліўся да яго, нешта пачаў яму гаварыць усміхаючыся.

— Я прашу слова! — пачулася з апошніх радоў.

Зоя пазнала гэты голас — той самы, які нядаўна кінуў рэпліку.

— Гэта ж Валодзя! — сціснула Зоіну руку Рэня.

А Валодзя ўжо ішоў да прэзідыума. Халат расшпілены, і белае крыссе адлятае назад. Здаецца, што Валодзя не ідзе, а ляціць.

— Таварыш, які выступаў, — пачаў Валодзя, — гаварыў аб тым, што мы ідзём да камунізма. І гэта так. Тут ён сказаў правільна. Але, па-ягонаму, мы павінны адбіраць лепшых людзей і з імі, так сказаць, крочыць наперад, а іншых некуды «адсяваць». А што, хачу спытаць я, у нашай краіне будуць з тымі «высеўкамі» рабіць? Іх куды, на іншую планету адправіць? Не, я думаю, не ў тым заслуга, каб нейкіх выбраных, лепшых людзей у камунізм прывесці. Весці туды трэба ўсіх... Усёй краінаю ісці наперад.— Валодзя на хвіліну спыніўся, уздыхнуў на поўныя грудзі і ўжо крыху спакайней гаварыў: — Правільна, нам трэба змагацца за калектыў, за дружны, працаздольны калектыў, але трэба самім яго і ствараць. Я не хачу апраўдваць Зою Булат. Яна змаладушнічала. Спужалася цяжкасцей і ўцякла з завода. Гэта ганебны ўчынак, не варты камсамолкі. Але цяпер жа яна ведае, на якую работу ідзе. Ведае, што ёй зноў будзе цяжка. Яна хоча паправіць памылку, і мы павінны ёй дапамагчы. Я за тое, каб падтрымаць яе просьбу, каб вярнуць яе вучаніцаю ў зборачны цэх, — заключыў хлопец.

Пасля выступлення Валодзі адразу некалькі рук паднялося ўгору, але да стала, не дачакаўшыся, пакуль дадуць ёй слова, выбегла Валя. Твар у яе гарэў. Вочы сыпалі іскры.

— Я хачу сказаць, — пачала яна, паварочваючыся то да прэзідыума, то да ўсіх прысутных, — хачу сказаць, — яшчэ раз паўтарыла Валя, — што цалкам і поўнасцю далучаюся да Валодзевай думкі. Сёння мы даведаліся, што Зою Булат хацелі ўладзіць на новую работу. Лабаранткай на завод медпрэпаратаў. А яна адмовілася. Захацела вярнуцца да нас. Хіба гэта нічога не азначае? А ён кажа, што трэба адсяваць, — паказала яна пальцам на хлопца. — Можа цябе адсяваць трэба, бо ты толькі што на наш завод прыйшоў, а ўжо камандуеш. Мы яшчэ цябе не ведаем, які ты і ці вельмі ты для камунізма ўжо гатовы. А Валодзя правільна сказаў. Мы павінны памагчы Зоі. Вось вазьміце Горбач. Здаецца, чалавек зусім не падаваў надзеі. Звальняць з работы хацелі. А сёння мы яе ў камсамол прынялі. Нават Ігар Барысавіч цяпер на яе благога слова не скажа. Я прашу... Уся наша брыгада просіць падтрымаць Булат... Мы за яе адказваць будзем, усёй брыгадаю,— скончыла Валя і ледзь не бягом кінулася назад у залу.

Па гоману, па шуму цяпер адчувалася, што сход на баку Зоі. Усім не спадабалася выступленне навічка, а Валодзю ведалі на заводзе даўно, яго паважалі. Спадабалася і гарачае Валіна выступленне. Калі

пачалі лічыць галасы, убачылі, што пераважная большсць была за тое, каб вярнуць Зою ў цэх.

— Вось бачыш, я ж казала, што ўсё будзе добра, — гаварыла Зоі Рэня.

А Зоя сядзела з чырвонымі плямамі на шчоках ад нядаўна перажытага хвалявання. Ёй радасна было, што сход так нечакана выступіў у яе абарону. Адразу знікла пачуццё самоты, якое яшчэ нядаўна гняло яе. І ўпершыню за ўвесь апошні час Зоя ўздыхнула свабодна.

## 25

Зоя вярнулася ў цэх з адчуваннем, з якім выходзяць пасля доўгай хваробы на вуліцу людзі. Усё здаецца тады незвычайна свежым, харошым, радасным.

Калі яна зноў падышла да свайго месца, то спачатку сумелася. Насупраць Рэні сядзела ўжо другая вучаніца, з маленькім, як гузічак, носам. Зоя вырашыла, што Рэня больш не будзе яе вучыць, што яе пасадзяць да каго-небудзь другога. Але Рэня папрасіла Ігара Барысавіча, каб ён дазволіў ёй вучыць і Зою.

— З Зояй мне цяпер будзе мала работы,— прасіла Рэня.

Ігар Барысавіч згадзіўся. І калі Зоя зноў села на сваё месца насупраць Рэні, ёй здалося, што ніколі і не пакідала яна завода.

Ніхто не ўпікаў Зою, ніхто не кідаў насмешлівых позіркаў, і яна была вельмі ўдзячна ўсім дзяўчатам. Ёй хацелася зрабіць для іх нешта добрае, паказаць, што не такая ўжо яна і благая, што не дарэмна яны заступіліся за яе і што не прыйдзецца ім пасля шкадаваць. Але Зоя не ведала, як выказаць гэтыя свае пачуцці, і толькі пільней прыглядалася да баланса, каб нарэшце добра зрабіць яго.

— На рэмантуар, — чуе яна, як перадае па канвееры Люба, і гэтыя словы, такія звычайныя, якія так часта чула Зоя і раней, здаюцца ёй цяпер вельмі харошымі.

— Ну, як ідуць справы? — пытаецца ў яе Валя.

— Нішто, — адказвае Зоя і яшчэ ніжэй нахіляецца да работы.

— У тваёй лупе край адбіўся, яна, мусіць, табе муляе, — кажа Люба. — Трэба папрасіць, каб далі цэлую. У час абеду папросім у Вольгі Мікалаеўны.

— Не, нічога, — кажа Зоя, хоць сама цяпер заўважае, што лупа сапраўды даволі балюча ўядаецца ў пераноссе.

Зоя прыстаўляе і прыстаўляе лінейку да баланса. Нарэшце здаецца, што ўсё зроблена як трэба.

— На, паглядзі, — падае яна работу Рэні.

Рэня закрыла пластмасавым каўпачком падстаўку з камплектам, узяла ў Зоі з рук ляўцыркуль, нахілілася да яго і пачала правяраць баланс.

— Добра. Правільна. Не б'е, — гаворыць яна і кладзе папраўлены Зояй баланс пад пластмасавы каўпачок, да тых, якія сама паправіла.

Толькі цяпер успомніла Зоя, што на гэты баланс яна патраціла не так і многа часу.

«Дурніца, — думае яна пра сябе. — Каб не пайшла тады з завода, ужо на канвееры самастойна працавала б»...

У час абеду да іх брыгады падышоў Валодзя. У руках у яго лісток паперы і аўтаручка.

— Дзяўчаткі, хто прыме ўдзел у паходзе на лыжах?

— Пішы мяне,— адразу просіць Валя.



— Які паход, куды? — пытаецца разважлівая Люба.

— У наш падшэфны калгас. Павязём ім бібліятэчку ў падарунак. Выедзем у суботу пасля работы, там пераначуем і ў нядзелю вечарам вернемся.

— Пішы, пішы мяне,— насядае на яго Валя.

Валодзя паклаў лісток на край канвеера, пачаў запісваць.

— І мяне запішы,— вырашыла тым часам Люба.

— І мяне,— налягае на Любіны плечы Каця.

— А можна, Валодзя,— спыталася Рэня, і твар яе злёгку паружавеў,— можна каб з намі пайшоў адзін чалавек... Ён не з нашага завода. Ён сюды, у Мінск, у госці прыехаў.

— Юра? — радасна глянула на Рэню Зоя.

— Але,— кіўнула яна.

— А што там за чалавек такі? — падняў Валодзя ад лістка хітраватыя вочы. — Ці дужы ён?.. Паможа нам бібліятэчку несці?

— А як мы яе панясём? — спыталася Валя.

— Як панясём? Падумаеш! У рукзакі пакладзем кнігі і — парадак...

— Дык той чалавек, павінна я табе сказаць,— весела гаворыць Рэня,— поўны збор твораў Льва Талстога адзін у Маскву занясе!

Усе засмяяліся.

— Ну, калі так, бяром яго з сабою.

— Тады пішы... Пішы мяне, яго, Зою. Ты ж пойдзеш таксама, праўда?

— А далёка гэта?

— Не прыстанеш, не такая ўжо ты і слабенькая, — сказала Валя. — Ой, дзяўчаткі, — войкнула яна, зірнуўшы на гадзіннік. — Пайшлі абедаць, бо не паспеем, і так ужо аж пятнаццаць мінут прайшло!

— Дык пішыце і мяне, — папрасілася Зоя.

— Абе-едаць, абе-едаць,— заспявала Каця, і ўсе рушылі ў шырокі калідор, які вёў з цэха да выхаду.

## 26

Лыжня выбягала з лесу і роўнай паласою перасякала поле. З-пад старой вялікай елкі, якая шырока раскінула свае цёмна-зялёныя галіны, паказаўся лыжнік. Ён нібы вынырнуў з-пад яе і, выехаўшы на поле, пайшоў шырокім крокам. За першым лыжнікам паказаўся другі, за другім — трэці, чацвёрты, пяты. І здавалася, што не будзе ім канца...

Снег чырвонымі, сінімі, зялёнымі іскрамі блішчыць на сонцы, слепіць вочы, хрумсціць, скрыпіць пад лыжамі, як крухмал. Здаецца, ад яго ідзе пах — пах нечага свежага, чыстага, халоднага.

Лыжня ідзе то роўнаю лясною прасекаю, то паварочвае ўглыб лесу, і тады пачынае вывівацца, абганяць узгоркі, абыходзіць вялікія старыя дрэвы. Вось падбегла яна да маладога ляску, і ажылі стройныя елачкі. А лыжнікі — хто шапкаю зачэпіць галіну, хто рукавіцаю страсе з яе снег, а хто знарок так зачэпіць елку, каб яна густа сыпанула снегам. Вакол вясёлыя галасы, смех.

За лесам — зноў прастор. Нібы вялізныя мядзведзі, укрытыя белымі пярынамі, спяць узгоркі. Іх не разбудзяць вясёлыя галасы лыжнікаў.

Наперадзе Зоі ўвесь час матляецца чырвоны кутас Рэнінай вязанай шапачкі. То аддаляецца, то набліжаецца яе спіна з сінім рукзаком.

Наперадзе Рэні ідзе Юра. Ён у карычневым лыжным касцюме, на галаве — чорная коцікавая шапка са скураным верхам. Гэта шапка

Міхала Паўлавіча. Ён прымусіў Юру надзець яе, каб не змерзлі вушы, бо ў Юры быў з сабою толькі берэт. Рукзак у Юры большы, чым у Рэні, большы, чым у Зоі, але ідзе Юра лёгка, нібы зусім ніякай ношы няма ў яго за спіною. А ў Зоі рукзак крыху адцягвае плечы.

— Пераганя-яю! — чуе за сабою голас Зоя і ў той жа міг бачыць поруч з сабою Валю. Валя некалькі разоў шырока ўзмахнула палкамі, і вось ужо яе спіна наперадзе.

Праз некаторы час Зоя чуе за сабою Кацін голас:

«Добры дзень, задорны вецер,
Добрай раніцы, зямля!
Ходзіць песенька па свеце:
Тра-ля-ля-ля!» —

спявае Каця. Вось і яна ўжо наперадзе. А хутка і песні яе не стала чуваць.

Зою пераганялі і пераганялі. Усё карацей і карацей рабіўся за ёю хвост калоны.

— Ах, такой бяды,— думала Зоя.— Якая розніца, дзе ісці,— наперадзе калоны, у сярэдзіне ці ззаду. Усё роўна ж разам прыйдзем. Не спаборніцтва ж гэта.

І раптам яна пачула блізка за сабою дыханне. Ці пазнала яна гэта дыханне, ці іншым якім пачуццём угадала, але адразу зразумела, што за ёю ідзе Жэня. Аб тым, што і ён прымае ўдзел у паходзе, Зоя даведалася толькі тады, калі ўсе, ужо гатовыя ў дарогу, сабраліся каля корпуса завода. Спачатку яна сумелася. На нейкі міг ей нават расхацелася ісці з усімі. Пасля нейкая злосць ахапіла яе. «А чаму гэта я не павінна ісці? Ён для мяне цяпер — пустое месца»,— сказала яна сабе.

І вось яна чуе яго дыханне за сабою. Зоя пайшла шпарчэй, аднак пярэдні лыжнік быў ужо далекавата, і ёй нялёгка было не толькі пераганяць, але і дагнаць яго. А Жэня не адставаў. Вось ён збочыў з лыжні і пайшоў поруч з Зояй.

«Што яму трэба!..— злавалася Зоя.— Ці не хоча ён прабачэння прасіць. Можа, яму сорамна, што да гэтага часу ні разу не падышоў да мяне, не загаварыў, што не заступіўся за мяне на сходзе... Але хіба ён не бачыць, не разумее, што цяпер я зусім не тая, што мне не патрэбны ні ён, ні яго прабачэнні...» І Зоя стараецца як-небудзь адарвацца ад Жэні, каб не ісці з ім поруч. Хутчэй ішла Зоя, паскараў хаду і ён.

— Не стамілася? — спытаў ён нарэшце.

Зоя павярнула да яго галаву. З ружовага ад марозу і ветру твару на яе глянулі прыжмураныя Жэневы вочы. Не, збянтэжанасці ці сораму ў іх не было. Жэня пазіраў на яе так, быццам нічога паміж імі не здарылася, быццам яшчэ ўчора яны сустракаліся. Ён хітравата і шматзначна ўсміхаўся ёй. І гэта ўсмешка, гэты прыжмураны позірк Жэневых вачэй здаліся такімі агіднымі Зоі, што яна аж скаланулася. Нічога не сказаўшы Жэню, яна з усяе сілы націснула на палкі і рванулася наперад. Жэня, не чакаючы такога рыўка, адразу застаўся ззаду. А Зоя бегла і бегла наперад. Адкуль толькі і ўзялася ў яе сіла. Вось перагнала ўжо дзяўчыну, якая нядаўна ішла перад ёю. Вось дагнала другую. Вось ужо бачыць наперадзе чырвоную Рэніну шапачку. А Зоя ўсё бяжыць, бяжыць.

— Што гэта ты так разагналася? — раптам пачула яна.

Зоя падняла галаву, сцішыла хаду, перавяла дыханне. Поруч з ёю, па цаліне, ішоў Валодзя. Пушыстая яго шапка спераду была ўся белая ад інею. Белыя былі бровы, пабялелі ніткі на шарсцяным шаліку.



Зоі неяк адразу зрабілася спакойна. Нібы яна толькі што ўцякла ад небяспекі.

— Не спяшайся так, бо стомішся, а яшчэ далёка ісці,— сказаў Валодзя.

— Я нічога... гэта я так... трошкі прабегла,— адказала Зоя.

Неяк смела і адкрыта, не баючыся, што можа падумаць Жэня, азірнулася яна назад. Але ён застаўся далёка. Яго нельга было нават разгледзець сярод іншых лыжнікаў.

Валодзя яшчэ некаторы час ішоў поруч, пасля адстаў: яму трэба было паглядзець, як ішла ўся калона.

А Зоя пачала даганяць сваіх. І скора зноў заківаўся перад ёю чырвоны кутас Рэнінай вязанай шапачкі. Зноў убачыла яна дужую Юраву спіну.

І раптам радасць ахапіла Зою. Ёй было радасна ад таго, што перад сабою яна бачыла гэты чырвоны кутас, што наперадзе ішоў Юра ў татавай шапцы, што ў Валодзі зусім белыя ад інею бровы і шалік. А за спіною Зоя чула Кацін голас. Каця, як заўсёды, спявала.





Уладзіслаў **НЯДЗВЕДСКІ**

# ДРУГАЯ СУСТРЭЧА З ШАХЦЁРАМІ

Мал. Г. Скамарохава.

Яны ля дарогі стаяць на абочынах.
У дождж і у замець—спакойныя.
Як зброю,
Сціскаюць рукамі рабочымі
Свае малаткі адбойныя.

Іх твры абвейвае
Вецер гарэзлівы,
І сонца
Садзіцца на шапкі ім.
Яны на зямлі той стаяць,
Што парэзана
Да нетраў знямелых
Шахтамі.

Яны ўзіраюцца ў далі зялёныя.
І зноўку я слаўлю іх вершамі.
Яны цаліну
Узнімалі салёную
Вось тут —
Ля Старобіна —
Першымі.

— Дзень добры, шахцёры, —
Палесся праходчыкі!
Дазвольце паціснуць
Далоні вам!
Я ведаю:
Сёння ў шахты вам хочацца —
Паветра ўдыхнуць
Салёнага.



І рукі да бураў
Прыкласці мазольныя,
Шпуры
Прабурыць адменныя,
Каб выбухаў рэха
Стагнала пад штольнямі,
Крышыла пласты
Каменныя.

Маўчыце?
На вас не крыўдую за гэта я,
Бо справы у вас
Вялікія,
І рад я, што сёння
Сцяжынка паэтава
Сюды мяне зноў
Паклікала.

Да гэтых капроў
Пад чырвонымі зоркамі,
З якімі ніяк
Не расстацца мне.
Да солі,
Што сёння бялее узгоркамі
Ля новай
Пагрузачнай станцыі.

* * *

Дождж надакучлівы
Цэлы дзень пырскае,
Ніткі прадзе ён
Няўлоўныя.
Ціха ў пакоі
У Лаўра Парыйскага —
Шахтапраходчыкаў
Бога галоўнага.

Я да яго,
За парадай,
За ўцехаю.
А ён усміхаецца ў вочы мне:
— Два гады часу,
Вы позна прыехалі:
Мы справу сваю
Закончылі.

Прабілі ствалы
У пласты прамысловыя.
Падбілі, як кажуць, вынікі,
І зараз на месца
Збіраемся новае.
Мы шахты здалі
Калійнікам.

Мы ўсё ім здалі,
Што за час гэты зроблена
Праходчыкаў нашых
Брыгадамі,
А самі —
Другі камбінат ля Старобіна,
Другія ствалы закладваем.

Пакой, мне знаёмы,
Ён крокамі мерае,

А потым жартуе весела:
— Лічыце, для прэсы
Часова памерлі мы:
Такая у нас прафесія!

* * *

Не казачных гротаў
Абрысы і лініі,
Што створаны
Нейчай фантазіяй,
Я прыгадаў,
Як глядзеў на калійнікаў,
Што з клеці
У шахце вылазілі.

Тунэлі. Праходы.
Над рэйкамі коўзкімі
Лямп электрычных
Калючыя водбліскі —
Мне пра метро
Нагадалі маскоўскае,
І кроплі ў цішы
Тут звіняць,
Нібы воплескі.

Мяняецца змена.
Па штрэку асветленым
Спяшаць
Горнай справы
Майстры першакласныя.
На месцы свае —
У забой непрыветлівы—
Заходзяць, нібы
У кватэры уласныя.

Заходзяць, як, скажам,
Вы ў краму заходзіце
Купіць пачак солі
Бялюткай,
Кухоннае.
І справа адразу
Для ўсіх тут знаходзіцца,
Бо соль тут
Не пачкамі мераць,
А тонамі.

Ляжыць яна ў сценах
Расплюшчаным каменем,
Скрыпіць пад нагамі,
Вісіць над галовамі.
Стаю непатрэбным
Паміж гарнякамі я.
Тут — праца цяжкая,
Тут праца — суровая.

Пароды пласты
Парыжэлыя,
Бурыя
Застылі ўгары,
Нібы хмара навіслая.
І гэтую хмару
Сталёвымі бурамі,
Як неба ракетамі,
Хлопцы пранізваюць.

А потым —
Дакладнымі рухамі,
Роўнымі
У соты, што над галавою
Прабітыя,
Падводзяць шнуры
З узрыўнымі патронамі.
Адходзяць...
І стогны гучаць аманітныя.

І хваля у грудзі
Іх штурхае пругкая,
І пыл, як туман,
Скразнякі тут развейваюць.
І солі кавалкі — сырыя і
хрупкія —
Лябёдкі зграбаюць
На ленту канвеера.

Каўшамі звіняць
І скрыпяць яны тросамі,
У штрэк паўвярстовы
Раз-пораз кідаюцца —
Туды, дзе камбайн
Анатоля Андросава
Гіганцкім кратом
У пароду ўядаецца.

Дрыжыць, адступае яна
Прад машынаю.
Ідзе чалавек
Скамянелымі нетрамі.
Тут лічаць адлегласць
Цяпер не аршынамі,
Яе вымяраюць амаль
Кіламетрамі.

І веру я: глыбы,
Што б'юцца і колюцца
Рукамі шахцёраў,
Да працы прывычнымі, —
Праз год на зямлі
Зашумяць буйным коласам
І лягуць на стол
Пірагамі пшанічнымі.

* * *

Машыны сігналяць —
Вітаюцца коратка.
Аўтобус плыве —
Паўнютка нагружаны.
Не пеўні — гудкі
Над абуджаным горадам
Завуць салігорцаў да працы
Напружанай.

Ідуць муляры,
Маладыя тынкоўшчыцы —
Касынкі чырвоныя,
Плацці ў гарошынкі.
Зірнеш на такую —



Адразу захочацца
На пяты паверх
Папрасіцца ў памочнікі.

Як маці дзяцей,
Краны цэглу тут гойдаюць,
Паверхі растуць
Ад фундамента плоскага.
Шмат справы цяпер
У Пятра Старавойтава,
Шмат справы штодня
Тут у Паўла Казлоўскага.

Сваімі рукамі,
Што цэментам, глінаю
Прапахлі, як кажуць,
Да жылкі апошняе,
У першы дом горада
Першым цагліны ён
Закладваў калісьці
Над шэраю пожняю.

А зараз і «Гум» тут,
І клуб ёсць, і клініка,
Не горш ад сталічных
Дамы тут і вуліцы.
Глядзяць тэлевізары
Сёння калійнікі,
У цесных бараках
Яны ўжо не туляцца.

Тут на наваселлях
Каўбасы духмяныя,
Кан'як ёсць венгерскі,
І піва ёсць польскае.
І, як гаварылі,
На кожнага п'янага
Тут ёсць аж па два
Патрулі камсамольскія.

Бялее вакзал,
І сталёвымі рыскамі
Паблісква́юць рэйкі,
Удаль адыходзячы,
Каб беглі сюды
Паязды пасажырскія,
Каб везлі гасцей,
І знаёмых,
І родзічаў.

Цяпер не палеткі
Тут стрэнуць іх шэрыя —
Сустрэне іх горад
Кварталамі новымі.
...Гарняк пасля змены
Пяшчотна прымервае
Шахцёрскую шапку
Сынку трохгадоваму.

Хлапчук на капры
Пазірае,
Не ведае,
Уражаны першым
Знаёмствам сягоння ён,
Што тры веліканы,
Тры волаты гэтыя,
Не больш і не менш —
Аднагодкі ягоныя.

Нясе на руках
Бацька сына па гораду
І дзіўную казку
Расказвае хлопчыку.
Расці, Салігорск!
Хай гадуюцца спора тут
Нашчадкі шахцёраў —
Палесся праходчыкі!



**Язэп КУРАЛІКАЎ**

# АГАНЁК

## Апавяданне

Мал. І. Немагая.

Трактар гудзе неяк зусім ціха, і мяне на плугах закалыхвае, бы ў тых начоўках. А тут яшчэ слота...

Я закурваю, і адразу ж неяк лягчэе на душы.

Пяць гадзін ужо сяджу крукам, нават у нагах ламаць стала. І неба, здаецца, прыціснулася да раллі, такое ж чорнае, жывое, як і яна.

Зямля шоргае пад плугамі. Адчуваю, што зараз будзе дарога: паварот назад, да вёскі.

Мірон заварачвае трактар, і я зноў апускаю плугі.

Спяць мае мілыя Ціханьчыкі. Позна. Толькі далёка, аж у тым канцы вёскі, свеціць адзін аганёк. Я добра ведаю: ён будзе гарэць на стале супраць акна аж да раніцы. Часамі ён ярчэе, нібыта разгараецца — гэта Марына падкруціла кнот.

Спяць мае Ціханьчыкі...

Трактар набліжаецца да вёскі. Саскокваю, махаю Мірону рукой. *Ён тармозіць, незадаволена* бурчыць:

— Ты што гэта? Трэці раз ужо...

— Дай запалак.

Мірон — шчыры, дружбацкі хлопец — кідае карабок і прыбаўляе газу. Ён больш не пытае: ён разумее мяне.



Зноў гойдае мяне на плугах, і я ўспамінаю сваё мінулае.

Самагонку разліваў Сцёпка Чмых. У яго ледзь прыкметна калацілася рука, вочы толькі на момант упіваліся ў шклянку, а потым тухлі, рабіліся халодныя, нерухомыя.

—Каб заўжды было гэтае зелле, — першы сказаў ён, і мы, чокнуўшыся, выпілі да апошняй кроплі.

Я сядзеў побач з Чмыхам на покуце. Насупраць — дробненькі, хараваціты Дзіма Нічыпаронак. Ён паставіў шклянку ўверх дном, тыцнуў відэльцам у скрыль агурка і, закурыўшы, пазяхнуў.

Сцёпкава маці, Аўдуля Лявонаўна, нарэзала сырога сала, падала на стол і стала ля шафы, склаўшы рукі на жываце: яна не п'е — у яе хворае сэрца. Яна кожны раз робіць усё моўчкі, рэдка ад яе пачуеш слова.

— Ты закусвай, — кінуў Нічыпаронку Сцёпка. — Гарэлка — што спірт. На гэты раз старая па майму рэцэпту рабіла, так сказаць.

— Нічога... — Нічыпаронак раптам захмялеў і ўжо ледзь варочаў языком. — Не прывыкаць, сам ведаеш.

Мне смешна, і я непрыкметна штурхаю локцем Сцёпку: наіўны хлапчук ад першай шклянкі асалавеў і выхваляецца. Чакай жа, што ты запяеш потым.

— Вып'ем, Дзіма? — я дастаю грошы. — Дзве пляшкі, Лявонаўна.

Старая, не спяшаючыся, хавае пад кофтачку грошы і ідзе ў каморку.

На нейкі момант мне робіцца няёмка; іх жа Марына давала на «Кнігу карысных парад». Але гонар ёсць гонар: я на ўсё махнуў рукой — нідзе не дзенецца тая кніга.

Пілі, гаманілі.

Дзіму ўжо другі раз блажыла. Твар яго збялеў.

— Бессаромнікі вы, спаілі хлапчаня... — дакорліва ківае галавой Аўдуля Лявонаўна і змаўкае. Цяпер яна будзе маўчаць увесь вечар.

Мне чамусьці весела, хочацца ўвесь час гаварыць, нешта рабіць. І я наліваю.

— Давай, дружа, яшчэ ўрэжам!

А на сцяне гадзіннік адбівае дванаццаць. Гасне электрасвятло. Пакуль Сцёпка запальвае лямпу, я з цяжкасцю падымаю Дзіму: ён, бы мяшок.

Мы выходзім на ганак. Навокал ціха. У мяне пачынае кружыцца галава. У нагах — млявасць.

— Бывай, — абдымаю я Сцёпку. — А Дзіма няхай застаецца ў цябе. Ён не такі ўжо і дрэнны хлопец.

Той вечар я ніколі не забуду.

Марына не спала. Сядзела ля калыскі і плакала. На табурэце, скруціўшыся ў клубок, драмаў кот.

Я ўсміхаўся, закурыў.

«Што ж, у мяне хопіць цярпення. Можаш маўчаць...».

У кутку ля печы азваўся цвыркун. Заварушылася ў калысцы Наташка, і Марына загаварыла да яе: «Спі, маленькая, спі».

Не стрымаўся, пытаю:

— Што ж, маўчаць будзем? Ці каго пахавалі?

— Страшна за цябе, Міша, — раптам злосна загаварыла Марына. — Колькі разоў ты прыходзіш дамоў п'яны. Што ж гэта за жыццё? Каму яно такое трэба?

Я падняўся, стаў хадзіць па пакоі.

— Так... Жыць са мной не хочаш, значыць... Не няволю. Не роўня табе, га? Хто я? Просты калгаснік, а ты — настаўніца. Даўно бачу. Што шукаеш прычыны.

Саджуся за стол. Пад рукі мне трапляецца альбом. Гартаю яго. Натыкаюся на фотаздымак, зроблены пасля нашага вяселля. На ім усміхаецца Марына. Нейкая злосць хапае мяне. Праз якую хвіліну шматкі ад фотакарткі ляцяць на падлогу.



— Не руш! — Марына падбегла да мяне і схапіла за рукі.
Я не стрымаўся і ўдарыў яе.
Заплакала ў калысцы Наташка...
Дзверы я за сабой не зачыняў.



З агародаў у твар дыхнула бульбянішчам і сырой зямлёй: днём прайшоў кароткі лівень. Над поплавам курэў туман, прыблукаўшы аж да вёскі.

Мне было горача. Я зняў з плячэй пінжак, перакінуў цераз плячо і пайшоў на вуліцу.

І тут мне чамусьці здалося, што мы ідзём на Першамай да майго бацькі. Марына смяецца і такая вясёлая-вясёлая. За сталом яна жартуе з маладым настаўнікам Цімохам, вельмі прыгожым і ветлівым.

Я адчуваў, што я тут лішні, і, выбраўшы зручны момант, сказаў гэта ёй.

— Зразумей, Міша. Няўжо ж я буду сядзець, насупіўшыся?

І яна зноў танцавала з настаўнікам, бо я адмовіўся, спаслаўшыся на тое, што ціснуць чаравікі.

А дома, калі я ўспомніў пра Цімоха, яна аж узгарэлася:

— Ты нават ніколі не возьмеш мяне пад руку, калі ідзём па вуліцы!.. Ты...

І пайшло...

Я лічыў сябе самым нешчаслівым чалавекам і зайздросціў Сцёпку, зайздросціў Дзіму Нічыпаронку. Вольныя, ім ніхто ніколі не ўказвае. Ім не трэба спяшацца дадому, іх ніхто не будзе ўпікаць, што прыйдуць позна...

Раніцаю маці перанесла мае рэчы да сябе. Прысела побач ля мяне на ўслон, паківала галавой.

— Эх ты. Не казала я раней табе. Думала, твая справа. Маўчала... Не падабаецца яна мне. Не пáра табе. Хто ты? Звычайны. А яна... Адукаваная...

— Не трэба, мама...

Толькі бацька не сцярпеў:

— Ты, Хрысціна, не старайся яго выгарадзіць. Вырас балбес на нашу галаву, скажу я табе. Спутаўся з той хэўрай...

Бацьку я змоўчаў.

У суботу мы паспрачаліся з Міронам.

— Адумайся. Што ты, нарабіў? — крычаў той усё на мяне.

— У мяне свая галава на плячах... — адказаў я тады яму.

У той жа дзень вечарам у клубе было кіно.

Сцёпка прыйшоў пазней, адшукаў мяне і адразу ж зашаптаў:

— Ёсць справа, не пашкадуеш.

— А што там?

— Пасля. Дамовімся пра ўсё ў мяне.

— Ды кажы ты...

На нас зашыкалі з усіх бакоў, і Сцёпка стаў глядзець на экран.

Але тут успыхнула святло: мянялі стужку. І зусім нечакана наперадзе я ўбачыў Марыну. Яна сядзела адна ля акна. Без Наташкі. Зноў застракатаў апарат, але я ўжо не мог сядзець спакойна.

— Ды ну яго, Сцёпка. Пойдзем адсюль.

— І праўда...

Аўдуля Лявонаўна спала, і мы доўга будзілі яе, стукаючы ў дзверы. Селі за стол. Дзіма дастаў папяросы.

— Значыць, ты зноў халасцяк? — пытае ён. — З чым і віншую... Наогул, я лічу, што жанчыны атрымалі многа праў, кхе-кхе...

— Ты што гэтым хочаш сказаць?

— Так, к слову прыйшлося...

Тут Сцёпка раптам нахіліўся да мяне і загаварыў:

— Ёсць работка. Сёння размаўляў па тэлефоне з «дзедам». Бярэ нас з сабой у Чарнігаў. Паедзем ставіць хаты. Цесляры там — дэфіцыт. Дзіма згадзіўся, а ты?

— А я вольны чалавек...

— Тым больш. Заўтра павінны быць на станцыі... Ну,за поспехі!

Мы зноў выпілі.

«Дзед» — камлюкаваты мужчына з чорнай чупрынай і мясістым носам моцна паціскаў рукі мне і Дзіму. Сцёпку ён добра ведаў.

— Я — Сяргей Капітонавіч. А прозвішча кароткае — Швац. Білеты я ўжо ўзяў. Са мной не прападзеце.

— А гора цяпнем... — хіхікнуў Дзіма.

Швац нахмурыўся, зірнуў на Сцёпку.

— Жартуе, — адказаў той. — Ты, Нічыпаронак, прыкусі язык. Так лепш будзе. — І шапнуў яму: — Не лезь, смаркач, на ражон!

Сякеры і інструмент паклалі мы ў мяшок, даручылі яго Дзіму. Швац стаяў на пероне і ўглядаўся ўсё з-пад рукі на захад.

— Ідзе, нарэшце, — сказаў ён. — На чатыры мінуты позніцца.

У вагоне было свабодна, і мы занялі дзве лаўкі ля акна. Дзіма закінуў торбу на полку. Хутка поезд крануўся, і насустрач пабеглі прыстанцыйныя пабудовы, нафтабаза, лесазавод. Колы выстуквалі: «Куды едзеш? Куды едзеш?..» і мне зрабілася трошкі сумна, трывожна...

— Значыць, такія справы, — задаволена пацёр рукі Сцёпка. — Перакусім, Сяргей Капітонавіч?

— Гэта можна. А заадно і пагутарым. Сыдземся, як кажуць, бліжэй.

У другім канцы вагона смяяліся: там іграў на старым баяне цыган і гучна спяваў:

Я кажу ёй: «Дарагая,
Глянь, які плыве блакіт!..»
А яна рукой махае,
Шэпча мне пра пірагі.

— Ой, памру! Ой, трымайце мяне! — крычаў хлопец у цяльняшцы і ажно прысядаў, хапаючы за плечы дзяўчат.

— У Сібір едуць на металургічны,— кіўнуў у іх бок Швац і адкроіў ладны кавалак каўбасы. — Ін-ту-зі-ас-ты. Цяпер гэта модна.

— Славы шукаюць, — падтакнуў яму Сцёпка. — А мы і без яе якнебудзь памаленьку, ціха.

Есці мне не хацелася.

Пагрукваў на стрэлках вагон. За акном было хараша, свяціла сонца. Здавалася, пайшоў бы далёка-далёка сярод жытоў па полі.

— Значыць так, — Швац выцер губы і бараду памятай газецінай. — Працуем падзённа. Тыдзень адрабіў — гані грошы... Ты тут, Сцёпка, глядзі, а я забяруся ды захрапу... — і ён спрытна ўскочыў на верхнюю полку.

Ох, мілёнак-сакалёнак,
*Перастань жа ты фарсіць:*
Есці хочаш смачна, сыта,
Будзеш цеста мне мясіць.

— Га-га-га! Ой, трымайце мяне! — даносілася з другога канца вагона.

— Значыць так, — у тон Швацу сказаў Сцёпка, дастаючы з кішэні новенькую запісную кніжку і хімічны аловак. — Падлічым сёе-тое. Падсоўвайцеся бліжэй.



Я не слухаю, гляджу ў акно: мне сумна.

— Здорава! — першы аж загарэўся Нічыпаронак. — Падумаць толькі!

— А ты? — запытаў Сцёпка.

Я маўчаў.

— Не забывайце, што нас будуць карміць, — азваўся Швац і звесіў галаву. — Арганізуй, Сцёпа, пагрэць нутро.

— Гэта мы зробім, на першым прыпынку.

Я выйшаў у тамбур. Пакурыць, сабрацца з думкамі.

Поезд пачаў збаўляць хаду: наперадзе — раз'езд. Сцёпка выбег з вагона, прыкурыў ад маёй папяросы.

— Не вешай нос. За кошт «дзеда» сёння... Расшчодрыўся, — і, расчыніўшы дзверы, ён саскочыў на падножку.

Мне, як ніколі, хацелася быць аднаму.

Вясёлыя Ключы нас спаткалі рыпам калодзежаў. Яны невялікія, гэтыя Ключы, толькі сорак гаспадарак, і самая дальняя брыгада ў калгасе.

Швац ішоў і пасмейваўся. Гэты чалавек адчуваў сябе тут, што рыба ў вадзе. Нічыпаронак нёс за плячыма торбу і стараўся не адстаць ад яго.

— Вунь ля той хаткі ляжаць калоды, — кіўнуў Швац. — Жыве там удава, ведаю. Туды і завернем.

На ганку нас сустрэла гаспадыня з чыгуном у руках.

— Добрай раніцы, маладзіца, — прывітаўся Швац, акідваючы позіркам двор. — Цесляры мы. Так сказаць, калі трэба, можам сёння ж прыступіць да работы.

Жанчына заспяшалася, паставіла чыгун на ганак, выцерла рукі аб фартух.

— Заходзьце, людзі добрыя, — запрасіла яна.

У хаце пахла паранымі буракамі, на стале стаяла міска з бульбай і збанок малака.

— Няважна жывеш, э-э... Як жа цябе зваць-велічаць? — Швац прысеў на ўслон, адсунуў збанок на сярэдзіну стала.

— Гарпіна, па бацьку Ягораўна.

— А я Сяргей Капітонавіч. Гадоў сорак хата стаіць?

— Трыццаць дзевяць, — адказала гаспадыня. — Гэта як збудаваў нябожчык бацька, дык нават не перасыпалі. Ледзь чаўрае... Сядайце, хлопцы. Загаварылася я, не запрасіла нават. Цэлы пераварот у хаце, хлеб думаю ўчыняць.

— Адна жывеш?

— Не, дачка працуе на чыгунцы праваднiцай, а я па гаспадарцы сабе таўкуся. Шэсць год, як выключылі з калгаса. Ды я і не бядую. Дачка штомесяц прынясе колькі, а там раз-другі праеду ў горад. Так яно патроху і жывецца.

Сцёпка падмігнуў мне, паказаў вачыма на сцяну, дзе віселі фотаздымкі. Мы пачалі разглядваць. У цэнтры — вялікі партрэт Гарпіны Ягораўны, маладой, прыгожай. Справа ад яе — круглатвары мужчына ў вайсковай форме з маленькімі вочкамі, мусіць, мужык. Рамкі далікатныя, пафарбаваныя ў зялёны колер.

— А гэта ваша дачка? — запытаў Нічыпаронак і тыцнуў пальцам у картку.

— Ага, яна, — азвалася Гарпіна Ягораўна. — Зусім нядаўна фатаграфавалася, у горадзе. Праўда, яна ў мяне ўдалася?

— Так сказаць, як дзве кроплі вады, — адказаў Сцёпка.

— А то мужык. Таксама цясляр быў. Не вярнуўся з вайны.
Швац сядзеў насупіўшыся і глядзеў на вуліцу. Думаў.
— Многа ў вас тут будавацца думаюць? — спытаў ён і забарабаніў па стале пальцамі, тоўстымі, кароткімі.
— Ім што... Ім калгас вывез лес, і калгас будзе будаваць. А мне трэба, не ў крыўду вам сказаць, раскашэльвацца. І, ведаю, нямала запросіце. А дзецца некуды...
— Затое сама сабе гаспадыня, — ледзь прыкметна ўсміхнуўся Швац.
— Усё жартуеце, Сяргей Капітонавіч. — сказала Гарпіна і выйшла, спаслаўшыся, што ёй трэба карміць парсюка.
— А дачка ў яе нішто, — выскаліўся Нічыпаронак.
— Цыц! — раптам крыкнуў Швац. — Балбесы вы, не заўважаеце, так сказаць, нічога. З кожным днём нас, вольных цесляроў меншае... А вам дзеўкі... — Ён засоп і плюнуў на падлогу.
Нічыпаронак змоўк. Тады Швац ужо цішэй дадаў:
— Нічога, паставім тут адну хату і пададзімся далей ад чыгункі.... А баба — скнара і гультай. У хаце бруд усюды.. Не!
Па вуліцы прагналі кароў, праляскаў пугай пастух.
— А ты чаго такі сумны? — шапнуў мне Сцёпка. — Можа, дом успомніў? Нічога, перабаліць. Ні адзін яшчэ не памёр, пакінуўшы жонку... Давай лепш выйдзем ды пасядзім на двары. А то тут дыхнуць нечым. Ды і «дзед» любіць без сведак.
Гарпіна Ягораўна саступіла нам у сенцах дарогу, прагугніла:
— Зараз я падрыхтую перакусіць....
... Увечары прыехала яе дачка Рагіна..

Тры дні праляцелі хутка.
У працы прытупляецца боль.
Пахла смалой-жывіцай, з-пад сякеры ляцелі трэскі. У гэты момант ні пра што не хацелася думаць.
Мы са Сцёпкам часалі на вуліцы бярвенне, а Швац з Нічыпаронкам у двары рыхтавалі падмурак: яны ўжо клалі цэглу.
Сцёпка ў адной майцы. Яна аблягае яго спіну, белая, новенькая, не тое, што ў мяне, звісае на жываце, бы туды насыпалі яблык.
— Мо перакурым? — пытаю я.
— Даўно пара,— згадзіўся ён і, падышоўшы, прысеў на бервяне.— Гадзіны дзве не курылі, бадай.
Парыць. На небе ні воблачка. Скачуць на правадах вераб'і.
— Ведаеш, Мішка, люблю памахаць сякерай, — Сцёпка хітравата зірнуў на мяне. — Ёй можна адбіваць рублі, як тыя трэскі. Самы надзейны спосаб. «Дзед» усё сваё жыццё пражыў так, паўсвета аб'ездзіў. — І цішэй дадаў: — З Рагінай спрабую закруціць любоў. А вось і яна ідзе... Маё прывітанне табе, Рагіна.
Дзяўчына ўсміхнулася, памахала рукой і прайшла міма.
— Ты паглядзі, што за ногі ў яе. Вытачаныя, так сказаць. А фігурка — во!

Спалі мы ў хляве, на сене.
Швац свістаў у нос, Нічыпаронак скруціўся ў клубочак і ціха соп.
Сцёпка з Рагінай пайшлі ў клуб.
Мне не спалася. Навязваліся ўспаміны.



...Мы з Міронам сядзім пад вішнямі. Дзесьці блізка, узбіраючыся на кветку, гудзе чмель. Мне хочацца пайсці куды далёка-далёка і быць аднаму, хочацца ўслухоўвацца ў цішыню і марыць, бясконца марыць.
«Марына мая, Марына»...
Мірон час ад часу пазірае на мяне і ўсміхаецца. Ён усё ведае, мой сябар. Ён гаворыць:
— Харошая яна, — і маўчыць.
«Харошая... Самая найлепшая!» — думаю я, і перад вачыма ўстаюць мае дарагія Ціханьчыкі, школа, дзе працуе яна, Марына, дзе жыве мая маленькая дачка Наташка...
Швац заварушыўся, пасля захроп. Я прыслухаўся. Пасля крадком злез з сена, выйшаў за вароты.
На паўстанку пераклікаліся паравозы.
«Я яшчэ паспею на свой поезд....»

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Трактар гудзе, і мяне на плугах закалыхвае, бы ў тых начоўках.
Спяць мае мілыя Ціханьчыкі. Толькі далёка свеціць адзін аганёк.
Саскокваю з плугоў, бягу наперад, спатыкаюся. Мірон рэзка тармозіць.
— Што табе трэба?
— Дай запалак....
Ён пачынае злавацць на мяне.
Я закурваю і доўга-доўга гляджу на аганёк у вёсцы.
Мірон кліча мяне.





*Анатоль Сербантовіч нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Ордаць Шклоўскага раёна на Магілёўшчыне ў сям'і настаўніка. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў у саўгасе.*

*Цяпер вучыцца на другім курсе філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.*

*У «Маладосці» выступае ўпершыню.*

**Анатоль СЕРБАНТОВІЧ**

## РАДНЯ

Дарогі,
Дарогі,
Дарогі
На тыдзень і на паўдня...
Куды б ні занеслі ногі —
Усюды ў мяне радня.

Пайду па вясновай дарозе,
Па клейкай, як воск, гразі,—
Шафёры ў кабіну возьмуць,
З якімі мяшкі грузіў.

А там, дзе асмужвае губы
Мароз у глухой тайзе,
Сустрэнуць мяне лесарубы,
З якімі пуд солі з'еў.

І ў снежных краінах горных,
І там, дзе пяскі адны,
І нават у Афрыцы чорнай
Хапае ў мяне радні.



Дарогі,
Дарогі,
Дарогі
На тыдзень і на паўдня...
Куды б ні занеслі ногі —
Усюды ў мяне радня.

* * *

За вучобай я так запарыўся
І ўсё хвілі чакаў, калі
Я паеду туды, дзе парасткі
Прадзяўбалі кару зямлі;

Дзе вясною ключом
журавуліным
Адмыкаюцца сінія высі,
І на сцежках табун ласіны
Сотні месяцаў высек;

Дзе ў жніўні лысеюць арэхі,
І дзе вышыты кветкамі пожні,
Дзе у лесе зайздросным
смехам
Адгукнуцца дзяцінства можа;

Калі стоміцца дзень і
сцішыцца,
То ніяк не заснуць да зары,
Дзе мелодыі самі пішуцца,
Як аркестры, грымяць бары.

* * *

Вурчыць у небе навальніца,
А там, дзе шэпчуць каласы,
Як лук, вясёлка над пшаніцай,
Маланак жоўтых паясы.

Жыты — у рост,
Ячмень — па пахі,
Ручай разліўся, нібы Сож...
Стаяць і ловяць дождж казахі,
Ды скача ртуццю з рук іх
дождж.

Хоць ручаі ужо у мыле —
Цярусіць неба і цярусіць.
І хлопцы разам з старажылам
Малюнкі ўспомняць Беларусі,

Дзе ад вады ўзбухае поле,
Са стрэх прадуцца капяжы.
Бывае часам, калі пойдуць,
Ідуць па месяцу дажджы.

А гром ударыць дык ударыць,
Ажно зямля ўся задрыжыць.
І чыркаюць запалкі хмары,
Каб паглядзець,
дзе болей ліц...

* * *



У коней пабялелі вейкі,
К дарозе прыкіпелі палазы.
Скідалі лесарубы целагрэйкі
На лёгкія прамёрзлыя вазы.

Ашпарвала халоднае паветра.
І станавіліся лясіны на дыбы,
Пругкім, наляцеўшым ветрам
Расчэсвалі свае чубы.

І цягачы на гусеніцах-лапах
Паўзлі цераз сумёты да
ствалоў.
Заціснуўшы камлін ахапак,
На тросах іх вялі да штабялёў

А з-пад далоні маладога вецця,
На дыбачкі пастаўшы, хвайнякі
Глядзелі, як пакінутыя дзеці, —
Куды гэта пайшлі бацькі?



# На арбіту камунізма

*«Камунізм — гэта маладосць свету, і яго будаваць маладым», — сказаў калісьці Уладзімір Маякоўскі. І гэты славуты час надышоў: разам з усімі савецкімі людзьмі слаўная моладзь нашай рэспублікі вядзе вялікае працоўнае змаганне за хутчэйшы выхад краіны на арбіту камунізма.*

*У гэтым раздзеле нашага часопіса мы будзем друкаваць нарысы, карэспандэнцыі, рэпартажы, пісьмы сваіх чытачоў аб тым, як штодзённай самаадданай працай маладыя будаўнікі камунізма здзяйсняюць прынятую XXII з'ездам КПСС новую Праграму роднай партыі, як рыхтуюць яны сябе для таго, каб жыць у камуністычным грамадстве.*

**Уладзімір МЯЖЭВІЧ**

## СЭНС ЖЫЦЦЯ

**Нарыс**

У кішэні ўжо ляжаў білет, і ўсё ж Сяргей хваляваўся — баяўся спазніцца на цягнік.

— Паспееш, — супакойвала мужа Ніна Яфімаўна, — да поезда яшчэ дзве гадзіны...

— Галоўны інжынер усіх папярэдзіў, каб загадзя сабраліся, — сказаў Сяргей і, развітаўшыся з жонкай, паімчаўся да аўтобуса.

Сяргей хадзіў па вакзале, шукаючы знаёмых, як раптам яго паклікалі — гэта былі старыя знаёмыя па рамеснаму вучылішчу.

— Куды гэта, Сяргей, сабраўся?

— У Мінск, на нараду... Асабіста запрасілі!..

Настрой у Сяргея быў цудоўны. На яго адкрытым разгарачаным твары радасцю свяціліся разумныя шэрыя вочы. Сяргей быў апрануты ў светлы плашч; капялюш і модны гальштук таксама былі яму да твару.

У Мінск, на нараду, ехалі прадстаўнікі фанерна-запалкавага і лесахімічнага камбінатаў, мэблевай фабрыкі і дрэваапрацоўчага камбіната. Сярод іх было многа інжынераў. Сяргей быў ледзь не самы малады ў гэтай групе, але трымаўся ўпэўнена.

Абвясцілі пасадку, і хутка родны Гомель застаўся за вокнамі вагона. Сяргея гэта паездка асабліва хвалявала.

У купэ ўвайшоў галоўны інжынер камбіната, дзе працуе Сяргей. Прысеўшы побач з ім, загаварыў:

— На мой погляд, вам, Ранчукоў, трэба будзе выступіць на нарадзе... Падзяліцеся вопытам. Вашы прапановы па механізацыі ручных працэсаў маюць вялікую каштоўнасць. Прадумайце сваё выступленне. Добра?

— Добра.

Ужо было позна. Сяргей распрануўся і лёг. Але яму не спалася. Вагон павольна пагойдваўся, ціха



**Кончылася змена. У цэху засталіся двое — Сяргей Ранчукоў і Георгі Апанасавіч Васіленка.**

ўздрыгваў на стыках рэек. Неяк добра думалася.

* * *

... Сяргей з маленства ўпадабаў тэхніку. Бацька яго быў кваліфікаваны слесар па металу.

— У кожнага чалавека, — любіў паўтараць Ранчукоў-старэйшы, — ёсць талент, толькі не кожны разумее, што стараннасць — родная сястра ўсякага таленту. Працай шліфуецца талент.

Сяргей пераняў ад бацькі любоў да працы, глыбока засвоіўшы бацькаву думку аб тым, што сапраўдны металіст заўсёды павінен жыць творчымі пошукамі.

Яшчэ ў рамесным Сяргей думаў пра тое, як змайстраваць такую фрэзу, якою можна было б за адзін і той жа час апрацаваць больш дэталей. Ужо тады ён чытаў шмат тэхнічнай літаратуры, прыглядаўся да працы лепшых фрэзероўшчыкаў.

Сяргей Ранчукоў прыйшоў на Гомельскі дрэваапрацоўчы камбінат восем гадоў таму назад, калі там выраблялiся звычайныя колы для вазоў.

У яго запыталі:

— Вы ж металіст. Дык чаму да нас?

Сапраўды, чаму б Сяргею не пайсці на завод імя Кірава, на «Гомсельмаш»? Там для фрэзероўшчыка — шырокае поле дзейнасці. А тут што? Але ў памяці ўсплылі словы сакратара райкома камсамола: «Таварыш Ранчукоў, на дрэваапрацоўчы камбінат патрэбны добрыя фрэзероўшчыкі. Пойдзеце?» «Вядома, пайду», — адказаў ён тады.

Нецікавая гэта справа — тарцаваць утулкі. Але хутка камбінату прапанавалі пераключыцца на выраб мэблі, попыт на якую ўзрастаў з кожным днём.

Спатрэбіліся новыя станкі, прэсы, аўтаматы, канвеерныя лініі. Нельга ж было рабіць мэблю пастарому, ручным спосабам. І механічны цэх, дзе працуе Сяргей Ранчукоў, з дапаможнага становіцца на камбінаце, бадай, самым галоўным, вядучым. Замест утулак і іншай драбязы тут пачалі вырабляць абсталяванне для выпуску мэблі. З'явіліся самыя разнастайныя машыны і механізмы.

Гудуць станкі. Нястомныя фрэзы выкідаюць каскадамі стружку. Ля аднаго са станкоў — Сяргей Ранчукоў. Яго і захапляе гэты знаёмы гул і хвалюе. Бадай усё, што зрабіў і прыдумаў Сяргей, нарадзілася тут, у родным цэху. На думку Сяргея, паміж рацыяналізатарам і, скажам, паэтам, ёсць нешта агульнае. У рацыяналізатара, як і ў паэта, спачатку нараджаецца мара. На першай ступені яна яшчэ няясная, неакрэсленая. Але нейкая неадольная сіла прымушае чалавека ўсё больш і больш аддаваць ёй часу, думаць, займацца ёю. І хутка мара набывае пэўныя абрысы, выліваецца ў нейкі канкрэтны план.

Калі паэтам валодае, скажам, жаданне напісаць верш пра мора, то ён павінен убачыць гэтае мора на свае вочы. Інакш у радках чытач не адчуе плёскату хваль. Паэт думае, шукае вобразы, працуе над кожным радком. Бадай правільна будзе сказаць, што паэт выношвае свой верш, як маці дзіця.

Тое ж самае робіць і рацыяналізатар.

Ідзе Сяргей па цэху і бачыць, як некалькі станкоў апрацоўваюць адну і тую ж дэталь. Марна траціцца час. Нізкая прадукцыйнасць працы. А Ленін жа сказаў: для перамогі новага грамадскага ладу рашаючае значэнне мае іменна прадукцыйнасць працы. Мусіць жа можна зрабіць так, каб дэталь поўнасцю выраблялася на адным станку? Можна, але для гэтага патрэбна мець шматшпіндальны станок. Ад кожнага з трох станкоў трэба ўзяць усё лепшае і зрабіць адзін.

І мара захапіла Сяргея Ранчукова. Дзе б ён ні хадзіў, што б ні рабіў, а той станок-мара не выходзіў з галавы. Параўнальна лёгка ўдалося прыдумаць, як зрабіць за адзін праход свідраванне некалькіх адтулін у гарызантальнай плоскасці. А вось аднадчаснае свідраванне ў вертыкальным напрамку — ніяк не давалася.

...Сяргеева сям'я за абедам. Побач з бацькам сядзіць малодшы сын Саша, а далей Воўка, Ніна Яфімаўна — жонка. Сяргей чэрпае лыжку за лыжкай і зусім не глядзіць у талерку. Усе дні ён шукаў рашэння, а яно ніяк не давалася. Нешта плавала перад вачыма, як у тумане. А зараз раптам нібы сонечны прамень выхапіў з цемры гэтае прыстасаванне і так высвяціў яго, што праступіла кожная драбніца. Сяргей прыплюшчвае вочы, каб прыпомніць усё, што яму адкрылася.

— Сярожа, што з табой? — трывожна пытаецца Ніна Яфімаўна.

— А што?

— Ты хворы, ці што? Нейкі позірк у цябе дзіўны...

— Не, нічога, дальбог, нічога... Гэта так... Я зусім здаровы...

Жонка з дакорам глядзіць на Сяргея. Ну, хіба ж можна так забіваць галаву? Яна нічога не гаворыць, але Сяргей умее чытаць жончыны думкі. Што зробіш, абед можа і пачакаць, а вось тое, што зараз яму адкрылася, трэба неадкладна занатаваць. Ён хапае сшытак і пачынае нешта чарціць.

— Зноў чарцёж, — уздыхае жонка.

Каб супакоіць яе, Сяргей коратка расказвае пра задуму. Ніна слухае, а сама прыгадвае не адзін такі выпадак, калі і ў кіно Сяргей раптам даставаў з кішэні блакнот і пачынаў, спяшаючыся, нешта занатоўваць у ім.

...Рацыяналізатару аднаму працаваць цяжка. Лепш, калі за справу бярэцца хоць невялікая група. У гэтым Сяргей пераканаўся, калі



**Чалавек творчых пошукаў Сяргей Ранчукоў.** Фота **А. Дзітлава.**

лёс звёў яго з былым слесарам, а цяперашнім майстрам Сяргеем Карагіным. Яны разам працавалі над стварэннем аўтамата па зборцы раяльнай пятлі. Спачатку ўсё ішло добра, і здавалася, што яны папсяхова знайшлі патрэбнае рашэнне, але гэта было не так. У іх атрымаўся аўтамат-ціхаход. Трэба было павялічыць яго хуткасць у тры-чатыры разы. І гэтая задача ніяк не давалася. Кансультантаў было шмат, але справа з месца не зрушвалася.

Тады і прыгадаў Карагін свайго знаёмага Георгія Апанасавіча Васіленку, кемлівага вынаходніка. На яго думку, Васіленка абавязкова дапамог бы ў такой справе.

— Звернемся да яго! — усклікнуў Ранчукоў.

— Бачыш, якая штуковіна, — паскроб патыліцу Карагін, — да яго дабрацца не лёгка. Ён на вайсковай службе.

— А ў цябе ёсць яго адрас?

— Знойдзецца...

Каб справа ішла пра што асабістае, то Сяргей, можа, і не падумаў бы шукаць гэтага Васіленку. Як-небудзь абышлося б. А тут жа калектыў зборшчыкаў чакае аўтамата! З-за недахопу раяльнай пятлі прастойваюць мэбельшчыкі. Яны не выконваюць свайго абавязацельства, хвалююцца. Бадай кожны дзень хто-небудзь з іх заглядвае ў металацэх.

— Ну, як з аўтаматам?

Што мог сказаць Сяргей? Што мог сказаць Іван Аляксеевіч Чумак, начальнік цэха, да якога яшчэ часцей звярталіся з такім жа запытаннем. Абодва яны паціскалі плячыма:

— Не выходзіць...

У вачах таварышаў Сяргей чытаў дакор: «Эх вы, рацыяналізатары! Наабяцалі, а дзе ён, той ваш аўтамат? Мы, як і раней, рукі мазолім!»

І вось Сяргей сустрэўся з Васіленкам — немаладым, ветлівым афіцэрам.

— Чуў, чуў ад Карагіна пра вас, — сказаў ён і працягнуў моцную руку. — Вельмі добра, што вы да нас заглянулі.

Трапляюцца ж людзі, якія з першага слова выклікаюць да сябе прыхільнасць і павагу. Гэта, звычайна, людзі простыя, адкрытыя, шчырыя. Яны не хаваюць ад кожнага, хто ідзе да іх за дапамогай, свае веды, свой вопыт. Наадварот, яны цябе сустрэнуць сардэчна, шчыра. Нават узрадуюцца, калі іх парада пойдзе на карысць агульнай справе. Гэта такія людзі, якія на справе выконваюць запавет новай Праграмы КПСС, дзе сказана, што чалавек чалавеку — сябар, таварыш і брат.

Васіленка сустрэўся з Сяргеем, нібы з родным братам. Ён распытаў пра аўтамат, над якім працуюць яго сябры, а потым даў некалькі парад. Гэтыя парады былі як бы і простыя, але для Ранчукова — сапраўднае адкрыццё. Захоплены гэтай сустрэчай, Сяргей усклікнуў:

— Вось каб мне з вамі папрацаваць!..

Васіленка ўсміхнуўся:

— Думаю, што такая магчымасць будзе. Вось пайду хутка ў запас, і тады разам папрацуем. Вось толькі яшчэ не вырашыў, куды ехаць? На сваю Украіну, ці застацца ў Беларусі. Мая жонка — беларуска. Яна мяне агітуе паехаць у Гомель. Як думаеш, Сярожа, для мяне работа знойдзецца?

— Жартуеце, таварыш капітан? — шчыра здзівіўся Сяргей.

— Не, я сур'ёзна.

— Тады, Георгі Апанасавіч, калі ласка да нас, на камбінат. У нашым калектыве такія людзі вельмі патрэбны.

І праз некаторы час здарылася так, што Георгі Апанасавіч прыйшоў на камбінат, стаў працаваць слесарам. Пры першай жа сустрэчы Ранчукоў і Васіленка дамовіліся сумесна працаваць над пытаннямі, якія хвалююць іх абодвух. З таго дня яны разам думаюць, працуюць над тым, каб аблегчыць працу рабочых свайго камбіната.

* * *

...Многае ў тую ноч передумаў Сяргей, лежачы на полцы вагона.

«Цяпер настаў час, — разважаў Сяргей, — сур'ёзна заняцца на камбінаце заменай ручной працы машынамі. Мы не можам чакаць, пакуль збудуюцца заводы для аснашчэння мэблевай прамысловасці сучаснай тэхнікай, трэба самім шукаць і ствараць новае. Няхай сабе нашы станкі і не будуць такія ўжо зусім дасканалыя, але з іх дапамогай можна будзе разоў у дзесяць павялічыць выпуск прадукцыі. Некаторыя могуць сказаць, што гэта занадта цяжка. Вядома, цяжка. Але дзе гэта запісана, што ўсё павінна давацца лёгка? Хіба лёгка было стварыць аўтамат для раяльнай пятлі? Але памаглі таварышы. Або яшчэ: камбінатаўскія спецыялісты сваімі сіламі сабралі і ўдасканалілі аўтаматычную паточную лінію па вырабу драўляна-стружкавых пліт. З адыходаў, што спальваліся ў катлах электрастанцыі, выходзяць добрыя пліты, якія па сваёй трываласці і іншых якасцях вышэй за самыя лепшыя сасновыя дошкі. Штогод камбінат выпрабляе больш двух тысяч кубаметраў такіх пліт — эканоміцца 5—6 тысяч кубаметраў піловачніка ў год. Калі ўлічыць, што сасновы піловачнік — вельмі дэфіцытная рэч (яго завозяць у Беларусь), то стане зразумелай тая карысць, якую атрымлівае народная гаспадарка ад гэтых пліт».

Вось пра гэта Сяргей і раскажа на нарадзе.

...У пакоі, дзе рэгістравалі дэлегатаў, за вялікім сталом, сядзела чарнявая вастраносая дзяўчына. Яна варушыла, перакладвала з месца на месца паперы. Сяргей падышоў да стала, кашлянуў. Дзяўчына ўзяла з яго рук накіраванне, запісала ў сшытак прозвішча і запытала:

— Ваша адукацыя?

— Восем класаў, — адказаў Сяргей.

Дзяўчына, Сяргею здалося, з'едліва ўсміхнулася, глянуўшы на яго.

Сяргей не паказаў і выгляду збянтэжанасці, але ўсмешка той чарнявай сакратаркі прымусіла яго перажыць нямала непрыемных хвілін. Толькі крыху супакоіўшыся, ён вымушаны быў сам сабе прызнацца, што дзяўчына, бадай, мела падставу. Сапраўды, на нараду былі запрошаны буйныя вучоныя, дзеячы тэхнікі, інжынеры. І раптам сярод іх нейкі залішне самаўпэўнены рамеснік! Пра свае восем класаў гаворыць так, нібы ён, прынамсі, з'яўляецца членам-карэспандэнтам Акадэміі навук.

Было смешна і сумна. І больш сумна, чым смешна. Колькі разоў гаварылі Сяргею і бацька, і жонка, што трэба вучыцца, а ён усё жартаваў: «Да мяне і так інжынеры ходзяць па навуку».

Было такое — інжынеры ў яго вучыліся. Але ў гэтым нічога не было дзіўнага. Кожны інжынер, калі ён не заядлы кабінетчык, заўсёды вучыцца. Практыка заўсёды ўзбагачала навуку, але без навукі адна практыка — гэта тая ж сухая сасонка над Сожам. На ёй няма шышак. Сяргей здзіўляў інжынераў сваёй імклівасцю, напорыстасцю. Ён у складаных абставінах не губляўся, знаходзіў правільнае рашэнне. Былі ў яго добрая хватка, дакладны разлік, энергія!..

Сяргею заўсёды спадарожнічала ўдача. Каб не выпадак з аўтаматам для раяльнай пятлі, то Сяргей, можа, і застаўся б такой думкі, што для яго няма ніякіх перашкод. А той выпадак прымусіў задумацца. Сяргей ужо зусім быў рашыў, што пойдзе вучыцца. І зусім не таму, што ўпікнула вастраносая дзяўчына. Не. Проста Сяргей ясна зразумеў, што яму не хапае ведаў. Каб разлічыць нагрузку дэталі, мала яго матэматычных ведаў. Трэба большае!..

Яны працавалі ўтрох — Васіленка, Ранчукоў і малады інжынер Віктар Пекар. Васіленка меў багаты вопыт, практыку і нядрэнную тэарэтычную падрыхтоўку. Сяргей — вынаходлівасць, настойлівасць, якія высока цэняцца ў калектыве. Віктар Пекар добра і хутка рабіў разлікі. Садружнасць трох дала найлепшы плён.

І тым не менш Сяргей адразу, як толькі вярнуўся з Мінска, пайшоў у вячэрнюю школу. Цяпер ён вучыцца ў дзесятым класе. Ён вырашыў абавязкова паступіць у Мінскі тэхналагічны інстытут.

Неяк Сяргей сказаў, калі мы з ім гутарылі, што сёння, у нашы непаўторныя дні, чалавек расце хутчэй, чым усё іншае, што яго акружае.

— Мой бацька, — гаварыў Сяргей, — любіў падкрэсліваць, што кожны чалавек мае талент. Некалі

я ў гэта не зусім верыў. А цяпер і сам пераканаўся, што гэта так. Паглядзіце, што дзеецца на нашым камбінаце! За кароткі час уласнымі рукамі мы зрабілі 29 паўаўтаматычных і канвеерных ліній. Нашы інжынеры ў садружнасці з рацыяналізатарамі спраектавалі іх, а рабочыя ўкаранілі ў вытворчасць. Хіба такое без таленту, без душы можна зрабіць? Творчай думкай цяпер ахоплены не адзінкі-самотнікі, а калектыў энтузіястаў, аб'яднаных адным імкненнем — паскорыць тэхнічны прагрэс, узняць прадукцыйнасць працы, хутчэй рухацца па шляху, які вызначыў гістарычны XXII з'езд нашай роднай партыі.

...І ў Ранчукова з Георгіем Апанасавічам нарадзілася новая задума — станок для дрэваапрацоўшчыкаў з праграмным кіраваннем. Станок ужо жыве ў разліках, а хутка ён прыме рэальныя абрысы, паступіць на ўзбраенне камбінатаўцаў.

У працы, у змаганні за хутчэйшае здзяйсненне запаветнай мары — камунізма — Сяргей Ранчукоў і яго таварышы бачаць сэнс свайго жыцця.

г. Гомель.

# НА ЦАЛІНЕ

### З блакнота мастака

Мінулым летам з мастаком Ю. Тышкевічам мы задумалі паехаць на цаліну. Накіроўваючыся ў дарогу, мы адчувалі, што атрымаем вялікае задавальненне ад паездкі ў край, дзе кіпіць вялікая стваральная праца савецкіх людзей. І мы не памыліліся. Перад гэтым я быў у Салігорску, маладым горадзе беларускіх шахцёраў. Паездка на цаліну нібы працягвала пачатую мною творчую працу, якую можна назваць вывучэннем жыцця нашай сучаснасці.

Звычайна, калі гавораць «цаліна», дык уяўляюць бязмежныя прасторы палёў або някрануты стэп. Я ж трапіў на Сакалоўска-Сарбайскі горнаўзбагачальны камбінат у горадзе Рудным — юным горадзе, дзе жывуць і працуюць простыя савецкія людзі. Тое, што створана тут, можна беспамылкова назваць вынікам бяспрыкладнага гераізму. Гэта — наглядны доказ героікі нашых працоўных будняў.

Я пазнаёміўся з многімі людзьмі, якія будавалі горад юнацтва ў стэпе. І машыніст экскаватара А. Пятроў, і машыніст электравоза А. Паліткіна, і многія іншыя — усе яны вельмі простыя, сціплыя людзі, і таму яшчэ больш гераічныя.

У Сарбаі мне расказалі пра лётчыка Міхаіла Сургутанава. Пралятаючы аднойчы над стэпам у раёне Сарбая, Сургутанаў заўважыў адхіленне стрэлкі прыбора, што сведчыла аб наяўнасці паблізу вялікай колькасці жалеза. Лётчык зрабіў разварот і праляцеў над гэтым месцам яшчэ раз. Адхіленне стрэлкі паўтарылася. Вярнуўшыся з палёту, Сургутанаў далажыў аб гэтым старэйшым таварышам. Так былі адкрыты велізарныя залежы жалезнай руды пад Сарбаем.

І вось там, дзе гуляў стэпавы вецер, не сустракаючы на сваім шляху ніякіх перашкод, цяпер высяцца карпусы прамысловых прадпрыемстваў, выраслі зграбныя кварталы горада, якому ўсяго чатыры гады.

Тут часта расказваюць пра гераізм першых будаўнікоў новага рудніка. Усё абсталяванне дастаўлялася па чыгунцы ў Кустанай. Далей чыгункі не было, пачынаўся голы стэп. Чакаць, пакуль пабудуюць чыгунку, азначала затармазіць пуск камбіната на некалькі гадоў. А краіне патрэбна была руда. І вось камуністы прымаюць рашэнне пасляць спецыяльныя трактарныя паязды для дастаўкі механізмаў і абсталявання. Узначаліў гэтую незвычайную экспедыцыю камуніст Іван Усцінаў.

Някрануты стэп абудзіўся рокатам матораў. Бураны і пякучыя марозы не спынілі смелых энтузіястаў, якія, уступіўшы ў барацьбу са стыхіяй, заўсёды выходзілі пераможцамі.

Мне пашанцавала пазнаёміцца з Усцінавым. Калі я прыйшоў да яго, ён адпачываў. Жонка, нібы просячы прабачэння, паглядзела на мяне і сказала: «Пасля змены». Але ў гэты ж момант у пакой увайшоў сам гаспадар. Мы пазнаёміліся, і Усцінаў пачаў расказваць пра сваю работу.

Ён гаворыць нібы саромечыся, проста так, шчыра, без патэтыкі і гучных слоў, а я гляджу на загарэлы, з буйнымі рысамі, з усмешкай на вуснах, твар, і чалавек гэты падабаецца мне ўсё больш і больш. Ён сціплы, працавіты, адданы агульнай справе — сапраўдны герой нашых дзён.

Расказваюць, колькі клопатаў даставілі будаўнікам паводкі. Яны залівалі кар'ер на вышыню да пяці метраў. Днём і ноччу даводзілася працаваць па калені ў вадзе, на плытах. І стыхія адступала.

Размах работ увесь час нарастаў.

У адзін са звычайных дзён за рычагамі экскаватара сядзеў машыніст Пятро Максімаў. Раптам ён адчуў, што коўш не слухаецца яго. «Відаць, руда», — мільганула думка. Экскаватаршчык не памыліўся. «Руда... руда...» — гэтая радасная вестка з хуткасцю маланкі абляцела кар'ер. Поціскі рук, абдымкі... Здагадка стала явай.

Але патрабавалася шмат часу, каб дабрацца да самое руды.

Прайшло тры гады. І вось урачысты дзень настаў. У кар'еры на трох гарызонтах спыніліся ўсе работы. Замёрлі экскаватары, замоўклі паравозы, прыціхлі аўтамашыны. На дне кар'ера падрыўнікі вядуць апошнія падрыхтаванні. Нарэшце ад выбуху здрыганулася зямля. У паветра ўзвіўся гіганцкі слуп дыму, пылу; рассякаючы паветра, пасыпаліся ўніз кавалкі руды.

Цяпер штодня ў кар'еры чуваць такія выбухі. Людзі радуюцца ім, ведаючы, што гэта мірныя выбухі — падрыўнікі рыхтуюць домнам спажыву.

Эшалоны з рудой пайшлі на Урал, і выраз «руда цалінная» ўжо стаў такім самым прывычным, як і выраз «цалінная пшаніца». Штурм зямных нетраў ідзе з небывалай хуткасцю.

У Рудным я нечакана сустрэўся са сваімі знаёмымі — салігорскімі шахцёрамі.

Поціскі рук былі доўгія і моцныя. Аказалася, што многія хлопцы з Салігорска, закончыўшы там праходку ствалоў, прыехалі сюды. Мы сустрэліся, як старыя сябры, якіх здружыла работа.

І яшчэ адна прыемная сустрэча адбылася ў мяне з землякамі, на гэты раз з 25-тоннымі беларускімі самазваламі. Было вельмі прыемна назіраць, як працуюць нашы магутныя аўтамашыны.

Пры мне адбылася тут яшчэ адна хвалюючая падзея, пра якую пісаў ужо часопіс «Маладосць». У дні падрыхтоўкі да XXII з'езда КПСС камсамольцы Беларускага аўтазавода ў нерабочы час з металалому, сабранага камсамольцамі, пабудавалі 25-тонны самазвал і прыслалі яго тутэйшым гарнякам, каб уручыць лепшай брыгадзе. Сапраўдны геркулес, пафарбаваны ў чырвоны колер, з надпісам на бамперы «Камсамольскі» старанна працуе ў кар'еры.

— Вялікае дзякуй нашым беларускім таварышам за цудоўны падарунак, — гавораць мне рабочыя. — Перадайце ім наша гарняцкае прывітанне.

Дзе я ні быў, усюды я адчуваў, з якой павагай адносяцца рабочыя да працы мастака. Яны цікавяцца мастацтвам і адчуваюць вялікае задавальненне, калі бачаць адлюстраванае на палатне ў фарбах тое, што навокал іх, з чым яны звыкліся, з чым сустракаюцца кожны дзен. Прыемна, працуючы разам з імі, усведамляць, што праца твая патрэбная, што ты такі ж працаўнік, як і яны.

Аднойчы, нагружаны эцюднікам, палатном і іншым «начыннем», я ішоў да кар'ера. Хацеў убачыць кар'ер, асветлены вячэрнімі праменнямі. Заставалася прайсці яшчэ каля кіламетра. Раптам ззаду затармазіў матацыкл.

— Вам далёка?

— У Сакалоўскі кар'ер, — адказаў.

— Дык сядайце.

Дарогаю мы разгаварыліся. Хлопца зацікавіла маё начынне.

На камбінаце ён працуе даўно, з першых дзён. Відаць, ён расказаў бы мне шмат цікавага, але мы і не агледзеліся, як былі ўжо ў кар'еры.

— Як вас завуць? — крыкнуў я яму ўслед.

— Завіце проста Толем, можа яшчэ сустрэнемся. — І матацыкл паімчаў далей.

Мне часам даводзілася, стоячы на дарозе, «галасаваць». І кожны раз, калі я садзіўся ў кабіну самазвала ці каляску матацыкла, былі новыя цікавыя знаёмствы.

Падабраў мяне неяк 25-тонны самаз-

### ПЕРШЫЯ ТВОРЫ



Давід Брумер нарадзіўся ў 1930 годзе. Падлеткам ён пайшоў працаваць на люстэркавую фабрыку ў Мінску і неўзабаве паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча.

Пасля дэмабілізацыі з радоў Савецкай Арміі паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, які скончыў летась. Яго дыпломнай работай была карціна «Раніца ў Салігорску».



**І. Давідовіч. Наша будучае сяло.** З Усесаюзнай выстаўкі 1961 года.



**М. Данцыг. На заправачнай.**



**М. Данцыг. Ля адвалу.**



**Д. Брумер. Раніца ў Салігорску.**



**Я. Зайцаў. Дарагі госць.** З Усесаюзнай выстаўкі 1961 года.

вал, «малютка», як яго любоўна называюць гарнякі. За рулём сядзеў хударлявы чалавек і, моцна сціскаючы баранку, пільна глядзеў наперад. Мы разгаварыліся. Даведаўшыся, што я мастак, шафёр здзівіў мяне нечаканым пытаннем:

— Скажыце, ці ёсць цяпер такія мастакі, як Рэпін і Шышкін?

Я крыху разгубіўся.

— Ёсць, вядома, вельмі цікавыя і вялікія мастакі, — адказаў я і пачаў расказваць пра іх.

— Ну, а такога майстра светаценю, як Рэмбрандт, відаць, няма, — працягваў ён. — Я вельмі люблю гэтага мастака.

Памаўчалі. Я глядзеў на спадарожніка і здзіўляўся. А здзіўляцца было чаго. Не паспелі людзі як след абжыцца, а думкі іх заняты не толькі хлебам надзённым, але і мастацтвам. Гэта мяне вельмі моцна ўзрушыла, я адчуў, што ўжо сёння нараджаецца чалавек будучыні.

У інтэрнаце, дзе мы пасяліліся, жывуць маладыя рабочыя.

Вось Коля Макаранка. Ён не герой. Ён просты чалавек. Родам з Данбаса. Прыехаў у Рудны чатыры гады таму назад. Быў сведкам усяго, што тут адбывалася... Па прафесіі — электрык. Пры мне здаў экзамены ў горны інстытут. «Як бачыце, усё вельмі проста», — сказаў ён мне.

...На зямлі, на якой раней нават ветры не затрымліваліся, растуць не толькі дамы. Растуць і людзі, моцныя духам. Яны асядаюць у гэтым цудоўным краі, як гаспадары яго.

І вось цяпер, вярнуўшыся з творчай паездкі на цаліну, калі пачынаеш успамінаць Рудны, перад вачыма паўстаюць людзі, прыгожыя ў працы, высакародныя ў марах, прывабныя сваім простым рабочым абліччам.

Вось маладая маці ў спяцоўцы — куртачцы і штанах — нясе сваё дзіця з ясляў. І рукі яе, якія нядаўна трымалі зварачны апарат, пяшчотна прыціскаюць да сябе малое. Вось спяшаецца рабочы з кніжкаю ў руцэ. Заўтра ў яго, мусіць, экзамен у інстытуце. У магазіне адзення дзяўчаты ў спяцоўках выбіраюць самыя сучасныя ўборы — капронавыя кофтачкі...

Жыццё магутным патокам бурліць на зямлі цаліннай.

**Марк ДАНЦЫГ.**

**Эдуард ЮШКЕВІЧ**

# НЯСТРЫМНЫ ПАРЫЎ

За акном — лістападаўская раніца. Хутка імчыцца пасажырскі поезд.

Прытуліўшыся гарачым ілбом да акна, Валянціна Вачынская чакае, калі пакажуцца агні любімага Гродна. За акном праносяцца раз'езды і паўстанкі, у суцэльную стужку зліваюцца прыдарожныя слупы.

Валянціне на секунду здаецца, што гэта само яе жыццё ляціць з такой вялікай хуткасцю. Колькі ўжо вёрст засталося ззаду! Колькі перажыта! Учора — босая дзяўчынка-пастушка, сёння — першая працаўніца калгаса «Расія». Звеннявая, брыгадзір, камуніст. Сэрца саграе мандат дэлегата XXII з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Патомная, звычайная сялянка — дэлегат гістарычнага з'езда! Маладая калгасная камуністка галасавала за новую праграму, за камунізм.

Стукаюць колы, адлічваюць секунды, нясуць іх у мінулае. Але думка не падуладна часу. Яна, непакора, імкліва ўзлятае ўвысь, працінае гады. І здаецца Валянціне, што ўсё яе жыццё было вялікім, нястрымным парывам да гэтага дня.

* * *

Раніца... Тады таксама світала, калі закончыўся калгасны сход. Людзі даверылі ёй кіраваць брыгадай.

Моцна пакрыўдзіўся тады стары Аляксандр Антонавіч Саўко. Ён ішоў па вуліцы, не заўважаючы лужын і халоднага дажджу, які да ніткі прамачыў ватоўку. Толькі ля дома ён спыніўся, узяўся за мокрую жэрдку і доўга, хрыпотна кашляў.



Калі дабраўся, нарэшце, да ложка, моўчкі распрануўся, лёг і ўставіўся вачыма ў столь.

Ну і што з таго, што жыццё праляцела так хутка і так недарэчна ўсё абарвалася? Для кожнага калі-небудзь настае час, калі трэба сказаць: «Пара і на адпачынак». Але ці такім уяўляўся гэты час Аляксандру Антонавічу?

Не абышлі яго людзі павагай. Як самага паважанага чалавека, яго выбралі брыгадзірам. І было ў яго на мэце — аддаць людзям усе свае сілы. І глядзі: палепшыўся ўраджай у брыгадзе, больш пачалі выдаваць збожжа на працадзень. Дык чаму ж на сходзе не даверылі яму брыгаду? Відаць, недагледзеў штосьці.

За акном плыла дажджлівая асенняя ноч. Дробны дождж сек па шыбах, ад ветру парыпваў дах.

Раптам Аляксандр Антонавіч прыўзняўся на ложку. Адна здагадка маланкай паласнула памяць, насцярожыла. «Няўжо гэта Валю Вачынскую яны выбралі сваім брыгадзірам? О, людзі, людзі... Такую гаспадарку ўзваліць на жаночыя плечы. Не пацягне яна, не адолее».

Стары зажмурыўся, адкінуўся на падушку.

Чаму ж ты, Валя, згадзілася? Ты ціхманая, сціплая. Нікому, як кажуць, не запарушыла вока. Праўда, ты ўмееш цаніць зароблены хлеб, бо дзяцінства тваё пры панскай Польшчы было сіратлівае і галоднае. Працуеш — душу аддаеш. Але ж толькі гэтага для брыгадзіра мала. Хаця, пачакай...

І новы малюнак паўстаў перад позіркам Аляксандра Саўко. Гэта было на прадвесні. Брыгада рашыла аддаць свае прысядзібныя ўчасткі калгасу, а сабе ўзяць у іншым месцы. Той-сёй спалохаўся, што яму адмераюць менш. Некаторым здалося, што ім адводзяць горшы ўчастак. Чым бы гэта скончылася, невядома, калі б не Вачынская.

— Пачакайце, — сказала Валя, — дайце я разбяруся.

Сказала ціха, ветліва. І ёй адразу паверылі, супакоіліся. Некалькі дзён хадзіла Валя па полі з жанчынамі, лічыла, перамервала. І ўсе засталіся задаволеныя.

Вось гэтага ніяк не мог зразумець былы брыгадзір. Нейкая сіла, відаць, тоіцца ў Валіным характары.

— Пажывём-пабачым, — уздыхнуў Саўко і ўжо на досвітку забыўся неспакойным сном.



Калгасны брыгадзір Валянціна Вачынская.
Фота Л. Эйдзіна.

У гэтую ноч думкі адганялі сон яшчэ аднаму чалавеку. Зябка тулячыся да печы і не запальваючы агню, стаяла Валя Вачынская. І аб чым бы ні думала, адчувала, што сёння ўзышла на першы круты перавал.

Трывожна, неспакойна было на душы. У думках перабірала кожнага чалавека. На мінуту стала шкада і Аляксандра Антонавіча. Відаць, пакрыўдзіўся стары. Яна абавязкова праведае яго. Ён падкажа, што ёй рабіць. Мяккі ён, добры чалавек. А астатнія? Як сустрэнуць яе, якімі словамі? Але нічога. Важна ўзяцца за такую работу, каб усёй брыгадзе было на карысць, каб кожнага захапілі справы калектыву.

Перад Валяй паўстала і сённяшняе і мінулае. Спрадвеку гараваў на зямлі селянін на сваіх гонях. Але тыя гоні не радавалі сэрца. Калі ярка свяціла сонца,

яны блішчэлі каменнем. Здавалася, што прайшоў тут моцны каменны дождж. А колькі мар — высокіх і светлых — пахавана пад гэтымі каменнямі!

Прыгадвала ўсё гэта Валя, і вочы яе загараліся, гулка стукала сэрца. Вось бы скінуць з поля гэты цяжар! Няхай пройдуць гады, але некалі шчаслівы сейбіт, праходзячы па квітнеючых нівах, добрым словам успомніць тых, хто паклаў тут сілы.

Як агеньчык у цёмную ноч, успыхнула ў Валі гэтая думка-мара. Яна ўжо бачыла, як пераліваецца сінімі хвалямі лён, як шумяць жытнёвыя нівы. Яна не адступіцца ад сваёй мары, якая б крутая сцежка ні вяла да яе!

Можа гэта і быў той першы крок у будучыню, за якую галасавала Валя на XXII з'ездзе будаўнікоў камунізма.

І ці не той гэта агеньчык, што ўспыхнуў тады, разгарэўся цяпер полымем, якое заўважылі і якое гарыць-разгараецца.

... Назаўтра Валя расказала пра сваю задуму Аляксандру Антонавічу. Ён слухаў жанчыну і думаў, відаць, аб сваім. Так цяжка было ва ўсім разабрацца. Зямля... Ці ж ён мала гадоў змагаўся з ёю? А каменне засталося. А што можа зрабіць яна, маладая жанчына? А Валя гаварыла і гаварыла, і гарачы подых яе мары пранікаў у самае сэрца старога брыгадзіра. Ён і не заўважыў, як яна выйшла з дому і схавалася ў ранішнім змроку. Потым апрануўся і таксама пайшоў на брыгадны двор. Там было ўжо некалькі чалавек.

— Вось добра, што сабраліся рана, — сказала Валя. — У мяне тут думка адна. Паслухайце.

У гэты час падышоў і Саўко. Валя гаварыла тое ж, што і яму, — пра зямлю. Гаварыла спакойна і ціха. Але такая сіла адчувалася ў кожным яе слове, столькі агню было ў яе позірку, што былы брыгадзір быццам упершыню ўбачыў гэты абветраны, прыгожы твар і падумаў міжволі: «Не пазнаць чалавека».

Калгаснікам асабліва спадабалася, што дзяўчына раіцца з імі. Валя тут жа прызначыла ездавых, размеркавала коней. У яе быў добры настрой. Яна нават прамаўчала, калі Вацлаў Лазавіцкі з'едліва кінуў:

— Сама цягай каменне. Няма дурняў надрывацца... — і, пакруціўшыся мінуту на двары, шмыгнуў дадому.

«Вось адзін салдат і выбыў са строю», — з жалем падумала Валя, гледзячы хлопцу ўслед. І, аглянуўшыся на прыціхлых калгаснікаў, сказала:

— Дык паедзем? Запрагайце коней.

Выпагадзілася, і заблішчэла халоднае, але яркае асенняе сонца. Людзі павесялелі.

— А чаму б і не паспрабаваць, хлопцы? — загаварыў Казімір Францкевіч. — Усё роўна ж дома няма чаго рабіць.

Запрэглі коней і паехалі ў поле. Іх было не больш дзесяці чалавек. Камень за каменем ускідвалі на вазы, жартавалі. Мужчыны неўзабаве паскідалі ватоўкі. Валя завіхалася больш за ўсіх. Яна глядзела на Казіміра Халецкага, ладнага, дужага хлопца, на Генрыха Гаманчука, Казіміра Францкевіча... І не верылася, што гэта па яе волі хлопцы прыйшлі сюды.

— Ты, Валя, не шчыруй ужо так, — гаварыў Францкевіч. — Работа ж не жаночая...

Яна нібы і не чуе ягоных слоў. Валя адчувае сябе дужай, моцнай, бо такія добрыя, дружныя людзі сабраліся вакол яе.

Кароткі асенні дзень канчаўся. Развітальныя праменні сонца ляглі на невялікі квадрат зямлі, вернутай да жыцця. Калгаснікі разышліся. Адна Валя яшчэ стаяла тут, поўная гарачай веры ў штосьці вялікае, цудоўнае.

Назаўтра на полі сабралася яшчэ больш людзей. Ніхто не пакінуў поле нават тады, калі наляцеў халодны вецер з дажджом. Людзі стараліся, нібы спаганяючы сваю злосць на неўрадлівую зямлю. Потым ім на дапамогу прыйшоў трактар, ён рухаўся з участка на ўчастак, сцягваў велізарныя валуны. Не ўседзеў дома і Вацлаў Лазавіцкі. Ён прыйшоў на поле і, стараючыся не глядзець Валі ў вочы, узяўся за работу. І Вацлаў, як усе, адчуў, што нейкая хваля падхапіла яго, нясе кудысьці наперад і няма ўжо сілы стрымацца.





**Валянціна Вачынская, прыехаўшы з Масквы, сустрэлася са сваімі аднавяскоўцамі.**

Фотахроніка БЕЛТА.

Валя глядзела на людзей, захопленых работай, і думала: «Што ж сталася з імі, што абудзіла іх сілы, выклікала такі энтузіязм? Напэўна, яны зразумелі, што інакш нельга».

Брыгадзірка расставіла людзей на дзве работы: збіраць каменне і вазіць гной. Сход парашыў: гной са сваіх хлявоў — на калгаснае поле. І наконт мінеральных угнаенняў дамовіліся ў Гродна, іх пачнуць траляваць аўтамашынамі.

Здаецца, пачатак зроблен. Пракладзена першая сцежка да высокага ўраджаю. Гектар за гектарам зямля вызваляецца ад каменнага цяжару. Што ж яшчэ? Яшчэ трэба падабраць культуры, пасеяць такія, каб кожная радавала. Валя ходзіць па ўзгоркаваму полю, быццам прыслухоўваецца да яго голасу. І, напэўна, пачула яго, бо, вярнуўшыся ў брыгаду, параіла калгаснікам плантацыю за гародамі засеяць буракамі, а на другім полі — пшаніцу пасеяць. Людзі згадзіліся, і самі далі параду брыгадзіру: стварыць у брыгадзе звенні. Вера Пагарэльская папрасілася на цукровыя буракі. Казімір Францкевіч — на збожжавыя культуры. Звенні ўзнікалі амаль стыхійна.

Валя адчула, што цяпер яна засталася амаль без справы. Звеннявыя, стараючыся не адстаць адзін ад другога, і без брыгадзіра ўпраўляліся. Валя, пахадзіўшы дзень-другі, пайшла ў звяно да Веры Пагарэльскай. І, як і ўсе жанчыны, палола буракі, даглядала пасевы. А ўвечары збірала звеннявых, раілася з імі.

Зямля адгукнулася на ласку, шчодра заплаціла людзям за клопаты, адкрыла свае невычэрпныя скарбы. Нарэшце! Буйны колас хіліўся долу, лапушылася лісце цукровых буракоў. Не ў два, а ў тры-чатыры разы павялічыўся ўраджай. На калгаснай Дошцы гонару з'явіліся прозвішчы раней зусім непрыкметных людзей — Веры Пагарэльскай, Ядвігі Халецкай, Генрыха Гаманчука, Яніны Патапчык і многіх іншых маладых герояў працы. На грудзях у Валянціны Вачынскай зазіхацеў першы ордэн — «Знак пашаны».

Узнагарода не была для Валі прыпынкам у жыцці. Гэта быў сігнал наперад, заклік у будучыню.

Што яна можа зрабіць адна для брыгады? Вось каб кожны дбаў пра тое, як вырасціць два каласы там, дзе рос адзін...

Валя ідзе ў райком партыі, у сельскагаспадарчы інстытут. І вось ужо райком зацвярджае рашэнне праўлення аб стварэнні ў

калгасе ўніверсітэта сельскагаспадарчых ведаў.

Прасторны калгасны клуб не змяшчае ўсіх, хто пажадаў вучыцца. Тут заняткі, як у сапраўдным універсітэце: лекцыі чытаюць вучоныя, вядомыя спецыялісты, перадавікі і, вядома, Валянціна Вачынская.

Прыйшоў на заняткі стары Саўко. Дазнаўшыся аб тым, што дапытлівыя людзі ўмеюць атрымліваць не па 12 цэнтнераў збожжа з гектара, а ў некалькі разоў больш, Аляксандр Антонавіч уявіў сабе такі ўраджай — і ў яго дух заняло. А потым, зімовымі вечарамі, доўга чытаў пра жыццё творцаў такіх ураджаяў — нашых слаўных вучоных.

Мінуў год. І цяпер мара людзей пра высокія ўраджаі на камяністых глебах ужо не была прыгожай казкай, а набыла акрэсленую, канкрэтную форму.

А ці лягчэй стала працаваць Валі-брыгадзіру? Не, не лягчэй. Дзень пралятаў, як хвіліна. Людзі, узброеныя ведамі, пачалі патрабаваць ад брыгадзіра больш.

— Калійная соль? Давай мне, — гаварыла звеннявая Алена Лупачык.

А Вера Пагарэльская, якой аднойчы нічога не дасталося, са злосці крыкнула:

— Я таксама хачу ордэн мець!

Быццам па твары выцялі Валю. Задыхаючыся ад хвалявання, яна ціха сказала:

— Хіба ж дзеля ўзнагарод мы працуем, Вера?

Жанчына крычала яшчэ мацней. А ўвечары з кладоўкі знікла некалькі мяшкоў мінеральных угнаенняў, якія нарыхтаваны былі для азімага жыта.

— Як сабе хочаш, Вера, — сказала назаўтра брыгадзір, — але ты больш не звеннявая.

Сказала і сама здзівілася сваёй цвёрдасці. Толькі інакш не магла. У першы момант Вера не зразумела. Яна стаяла, шырока расплюшчыўшы вочы, і нічога перад сабой не бачыла.

— Я больш не звеннявая?..

— Так, навучыся спачатку быць дысцыплінаванай.

І пайшла Валя, каб не змаладушнічаць, не адмяніць свайго рашэння.

— Дык я ж не для сябе, — крыкнула Вера, — для звяна старалася!

— А я — для брыгады, — агляну ўшыся, сказала брыгадзірка.

У праўленні ўхвалілі гэткае рашэнне. Што ж, без дысцыпліны — няма брыгады. Учынак Пагарэльскай абурыў усіх. Члены яе звяна сабраліся і выбралі сваім кіраўніком Браніславу Патапчык.

Людзі пагаварылі і сціхлі. Але Валя не магла забыць пра гэта. «А можа дарэмна пакрыўдзіла чалавека?» Праз некалькі дзён яна заглянула ў хату да Веры і пагаварыла з ёй проста, па-жаночаму. Размова закончылася тым, што Пагарэльская, моцна ўздыхнуўшы, сказала на развітанне:

— Відаць, не дарма мы цябе выбралі за брыгадзіра... Умееш абыходзіцца з людзьмі.

Абыходжанне з людзьмі... Не, нідзе не вучылася Валя такому майстэрству. Прыйшло яно, відаць, ад глыбокай павагі да мацізямліцы. А таго, хто любіць зямлю, хлебароб разумее і паважае.

І ў Валі новыя клопаты, новыя задумы.

— Нам садок пасадзіць не шкодзіла б, — прапануе Валя. — Прысады ўздоўж вуліц, скверык на плошчы...

Сёння вёску, дзе брыгадзірам Валянціна Вачынская, не пазнаць. Каля хат — таполі, ліпкі, за аселіцай малады сад. А на палях вырашчаны небывалы ўраджай, асабліва цукровых буракоў. Іх сабрана з кожнага гектара па 850 цэнтнераў.

Валі ўручаюць самую высокую ўзнагароду — ордэн Леніна.

У брыгадзіра — прыліў новых сіл, новае натхненне. Яе ўдумлівыя, строгія вочы свецяцца гарачым агнём. Яны ўсё заўважаюць і бачаць далёка. Звычайна, вярнуўшыся дадому з поля, Валя садзіцца да стала і доўга думае. Вось вёскі-суседзі, а жывуць пароznаму. Узяць суседнюю першую брыгаду. Там брыгадзірам стары чалавек Іван Антонавіч Палайка. Каторы ўжо год, як выклікае брыгаду Вачынскай на спаборніцтва, але ўраджаі збірае ў два разы меншыя.

Гаварыла яму Валя:

— Не атрымліваецца — саступі месца іншаму...

Адмахваецца Іван Антонавіч, маўчыць. Не, трэба будзе пагаварыць адкрыта на калгасным сходзе. А пакуль, як і раней, трэба паслаць яму сваіх людзей на дапамогу.

Аднойчы, напярэдадні XXII з'езда партыі, Валянціна Вачынская прапанавала, каб у кожнай паляводчай брыгадзе была свая трактарная брыгада. І каб брыгадзір умеў кіраваць трактарам, камбайнам. Упарціліся члены праўлення, але згадзіліся.

І вось вечарамі Валя вучыцца. Мінулай вясной села на трактар, і сама праклала першую баразну.

... Сваім прыкладам кліча Валя людзей наперад, кліча, як сапраўдны камуніст. І, мусіць, за гэтую неад'емную якасць яе характару камуністы Гродзеншчыны паслалі Валянціну Вачынскую дэлегатам на XXII з'езд КПСС. Вярнулася Валянціна з Масквы і адразу ўзялася за работу — гарачую, натхнёную велічнай Праграмай роднай партыі, за якую галасавала і калгасны брыгадзір з-пад Гродна.

**Калгас «Расія» Гродзенскага раёна.**

# ЯРЧЭЙ СВЕЦЯЦЬ МАЯКІ



Пяць гадоў таму назад у аддзел кадраў Мінскага завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі прыйшоў камлюкаваты хлопец у ваеннай гімнасцёрцы. Гэта быў Аляксандр Кастроў. На пытанне начальніка аддзела кадраў, якую ён мае спецыяльнасць, Саша з гонарам адказаў: «Токар пятага разраду» і паказаў пасведчанне аб заканчэнні рамеснага вучылішча...

Аляксандра накіравалі ў першы механічны цэх на ўчастак дробных дэталей, дзе майстрам працаваў Міхаіл Піліпавіч Чарнамазаў. З першых дзён хлопец спадабаўся майстру сваёй кемлівасцю і стараннем. І той пачаў яму давяраць даволі складаныя заданні.

Прайшоў тыдзень, другі, і хлопца, які ўмеў добра працаваць і весела адпачываць, пацягнула ў заводскі клуб. Хутка ён і там заваяваў сімпатыі таварышаў, паказаўшы талент спевака.

Праз год Саша ажаніўся — узяў дзяўчыну з суседняй фабрыкі, і неўзабаве ў іх нарадзіўся сын. Нягледзячы на тое, што ў маладажонаў паявіліся клопаты пра сям'ю, Аляксандр не знізіў напружання ў працы, не астыў да грамадскай дзейнасці. Як аднаго з лепшых рабочых, яго выбралі сакратаром камсамольскага бюро цэха, а на трэцім годзе работы — сакратаром камітэта камсамола завода.

Камсамольцы прызналі Сашу сваім важаком, завадатарам калектыву. Неўзабаве камсамольская канферэнцыя Ленінскага раёна выбрала Аляксандра Кастрова членам пленума, а пленум — членам бюро райкома. У гэтыя гады маладога камсамольскага актывіста можна было бачыць усюды — і за станком, і ў камсамольскіх рэйдах за чысціню і парадак на рабочым месцы, за эканомію электраэнергіі, а таксама і на сцэне ў часе канцэртаў...

У кастрычніку 1959 года бюро Ленінскага райкома камсамола рэкамендавала А. Кастрова кандыдатам у члены КПСС, а праз год партыйная арганізацыя завода прыняла яго ў сваю сям'ю.

Ужо другі год, як малады камуніст Кастроў працуе па сваёй спецыяльнасці ў станочнай лабараторыі. І ў новым калектыве ідзе добрая слава пра Кастрова. Ён — ударнік камуністычнай працы, перадае сваё майстэрства тром вучням.

Малады камуніст Аляксандр Кастроў — наш новы маяк, сям'я якіх на заводзе расце і расце.

**Леанід НАВІЦКІ,**
**сакратар камітэта камсамола завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі.**

# *Гары, камсамольскі аганёк!*

# ЖЫВАЯ КРЫНІЦА

**Будні няштатнага райкома**

Дзяўчыну ахапіла хваляванне.

Вось перад ёю той самы майстар, які ўчора з сур'ёзным выглядам узяў у яе з рук гадзіннік, паднёс да вока шкельца і, уважліва агледзеўшы механізм, сказаў нарэшце:

— Стукнулі недзе, вось і адстае ваш гадзіннік. Праз гэта, відаць, і на работу позніцеся? Дарэчы, дзе вы працуеце?

Тады Вера прамаўчала, а цяпер ён зноў пытаецца, дзе яна працуе. На гэты раз на пасяджэнні бюро райкома.

Што сказаць? Вера глядзіць у вочы Вользе Берандзеевай, нібы хоча папрасіць: «Ну, адкажыце за мяне, Вольга Мікалаеўна. Вы ж амаль кожны дзень гутарылі са мной у бібліятэцы, рыхтавалі мяне да сённяшняга бюро. Вы ж ведаеце, чаму я сёння не працавала, і ўчора не працавала...» Аднак усе маўчаць — і Вольга Мікалаеўна, і астатнія члены бюро.

— Пакуль што я не працую...

— Але вас рэкамендуе ў камсамол пярвічная арганізацыя Мастабуда?

— Я ўсё растлумачу, — падымаецца нарэшце Берандзеева. — Вера сапраўды пакуль што не працуе. Будаўніцтва моста заканчваецца, будаўнікі паедуць на іншае месца. Яны завуць і яе, але Вера не хоча пакідаць Чэрыкаў. Вось і атрымалася так... Сёння мы былі з ёю на гароднінна-сушыльным заводзе, там яе прымуць на працу.

І гутарка пачынаецца аб незвычайна вялікім і важным для Веры — аб яе заўтрашнім дні. Аб самым важным.

— Трэба табе вучыцца, Вера. Набыць спецыяльнасць, каб мець сталае месца. Мы ведаем, што ты любіш працу, але тваіх дзевяці класаў цяпер мала. Трэба вучыцца далей...

Вера — радасная і ўсхваляваная. Яе прынялі ў камсамол. І ёй сказалі строга і шчыра, як гавораць толькі свайму сябру: «Вучыся, Вера».

Вера борздзенька бяжыць па рыпучым снезе дахаты, а ў думках толькі адзін добразычлівы і цёплы голас майстра па рамонту гадзіннікаў: «Вучыся, Вера. Ты цяпер камсамолка...»

Прыём у камсамол закончаны, але бюро няштатнага райкома камсамола ў Чэрыкаве працягваецца. За сталом сядзяць камсамольскія актывісты — бібліятэкар Вольга Берандзеева, гадзіннікавы майстар камбіната бытавога абслугоўвання Віктар Сырадоеў, супрацоўнік Дома піянераў Уладзімір Дуброўскі, фельчар школы-інтэрната Сяргей Фонкац, — сакратары і члены бюро райкома.

Аляксандр Масікаў, шыракаплечы, прыгожы і сур'ёзны з твару юнак, прапануе членам бюро правесці гарадскі маладзёжны вечар пад дэвізам: «Маральны кодэкс савецкага чалавека».

— На вечары, — гаворыць Аляксандр, — павядзем размову аб тым, што кожны з нас панясе ў заўтрашні дзень. Якія яго веды, ідэалы, якія ён чытае кнігі...





Пасяджэнне бюро Чэрыкаўскага няштатнага райкома ЛКСМБ. У камсамол уступае Вера Берандзеева. За сталом злева направа: Вольга Берандзеева, Віктар Сырадоеў, Уладзімір Дуброўскі, Сяргей Фонкац.

Я гляджу ў адкрыты твар Аляксандра, слухаю яго гарачыя словы і ўспамінаю...

Гэта было два гады назад, у такі ж, як і сёння, сонечны зімовы дзень. Чэрыкаўскі райком камсамола (тады ў Чэрыкаве быў раённы цэнтр і штатны райком) рыхтаваў чарговы выпуск «Бокса» — сатырычнай насценгазеты. У нумар прапанавалі заметку і пра Аляксандра Масікава, які перад гэтым нахуліганіў у гарадскім парку і трапіў у аддзяленне міліцыі.

Фотааб'ектыў «Зеніта» нацэлены на хлопца. Высокі, шырокі ў плячах, ён завіхаецца з сякерай. Мне трэба яго сфатаграфаваць, але я не адважваюся, маруджу.

Гах! Гах! Гах!.. Так заўзята секчы дровы можна толькі, калі робіш гэта з вялікай ахвотай. Адкуль жа гэтая заўзятасць у чалавека, якога пакаралі працаю? Відаць, праца — не кара. Кара — гэта тое адзіноцтва, маральнае прыніжэнне, якія за гэты дзень перажыў Аляксандр. І калі яго, нарэшце, вывелі на рыпучы снег, далі ў рукі сякеру і паказалі на добрую гару круглякоў — ён узрадаваўся гэтаму, як нечаканаму збавенню ад лайдацтва.

«Умее чалавек працаваць і, напэўна, любіць працу, — падумалася мне тады». І разам з тым нідзе не працуе, шукае лёгкага хлеба, хуліганіць, п'янствуе. Прыгожы з твару, а жыве непрыгожа — то ў гарадскім парку бойку зачне, то ў клубе дэбош учыніць. І дзіву даешся, як можа сплесціся ў адным чалавеку цудоўнае і ганебнае, як гэтае цудоўнае можа трапіць у цянёты ілжы...

Фотааб'ектыў «Зеніта» нацэлены на хлопца.

— Масікаў!

Бліснуўшы над галавою сякерай, ён разбівае кругляк і азіраецца. Твар расчырванелы, прыгожы. І ўсміхаецца, нібы няма для яго ні арышту, ні прымусовай працы, ні гэтага халоднага вочка фотааб'ектыва. Зноў павярнуўся да груды дроў: Гах! Гах! Гах!..

І не кляцнуў тады затвор фотаапарата...

Я не гаварыў з Аляксандрам пра тое, што было, што ён рабіў гэтыя два гады. Але мне расказалі, што ў яго знайшліся новыя сябры, а потым новыя справы, імкненні, ён не сядзіць без працы — працуе грузчыкам.

— Трэба дбаць пра нашага аднагодка і таварыша, прывіваць моладзі навыкі культуры, добрыя звычкі, перавыхоўваць тых, хто трапіў на лёгкую сцежку. Гэтым і займаецца наш няштатны райком камсамола, — гаворыць Віктар Сырадоеў. І самае важнае тут тое, што гэта не проста словы — за імі

ўжо бачны вынікі работы Чэрыкаўскага райкома.

Каб абудзіць у чалавеку добрае, трэба не так ужо і многа,— трэба знайсці падыход да яго, зацікавіць яго карысцай справай.

Неяк Вольга Берандзеева выдавала Аляксандру Масікаву новыя кнігі. Разгаварылася з ім, прапанавала прыходзіць вечарамі ў райком камсамола. Аляксандр не адмовіўся. Але ішоў ён тады ў райком без усякай сур'ёзнай думкі — адна цікавасць вяла туды. А як прыйшоў, яго адразу неяк непрыкметна ўцягнулі ў размову, і чалавек душой адчуў шчырасць і таварыскасць сяброў. Паступова Аляксандр уцягнуўся ў райкомаўскія клопаты, справы. Яму па душы прыйшоўся гэты дружны камсамольскі калектыў. І Аляксандр стаў актывістам райкома, рыхтуецца ўступіць у члены ВЛКСМ.

* * *

Шыльда «Чэрыкаўскі нештатны райком камсамола» паявілася на адным з пакояў у будынку былога райвыканкома летась у жніўні. У невялікім пакойчыку стол, крэслы, этажэрка з творамі Леніна і мастацкай літаратурай. Над этажэркай — партрэт Уладзіміра Ільіча.

Сакратарамі райкома працуюць камсамольскія актывісты Вольга Берандзеева, Віктар Сырадоеў, Люба Буднікава, членамі бюро райкома — Уладзімір Дуброўскі, Марыя Князькова, Надзя Кумагерава, Сяргей Фонкац.

Штодня а шостай гадзіне вечара, калі заканчваецца працоўны дзень, у вокнах райкома запальваецца святло. Збіраюцца хлопцы і дзяўчаты. Ідуць ад станкоў і з лабараторый, з жывёлагадоўчых ферм. Удзень гэтыя людзі напрацаваліся. Увечары яны збіраюцца ў свой райком не для таго, каб толькі час бавіць. Сакратар райкома Віктар Сырадоеў звычайна правярае, ці ўсё ў парадку з улікам. Вольга Берандзеева абмяркоўвае з актывістамі райкома планы культурна-масавых мерапрыемстваў. Адны прыйшлі ў райком за парадай, другія — са скаргай, трэція — з просьбай. З імі гутарыць член бюро Уладзімір Дуброўскі. А калі наведвальнікі разыходзяцца, Вольга Берандзеева дастае з этажэркі статут ВЛКСМ, гісторыю КПСС, газеты, і пачынаюцца заняткі з навічкамі, якія рыхтуюцца стаць членамі ВЛКСМ.

— Такія заняткі прыносяць карысць,— расказвае Берандзеева.— Моладзь ідзе ў камсамол больш падрыхтаванай. За тры апошнія месяцы мы падрыхтавалі такім чынам 70 чалавек, яны ўжо ўліліся ў камсамольскую сям'ю.

Віктар Сырадоеў — старанны, адукаваны спецыяліст, адзін з лепшых работнікаў на камбінаце бытавога абслугоўвання. Ён знаходзіць час і для актыўнай работы ў райкоме. Ён часта выступае з лекцыямі і дакладамі, бывае ў сельскіх камсамольскіх арганізацыях, гутарыць з членамі ВЛКСМ, якія то на ўлік своечасова не становяцца, то не хочуць вучыцца, то дрэнна паводзяць сябе.

Уладзімір Дуброўскі адказвае за піянерскую работу. Гарачы, уражлівы, гаваркі, ініцыятыўны, Уладзімір і хвіліны не можа пасядзець спакойна. Шмат увагі ён аддае рабоце гуртка авіямадэлістаў пры Доме піянераў. Не, не дарэмна таварышы ў райкоме даручылі яму гэты ўчастак работы.



Майстар па рамонту гадзіннікаў Віктар Сырадоеў.

* * *

Гарадская бібліятэка — любімае месца адпачынку камсамольскіх актывістаў. Кожную нядзелю, а то і ў будні дзень тут можна стрэць і Аляксандра Масікава, і Любу Буднікаву, і Леаніда Мажурава. Пачынаюцца гарачыя размовы пра кнігі, пра любімых герояў, пра жыццё...

У бібліятэцы адбываюцца і новыя знаёмствы, якія потым многіх прыводзяць у рады актывістаў нештатнага райкома.

Неяк у бібліятэку да Вольгі Берандзеевай завітаў Віктар Цыганкоў. Яны разгаварыліся. Віктар вучыцца ў 10-м класе Чэрыкаўскай адзінаццацігодкі і вельмі захапляецца радыётэхнікай. Ён прынёс у бібліятэку цэлы стос брашур па радыётэхніцы і цяпер папрасіў якую-небудзь мастацкую кнігу, у якой расказвалася б пра радыётэхнікаў.

— Пачытай «Лядовую кнігу» Юхана Смуула,— прапануе Берандзеева. І тут жа заходзіць размова пра аўтара гэтай кнігі, пра захапляючую прыгажосць яго паездкі ў ільды далёкай Антарктыкі.

— І радысты ўдзельнічалі ў гэтым рэйсе? — пытаецца Віктар.

— Безумоўна. Хіба можа сёння які-небудзь карабель плысці так далёка без радыёсувязі, без радыстаў? — тлумачыць Вольга.— Ты даведаешся пра подзвіг незнаёмага радыста, які скрозь сібірскую тайгу пранёс свой няспраўны перадатчык, па снезе прайшоў пешшу 400 кіламетраў, але дабраўся да месца, дзе можна было адрамантаваць перадатчык. Прачытаеш пра радыстаў-палярнікаў; даведаешся аб тым, як радыст Уладзімір Сушанскі з далёкай антарктычнай палярнай станцыі Мірны вёў размову з талінскім радыёаматарам...

— А далей? — Віктар захапіўся расказам Берандзеевай. Усхваляваны, ён нечакана абрадаваўся, што так блізка пазнаёміўся з клапатлівым, уважлівым бібліятэкарам.

Сёння размова з Віктарам спынілася на «Лядовай кнізе», а заўтра, напэўна, Берандзеева запросіць яго прыняць удзел у рабоце нештатнага райкома камсамола. І ён, відаць, знойдзе тут карысную для сябе справу, чулых і шчырых сяброў.

Хацелася б расказаць і яшчэ пра аднаго сакратара нештатнага райкома — пра Любу Буднікаву. Аднак сустрэцца з ёю не давялося. Тое, што яна недалёка ад Чэрыкава працуе на Гронаўскім лесапункце, безумоўна, не перашкода для сустрэчы. Тут іншая справа: прыехаўшы з камандзіроўкі з Гомеля, Люба адразу ж выехала на далёкія лясныя дзялянкі.



Уладзімір Дуброўскі захапляецца авіямадэлізмам.

...Нештатны райком у Чэрыкаве дзейнічае. У сваёй рабоце ён яшчэ толькі робіць першыя крокі. Але ўжо зараз нельга не адчуць, што ў невялічкім пакойчыку за шыльдаю «Нештатны райком камсамола» струменіць жывая крыніца смелых думак, новых спраў, накіраваных на вырашэнне важных задач камуністычнага выхавання моладзі.

**Віктар КАРАМАЗАЎ.**

г. п. Чэрыкаў.



У Вольгі Берандзеевай шмат цікавых кніг і заўсёды шмат наведвальнікаў. Вось зайшлі ў бібліятэку Іна Баранава і Віктар Цыганкоў.

Фота Д. Прахарэнкі.



Чырвонаармеец Серада (арт. П. Дубашынскі) у спектаклі «Як гартавалася сталь» па раману М. Астроўскага.

Фота І. Берліна.

# ГАЛЕРЭЯ СУЧАСНІКАЎ

... Магутным «ура!» адказваюць чырвоныя байцы на палымяную прамову свайго любімага камандзіра. Гучыць баявая труба. Сталёвыя шаблі паласуюць паветра. Будзёнаўская конніца сакрушальнай лавінай імчыць далей — дабіваць апошніх ворагаў рэвалюцыі. Так заканчваецца нядаўняя прэм'ера Рэспубліканскага тэатра юнага гледача — спектакль «Чырвоныя чарцяняты» па п'есе П. Бляхіна, А. Палявога і А. Талбузіна.

Шчырымі воплескамі юныя гледачы яшчэ і яшчэ раз патрабуюць рассунуць заслону, каб развітацца са сваімі любімымі героямі. Позіркі ўсіх прыкаваны да высокага чалавека ў чорнай бурцы. Дык вось ён які, легендарны герой грамадзянскай вайны, няўлоўны, як вецер, і жахлівы, як смерць, для ўсіх буржуяў і белых афіцэраў!

— Будзённы!.. Будзённы!.. — і дзеці бягуць да аркестра, каб зблізку паглядзець на чалавека, аб якім яны столькі чыталі і чулі ад старэйшых...

А вечарам малады артыст Павел Дубашынскі (гэта ён па-майстэрску ўвасобіў любімы дзецьмі вобраз чырвонага камандзіра) перад пачаткам спектакля за сваім акцёрскім столікам рыхтуецца да новай сустрэчы, на гэты раз ужо з дарослым гледачом. Будзёнаўскую бурку і шаблю ён змяніў на звычайны цывільны касцюм вясковага інтэлігента і папку калгаснага бухгалтара. І пакуль званок пакліча артыста на сцэну, у яго ёсць час заглянуць у сваю ролю. Яна ўся «размалявана» шматлікімі значкамі і рысачкамі, якія сведчаць пра ўдумлівую і працяглую работу выканаўцы над вобразам. Вось ён на нейкі час паглыбляецца ў адному яму вядомую таямніцу гэтых значкоў і рысачак, неяк лагодна сам сабе ўсміхаецца і ціха паўтарае рэплікі.

Звініць трэці званок. Зашыпеў дынамік на сцяне, і патрабавальны голас памочніка рэжысёра абвяшчае:

— Пачынаем спектакль! Акцёраў прашу на сцэну!

Артыст уважліва аглядае сябе, прывычным рухам бярэ пад паху папку і накіроўваецца на сцэну. Але гэта ўжо не Павел Дубашынскі, а нейкі невядомы малады чалавек са сваімі звычкамі і своеасаблівым поглядам на жыццё.

Хто ж ён сёння?

У пакінутай на стале ролі напісана: «Іван Козел. «Над хвалямі Серабранкі». Роля Фёдара Жыгліцкага.

І глядач хутка пераконваецца, што за цаца гэты прыемны з першага позірку чалавек, якімі праўдамі і няпраўдамі ўсё цягне ў свой дом, душачы сябе і жонку цяжкай работай, абмінаючы сапраўднае жыццё. Медная капейка засланіла яму свет. Жудасны, але рэальны тып, які прыйшоў у сённяшні дзень з мінулага.

І так з вечара ў вечар, са спектакля ў спектакль уважлівы глядач можа прыкмеціць маладога акцёра ўсё ў новых і новых ролях. То ён — герой грамадзянскай вайны, то — рабочы хлопец з завода або важак камсамольскай моладзі, які едзе ўзнімаць цаліну. Сёння ён — бясстрашны падпольшчык Айчыннай вайны, заўтра — чулы педагог ці інжынер-наватар. Так рыса за рысай, вобраз за вобразам малады выканаўца разгортвае на сцэне слаўную біяграфію сучасніка, героя свайго пакалення.



Фёдар (арт. П. Дубашынскі) і яго маці (арт. А. Ротар) у спектаклі «Над хвалямі Серабранкі» па п'есе І. Козела.

Фота І. Ароцкера.



Камандарм Будзённы (арт. П. Дубашынскі) у спектаклі «Чырвоныя чарцяняты».

Фота А. Дзітлава.

Даўно ведаюць і палюбілі гэтага здольнага артыста не толькі школьнікі, але і людзі старэйшага пакалення, якія наведваюць спектаклі ў Тэатры юнага гледача. Акцёр вабіць сваёй юначай шчырасцю, насычанасцю характару, унутранай пераканаўчасцю вобраза. Яго героі — заўсёды бадзёрыя, напорыстыя і імклівыя: ім уласцівы здаровы гумар і вера ў высокія ідэалы. Добра вядомы гледачам такія ролі Дубашынскага, як Аляксей Ярцаў («Па заклiку сэрца»), Уладзімір Езавітаў («Юныя мсціўцы»), Мікалай Карасёў («Час любві і нянавісці») і шэраг іншых. Усе яны тэмпераментныя, захопленыя адной марай, але зусім не падобныя па сваіх характарах адзін на другога, хоць і належаць да адной сям'і, нашай савецкай моладзі.

Нарадзіўся Павел Дубашынскі ў 1931 годзе на Полаччыне ў вёсцы Гарбуны. Школа, камсамольскія сходы, першы поспех у гуртку мастацкай самадзейнасці, які і



Глаша (арт. Л. Цімафеева) і Аляксей Рошчын (арт. П. Дубашынскі) ў спектаклі «Дзяўчына з вяснушкамі» па п'есе А. Успенскага.
Фота І. Ароцкера.

прывёў яго ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Неўзабаве педагогі пераконваюцца ў здольнасцях і незвычайнай працавітасці юнака, даручаюць яму адказныя ролі ў дыпломных спектаклях, за якія студэнт Дубашынскі атрымоўвае самы высокі бал.

Творчая біяграфія артыста такая ж маладая, як і біяграфія Тэатра юнага гледача, куды ён прыйшоў у 1955 годзе пасля заканчэння інстытута. За шэсць гадоў сцэнічнай працы ім сыграна каля двух дзесяткаў роляў, большая частка якіх адзначана грамадскасцю і крытыкай як удачы маладога выканаўцы.

З першых спектакляў малады акцёр быў заўважаны гледачом. Калі дзіцячая аўдыторыя ганарылася адважным і разумным Караколем — Дубашынскім у казцы Т. Габе «Горад майстроў», дык гледачы старэйшага ўзросту яўна сімпатызавалі яму ў ролі чырвонаармейца Серады («Як гартавалася сталь»). Першы поспех быў замацаваны потым у спектаклі «Твой шлях» В. Розава вобразам Косці Палятаева, дзе Дубашынскі паказаў добры тэмперамент, дасціпны гумар, каб раскрыць супярэчлівы характар рабочага хлопца. Добра было відаць, што гэтыя вобразы ўдала дапасаваліся да індывідуальнай асаблівасці артыста. Тым не менш, крытыка ўжо тады заўважыла ў маладога выканаўцы прыкметныя сцэнічныя здольнасці, якія пры належнай працы могуць развіцца і прынесці яму поспех і ў больш складаных вобразах.

Павел Дубашынскі — выхаванец рэжысёра-педагога Л. Мазалеўскай. Яшчэ ў дні вучобы яна разгледзела ў юнаку добрыя сцэнічныя здольнасці, самабытную творчую натуру. Гэтыя якасці артыст захаваў і паглыбіў у прафесіянальным тэатры. Пад кіраўніцтвам той жа Л. Мазалеўскай у практычнай рабоце на рэпетыцыях ён удасканальваў набытыя навыкі працы над вобразам, навучыўся псіхалагічна глыбока раскрываць характары і знаходзіць для гэтага яркія знешнія рысы.

У сцэнічнай практыцы П. Дубашынскі пачынае ўзнімацца па прыступках да сталага майстэрства. Гэта добра відаць ужо ў такіх вобразах, як Аляксей Ярцаў («Па закліку сэрца»), дзе выканаўца праявіў вялікую назіральнасць і творчую ўдумлівасць, сінтэзаваўшы асноўныя рысы біяграфіі свайго пакалення; як няўрымслівы і крыштальна сумленны настаўнік Уладзімір Аляксандравіч са спектакля «Аркадзь Жыгалкін», парабак Лявон у п'есе «Папараць-кветка» і інш. Але калі ў гэтых ролях артыст іграе свайго сучасніка і цяжка знайсці прыкметную мяжу паміж увасобленым вобразам і ім самім, то найбольш яркія рысы майстэрства праяўляюцца пазней у такіх ролях, як пірат Генс («Востраў скарбаў»), а затым сіньёр Мандарын у вядомай казцы Д. Радары «Прыгоды Чыпаліна». Найбольш удалы ў маладога артыста вобраз паштмайстра ў камедыі М. Гогаля «Рэвізор», дзе выканаўца шырока праявіў сатырычныя акцёрскія абагульненні, хоць часам і захапляецца шаржам.





Лявон (арт. П. Дубашынскі) у спектаклі «Папараць-кветка» па п'есе І. Козела.

Фота А. Дзітлава.

Павел Дубашынскі — выканаўца характарных роляў. Індывідуальныя рысы яго сцэнічнага таленту — гэта прастата, пачуццё свабоды на сцэне, глыбокае адчуванне псіхалогіі ролі, выразнасць сцэнічнага характару, пераканальнасць і незвычайная прывабнасць. Але самая галоўная і выдатная яго рыса — працавітасць. Галоўнае для яго ў жыцці — праца ў тэатры. У перапынках паміж рэпетыцыямі і спектаклямі Паўла Дубашынскага можна часта бачыць з новай роляй у руках, над якой ён старанна працуе кожную вольную хвіліну. На рэпетыцыях ён заўсёды сабраны, творча паглыблены і працуе з поўнай аддачай усіх сваіх сіл. Найбольш важным момантам пры рабоце над вобразам ён лічыць аналітычны перыяд, калі дасканала вывучаецца ўся біяграфія ролі, раскрываюцца таямніцы ўнутранага стану героя. У такія хвіліны артыст ставіць дзесяткі пытанняў рэжысёру і драматургу, пакуль логіка паводзін вобраза і тэкставое выражэнне яго імкненняў не стануць для выканаўцы яснымі і зразумелымі. Артыст Дубашынскі любіць распрацоўваць свае ролі самастойна, кіруючыся агульнай рэжысёрскай задумай. Ён не толькі выконвае ўказанні пастаноўшчыка, але імкнецца творча дапаўняць і развіваць вобраз.

Не ўсе створаныя Дубашынскім ролі аднолькава ўдалыя. Часам артысту не да канца ўдаецца пранікнуць ва ўнутраную сутнасць вобраза, і ён застаецца дэкларатыўным, аднак крок за крокам ён ідзе прамой дарогай творчага росту. Не кожная роля ў Дубашынскага да прэм'еры бывае закончанай, але ад спектакля да спектакля акцёр не прыпыняе работы, вобраз узбагачаецца новымі фарбамі.

Найбольш часта артыст Дубашынскі выконвае ролі станоўчых герояў, увасабляючы лепшыя рысы характару прадстаўнікоў камсамольскага пакалення. Але не меншы поспех сустрэў выканаўцу і ў вобразах адмоўных. Да іх ліку можна аднесці ролі Барыса Родзіна ў спектаклі «Учора ў Касаткіне» па п'есе А. Зака і І. Кузняцова, дзе Дубашынскі намаляваў абагульнены тып мешчаніна, які прыкрываецца маскай перадавога савецкага чалавека; шпіёна Ларсена са спектакля «На граніцы» па п'есе В. Белаазёрава. Ёсць у творчасці маладога артыста і тыя няўлоўныя рысы нацыянальнай своеасаблівасці, якія дапамагаюць яму ў спектаклях беларускіх драматургаў стварыць вобразы людзей, непарыўна звязаных душой і думкамі з родным краем. Для прыкладу можна назваць Лявона («Папараць-кветка»), Адася («За лясамі дрымучымі»), Валодзю Езавітава («Юныя мсціўцы»), Фёдара Жыгліцкага («Над хвалямі Серабранкі») і іншыя.



Хлестакоў (арт. В. Лебедзеў) і паштмайстар (арт. П. Дубашынскі) у спектаклі «Рэвізор» М. Гогаля.
Фота І. Ароцкера.



Ганна (арт. Л. Старадумава) і Сымон арт. П. Дубашынскі) у тэлевізійным спектаклі «Песня музыкі».

Фота А. Дзітлава.

Нядаўна артыст Дубашынскі з поспехам выступіў у спектаклі «Дзяўчына з вяснушкамі» А. Успенскага, дзе ён весела і энергічна выконвае ролю маладога інжынера Аляксея Рошчына. Гэта адна з любімых работ маладога выканаўцы.

П. Дубашынскі вядомы не толькі работай на сцэне тэатра, але і выступленнямі па беларускаму радыё і тэлебачанню. Ім увасоблен цікавы вобраз маладога Янкі Купалы у радыёпастаноўцы «Янкава ранне» і шэраг роляў па тэлебачанню. Да іх можна аднесці вобразы беларускіх паэтаў Максіма Багдановіча, Валянціна Таўлая, а таксама паэтычнага Сымона-музыку. Ні на хвіліну не забывае малады артыст пра галоўны свой абавязак — працаваць над сабой, удасканальваць сваё майстэрства. Ён часты госць у глядзельных залах старэйшых тэатраў Мінска, адкуль уважліва назірае за работай вопытных майстроў сцэны.

Натхнёны рашэннямі XXII з'езда КПСС, Праграмай роднай партыі, малады акцёр марыць дапоўніць галерэю сучаснікаў паўнацэнным вобразам маладога будаўніка камуністычнага грамадства.

Сяргей ПЯТРОВІЧ.

# ПАДКАЗАНА ЖЫЦЦЁМ

Рэспубліканская мастацкая выстаўка 1961 года паказала, што беларускія майстры выяўленчага мастацтва праяўляюць шчырую цікавасць да жыцця людзей сучаснай вёскі, да іх працы і быту. Жывапісцы і графікі, скульптары і майстры прыкладнога мастацтва звярнуліся да гэтай невычарпальнай тэмы і, трэба аддаць ім належнае, стварылі высокамастацкія, запамінальныя творы, якія раскрываюць героіку сельскіх працоўных будняў.

Сярод такіх твораў асабліва вылучаецца вялікае шматфігурнае палатно «Дарагі госць», напісанае заслужаным дзеячом мастацтва БССР Я. Зайцавым. На стварэнне гэтай карціны натхніў мастака прыезд у Беларусь Першага Сакратара ЦК КПСС, Старшыні Савета Міністраў СССР М. С. Хрушчова. Мікіта Сяргеевіч, знаходзячыся ў нашай рэспубліцы, пабываў у калгасе імя Гастэлы, дзе гутарыў з калгаснікамі, раіў ім сур'ёзна ўзяцца за вырошчванне «каралевы палёў»—кукурузы. Гэта сустрэча праходзіла ў шчырай, сяброўскай абстаноўцы. Калгаснікі дзяліліся сваімі планамі з кіраўніком нашага савецкага ўрада, раіліся з ім.

Я. Зайцаў пабываў у калгасе імя Гастэлы, пазнаёміўся з лепшымі людзьмі, сустракаўся ён і з вядомымі ў рэспубліцы вучонымі-кукурузаводамі. Гэтыя сустрэчы, непасрэднае знаёмства з іх працай навялі мастака на думку, што карціна павінна раскрываць не толькі адну канкрэтную падзею, а тыповую для нашых дзён з'яву. Мастак адмовіўся ад першапачатковай задумы, якая грунтавалася непасрэдна на матэрыяле аднаго калгаса, і вырашыў узяцца за стварэнне глыбокага па нацыянальнаму каларыту твора.

Пачаўся цяжкі і складаны перыяд пошукаў тыповых вобразаў. Мастаку шмат давялося папрацаваць над выбарам вобраза старшыні калгаса, які знаёміць дзяўчат-кукурузаводак з Мікітам Сяргеевічам. Вобраз старшыні — не канкрэтны вобраз: ён узнік у выніку стварэння і далейшай апрацоўкі паасобных эцюдаў-партрэтаў з некаторых старшынь перадавых нашых калгасаў. Атрымаўся абагульнены вобраз разважлівага, упэўненага гаспадара зямлі, які з веданнем справы дакладвае М. С. Хрушчову аб поспехах маладых калгасніц. Сярод іх адразу ж кідаецца ў вочы дзяўчына ў цэнтры, звеннявая — збіральны вобраз нашай моладзі, якая пасля заканчэння школы застаецца ў родных калгасах і, працуючы, вучыцца завочна. Схіліла галаву адна з сябровак дзяўчыны-кукурузаводкі, сціплая і працавітая: яна ўсхвалявана слухае пахвалу Мікіты Сяргеевіча.

Вядома, што побач з моладдзю на пярэднім краі барацьбы за стварэнне багацця сельскагаспадарчых прадуктаў працуюць людзі старэйшага пакалення, узбагачаныя практычным вопытам і веданнем жыцця. І мастак, імкнучыся да найбольшай праўды і пераканаўчасці, увёў у карціну і вобразы пажылых людзей. Добра, запамінальна напісана калгасніца ў чырвонай сукенцы. Гордая за сваіх сяброваk, яна ўсхвалявана вітае дарагога госця.

У вобразе Мікіты Сяргеевіча Хрушчова мастак падкрэсліў такія яго рысы, як блізкасць да народа, прастату, шчырасць і, асабліва, яго вялікую прыхільнасць да людзей працы, глыбокую зацікаўленасць іх штодзённым жыццём. На палатне ўсе дзеючыя асобы кампазіцыйна і псіхалагічна даволі ўдала звязаны.

Карціна напісана ў спакойным каларыце, без рэзкіх фарбавых акцэнтаў, і толькі праменні вячэрняга сонца, што сям-там прарываюцца праз зараснікі кукурузы, прыўзнімаюць настрой правай часткі палатна, што адпавядае зместу.

Вялікую ролю ў гэтым творы адыгрывае пейзаж. Мастаку давялося шмат паездзіць, зрабіць шмат эцюдаў з натуры, каб намаляваць характэрны беларускі пейзаж. Тое, што мы бачым на карціне,—барозны, якія знікаюць удалечыні апрацаванага тарфяніка, на даляглядзе цемнаватая палоска лесу, — усё ўзята з натуры.

Я. Зайцаў стварыў значны мастацкі твор, дзе шырока, абагульнена паказаны тыя новыя з'явы, што ўвайшлі ў нашае жыццё пасля XX з'езда КПСС. Гэты твор заслужана прадстаўлен на Усесаюзную мастацкую выстаўку 1961 года і карыстаецца там пэўным поспехам.

З кожным днём мяняецца аблічча нашай беларускай вёскі. На месцы колішніх падслепаватых драўляных хацін будуюцца новыя, светлыя дамы. Радыё і электрычнасць трывала ўвайшлі ў быт у самых далёкіх кутках рэспублікі. Па прыкладу вядомага калгаса-маяка «Рассвет» у нас ствараюцца новыя калгасныя сядзібы—з дамамі гарадскога тыпу, з усімі выгодамі быту.

У Праграме КПСС асабліва выразна падкрэслена імкненне партыі і народа ужо ў бліжэйшае дзесяцігоддзе змяніць аблічча нашых вёсак. Натуральна, што мастакі імкнуцца адлюстраваць у сваіх творах гэтыя радасныя змены. І на выстаўцы шмат карцін, дзе з розным майстэрствам і ўменнем успрымаць жыццё ўвасоблены такія тэмы. Тэматычнае палатно мастака І. А. Давідовіча «Наша будучае сяло»—адно з лепшых.

У невялікім пакоі, вакол макета будучага пасёлка, сабраліся калгаснікі. Яны ўсхвалявана абмяркоўваюць новы праект. На тварах адных — радасць, што задума будзе здзейснена, другія задумаліся, ці ўсё ў новым праекце як мае быць улічана... Асабліва кідаюцца ў вочы — валявая жанчына, старшыня калгаса, у цэнтры карціны, і малады хлопец, задорны і энергічны. Як усё гэта натуральна!

Эдуард ВАРАШЫЛАЎ,

старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага мастацкага музея БССР.

# ЦІКАВЫ БАЛЕТНЫ СПЕКТАКЛЬ

Новы беларускі балет «Мара» напісаны маладым кампазітарам Яўгенам Глебавым на лібрэта драматурга Яўгена Рамановіча. Тэма гэтага твора — новая для беларускага харэаграфічнага мастацтва. Упершыню ў жанры балета раскрываюцца падзеі нашай сучаснасці, паказваецца лёс чалавека, які пасля доўгіх пакут на чужыне вярнуўся на радзіму і змог ажыццявіць сваю запаветную мару.

Гераіня балета — беларуская дзяўчына Марыя яшчэ ў маленстве апынулася за мяжою ў адной з краін Паўднёвай Амерыкі. Яе бацькі трапілі туды ў пошуках шчасця, якога не маглі знайсці ў былой Заходняй Беларусі. Дзяўчына марыць стаць балерынай, але найбольшае, чаго яна можа дасягнуць у капіталістычным «раі», — гэта быць танцоўшчыцай у кабарэ. Ды і то толькі ў тым выпадку, калі яна згодзіцца быць



Касмічны танец.

каханай сына ўласніка кабарэ — разбэшчанага прайдзісвета Карласа. Марыю не можа задаволіць такі лёс.

Праўда аб жыцці ў Савецкай Беларусі дайшла да Марыі і яе сяброў. Яны памагаюць Марыі вярнуцца на радзіму. Дзяўчына здзяйсняе сваю мару: становіцца салісткай балета.

Як відаць з кароткага пераказу лібрэта, падзеі спектакля адбываюцца ў дзвюх розных па сацыяльнаму ўкладу і па агульнаму каларыту краінах. Гэта, з аднаго боку, давала кампазітару магчымасць зрабіць свой твор кантрасным па вобразах і яркім па багаццю падзей і сутыкненняў, але, з другога боку, гэта ж стварала для аўтара дадатковыя цяжкасці: трэба было дамагацца, каб музычнае вырашэнне тэм і іх развіццё адпавядала знешне і ўнутрана розным абставінам. Нельга сказаць, што аўтар цалкам пераадолеў гэтыя цяжкасці. Але ён стварыў шмат цікавага, і перш за ўсё там, дзе ўскрывае заняпад і разбэшчанасць капіталістычнага свету.

Варта прыгадаць, напрыклад, музыку першай карціны другой дзеі балета, дзе Марыя сутыкаецца з апустошанай так званай «залатой» моладдзю ў вулічным кафэ. Кантраст паміж народнасцю, пявучай асновай танца Марыі і ўльтрасучаснымі рытмамі танца людзей-манекенаў пад аднастайнае завыванне музычных інструментаў атрымаўся ў кампазітара вельмі выразны, упэўнены. Не менш выразная музыка ў чацвёртай карціне балета, дзе дзяўчына марыць аб сваёй далёкай радзіме.

Спартыўны танец.



Ёсць у музыцы балета і іншыя станоўчыя якасці: добрая інструментоўка, адчуванне спецыфікі танцавальнага мастацтва, уменне стварыць хвалюючую кульмінацыю ў асобным эпізодзе або карціне.

Талент кампазітара аказаўся больш сталы там, дзе ён асуджае адмоўнае. Вось чаму нават у такім аптымістычным па задуме эпізодзе балета, як сустрэча Марыі з Міколам каля будынка тэатра, дзе яны раскрываюць адзін аднаму свае пачуцці, у музыцы мацней гучыць тэма ўспамінаў гераіні аб змрочным мінулым, чым радасць яе сённяшняга жыцця.

Ёсць свае, як кажуць, плюсы і мінусы і ў пастаноўцы балета «Мара». Да здабыткаў спектакля (пастаноўшчык — галоўны балетмайстар тэатра засл. арт. РСФСР А. Андрэеў) трэба аднесці вельмі шчырае раскрыццё вобраза Марыі заслужанымі артысткамі БССР А. Карзянковай і І. Савельевай, цудоўны танец каляровай дзяўчыны ў выкананні Р. Красоўскай, вельмі арыгінальнае вырашэнне танца манекенаў (І. Дароніна, Л. Пятрова, Р. Сінёва, Р. Цырульнік, Н. Чалес), зграбны танец з мячамі на студэнцкім балі, выкананне ролі так званай мадэрнісцкай танцоўшчыцы засл. артысткай БССР В. Крыкавай.

Шмат цікавага і ў мастацкім афармленні спектакля. Заслужаны дзеяч мастацтва Я. Чамадураў стварыў выдатныя дэкарацыі сучаснага капіталістычнага горада-спрута (2-я дзея). Шмат святла і паветра ў эпізодах студэнцкага балю; цудоўна паказаны на сцэне пад'езд опернага тэатра ў Мінску і іншае.

Нельга не адзначыць яркае выкананне музыкі балета аркестрам тэатра пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора народнага артыста БССР Л. Любімава.



Заслужаныя артысты рэспублікі В. Давыдаў (Мікола) і І. Савельева (Марыя).
Фота У. Крука.

Адказная сучасная тэма і таленавітасць маладога аўтара, які выносіць свой твор на суд грамадскасці, патрабуе далейшага ўдасканалення гэтага цікавага і арыгінальнага спектакля.

**І. ІНІЧ.**

# КАЛІ ЗМЯНЯЕЦЦА ВАГА

«...Усе не прымацаваныя да ракеты рэчы сышлі са сваіх месц і павіслі ў паветры, ні да чаго не дакранаючыся; а калі яны і дакранаюцца, дык не робяць ціску адна на другую або на апору. Мы таксама не дакранаемся да падлогі і прымаем любое становішча і кірунак: стаім і на падлозе, і на столі, і на сцяне; стаім перпендыкулярна і нахіліўшыся, плаваем пасярэдзіне ракеты, як рыбы, але без намаганняў і ні да чаго не дакранаючыся: ні адна рэч не ціснё на другую...»

Так апісваў Канстанцін Эдуардавіч Цыялкоўскі незвычайны стан, які павінен запанаваць у касмічным караблі пасля выключэння яго рухавікоў — стан бязважкасці.

Яшчэ зусім нядаўна пра бязважкасць і іншыя незвычайныя з'явы, якія адбываюцца ў час ка-

смічных палётаў, мы чыталі толькі на старонках навукова-фантастычных раманаў.

Паспяховае асваенне касмічнай прасторы, палёты савецкіх спадарожнікаў, ракет і касмічных караблёў, палёт Ю. Гагарына на касмічным караблі «Усход-1» і бяспрыкладны палёт Г. Цітова на караблі «Усход-2», якія адкрылі чалавеку шлях у космас, паставілі на парадак дня вывучэнне фізічных умоў, якія ўзнікаюць унутры ракеты на розных этапах касмічнага палёту. Гэтыя ўмовы звязаны не толькі з тым, што палёт ракеты адбываецца ў беспаветранай прасторы, але таксама і з своеасаблівым характарам дзеяння механічных сіл, якое выклікае на розных участках руху касмічнага карабля стан перагрузак і бязважкасці.

Існаванне чалавека на паверхні Зямлі абумоўлена не толькі тым, што тут ёсць паветра, атмасферны ціск і адпаведныя тэмпературы, але і тым, што на яго ўздзейнічаюць пэўным чынам механічныя сілы. Пры гэтым галоўную ролю адыгрываюць дзве акалічнасці: тое, што ўсе наземныя целы маюць вагу, і тое, што ў розных пунктах зямной паверхні амаль не назіраецца розніцы ў хуткасці руху.

Вага на Зямлі звязана з дзеяннем сіл прыцягнення. Наша планета прыцягвае да сябе ўсе рэчы і прымушае іх аказваць ціск на свае апоры. Сіла гэтага ціску і ёсць вага любога цела.

Адсутнасць адчувальных паскарэнняў звязана з асаблівасцямі руху Зямлі ў сусветнай прасторы. Разам з нашай планетай мы ўдзельнічаем у двух асноўных яе рухах: сутачным вярчэнні вакол зямной восі і гадавым абарачэнні вакол Сонца.

Аднак гэтыя рухі адбываюцца настолькі плаўна і на кожным асобным участку для любога пункта зямной паверхні так нязначна адрозніваюцца ад прамалінейнага, што паскарэнні, якія пры гэтым узнікаюць, — практычна не адчуваюцца. І хоць мы імчымся разам з Зямлёю вакол Сонца з хуткасцю 30 кіламетраў у секунду, а разам з сонечнай сістэмай вакол цэнтра Галактыкі з велізарнейшай хуткасцю — каля 230 кіламетраў у секунду, мы гэтага не прыкмячаем, бо арганізм чалавека зусім не ўспрымае хуткасці раўнамернага руху.

Зусім іншая справа ў ракеце. Тут уздзеянне механічных сіл на чалавека цалкам залежыць ад характару руху.

* * *

На ўчастках разгону і тармажэння ўсе рэчы, якія ёсць у касмічным караблі, набываюць адпаведныя паскарэнні. Так, напрыклад, на ўчастку вываду карабля на арбіту ракета набірае хуткасць, і апора, на якую рэчы робяць ціск, з паскарэннем рухаецца ім насустрач. Гэтае паскарэнне надаецца целу не адначасова, а праз дэфармацыю. Цела сціскаецца, сплюшчваецца, пачынае мацней ціснуць на апору — узрастае яго вага.

Адносіны фактычнай вагі цела да яго нармальнай вагі ва ўмовах Зямлі і атрымалі назву перагрузкі. Для чалавека, які знаходзіцца на паверхні Зямлі, перагрузка будзе роўнай адзінцы. Да ўздзеяння гэтай пастаяннай перагрузкі чалавечы арганізм прыстасаваўся, і мы яе проста не адчуваем.

З больш значнымі перагрузкамі сустракаюцца лётчыкі скорасных рэактыўных самалётаў. Пры выкананні некаторых фігур вышэйшага пілатажу лётчыкі пераносяць непрацяглыя перагрузкі, у выніку якіх іхняя вага ўзрастае ў восем і больш разоў. У такіх выпадках фактычная вага лётчыка дасягае прыкладна паўтоны.

Вядомы савецкі лётчык А. Пакрышкін так апісвае свае адчуванні ў час аднаго з праведзеных ім палётаў: «Занадта рэзка выруліўшы машыну, каб не сутыкнуцца з палаючым «месерам», я ад вялікай перагрузкі на нейкае імгненне страціў прытомнасць».

Лётчык-выпрабавальнік амерыканец Джымі Колінз расказвае: «... велізарная нябачная пачвара ўціскала маю галаву ў плечы і так прыціскала мяне да сядзення, што мой хрыбет згінаўся і я стагнаў пад гэтым цяжарам. Кроў адхлынула ад галавы, у вачах пацямнела... сэрца стукала, як пнеўматычны молат... потым я зноў падняўся і зрабіў два піке. Яны літаральна расплюшчылі мяне...»

Пад уздзеяннем перагрузак цела чалавека дэфармуецца, змяшчаюцца са сваіх месц унутраныя органы, адбываецца парушэнне кровазвароту. Праўда, як толькі ўздзеянне перагрузкі спыняецца, чалавек вяртаецца да нармальнага стану. Шкоднага выніку перагрузка не пакідае. Але толькі да таго часу, пакуль яна невялікая і не надта працяглая.

Назіранні паказваюць, што здаровы чалавек без папярэдняй трэніроўкі здольны пераносіць без шкоды для здароўя чатырох-, пяціразовую перагрузку на працягу некалькіх мінут. Пры імгненным уздзеянні, у тых выпадках, калі працягласць перагрузкі не перавышае адной дзесятай секунды, чалавек можа вытрымаць дваццаціразовыя і нават яшчэ большыя перагрузкі.

З тэхнічнага пункту погляду найбольш мэтазгодна, каб разгон ракеты да зададзенай хуткасці быў зроблены ў найбольш кароткі прамежак часу. Гэта звязана з вялікімі паскарэннямі, але затое дае значную эканомію паліва. З медыка-біялагічнага пункту погляду разгон павінен быць як мага больш працяглы, таму што ў гэтых умовах на касманаўта будуць уздзейнічаць меншыя перагрузкі. Пры сучасным стане ракетнай тэхнікі гэтую супярэчнасць даводзіцца вырашаць у карысць інжынераў. Так, напрыклад, у час палёту сабак Белкі і Стрэлкі на другім савецкім караблі-спадарожніку перагрузка на некаторых участках дасягала дзесяціразовай.

Усё гэта патрабуе распрацоўкі спецыяльных ахоўных мерапрыемстваў, здольных паменшыць уздзеянне перагрузкі на чалавечы арганізм.

Шматлікія эксперыментальныя даследаванні паказалі, што фізіялагічнае ўздзеянне перагрузкі залежыць не толькі ад яе працягласці, але і ад становішча цела. Пры вертыкальным становішчы чалавека значная частка крыві ідзе ў ніжнюю палову цела, выклікаючы парушэнне забеспячэння крывёю галаўнога мозгу. Унутраныя органы, у выніку павелічэння сваёй вагі, таксама ціснуць уніз, выклікаючы моцнае нацяжэнне мускулаў.

Каб пазбегнуць небяспечных для арганізма перагрузак, на ўчастках паскоранага руху неабходна размяшчацца такім чынам, каб перагрузка была накіравана ад спіны да грудзей. Такое становішча дазваляе пераносіць, прыкладна, утрая большыя перагрузкі. Дарэчы, гэта было прадугледжана яшчэ Цыялкоўскім, калі ён даследаваў уздзеянне паскарэнняў на цэнтрыфузе. Гэта пацвярджаецца, між іншым, і нашым штодзённым вопытам. Як вядома, лежачы, чалавек адчувае значна меншую стомленасць, чым стоячы. Гэта звязана з тым, што ў другім выпадку сэрцу трэба перапампоўваць кроў на большую вышыню і, значыць, выконваць большую работу супраць сіл прыцягнення.

Выходзячы з гэтага, крэсла касманаўта павінна быць сканструявана так, каб забяспечваць найбольш выгадны напрамак перагрузкі. Задача, аднак, ускладняецца тым, што ўчасткі разгону і тармажэння карабля бываюць таксама і крывалінейныя, і, значыць, у гэты час напрамак паскарэння не будзе супадаць з напрамкам скорасці. Таму, крэсла касманаўта не павінна быць трывала замацавана адносна прадольнай восі карабля, а мець спецыяльнае аўтаматычнае прыстасаванне, якое б змяняла яго становішча ў адпаведнасці з кірункам дзеяння паскарэння.

Для аховы ад перагрузак існуе таксама спецыяльны процівперагрузачны касцюм. Ён ужываецца цяпер у рэактыўнай авіяцыі. Касцюм складаецца з штаноў асобага крою са шчыльнай тканіны, на ўнутранай паверхні якіх прымацаваны надзіманыя гумавыя падушкі. У момант перагрузкі ў гэтыя падушкі аўтаматычна нагнятаецца сціснутае паветра. Раздзімаючыся, падушкі абцягваюць ніжнюю частку цела, як быццам выціскаючы з яе кроў. Ступень ціску паветра ў касцюме аўтаматычна рэгулюецца ў залежнасці ад велічыні перагрузкі. Перашкаджаючы расшырэнню крываносных сасудаў ніжніх канечнасцей і пранікненню ў іх вялікай колькасці крыві, касцюм тым самым не дапускае рэзкага

паніжэння крывянога ціску ў сасудах галаўнога мозгу і, значыць, павышае ўстойлівасць лётчыка да перагрузак.

Ёсць таксама думка змяшчаць чалавека, на якога павінна дзейнічаць перагрузка, у ваду або якую-небудзь іншую вадкасць. Як вядома, вадкасць валодае здольнасцю перадаваць зроблены на яе ціск аднолькава ва ўсіх напрамках. Таму чалавек, які плавае ў вадкасці, будзе адчуваць значна больш раўнамернае ўздзеянне перагрузкі.

* * *

Савецкім вучоным удалося паспяхова вырашыць шэраг праблем, звязаных з аховай касманаўта ад шкоднага ўздзеяння перагрузак. І, аднак, нягледзячы на гэта, пры сучасным стане ракетнай тэхнікі паспяховая барацьба з перагрузкамі ў многім залежыць ад вынослівасці і фізічнай падрыхтоўкі самога касманаўта. Для гэтага будучы пілот касмічнага карабля павінен прайсці спецыяльны курс трэніроўкі на цэнтрыфузе.

Цэнтрыфуга — гэта велізарная металічная страла, на канцы якой прымацавана кабіна з крэслам. Чалавек займае сваё месца ў крэсле, прывязваецца рамянямі, і цэнтрыфуга пачынае рухацца. Паступова хуткасць вярчэння павялічваецца. Расце перагрузка. Чалавеку становіцца цяжка дыхаць, у яго няма сілы падняць вельмі цяжкую руку, каб націснуць кнопку на пульце. Але вось задача выканана. Атрымана першая маленькая перамога над цяжарам, перамога над сабою. Цяпер касманаўт ведае: перагрузка не такая страшная. Яе можна не толькі вытрымаць, але пры ёй можна і працаваць.

І першы касманаўт Юры Гагарын у час вываду касмічнага карабля на арбіту, г. зн. на ўчастку разгону, у час дзеяння перагрузкі, захаваў не толькі яснасць свядомасці, але і поўную працаздольнасць. Ён вёў назіранні, прадугледжаныя праграмай, і паведамляў іх вынікі на Зямлю. Палёт жа Германа Цітова цалкам пацвердзіў раней зробленыя вывады і давёў пераканаўча, што ва ўмовах вялікіх перагрузак здольнасць чалавека працаваць не траціцца.

* * *

Калі з дзеяннем перагрузак жыхары Зямлі ў большай ці меншай ступені ўсё ж сустракаюцца, дык са станам бязважкасці яны зусім незнаёмыя. Стан бязважкасці пачынаецца пасля выключэння рухавіка ракеты, калі і вага і рэакцыя апоры цалкам знікаюць. Знікае і звычайны для чалавека напрамак нізу і верху, непрымацаваныя рэчы свабодна плаваюць у паветры. Гэтая з'ява звязана з тым, што пры свабодным руху ў касмічнай прасторы пад уздзеяннем сіл прыцягнення і сама ракета і ўсе рэчы, якія ў ёй ёсць, маюць аднолькавыя паскарэнні. Апора ўвесь час быццам знікае з-пад цела, і цела не паспявае ціснуць на яе.

Вывучэнне фізіялагічнага ўздзеяння бязважкасці на арганізм вельмі складанае: у адрозненне ад перагрузак, бязважкасць вельмі цяжка стварыць эксперыментальным шляхам.

У свой час яшчэ Цыялкоўскі прапанаваў зрабіць устаноўку для стварэння стану бязважкасці. На яго думку, яна павінна быць герметычна закрытай падкованападобнай трубою вышынёю каля 250 метраў, з якой выдалена паветра. У трубе ў беспаветранай прасторы свабодна рухаецца невялікая кабіна. На ўчастку падзення кабіны ў ёй павінен узнікаць стан бязважкасці, а на ўчастку закруглення трубы — стан перагрузкі. Аднак такая ўстаноўка пабудавана не была, і таму аб стане чалавека і яго паводзінах ва ўмовах бязважкасці доўгі час можна было меркаваць толькі тэарэтычна. Некаторыя вучоныя нават лічылі, што ва ўмовах бязважкасці чалавек загіне ўжо праз некалькі дзесяткаў секунд з-за моцнага парушэння кровазвароту. Толькі з развіццём рэактыўнай авіяцыі ўдалося атрымаць стан бязважкасці ў кабіне самалёта працягласцю каля трыццацісарака секунд. Для гэтага трэба прымусіць самалёт зрабіць у паветры такую ж крывую, якую робіць цела, рухаючыся ў пустаце, г. зн. парабалу.

Але таму, што рух самалёта адбываецца не ў пустаце, а ў атмасферы, супраціўленне паветра павінна непазбежна прывесці да таго, што самалёт страціць хуткасць і сыдзе з парабалы бязважкасці. Каб пазбегнуць гэтага, самалёт рухаецца па парабале з уключаным рухавіком, які павінен ураўнаважваць супраціўленне паветра.

Некалькі год таму назад у замежным друку былі апублікаваны дадзеныя такіх доследаў, праведзеных з дваццаццю лётчыкамі. Было выяўлена, што ў першы момант бязважкасці чалавека апаноўвае нейкае трывожнае пачуццё, якое прымушае яго інстынктыўна хапацца за навакольныя рэчы. Потым настае своеасаблівае адчуванне палёгкі і расслабленасці. Здольнасць выконваць простыя механічныя дзеянні не траціцца, хоць розныя асобы выконвалі іх па-свойму. Ніхто з тых, хто прымаў удзел у даследаваннях, не скардзіўся на непрыемныя адчуванні або які-небудзь боль. Палёты паказалі таксама, што бязважкасць не перашкаджае есці і піць ваду. Знаходжанне ў стане бязважкасці не выклікала ў людзей якіх-небудзь шкодных вынікаў. Каля палавіны пілотаў, якія ўдзельнічалі ў даследаваннях, адчувалі сябе зусім здавальняюча і толькі чацвёртая частка — дрэнна.

Адзін з лётчыкаў, які ўдзельнічаў у доследах з бязважкасцю, расказваў, што прыкладна на дзесяць секунд галава яго зрабілася цяжкай і з'явіліся першыя парушэнні арыентацыі. На трынаццаць секунд у яго з'явілася адчуванне, як быццам ён павольна рухаецца ў неакрэсленым кірунку. На шаснаццаць секунд ён страціў зусім адчуванне прасторы і вывеў самалёт з парабалы. Аднак, відаць, адчуванні, якія бываюць у розных людзей у стане бязважкасці, усё ж могуць быць самыя розныя. Так, напрыклад, адзін з лётчыкаў адзначаў, што ў стане бязважкасці ён не адчуваў ніякага падзення, адчуваў поўны спакой і захоўваў нармальную разумовую дзейнасць.

У час палёту другога савецкага штучнага спадарожніка Зямлі былі зроблены радыётэлеметрычныя назіранні за станам сабакі Лайкі, якая знаходзілася на борце. Гэтыя назіранні паказалі, што рухі яе ў стане поўнай бязважкасці дастаткова плаўныя. Пра гэта ж гавораць кіназдымкі, зробленыя аўтаматычнай кінаапаратурай у ракетах з паддоследнымі жывёламі, дзе стан бязважкасці даводзіўся да 3—4 мінут. Каштоўны эксперыментальны матэрыял аб стане жывёл у свеце бязважкасці атрыман савецкімі вучонымі ў час палёту другога карабля-спадарожніка. На яго борце была тэлевізійная апаратура, што дазволіла назіраць з Зямлі за паводзінамі жывёл, змешчаных у кабіне касмічнага карабля. Калі спадарожнік выйшаў на арбіту і настаў стан бязважкасці, сабакі Белка і Стрэлка як быццам павіслі ў паветры ўнутры кабіны. Лапы і галовы іхнія былі расслаблена апушчаны, і на першы погляд жывёлы здаваліся нежывымі. Але паказчыкі тэлеметрычнай сістэмы заспакойвалі наземных назіральнікаў: у «касмічных падарожнікаў» паступова аднаўляліся нармальны пульс і дыханне. Яны сталі падымаць галовы, рухаць лапамі. Хутка яны настолькі прызвычаіліся да стану бязважкасці, што пачалі свой касмічны полудзень...

Адна з самых цяжкіх праблем, звязаных са знаходжаннем чалавека ва ўмовах працяглай бязважкасці, гэта — захаванне раўнавагі і здольнасці арыентавацца ў прасторы.

Праводзіўся наступны цікавы дослед. У перыяд бязважкасці пасажыр самалёта павінен быў з заплюшчанымі вачамі правай рукой, якая не мела ніякай апоры, вычэрчваць рады крыжыкаў на квадратным аркушы паперы, што ляжала на планшэце (планшэт прытрымліваўся левай рукой). Пры гэтым лінія крыжыкаў у момант дасягнення поўнай бязважкасці рэзка адхілілася ўправа і ўгару. Мускулы рукі міжвольна імкнуліся кампенсаваць страту сваёй вагі.

Парушэнні каардынацыі рухаў, раўнавагі і арыентыроўкі ва ўмовах бязважкасці звязаны з парушэннем нармальнай работы так званага вестыбулярнага, або аталітавага, апарата, размешчанага ва ўнутраным вуху чалавека. У пазванковых жывёл дзейнасць вестыбулярнага апарата звязана з работай шкілетных мускулаў, што дазваляе ім заўсёды захоўваць

раўнавагу. Добра вядома, што кошка, падаючы, заўсёды апускаецца на лапы. Гэта тлумачыцца тым, што ў час падзення раздражненні вестыбулярнага апарата выклікаюць адпаведныя нервовыя імпульсы, якія ідуць да мускулаў спіны і канечнасцей. Аднак кошка з пашкоджаным вестыбулярным апаратам трацiць здольнасць падаць на лапы.

Ва ўмовах бязважкасці работа вестыбулярнага апарата, звязаная з наяўнасцю вагі, парушаецца. Пры дапамозе адпаведнай працяглай трэніроўкі можна дамагчыся таго, што чалавек навучыцца арыентавацца ў стане бязважкасці з дапамогаю органаў зроку і дотыку. Цікава адзначыць, што стараннае вывучэнне вестыбулярнага апарата з'яўляецца неабходнай умовай медычнага агляду сучасных лётчыкаў.

Вестыбулярны апарат можа быць узмоцнены з дапамогаю спецыяльнай трэніроўкі, у якую ўключаюцца розныя гімнастычныя практыкаванні: парашутны і горна-лыжны спорт, скаканне з вышкі ў ваду і г. д. У прыватнасці, працяглая спецыяльная трэніроўка дазваляе парашутыстам пры зацяжных скачках кіраваць сваім целам, хоць пры гэтым яны знаходзяцца ў стане, даволі блізкім да бязважкасці.

Цікавыя доследы былі зроблены над маленькімі рачнымі чарапахамі. Гэтыя жывёліны вельмі пражорлівыя і звычайна беспамылкова выцягваюць шыю ў напрамку ежы. Але неяк у адной з чарапах было заўважана пашкоджанне органаў раўнавагі; яна выпадкова перагрэлася ў тэрмастаце. Чарапаха бездапаможна тыцкалася мордачкай ва ўсе бакі і ніяк не магла знайсці ежу. Так працягвалася каля двух тыдняў. Пасля гэтага яна навучылася добра арыентавацца з дапамогай зроку, і яе паводзіны нічым не адрозніваліся ад паводзін другіх чарапах. Калі чарапах узялі ў палёт і ў перыяд бязважкасці падклалі ім ежу, чарапаха, якая навучылася абыходзіцца без органаў раўнавагі, адразу ж схапіла яе, у той час як астатнія не здолелі гэтага зрабіць. Такія ж доследы былі зроблены і над мышамі.

Надзвычай каштоўныя назіранні за станам чалавечага арганізма ў стане бязважкасці былі зроблены ў час палёту Ю. Гагарына на касмічным караблі «Усход-1». Савецкі касманаўт знаходзіўся ў стане бязважкасці прыкладна каля гадзіны і адчуваў сябе вельмі добра, захаваўшы на працягу ўсяго палёту поўную працаздольнасць. Ю. Гагарын у стане бязважкасці прымаў ежу і ваду, рабіў запісы ў бортжурнале, прычым характар яго «зямнога» почырка поўнасцю захаваўся. Гагарын падтрымліваў тэлеграфную радыёсувязь з Зямлёю, працуючы на ключы, і рабіў увесь час назіранні праз ілюмінатар і аптычны арыентатар.

Параўнальна хуткая прыстасавальнасць арганізма чалавека да ўмоў бязважкасці мае і свой адмоўны бок. Пры працяглым касмічным палёце можа адбыцца настолькі істотнае змяненне ўсіх жыццёвых функцый, што пераход да перагрузак пры тармажэнні і нават да «нармальнай» зямной вагі можа быць смяртэльным.

Не выключана таксама магчымасць, што ў касмічных караблях і штучных спадарожніках будзе прадугледжана магчымасць стварэння штучнай вагі шляхам вярчэння ракеты вакол некаторай восі. Сілы, якія пры гэтым узнікнуць, павінны будуць у нейкай ступені замяніць ціск на апору.

Хоць у вывучэнні ўплыву бязважкасці на чалавечы арганізм многа ўжо зроблена, тым не менш, патрэбны далейшыя старанныя даследаванні ў гэтым кірунку. Несумненна, што развіццё савецкай навукі і тэхнікі дазволіць атрымаць адказ на ўсе пытанні, якія датычаць стану чалавечага арганізма ў свеце бязважкасці.

**В. КАМАРОЎ.**




Фотаэцюд **М. Мінковіча.**

**Зноў зіма паслала**
**Снежныя кілімы...**

**Паўлюк ТРУС.**

Браніслаў ЗУБКОЎСКІ

# АБ ІЛЮСТРАЦЫЙНАСЦІ І МАРАЛІЗАТАРСТВЕ

Велічныя задачы паставіў перад савецкім народам гістарычны XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, прыняўшы праграму разгорнутага будаўніцтва камунізма ў нашай краіне. Першая ў свеце сацыялістычная дзяржава рабочых і сялян праз невялікі гістарычны прамежак часу, праз якіх два дзесяцігоддзі, стане першай у свеце краінай, якая здзейсніць спрадвечную мару чалавецтва — пабудуе грамадства, заснаванае на вялікіх гуманістычных прынцыпах: Мір, Праца, Свабода, Роўнасць, Брацтва і Шчасце.

Разам з будаўніцтвам новага грамадства ў нашай краіне адбываецца гіганцкі працэс пераробкі чалавечай свядомасці. Працэс гэты — складаны і шматгранны. Вызваляючыся ад перажыткаў мінулага, ствараючы матэрыяльныя багацці, савецкі чалавек нястомна клапоціцца і аб памнажэнні багаццяў духоўных. Тут яму на дапамогу прыходзіць наша савецкая літаратура, якая заклікана развіваць усё лепшае ў чалавеку, пашыраць яго духоўныя гарызонты, фармаваць эстэтычныя густы, рыхтаваць з яго будаўніка і грамадзяніна будучага камуністычнага грамадства.

Камунізм — гэта перабудова жыцця не толькі па новых эканамічных законах, але і па законах прыгажосці. Вось чаму наша партыя надае такое вялікае значэнне ўсебаковаму развіццю савецкіх людзей, іх эстэтычнаму выхаванню.

«У сучасных умовах трэба ўдзяліць сур'ёзную ўвагу эстэтычнаму выхаванню, фарміраванню мастацкіх густаў ва ўсіх савецкіх людзей, аб'явіць рашучую барацьбу безгустоўнасці, у чым бы яна ні праяўлялася...», — гаварыў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў у сваім *дакладзе на XXII з'ездзе партыі.*

Фармаванне эстэтычнага густу пачынаецца ў чалавека яшчэ ў маленстве, з першай пачутай казкі, з першай прачытанай кнігі. Адсюль зразумела, якая вялікая адказнасць ускладаецца на нашу дзіцячую літаратуру, што стаіць ля самых вытокаў фармавання чалавечай свядомасці.

Беларуская дзіцячая літаратура мае свае немалыя мастацкія здабыткі, на якіх выхоўвалася і выхоўваецца наша маладое пакаленне. Кнігі для дзяцей Янкі Купалы, Якуба Коласа, Янкі Маўра, Янкі Брыля, Алеся Якімовіча, Алеся Рылько і многіх іншых пісьменнікаў сталі добрымі сябрамі і дарадчыкамі нашага вучнёўства і юнацтва. Прывіваючы любоў да роднай зямлі, да працы і працоўнага чалавека, раскрываючы хараство свету і чалавечай душы, гэтыя кнігі прыносяць вялікае эстэтычнае задавальненне, выхоўваюць добры мастацкі густ.

Але скажам шчыра: сустракаюцца ў нас яшчэ і такія творы для дзяцей, якія маюць выразны адбітак ілюстрацыйнасці, спрашчэнства, непатрэбнага дыдактызму, аголенай схемы — усяго таго, што супрацьпаказана мастацтву, што супярэчыць добраму эстэтычнаму густу.

Адкуль жа яны паходзяць, гэтыя заганы?

Паспрабуем у гэтым разабрацца.

* * *

Чым прыцягвае нашу ўвагу невялікае апавяданне А. Гайдара «Сумленне».

Ненавязчывай трактоўкай вобразаў, тактоўным захаваннем аўтарскай ацэнкі, натуральнасцю сітуацый? Цікавымі характарамі? Бадай што так.

Весці размову аб гэтым апавяданні, гэта значыць гаварыць перш за ўсё аб той добрай мастацкай меры, з якою таленавіты празаік стварыў запамінальныя характары.

... Ніна Карнаухава не пайшла ў школу, бо не падрыхтавала ўрок. Дзяўчынцы не хацелася трапляць знаёмым на вочы, і яна завярнула ў гай.

А. Гайдар не атэстуе сваю гераіню, не гаворыць адкрыта, што яна зрабіла нядобра. Характар Ніны празаік раскрывае на нашых вачах. У гаі Ніна сустрэла хлопчыка з букваром. Ён глядзеў на яе «добрымі, даверлівымі вачыма».

Як жа паводзіць сябе Ніна, як рэагуе яна на той факт, што хлапчук, відаць, таксама не пайшоў у школу? Дзяўчынцы карціць сказаць малому штосьці рэзкае.

«— Няшчасны прагульшчык! — строга гаворыць яна. — І гэта з такіх юных год ты ўжо ашукваеш бацькоў і школу?

— Не! — здзіўлена адказаў малы. — Я проста ішоў на ўрок. Але тут у лесе ходзіць вялікі сабака. Ён забрахаў, і я заблудзіўся».

Цяпер нам становіцца зразумелы гэты выраз даверлівасці дзіцячых вачэй: старэйшая па гадах Ніна для хлапчука ў тым становішчы, у якое ён трапіў, — выратавальнік, збаўца. Хлопчык нават і не падумаў пра тое, што нехта можа не паверыць яму, залічыць у прагульшчыкі. Перад намі, як бачыце, — чыстая, бясхітрасная дзіцячая душа. І гэты вывад мы робім не з нейкіх там аўтарскіх тлумачэнняў паводзін героя, а з логікі развіцця вобраза.

Вырысоўваецца і характар гераіні. Скажам, для нас ужо і не дзіўна, што дзяўчынка, дапамагаючы хлапчуку выбрацца з лесу, не ўзяла сваіх падручнікаў, бо ёй было сорамна перад гэтым хлапчанём, якое абудзіла ў яе сумленне, прымусіла дзесьці ў глыбіні душы засаромецца за свой благі ўчынак. Пісьменнік асуджае сваю гераіню, але гэтае асуджэнне схавана глыбока ў падтэксце і мякчэе са шчырым спачуваннем гэтаму маленькаму чалавеку, які зрабіў памылку і пакутуе праз яе. Дзяўчынка, вывеўшы хлапчука з гаю, вярнулася на ранейшае месца і заплакала.

«Не! Не шкада ёй было ўкрадзенага сняданку (сняданак з'еў сабака. — **Б. З.**). Але вельмі хараша спявалі над яе галавой вясёлыя птушкі. І вельмі цяжка было ў яе на сэрцы»...

Цудоўную думку сцвердзіў сваім апавяданнем А. Гайдар: як гэта важна і хораша для чалавека, калі ён мае сумленне!

Але ці толькі з логікі развіцця вобраза можна меркаваць аб характары героя? Можа ёсць нейкі іншы шлях раскрыцця чалавечага характару?

Возьмем апавяданне І. Шуцько

«Салавей» (зборнік апавяданняў «Дзедава рэліквія», 1960). З першых жа старонак пісьменнік пачынае знаёміць чытача са сваімі героямі, падмяняючы паказ расказам аб іх.

Герой апавядання Сяргей — хлопец сяброўскі і стрыманы, а вось Грышка — хвалько. Калі Грышку і Сяргею купілі аднолькавыя матроскі, Грышка ўсё роўна даказваў, што Сяргеева кашуля горшая за яго. Гэтая трапная дэталь робіць вобраз Грышкі адметным, жывым, бо пісьменнік раскрывае цікавую рысу ў характары хлопчыка. Але чамусьці аўтару здалося, што сказанага мала. І ён пачынае «разбаўляць» вобраз сваімі разважаннямі, накшталт: «Грышка быў вялікі хвалько», «чужое Грышка ганьбіў, а сваё хваліў, ды яшчэ як!»

Страціўшы мастацкую меру, пісьменнік далей пачынае ілюстраваць свае разважанні шэрагам эпізодаў: «А пераспрачаць Грышку не пераспрачаеш». Вось прыклад: «Яго маці і тая кажа: «Да майго Грышкі словы прыстаюць, як гарох да сцяны»... «Але паспрабуй пярэчыць Грышку. Ого!..»

Выклікае засмучэнне той факт, што празаік зусім не стаяў перад неабходнасцю ўвядзення дакучлівай атэстацыі. А ўжо стаўшы на такі шлях, ён вымушаны быў абмяжоўваць героя пэўнымі рамкамі, маляваць яго спрошчана, аднастайна, адной фарбай.

Аўтарскае рэзюме адносна перавыхавання хлопчыка зноў жа ілюструецца. Грышка, бачыце, пакляўся Сяргею, што зловіць салаўя, які пасяліўся ў вішняку. Птушку Грышка не злавіў.

І «з таго часу яго нібы падмянілі. Ён амаль зусім перастаў выхваляцца».

Або: «Вось і выходзіць, што тое, чаго доўга не маглі зрабіць з ім ні я (г. зн. Сяргей. — **Б. З.**), ні нават яго маці, — зрабіў салавей».

Апавяданне стала ілюстрацыяй да думкі аўтара: не хваліся, гэта непрыстойна. Цяпер ужо зусім відавочна, што аўтарская атэстацыя ўчынкаў героя, вымагаючы доказаў, прывяла да таго, што ўсе дзеянні героя з'явіліся дадаткамі да аўтарскіх разважанняў.

Але ці толькі ў гэтым загана ілюстрацыйнасці? А ці не ствараe яна пэўных прадпасылак для прасталінейнага, дакучлівага маралізатарства? Паглядзім...

Антось і Дзімка з апавядання У. Ляўданскага «Тэарэтык» — хлопцы добрыя: яны не любяць хлусіць, крывіць душой. А вось Толік — манюка. Ён мог зманіць не толькі сваім равеснікам, але нават і дарослым. Усім заўжды пярэчыць, часта даказвае тое, чаго і не было ніколі альбо аб чым чуў толькі ад іншых. За гэта і празвалі яго хлопцы «тэарэтыкам».

Пісьменнік ставіў сваёй мэтай асудзіць гэтую нядобрую звычку хлопчыка. Для гэтага ў апавяданні паяўляецца дзед Мацей. Злавіўшы хлопчыка на мане, дзед змераў яго «доўгім дакорлівым позіркам» і папракнуў: рана, маўляў, ты, браце, «хлусіць навучыўся».

У свой час В. Бялінскі раіў пісьменнікам: «Вы расказваеце дзецям казку або аповесць: схавайцеся за яе, каб вас не было відаць, няхай усё ў ёй гаворыць само за сябе непасрэдным уражаннем».

Залатыя словы! Бо сапраўдны знаўца дзіцячай душы не можа не ведаць таго, што голае маралізатарства не знаходзіць у ёй ніякага водгуку, а хутчэй наадварот — выклікае жаданне ісці насуперак нудным павучанням.

Паглядзім, як цудоўна пазбягае непатрэбнага маралізатарства пісьменнік «мускульнага таленту» (па выразу К. Чукоўскага) Л. Панцялееў у апавяданні «Індыян Чубаты». Сітуацыя ў гэтым апавяданні амаль такая ж, як і ў апавяданні У. Ляўданскага. Валодзя Мінаеў, як і Толік, любіць зманіць.

Унікаючы прасталінейных атэстацый у адрас Валодзькі, пісьменнік пільна сочыць за ім неяк збоку і як быццам не ўмешваецца ў яго размовы і ўчынкі.

Валодзька не пайшоў у школу. Сумны і галодны, ён забрыў на млын. Сёння яму нават маніць не хацелася, але прывычка ўзяла верх.

«— У нядзелю бацька мой у Разань ездзіў, — лянiва хваліўся Валодзька (старому, які прыехаў на млын. — **Б. З.**), глытаючы сліну і адчуваючы ў роце агідную кісляціну ад гарэлай аржаной скарынкі. — У Разань, я кажу, бацька мой ездзіў. Я яму грошай даў. Ён сабе капялюш купіў, а мне фотаапарат і кіпцюры жалезныя...

... Стары слухаў Валодзьку моўчкі, хрумстаючы агурком і пазіраючы некуды ўбок. Але тут ён пакінуў жаваць, насупіўся і паглядзеў на хлопчыка.

— Якія кіпцюры? — сказаў ён.

— Ну, якія... Звычайныя. Жалезныя. Ведаеце, на якіх манцёры на слупы лазяць?

— Ну, ведаю. Манцёры лазяць. А табе навошта?

— Як гэта навошта... Ну, ці мала нашто... Вавёрак можна лавіць...

І, перабіваючы сам сябе, Валодзька пачаў расказваць, які ён добры паляўнічы, якую цудоўную лісіцу ён падстрэліў гэтай восенню і якую надзвычайную, трохствольную стрэльбу бачыў ён у свайго дзядзькі-генерала ў Маскве.

... Стары даеў агурок, рэшткі хлеба і сала загарнуў у хустку, схаваў клуначак за пазуху, паволі падняўся і сказаў:

— Та-ак, значыць. Стрэльба, кажаш? Трохствольная? У генерала? Ну, ты мне прабач. Я пайду. Каня трэба паглядзець».

Як бачым, Л. Панцялееў не збіваецца на маралізацыю, хаця гэты яго нетаропкі стары «раскусіў» Валодзьку і ўжо трэба было чакаць аўтарскага «выбуху».

На прыкладзе апавядання Л. Панцялеева становіцца асабліва відавочным, як важна для пісьменніка не «вытыркацца» з апавядання, не засланяць сабою свайго героя. Калі ж гэта яму зрабіць не ўдаецца, тады бярэ верх аголеная дыдактыка, якая пазбаўляе апавяданне «ўнутранага» рашэння тэмы.

Галоўны герой апавядання П. Рунца «Акуляры» (зборнік апавяданняў «Канец казкі», 1960) Максімка рашыў набыць уласныя акуляры: вельмі ж карцела хлопцу стаць салідным. Урач-акуліст разгадала хітрыкі хлапчука і выпісала яму недыаптрычныя акуляры, бо ў Максімкі зрок быў нармальны. Характэрна, што аўтар вельмі надакучліва даводзіць чытачу: Максімка зрабіў дрэнна, ашукаўшы сябе і падманууўшы другіх.

Галоўная думка твора (не ашуквай сябе і другіх) пачынае штучна выпіраць з апавядання раней, чым мы дачытаем яго да канца.

Аголены дыдактызм шкодзіць апавяданню, бо ён ігнаруе розум чытача. Некалі В. Бялінскі з гэтага поваду гаварыў: «У вас ёсць маральная думка — цудоўна; не выгаварвайце ж яе дзецям, але дайце яе адчуць, не рабіце з яе вывада ў канцы вашага апавядання, але дайце ім самім вывесці».

Жыўцом «выпірае» ідэя і з ілюстрацыйнага апавядання І. Шуцько «Салавей». Галоўнага героя твора Грышку, як вядома, «перавыхаваў» салавей. Пісьменнік проста так і гаворыць у канцы апавядання: «Вось і выходзіць, што тое, чаго доўга не маглі зрабіць з ім ні я (г. зн. Сяргей. — **Б. З.**), ні нават яго маці, — зрабіў салавей».

Як уяўляецца ідэя твора нашаму старэйшаму дзіцячаму пісьменніку Я. Маўру?

Звернемся да яго невялічкага апавядання «Радасць» («Выбранае», т. 2, выд. 1961 года). Напісана апавяданне ад першай асобы. Сам па сабе гэты прыём можна ўхваліць, бо ён неяк збліжае апавядальніка з чытачом. Але ж ён і патрабуе ад аўтара вялікага такту, стрыманасці, пачуцця меры. Майстэрства Маўра-апавядальніка заключаецца ў тым, што ў яго творы няма суб'ектыўнага аўтарскага націску — пісьменнік падводзіць чытача да асноўнай думкі твора паступова і лагічна.

Герой твора, ад імя якога вядзецца апавяданне, сустракае раднаснага хлапчука. Той «прыпыняецца і глядзіць на мяне так, нібы хоча нешта сказаць. Радасць, шчасце так і пырскаюць з яго блакітных вачэй.

— Як цябе зваць? — сказаў я нарэшце, каб толькі не маўчаць. Сказаў і зараз жа пачырванеў ад

сораму: хлапчук мне нічога не адказаў.

Мала таго: твар яго перастаў свяціцца, нават неяк балюча скрывіўся».

Пісьменнік здолеў заінтрыгаваць чытача: дайшоўшы да добрай сярэдзіны твора, мы яшчэ нават не ведаем, што ён нам скажа гэтай, па сутнасці мімалётнай, сустрэчай. Я. Маўр ніводнай заўвагай, ніводным каментарыем не «выдае сябе», не спяшаецца тлумачыць псіхалагічны стан хлапчука, пакуль той, не стрымаўшы нарэшце сваёй радасці, не крыкне:

— «Дзядзя! Шапка!!»

У хлопчыка на галаве была новая шапка.

Ці ўстрымаецца пісьменнік, каб не нагаварыць у адрас героя маральных сентэнцый за яго безуважнасць да дзіцячай радасці, якая праявілася была ў яго спачатку? Не, не знойдзем мы ў апавяданні гэтых сентэнцый. У Янкі Маўра хапіла добрага мастацкага густу, каб павярнуць ход падзей у самым натуральным кірунку.

«— Ах, якая цудоўная ў цябе шапка, — крыкнуў я. — Пакажы, пакажы!

Я зняў з яго галавы шапку. Яна сапраўды хрумсцела, *як бляшаная*. Хлопчык глядзеў на мяне ўдзячнымі вачыма, як на свайго збаўцу.

— Які казырок! І шнурок! І гузікі два! — стараўся я. — А падкладка якая цудоўная! Хто купіў?

— Мамка! — з гордасцю адказаў хлопчык».

Як бачыце, ідэя ўяўляецца Я. Маўру як вынік лагічнага развіцця вобразаў. А канцоўка? Не, не «сарваўся» таленавіты празаік і ў фінале. Апошні, заключны сказ апавядання насычан глыбокім падтэкстам:

«І мы абодва, зноў шчаслівыя, разышліся кожны сваім шляхам».

* * *

З усяго, сказанага вышэй, можна заўважыць, што ілюстрацыйнасць, непатрэбнае маралізатарства і аголеная тэндэнцыйнасць знаходзяцца ў цесным узаемадзеянні. Наяўнасць у творы заган яскрава гаворыць аб тым, што пісьменніку бракуе майстэрства, у прыватнасці ўмення будаваць свой твор. Непрадуманая, нязграбная кампазіцыя, аморфнасць, хаатычнасць яе асноўных частак, няўменне будаваць твор так, каб усе яго элементы знаходзіліся ў пэўнай арганічнай узаемасувязі, прымушае пісьменніка кампенсаваць кампазіцыйную неарганізаванасць уласнымі каментарыямі. А гэта прыводзіць да таго, што аўтар становіцца ў позу ментара, каментатара, які паставіў сваёй мэтай праілюстраваць тое ці іншае з дваццаці правілаў, запісаных у вучнёўскім дзённіку.

«Наша кніга павінна быць не дыдактычнай, не груба тэндэнцыёзнай. Яна павінна гаварыць моваю вобразаў, павінна быць мастацкай», — гаварыў М. Горкі.

А каб яна стала такой, пісьменнік не павінен ігнараваць кемлівасць і розум свайго чытача, не павінен пужацца, што чытач яго не зразумее. І тады ён не будзе стаяць перад неабходнасцю ўвядзення ўсякага роду каментарыяў і ілюстратарскіх атэстацый. Толькі пры гэтай умове дзіцячая кніга адыграе сваю вялікую ролю ў фармаванні эстэтычных густаў нашага маладога пакалення, у выхаванні ўсебакова развітых, духоўна багатых будаўнікоў і грамадзян камуністычнага грамадства.

*З блакнота падарожніка*

ZaH

MIROSLAV ZIKMUND A JIŘÍ HANZELKA



Не толькі мора, але і берагі мёртвыя.

Міраслаў **ЗІКМУНД**, Іржы **ГАНЗЕЛКА**

# ПА ДАРОГАХ СВЕТУ

## АРАБСКІ ЛЕГІЁН

Ад пагранічнай станцыі Рымфі да сталіцы Іярданіі — Амана каля ста кіламетраў. Абапал дарогі цягнуцца палі, на якіх тутэйшыя людзі паклалі больш працы, чым у суседняй Сірыі. Яны сабралі каменне з палёў і пабудавалі з яго дарогі, а абапал іх высадзілі гаечкі эўкаліптаў і аліў. Гэта самае першае ўражанне, і яно прыемнае.

Але адразу ж земляробаў выцясняюць салдаты. Браневікі. Казармы. Калоны закамуфляваных машын... Адзін ваенны пляц за другім. Вось, цэлячыся ў кардонныя фігуры, ляжыць рота салдат, крыху далей імчацца танкі, усцілаючы воблакамі пылу навічкоў, якія ніколі не прызнаюцца, што ім непрывычна цяжка ісці ў грубых салдацкіх ботах.

На ўсім відаць жорсткая ваенная муштра і англійскі метад выхавання. Гэта славуты Арабскі

Працяг. Гл. № 10, 1961 г.

легіён. Яго сфарміравалі англічане, якія зрабілі Трансіярданію стратэгічным ключом на скрыжаванні сваіх імперыялістычных інтарэсаў... На чале дывізіі добра вымуштраваных салдат і вопытных афіцэраў стаў ірландзец, невысокі генерал з блакітнымі вачыма, вядомы Глаб-паша. Яго легіянерам далі насмешлівую клічку «Глабавы дзеўкі», бо, паводле звычаяў арабскіх пастухоў, яны насілі доўгія валасы. У час другой сусветнай вайны Глаб-паша загадаў сваім «дзеўкам» пастрыгчы валасы і апрануў іх у еўрапейскую форму, пакінуўшы толькі арабскую хустку «куфію», якую ён і сам пачаў дэманстратыўна насіць.

Але вельмі памыліўся б той, хто западозрыў бы салдат арабскага легіёна ў распешчанасці. Яны прывыклі да суровага жыцця і да самаахвярнасці. А пустыню ведаюць, як свае пяць пальцаў. Яны з'яўляліся на арэне дзеяння кожны раз, калі аперацыю трэба было правесці з маланкавай хуткасцю. Яны дапамаглі падавіць паўстанне Рашыда-Алі ў Іраку, зламалі супраціўленне сірыйскіх атрадаў, верных калабарацыйнаму ўраду ў Вішы і, па сутнасці, выйгралі палесцінскую вайну ў 1948 годзе — адзіныя з усіх узброеных сіл арабскіх дзяржаў. Яны сталі нейкай наднацыянальнай арміяй, паслухмянай загадам з Лондана.

Але ў сакавіку 1956 года грымнуў гром з яснага іярданскага неба. Пад уплывам моцнага народнага пратэсту супраць далучэння Іярданіі да Багдадскага пакту кароль Хусейн вымушан быў прызначыць камандзірам Арабскага легіёна араба, а Глаб-пашу выслаў з краіны.

Расказваюць, што, атрымаўшы загад аб звальненні, генерал Глаб расплакаўся. Вось як аддзякавалі яму, «некаранаванаму каралю» Іярданії!

Праз год Іярданія скасавала ваенны дагавор з Англіяй. А ў ліпені 1957 года апошні англійскі салдат пакінуў Мафрак, ваенную базу, размешчаную недалёка ад сірыйскіх граніц.

Аднак наогул салдаты не зніклі з Мафрака. Яны апрануты ў тую ж форму, якую ім даў Глаб-паша, падпарадкоўваюцца англійскім камандам і атрымліваюць тую ж плату, якую гэтак жа, як і раней, пераводзіць іярданскаму ўраду «Bank of England».

Па другі бок калючага дроту, якім абкружана ваенная база, манеўруе паравоз, крыху далей — бензазаправачная станцыя, уласнік якой ахвотна прапануе абмяняць іярданскія дзінары на іракскія і, шматзначна падміргнуўшы, пытаецца, ці ўзялі мы ў дарогу добры запас шатландскага віскі. Калі містэр выкажа жаданне, ён пашле хлопчыка ў магазін насупраць.

— А чаму іменна віскі?

— У Багдадзе яно ў тры разы даражэй, чым тут, у Іярданіі.

Ён расчаравана ўхмыляецца, даведаўшыся, што мы накіроўваемся ў Аман.

— Але спыніцеся тут, едучы назад. Усё роўна вам мяне не мінуць, ці вы ў Дамаск, ці ў Багдад. На поўдзень другой дарогі няма.

## ТУТ НЕ ПАТОНЕ НІХТО

Чаго толькі няма пад паверхняй мора!

Тут і тэлефонная лінія (не ў браніраваным кабелі, а нацягнутая як мае быць на слупах), і ваенныя судны (штурманы якіх ніколі не бачылі скафандра), і прасноводная рака. А яшчэ растрэсканая глеба, якая прагне вады, вярблюды, якія, калышучыся з боку на бок, пераступаюць праз свежую раллю, і нават хлапчукі, што, седзячы каля канавы, прапануюць прахожым свежыя яйкі.

Шыльдачка з чырвонай рыскай і надпісам на англійскай мове — «узровень мора» засталася ўжо ў шаснаццаці кіламетрах за намі, чырванаватыя скалы, якія праводзілі нас з Амана, змяніліся охравай раўнінай з усё больш беднай расліннасцю. Вышынямер, як пасля навагодняй выпіўкі, не ведае, што яму рабіць. Яшчэ ніколі не здаралася яму, каб стрэлка падышла да нуля і ўпарта паўзла да адмоўных велічынь... Трыста семдзесят метраў ніжэй нуля!

Каля шашы бегае некалькі чалавек. Размахваючы рукамі, яны крычаць адзін на аднаго. Як галава жырафы з вытрашчанымі вачыма, тырчыць над імі капот грузавіка з запаленымі фарамі. Машына стаіць дыбам, кузаў прыціснуты да зямлі, а перад крута ўзняты ўгару. Вакол валяюцца паламаныя скрынкі, з адхона коцяцца памідоры, а іх уласнік, араб у доўгай падкасанай галабії, заўважыўшы нашы фотаапараты, кышкае на нас, як на курэй, і адганяе ад машыны, каб не фатаграфавалі вынікі яго глупства і прагнасці. Ён загадаў нагрузіць машыну так, што аж рэсоры сагнуліся. А цяпер, уз'язджаючы на круты адхон шашы, машына села на заднія колы. Так табе і трэба, смяюцца арабы, прынамсі будзеш разумнейшы ў другі раз. Але потым яны перакідваюць скрынкі з заду кузава наверх да кабіны і выціраюць рукі. Гатова, можаш ехаць. А тыя памідоры, што рассыпаліся, пакінеш нам у якасці ўзнагароды...

Праз паўгадзіны перад намі была вуглаватая скрынка атэлю «Dead Sea», вытрыманага ў мадэрнісцкім стылі, а каля шашы стаяла таблічка з надпісам:

«Вітаем Вас у самым ніжэйшым месцы на паверхні зямнога шара!

Вы на ўзроўні 400 метраў (1300 футаў) ніжэй паверхні Міжземнага мора. Адсюль бліжэй за ўсё да Кумрана!»

Звар'яцелы вышынямер (цяпер ён, уласна кажучы, ператварыўся ў нізінамер) паказвае мінус 385. З-за агарожы масляніста паблісквае роўнядзь Мёртвага мора.

## ШАХТА БЕЛАГА ЗОЛАТА

Параўнанне «вёрткі, як рыба ў вадзе» тут, каля Мёртвага мора, вы павінны былі б перагледзець.

Ніколі яшчэ не адплываў рыбацкі човен ад яго берага, ніколі не закідалі рыбакі свае сеткі ў яго воды. І нават берагі не абуджаюць надзеі на ажыўленне. Яны пустыя, набрынялыя соллю, нідзе — ні раслінкі. Калі б вы ў мокрай хустцы прывезлі сюды каляднага карпа, рашыўшы тут даравацъ яму



На беразе Мёртвага мора.

жыццё, ён бы ад гэтага нічога не выйграў. Праз хвіліну ён загінуў бы ў вадзе, і потым мора выкінула б нежаданага госця, пакрыўшы яго густым слоем солі.

Гэтае мора мае яшчэ некаторыя іншыя, не менш дзіўныя ўласцівасці.

Рымскі гісторык Іосіф Флавій называў яго Асфальтавым морам. У час асады Іерусаліма (у 70 г. да нашай эры) рымскі палкаводзец Ціт прыгаварыў некалькі юнакоў да кары смерцю. Доўга не важдаючыся, ён загадаў закаваць іх у ланцугі і кінуць у ваду з гары Мааб, што на ўсходнім беразе Асфальтавага мора. Але што гэта? Асуджаныя не патанулі! Вада выкінула іх на бераг, быццам яны былі з коркавага дрэва. Кінулі іх у ваду другі раз, трэці — тое ж самае. Напалоханы цудам Ціт памілаваў юнакоў.

Дзіўнае возера наганяла жах і на грэкаў. Яны сцвярджалі, што над ім узнімаецца атрутная пара, дыхнуўшы якою, чалавек гіне. І арабы гаварылі: ніводная птушка не можа пераляцець з аднаго берага на другі, каменем падае яна ўніз, і — канец!

Аж да паловы мінулага стагоддзя людзі не ведалі нічога пэўнага аб моры пасярод Святой Зямлі. У 1848 годзе амерыканскі геолаг Лінч загадаў збудаваць два металічныя чаўны і даставіць іх горнымі дарогамі з малога порта Ака непадалёк ад цяперашняй Хайфы даЦіверыяда, дзе ён спусціў іх на ваду. Ён жахнуўся, выцягнуўшы свае дакладныя вымяральныя прылады, — яны паказвалі, што ён знаходзіцца ніжэй марской па-

верхні. Што ён ні рабіў, як старанна ні правяраў свой тэадаліт, выходзіла адно і тое ж — мінус 676 футаў. Па Іярдану Лінч са сваімі сябрамі даплыў аж да Мёртвага мора — там вымярэнні далі вынік 1300 футаў ніжэй узроўню мора. Так свет упершыню даведаўся аб самым нізкім месцы на зямным шары. Рэкорд Лінча застаўся непабіты.

* * *

Эль-Урдун, як называюць арабы раку, што ўпадае ў паўночны выступ Мёртвага мора, — гэта не што іншае, як старажытнаяўрэйскі Іярдан. І ён трымае сусветны рэкорд: цэлых дзве трэці яго звілістага рэчышча ляжыць ніжэй узроўню мора. Яго вада прэсная, але не зусім — яна ўвесь час узбагачае Мёртвае мора самымі разнастайнымі мінераламі, сабранымі на шляху ад ліванскіх гор. Такім чынам атрымалася, што ў вадзе Мёртвага мора ў шэсць разоў болей солі і іншых злучэнняў, чым у звычайным, «нармальным», моры. У кожным кубічным метры каля паверхні — ад 227 да 275 кілаграмаў растворанай солі. На глыбіні 190 метраў вада ўжо ўяўляе сабой хімічна насычаны раствор. У чэрвені, калі сонца над морам смаліць найбольш горача, у выпарным басейне за 24 гадзіны збіраецца два з паловай сантыметра солі.

Дык, выходзіць, Мёртвае мора — ідэальная шахта для здабычы солі. Вядома. І не толькі солі. Мора раскінулася на тэрыторыі больш чым у 75 кіламетраў у даўжыню, каля 15 кіламетраў у шырыню, найбольшая глыбіня — 400 метраў. Геолагі падлічылі, што ў ім каля васьмі мільярдаў тон магнію, больш двух мільярдаў тон фасфату і незлічоная колькасць брому, хлору, ёду і іншых элементаў. Іх здабывалі тут яшчэ да палесцінскай вайны; у 1948 годзе ўсё абсталяванне было знішчана, і толькі ў апошнія гады пачынаецца будаўніцтва новых заводаў — галоўным чынам у ізраільскай частцы Мёртвага мора. У 1955 годзе адна акцыянерная кампанія здабыла 135 000 тон паташу, другая — 1 300 тон брому.

## САПРАЎДЫ, ВЕЛЬМІ ГОРКАЕ

Налюбаваўшыся прыемнай стракатасцю хмар над Іудзейскімі гарамі, за якімі клалася спаць сонца, мы спадзяваліся заўтра раненька сфатаграфаваць Мёртвае мора.

Але, божухна, які гэта быў жаласны від — нерухомая роўнядзь мора і неба без адзінага воблачка! Удалечыні — голыя горы, наперадзе — адзін пясок, нідзе ніводнага дрэўца, галінкі якога маглі б даць рамку кадру. Калі і ёсць што-небудзь нефатагенічнае на свеце — дык гэта Мёртвае мора. Застаецца толькі адно — паспрабаваць цуд з юнакамі, якіх Ціту не ўдалося ўтапіць... У дзесяць гадзін тэрмометр паказваў 25 градусаў у цяню, вада будзе не намнога халадней. Мы ўвайшлі ў яе — яна была густая, як суп, пальцы склейваліся, здавалася, што мы памачылі іх у алей або ў кісель. А вада цёплая! Ні ў ліпені, ні ў жніўні Влтава не бывае цяплейшай! Пачакалі хвіліну, каб тэрмометр паказаў сталую тэмпературу. Колькі? Каля паверхні — 23 градусы, на 40 сантыметраў ніжэй — 22 градусы, на глыбіні 60 сантыметраў — 21 градус. Для навагодняга купання — цудоўна! Не прастудзішся! Плаўкі сюды!

Але плаваць — калі можна так назваць ляжанне на падатлівай воднай падушцы — удаецца толькі на спіне. Калі ж вы паспрабуеце плаваць грудзьмі, нейкая неадольная сіла выштурхоўвае вас з вады, так што задняя частка цела



Дык што новага на свеце?..



маляўніча тырчыць наверсе, і ніяк не ўдаецца схаваць яе пад паверхню. Мы паспрабавалі ўсё, што можа даць нам гэтае мора. Хвіліну забаўляліся тым, што, лежачы на спіне, чыталі газеты. Потым у той жа зручнай позе занатавалі, што можна пісаць у блакноце, не шлёпаючы па вадзе нагамі і не робячы наогул ніводнага руху для таго, каб захаваць сваё жыццё. (З той прычыны, што паблізу не было прэснай вады, у якой можна было б памачыць пальцы, старонкі блакнота да гэтага часу насычаны соллю.) Калі ўдаецца ў вадзе пісаць, ці не ўдалося б фатаграфаваць? Лежачы на спіне, гэта зусім не штука, але што здымаць з такой нязручнай пазіцыі? Бязвоблачнае неба? Далягляд без птушак? Перавярнуцца на жывот, не ўпусціўшы апарат у ваду і не набраўшы ў аб'ектыў салёнай падлівы, — гэта было пытаннем часу і кароткай трэніроўкі.

— Вось дзе павінны былі б адбывацца ўсе марскія баі, — сказаў Мірак, калі мы вылезлі на бераг. — З тарпедзіраванага судна не ўтапіўся б ні адзін марак.

— І ніводнага не з'елі б акулы!

* * *

Час між тым ішоў, і ўжо сонца хілілася да паўдня, калі на двары рэстарана «Казіно» ўзнік несусветны шум і гам. Перад агарожай спыніўся аўтобус, поўны турыстаў, і памочнік повара кінуўся на дворык, дзе, як апантаны «амокам», пачаў сячы галовы ўсім курам, якія трапляліся пад руку. Тыя, да каго не дайшла яшчэ чарга, шалёна кудахталі, другія ж, ужо без галавы, узлётвалі нізка пры зямлі або кідаліся ў крыві і пер'і. Госці абыякава пазіралі на гэтую карціну, пацягваючы ліманад.

З аўтобуса высыпала рота амерыканскіх маракоў. Усе без выключэння ўзброены фотаапаратамі або кінакамерамі. Спачатку ім давялося выслухаць належны інструктаж над картай, затым камандзір прачытаў кароткую лекцыю і, нарэшце, даў каманду



Можаце не сумнявацца — гэты здымак зроблен не на водмелі, а даволі далёка ад берага.

«вольна». Хлопцы схапілі свае апараты, а тыя, хто з кінакамерай, прайшліся па гарызонту універсальнай усеабдымнай панарамай. Не клапоцячыся аб дэталях, фатографы пачалі пстрыкаць, прыставіўшы апарат да вока. У большасці яны ўпраўляліся адной рукой, даючы тым самым групцы выпадковых гледачоў зразумець, што толькі няўклюды фатаграфуюць дзвюма рукамі.

Потым да мора важна падступіла пара англічан — муж і жонка. Ён — у паласатым пінжаку, белай сарочцы з «матыльком» і ў чорных туфлях, яна — у шатландскім клятчатым плацці і «шпільках», якія зусім неэстэтычна танулі пры хадзе ў пяску. Таму яна спынілася на палове дарогі, а муж дайшоў да вады, намачыў у ёй два пальцы, да аднаго грэбліва дакрануўся языком, а другі па-джэнтльменску прапанаваў сваёй сяброўцы — каб ёй не трэба было разувацца.

Яна лізнула яго ўказальны палец і з непрытворным пачуццём аб'явіла:

— Сапраўды, вельмі горкае!

Потым яны павярнулі да машыны, скончыўшы на гэтым даследаванне Мёртвага мора. А можа нават і ўсёй Іярданіі.

## КУМРАНСКІЯ ЗНАХОДКІ

«Да Кумрана адсюль бліжэй за ўсё», — абвяшчае надпіс на таблічцы ля гасцініцы «Мёртвае мора».

Вельмі добра, гэта спакушае падарожніка. Але толькі што такое Кумран?

Яшчэ нядаўна на гэтае пытанне вам наўрад ці змог бы хто-небудзь адказаць. Сёння ж пра Кумран тут ведае кожны хлапчук.

З той прычыны, што паўднёвая частка ўсходняга берага Мёртвага мора належыць Ізраілю і толькі паўночная частка злучана шашой з астатняй тэрыторыяй Іярданії, для наведвання Кумрана трэба атрымаць спецыяльны дазвол ваенных улад.

Дазвол нам выдалі, і вось мы ўжо трасёмся па дарозе ў неабсяжнай пустыні, а вакол — вялізныя, з чалавечую галаву камяні. Высахлыя рэчышчы пераадольваем наўскос, каб не адарваць прычэпы. Цягнемся з хуткасцю васьмі кіламетраў у гадзіну — хутчэй ніяк нельга. Наогул, ці варты нашых намаганняў той Кумран?

Мёртвае тут не толькі мора, якое паблісквае злева, мёртвыя і скалы, якія павольна пасоўваюцца нам насустрач. Гэта Іудзейскія горы, за хрыбтамі якіх разлегліся Іерусалім і Віфлеем — месцы, асвечаныя легендамі пра сына божага. З той прычыны, што сын божы не пакінуў ніякага пісьмовага сведчання пра сваё існаванне, а евангелле ад Мацвея напісана было недзе ў другім стагоддзі нашай эры, гэта значыць у той час, калі не магло быць ужо ніводнага сучасніка сына божага, царква дашукваецца хоць якога-небудзь доказу, які мог бы падтрымаць яе неверагодныя легенды. І нарэшце-такі забурліў вір вакол царкоўных спраў, калі ў 1947 годзе недалёка ад Кумрана знайшлі загорнутыя ў палатно скруткі пергаменту і папер.

У тым годзе ўвесну адзін пастух з племені та-амір, па імені Мухамед Дзіб, накіраваўся на пошукі авечкі, якая прапала недзе ў гарах над Вадзі-Кумранам. Шмат гадзін лазіў ён па скалах, то ўгару, то ўніз, крычаў, клікаў збеглую авечку, авечкі не было. Быццам яна знарок ад яго хавалася! А ці не залезла яна часам вось у гэтую цёмную шчыліну? Пастух схапіў камень і шпурнуў яго ў цемру. У адказ пачуўся глухі гук, нібы рассыпаліся гліняныя чарапкі. Мухамед спалохаўся і ў наступны раз прыйшоў сюды з сябрамі. Яны ўлезлі ў шчыліну і ўбачылі ў пячоры некалькі гліняных сасудаў, адзін з якіх быў разбіты. Можа, у іх скарб? Пастухі разбілі сасуды, але золата і каштоўных каменняў не знайшлі. У сасудах ляжалі толькі запыленыя кавалкі палатна, а ў іх нейкія скруткі рукапісаў. Адзін скрутак Мухамед узяў сабе. Можа ім зацікавяцца турысты, якія збіраюць у Іерусаліме розную дрэнь і плацяць за яе шалёныя грошы?

Так скрутак трапіў у Іерусалім, а пасля доўгіх вандраванняў — у рукі археолагаў. Тыя вызначылі, што пергамент напісан на старадаўняй яўрэйскай мове і што гэта самы старажытны з усіх дагэтуль вядомых варыянтаў кнігі Ісайі з «Старога Запавету». Далейшыя даследаванні перапынены былі палесцінскай вайной, і толькі ў 1949 годзе археолагі аднавілі сваю работу. У скалах над Вадзі-Кумранам знайшлі яшчэ некалькі абрыўкаў рукапісаў, напісаных на пергаменце і паперы.

Сярод вучоных узнікла спрэчка: сапраўдныя гэта рукапісы ці падробленыя? Колькі ім год? Што ў іх напісана?

Паклікалі на дапамогу фізікаў-атамнікаў. Рукапісы ў большасці сваёй змяшчалі тэксты «Старога Запавету і зборы традыцыйных вусных легенд эпохі пачатку нашага летазлічэння, якія няспынна змяняліся і дапаўняліся.

У рукапісах не было нават згадкі пра існаванне сына божага!

## НАЙКАРАЦЕЙШАЯ Ў СВЕЦЕ РАКА

На дзевятым кіламетры нашага нялёгкага шляху дарожныя сляды раздвойваюцца. Аднак абодва сляды старыя, даўнія: відаць, асаблівай ахвоты адшукваць новыя біблейскія скруткі ўжо няма. Нідзе не відаць паказальнікаў, вакол — ніводнай жывой душы. Хто ведае, куды вядзе левы след — ці не да таго месца, дзе скалы падступаюць да самага Мёртвага мора? Крыху лепшая дарога збочвае направа, да жоўтага ўзгорка.

Наверсе мы ўбачылі мёртвы горад. Гліняныя сцены, засекі, склады, кухні, засыпаныя студні. Усё гэта сцеражэ араб у чорным адзенні і белай хустцы. Ён нічога не ведаў пра Кумран і не ўмеў ні чытаць, ні пісаць. Можа гэта быў адзін з тых, хто ў шаленстве разбіваў гліняныя вазы, бо не знайшоў у іх золата.

Мясцовасць вакол мёртвага горада выглядае фантастычна. Адразу ж за яго ўскраінай у напрамку на паўднёвы захад узнімаюцца высачэзныя кручы. Абкругленыя глыбы ўнізе сведчаць, што ў перыяд дажджоў скалы ператвараюцца ў велізарны вадаспад, які на кароткі час поіць салёнае мора прэснай вадой. Быццам капыт нейкага дапатопнага страшыдла, тырчыць з бездані голая скала, чалавек на яе вяршыні здаецца кузуркай, пра якую не варта і гаварыць. Мы дарэмна стараемся даведацца ад вартаўніка ў чорным адзенні, куды вядуць сляды ад скрыжавання.

— Аін-Фашха, — сказаў ён і зрабіў жэст, як качка, якая ўзнімаецца над вадой. — Прэсная вада, — дадаў ён яшчэ, калі зразумеў, што мы не вельмі ўпэўнены ў значэнні яго гімнастычных рухаў.

Едзем далей па прэсную ваду да крыніцы Фашха, у тыя месцы, дзе безнадзейна пустыя скалы падступаюць да гэткага ж безнадзейна мёртвага мора.

І паверце, варта было згадзіцца на яшчэ адзін кіламетр бязлітаснай трасяніны!

Нечакана перад намі ўзнік вялікі круглы басейн, аблямаваны старанна абчэсанымі камянямі. Пад кожным з іх адтуліна, з якой у басейн цячэ вада. Мы налічылі трыццаць такіх адтулін. Вада пад імі іскрыцца, як пеністае віно. Жывая вада! На працілеглым канцы з басейна выцякае маленькая бурлівая рэчка цёплай мінеральнай вады і праз некалькі дзесяткаў метраў упадае ў Мёртвае мора. У жыцці сваім мы не бачылі — і наўрад ці ўбачым калі-небудзь — больш кароткую раку. Энергічна вырваўшыся, яна тут жа спыняе сваё існаванне.

Спачатку мы пакупаліся ў Мёртвым моры, упэўніліся яшчэ раз, як смешна выглядае той, хто спрабуе плаваць у гэтай салёнай падліве. Потым, пакрытыя белым пластам солі, пабеглі апаласнуцца ў прэснай вадзе, у пеністай вадзе найкарацейшай ракі свету. Пад берагам мільгануў краб, хвіліну ён нерухома пазіраў на нас, потым звярнуў увагу некуды ў іншы бок. Раптам ён зварухнуўся, і мы ўбачылі ў яго кляшчах рыбку. Цяпер ужо мы пазіралі за ім, седзячы па вушы ў прыемнай ванне. Не спяшаючыся, ён уходаў рыбку і, задаволены, залез у шчыліну паміж камянямі.

Бач ты, хітры! Не кінешся далей па цячэнню, га? Бо ты добра ведаеш, што праз нейкіх пятнаццаць-дваццаць метраў — мяжа жыцця і смерці. І хопіць адной мінуты, каб тая, іншая вада, паглынула цябе і, нерухомага, выкінула на бераг...

**(Працяг будзе).**

Пераклад з чэшскай мовы **А. Мажэйкі.**

# УСЁ СВАІМІ РУКАМІ

«Ганаровай граматай узнагароджваецца»... Многа іх, такіх вось адзнак спартыўнай сталасці калектыву ў бабруйскіх швейнікаў. Больш за сотню набярэцца. Ды яшчэ — 52 кубкі. Далёка ідзе слава пра гэты выдатны калектыў. Грамадскія інструктары праводзяць кожны дзень заняткі ў 35 цэхавых секцыях. На фабрыцы імя Дзяржынскага амаль кожны рабочы — фізкультурнік.

За прайшоўшы год тут нарадзіўся адзін майстар спорту, выраслі 118 спартсменаў-разраднікаў. Фабрычная каманда лёгкаатлетаў выйшла пераможцай у спартакіядзе буйнейшых вытворчых калектываў рэспублікі.

## ТАК ПАЧЫНАЛАСЯ

З прахадной фабрыкі ішлі грамадою хлопцы і дзяўчаты з кіркамі, ламамі, рыдлёўкамі. Нейкі жартаўнік на сваёй рыдлёўцы крэйдай напісаў: «Даеш стадыён!». Побач з моладдзю крочылі пажылыя жанчыны.

— Куды гэта вы? — пыталіся ў іх.

— Стадыён ідзём будаваць. Свой, фабрычны! Так парашылі на сходзе!..

І тыя, хто пытаўся, таксама браліся за рыдлёўкі.

Затое як прыемна цяпер: фабрыка мае свой стадыён. І футбольнае поле, і бегавыя дарожкі, і сектары для прыжкоў і гульняў, і тэнісны корт! Ёсць дзе разгарнуцца аматарам спорту!

Амаль пяць гадоў таму назад у дзень урачыстага адкрыцця стадыёна была праведзена першая фабрычная спартакіяда. У ёй удзельнічалі 250 чалавек — спрабавалі сілы ў бегу, прыжках, гульнях. Вынікі былі не дужа суцяшальныя, але актывісты не сумавалі. Першы важны крок быў зроблены. Стадыён аказаўся той іскрынкай, якая запаліла цікавасць моладзі да спорту...

## ДЗЯЎЧЫНА З ХАРАКТАРАМ

— Ды чаго вы да мяне прычапіліся, не пайду і ўсё тут! — светлавалосая дзяўчына рэзка махнула рукой.

— Зразумей жа ты, за гонар цэха ідзе змаганне. У нас-жа кубак забяруць!..

— А мы яшчэ пабачым, хто будзе першы. Каб бегаць, вялікай навукі не трэба.

Выйшла ж усё наадварот. Шмат сіл трэба патраціць, каб стаць добрым бегуном. Гэта Валя Юшкевіч зразумела на першых жа спаборніцтвах. Паразважаўшы, дзяўчына здалася:

— Ну, добра. Трэніруйце!..

Трэніраваць Валю было нялёгка. Часта прапускала заняткі — лічыла, што важней схадзіць у кіно ці яшчэ куды-небудзь. На трэніроўках асабліва не шчыравала: як толькі заглядзіцца трэнер, Валя кідала заняткі, а на яго заўвагі асаблівай увагі не звяртала.

Але ж трэнер, сябры цярпліва вучылі дзяўчыну. І не дарэмна. Валя стала добрай лёгкаатлеткай; мае другі разрад. Не толькі на фабрыцы, але і ў горадзе нямногія спартсмены могуць сапернічаць з ёй.

Стаўшы сама добрай спартсменкай, Валя ўцягнула ў секцыю і сваіх сяброўак па цэху. Аж пяцьдзесят дзяўчат з чацвёртага швейнага цэха сёння наведваюць заняткі, дзе трэнерам Валя Юшкевіч.

...Сняжынкі, пушыстыя і кволыя, белым покрывам ухутваюць зямлю. Ціха. Як добра дыхаецца ў лесе! Халоднае паветра, здаецца, працінае ўсё цела. Каля лыжні разгарачаная Валя камандуе:

— Зіна, трымайся раўней. Лена, не спяшайся. Шырэй крок! Палкамі, палкамі пасабляйце!..

Валя трэніруе лыжніц з цэха да спартакіяды, якая звычайна праводзіцца ў зімовы час. Нельга ж, каб чацвёрты цэх застаўся непадрыхтаваны. Швачкі разлічваюць на кубак.



Грамадскі трэнер па лёгкай атлетыцы Валя Юшкевіч.

## АДЗІН ПЛЮС... МНОГА

Быў такі пачын. Іркуцкія фізкультурнікі звярнуліся да ўсіх спартсменаў краіны з прапановай, каб кожны ўцягнуў у заняткі фізічнай культурай не менш як двух сваіх таварышаў. Гэты пачын так і называўся: «Адзін плюс два». А бабруйскія швейнікі далі яму другую назву: «Адзін плюс... многа».

Тэхнік аддзела галоўнага механіка фабрыкі Марыя Файнберг, чэмпіёнка вобласці, не магла мірыцца з тым, што лёгкаатлеты пятага цэха адставалі. Яна пагутарыла з дзяўчатамі, і многія яе падтрымалі. Першымі, вядома, былі камсамольцы. Неўзабаве секцыя запрацавала. Некаторыя пажадалі паспрабаваць свае сілы на валейбольнай пляцоўцы, у веласіпедных гонках. Пачалі трэніравацца, але ўсё ж прызавога месца не занялі. З іншых цэхаў выступілі больш падрыхтаваныя спартсменкі.

Задумаліся дзяўчаты, чаму так здарылася. Выявілася, што, згодна палажэння аб спартакіядзе, у залік ішлі толькі тэхнічныя вынікі і не ўлічвалася колькасць спартсменаў на старце. І вось каманды, якія мелі асобных моцных спартсменаў, выйгравалі.

— Дзяўчаты, хіба такое можна цярпець? — гарачылася Фаіна Захарава. — На тое гэта і спартакія-



Майстар спорту Георгі Вінакураў за станком.

да, каб у ёй было як мага больш удзельнікаў.

— Правільна! — закрычалі дзяўчаты.

Пайшлі з новай прапановай у савет калектыву фізкультуры. І спартакіяда наступнага года праводзілася па новаму палажэнню. Акрамя тэхнічных вынікаў, ачкі налічваліся за масавасць — за тое, які цэх уцягне больш людзей у члены добраахвотнага спартыўнага таварыства «Чырвоны сцяг».

— А чаму не ўлічваюцца вытворчыя паказчыкі? — выказалі актывісты новую думку. — Хіба спартсменам усё роўна, як працуюць іх таварышы?

Дырэктар фабрыкі Анатоль Барысавіч Сакалоў, вялікі аматар спорту, падтрымаў гэтую думку.

— Прапанова слушная, — сказаў ён. — Спартсмен — гэта перадавы чалавек, і ў працы і ў спорце.

Вядома, папраўку прынялі аднагалосна. Дзяўчаты з пятага цэха радаваліся: цяпер трымайцеся, перадавікі!

І сапраўды, калі падводзілі вынікі мінулай спартакіяды, аказалася, што пяты цэх выйшаў на першае месца, бо тут не толькі ўсе рабочыя — спартсмены, але і ў працы яны — першыя. Цэху прысвоена ганаровае званне калектыву камуністычнай працы.

І яшчэ адзін прыклад. Пяць гадоў пратоптваў сваю сцяжынку да вышынь спартыўнага майстэрства Георгі Вінакураў, трэніруючыся на байдарцы. Другога разраду дасягнуў хутка, а далей не мог ісці. Яму дапамаглі сябры, прапанаваўшы заняцца іншымі відамі спорту. Неўзабаве Георгі стаў першаразраднікам, а затым і майстрам спорту. Гэта быў радасны дзень не толькі для Георгія, радаваліся ўсе фабрычныя спартсмены — у іх калектыве вырас першы майстар спорту!

Сёння ў Георгія Вінакурава ёсць добрая змена — у яго займаецца камсамолец Генадзь Жукаў, якому таксама прыйшлося па душы веславанне.

## НАСТОЙЛІВАСЦЬ — СЯСТРА ПЕРАМОГІ

Неяк гады два назад зборная каманда фабрыкі па хакею з мячом стала пераможцам рэспубліканскага турніру. Во было радасці!

Хакеісты з Бабруйска паехалі на ўсесаюзнае першынство. Праводзілі спартсменаў у далёкую паездку з усмешкамі, а сустрэлі, апусціўшы галовы: дадому хакеісты прывезлі «сухія» галы.

Трэніроўкі хакеістаў пачаліся яшчэ ўвосень.



— Трэніравацца трэба, — згадзіліся швейнікі. — Як ні кажы, усе іншыя каманды — не роўня нам: і бегаюць на каньках, і тэхнікай валодаюць лепш, як мы...

Паражэнне прызналі, але здавацца і не падумалі. Парашылі трэніравацца не толькі зімой. Вядома, абсталяваць штучны каток не ўдалося, але сёе-тое прыдумалі. Інструктар фізкультуры Яфім Гінзбург пайшоў у магазін спорттавараў.

— Ёсць! — радасна сказаў ён хлопцам, вярнуўшыся на фабрыку.

Праз некалькі дзён закупілі ролікавыя канькі. І хутка спартсмены выйшлі на тэнісны корт. Нічога, што пад нагамі асфальт, што ў паветры гарачыня. Астатняе было нібы ў сапраўдным матчы — імклівыя атакі, трапныя ўдары па варотах і прыгожыя кідкі варатара. А балельшчыкаў было, хоць адбаўляй. Не жартачкі — хакей летам!

Па два разы на тыдні выходзілі «на лёд». А калі пачаліся маразы, самі залілі футбольнае поле. Неяк так павялося ўжо ў швейнікаў — усё робяць самі. Ці адрамантаваць лыжы, ці зрабіць пляцоўкі, ці вось заліць каток — усюды прыкладуць яны свае рукі. І каток атрымаўся добры. Цяжка знайсці яшчэ адзін такі ва ўсім горадзе. Пры святле пражэктараў ззяе шэраваты ледзяны панцыр. Спартсмены пад чароўныя гукі музыкі імкліва нясуцца па катку...

Канькоў, вядома, на складзе нямнога. Іх не хапае. Устанавілі дзяжурства. Кожны цэх атрымлівае спортінвентар у пэўныя гадзіны.



Перад выхадам на лыжню. Механік Яўген Карчэўскі (злева) і работнік лыжнай базы Уладзімір Фамічоў.

Фота аўтара.

Але вернемся да хакеістаў. Іх моц адчулі ўжо многія каманды горада. Добра гуляюць Георгі Міхалап, Аркадзь Мількевіч, Уладзімір Курмаз, Юра Здор, Леў Турчын і многія іншыя. Каманда поўна рашучасці заваяваць прыз на першай Усебеларускай спартакіядзе па зімовых відах спорту. Верыш, што гэтага фабрычныя спартсмены даб'юцца. Вельмі ўжо яны настойлівыя.

**Мікола ЧАХОЎСКІ.**

г. Бабруйск.



**У зале Гомельскага дома фізкультуры сустрэліся каманды валейбалістак Румыніі і Беларусі.**

Фота аўтара.

# У ГАСЦЯХ СЯБРЫ З РУМЫНІІ

**Рэпартаж**

Аматары спорту ў сталіцы Беларусі даўно прывыклі да міжнародных спартыўных сустрэч. Жыхарам жа іншых гарадоў рэспублікі не так ужо часта даводзіцца быць сведкамі гэтых хвалюючых падзей. Адна з прычын гэтага — недастатковая колькасць добраўпарадкаваных спартыўных залаў. Пабудова ў Гомелі новага Дома фізічнай культуры таварыства «Спартак» адразу ж унесла свежы струмень у спартыўнае жыццё горада. Моладзь Гомеля з захапленнем займаецца многімі відамі спорту. Сярод гамяльчан ёсць нямала прызёраў, рэкардсменаў і чэмпіёнаў Савецкага Саюза і Алімпійскіх гульняў. Новы спартыўны клуб адкрыў вялікія магчымасці не толькі для трэніровак, але і для правядзення спаборніцтваў.

Білеты на першую ў Гомелі міжнародную сустрэчу па валейболу былі прададзены амаль на працягу аднаго дня. Перад пачаткам гульняў ля Дома фізічнай культуры сабраўся вялізны натоўп. Людзі сустракалі адзін другога спрадвечным паролем балельшчыкаў: «Ці няма лішняга білеціка?»

У гэты вечар мелася адбыцца сустрэча валейбалістаў Румыніі і Беларусі. Братнюю рэспубліку прадстаўлялі каманды клуба «Прагрэсул» (Бухарэст). Гонар Беларусі абаранялі мінчане — жаночая каманда «Спартака» і мужчынская каманда «Буравесніка».

Калі ў часе прадстаўлення каманд былі названы імёны румынскіх спартсменаў, пасля якіх дадавалася: «член нацыянальнай каманды», «прызёр першынства Еўропы» і іншае — многія з балельшчыкаў нават спахмурнелі...

Сустрэчу пачалі жаночыя каманды. Спартакаўкі гулялі з вялікім уздымам і вельмі дружна. Яны былі моцныя і ў абароне, і ў нападзе. Іх удары здзіўлялі сваёй энергічнасцю і дакладнасцю.

Першую партыю з лікам 15:6 выйгралі спартакаўкі. У другой партыі яны дазволілі сваім саперніцам узяць толькі адно ачко. Госці былі разгублены. У трэцяй партыі трэнер нашай каманды вырашыў паспрабаваць свае рэзервы і амаль поўнасцю змяніў састаў ігракоў. Вынік быў вельмі горкі. Партыя аказалася прайгранай. І вось зноў уступае ў гульню асноўны састаў, і зноў перамога. 15:5! У гэтай партыі асабліва вызначыліся майстар спорту Ірына Пятрова, якая паказала высокі клас падачы. З пададзеных ёю мячоў спартакаўкі выйгралі дзевяць ачкоў запар! Агульны лік партый 3:1. Уся зала — і гледачы і госці — узнагароджваюць заслужаных пераможцаў працяглай авацыяй.

З такім жа лікам закончылася сустрэча мужчынскіх каманд. Але апладзіравалі цяпер ужо гасцям. Яны атрымалі двайную перамогу. Выйгралі не толькі ігракі, але і кіраўнікі каманды, якія мелі абсалютна паўнацэнны рэзерв. У нашай каманды рэзерву не было.

Перад пачаткам спаборніцтваў быў абвешчаны традыцыйны лозунг усіх спартсменаў: «Няхай пераможа мацнейшы!» Так яно і здарылася. Сімпатыі гледачоў былі на баку тых, хто дэманстраваў майстэрства, волю да перамогі, спартыўную загартоўку, аптымізм. Гэтымі якасцямі валодаюць і многія валейбалісты «Буравесніка». Многія, але, на жаль, не ўсе. Наглядаючы за гульнёй, гамяльчане рабілі і свае вывады. Іх жа таксама не абмінуць міжнародныя сустрэчы. І ў гэтых сустрэчах таксама пераможа толькі мацнейшы!

**А. ДЗІТЛАЎ.**

**Як ні старалася мужчынская каманда Беларусі, выйгралі госці.**



**Рашучы момант у ігры жаночых каманд. У белым — госці.**



**Каманда валейбалістак таварыства «Спартак» (Мінск), якая выйграла сустрэчу. У самым канцы года каманда заваявала званне чэмпіёна Беларусі.**

# *Шахматы*

пад рэдакцыяй міжнароднага майстра
**А. СУЭЦІНА**

# РЭТРАГРАДНЫ АНАЛІЗ

Ці ведаеце вы, што такое рэтраградны аналіз у шахматах? Не ўсе ведаюць? Тады мы пазнаёмім вас з гэтым захапляючым метадам даследавання шахматных пазіцый. Многія шахматысты называюць рэтраградны аналіз — аналізам па «Шэрлаку Холмсу».

Вялікім знаўцам рэтраграднага аналізу справядліва лічыцца майстар шахматнай кампазіцыі В. Каралькоў (Ленінград). Разгледзім адзін з яго твораў на гэтую тэму.

Гляньце на пазіцыю, што на дыяграме № 1.

**ДЫЯГРАМА № 1.**



Скажам, вы не ведаеце, чый першы ход у гэтай пазіцыі. А гэта вельмі важна — той, хто пойдзе першы, адразу ж выйграе. У гэтым лёгка пераканацца.

І вось задача заключаецца ў тым, каб высветліць, чый жа ход у гэтай пазіцыі. Для гэтага трэба падлічыць, якую колькасць хадоў зрабіў кожны з партнёраў. Калі белыя зрабілі цотны лік хадоў, а чорныя няцотны (або наадварот), дык рабіць ход павінны чорныя (або белыя), калі ж абодва бакі зрабілі роўны лік хадоў, чарга рабіць ход за белымі.

Лёгка пераканацца, напрыклад, што ладдзя з поля h1 на поле g1 магла трапіць толькі ў няцотны лік хадоў. Становішча другой ладдзі здаецца больш свабоднае — яна мае тры полі для хадоў, але яны размешчаны трохвугольнікам! А гэта паказвае, што кожны раз ладдзя магла пайсці толькі на сумежнае поле, таму што цяпер яна знаходзіцца на b1. Такім чынам, ёю зроблены няцотны лік хадоў.

Сланы белых не рухаліся з месца, а ферзь «забіты» на полі d1 і, значыць, зусім не рабіў хадоў. Белы ж кароль зрабіў цотны лік хадоў (або зусім не рухаўся з месца!), што няцяжка вызначыць.

Цяжэй падлічыць хады, зробленыя конямі. Невядома, напрыклад, які конь стаіць на полі d5 — ферзевы ці каралеўскі? Але, аналізуючы, высвятляем, што гэта не мае істотнага значэння, каб вырашыць пытанне. Конь заўсёды ходзіць з белага поля на чорнае і наадварот, а гэта азначае, што пры кожным ходзе ён мяняе колер клеткі. Калі лічыць, што на d5 стаіць ферзевы конь, гэта будзе паказваць, што на белае поле ён мог трапіць з белага ж поля b1 толькі за цотны лік хадоў. Але гэта будзе паказваць таксама, што на d1 стаіць каралеўскі конь, які з чорнага поля g1 на белае мог трапіць толькі за няцотны лік хадоў. У суме лік хадоў абодвух коней — няцотны. У гэтым лёгка пераканацца.

Але ці не зменіцца вынік, калі на d5 стаіць не ферзевы, а каралеўскі конь? Вядома, не зменіцца. У гэтым выпадку ён зробіць няцотны лік хадоў (з чорнага поля трапіў на белае), а ферзевы, з белага поля b1, трапіўшы на белае поле d1, зробіць цотны лік хадоў. Значыць, сума іхніх хадоў складзе ўсё роўна няцотны лік.

З усіх пешак, як бачна на дыяграме, хадзіла толькі ладзейная і прасунулася яна на адно поле. Значыць, на хады пешак прыпадае няцотны лік.

Падсумоўваючы ўсе хады, зробленыя белымі, атрымаем у дадзеным выпадку цотную велічыню. Робім такі ж падлік для чорных. Імі зроблена няцотная колькасць хадоў.

Партыю пачынаюць белыя, і калі яны зрабілі цотны лік хадоў, а чорныя—няцотны, значыць, белыя зрабілі на адзін ход болей. Адсюль вынікае, што ў дадзенай пазіцыі павінны хадзіць чорныя, якія і робяць «мат»: 1... Ка1 : С2х.

Прапануем чытачам самастойна разабраць пры дапамозе рэтраграднага аналізу наступную задачу і адказаць, чорныя ці белыя павінны тут першымі рабіць ход?

**ДЫЯГРАМА № 2.**



Прысланы на працягу месяца з дня выхаду часопіса ў свет правільны аналіз задачы будзе змешчаны ў нашым часопісе.









## У НАС У ГАСЦЯХ САТЫРЫЧНАЯ ГАЗЕТА «АСА»

(Беларускі політэхнічны інстытут).

**1. РАЗМЕРКАВАННЕ**

**2. БУГІ-ХАПУГІ**

Студэнцкі эстрадны аркестр нават у сваім інстытуце патрабуе плату.

**3. «АКТЫЎНЫ» ПАДПІСЧЫК**

— Ты чаму не падпісваешся на газеты?
— А мая бабуля ўжо выпісала «Мурзілку».

**4. МЕТАМАРФОЗА**
Малюнкі студэнтаў будфака
**У. Шынкевіча і В. Хвяжэнкі.**

# Метамарфоза















## ЗМЕСТ



### На арбіту камунізма



### Гары, камсамольскі аганёк



### Навука і культура



### Размова аб майстэрстве



### З блакнота падарожніка



### Спорт



### Гумар і сатыра



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**

**Галоўны рэдактар Пімен ПАНЧАНКА**
**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола АЎРАМЧЫК, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Генадзь ЖАБІЦКІ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Іван НАВУМЕНКА, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Янка СКРЫГАН. Уладзімір ЮРЭВІЧ (адказны сакратар).**



**Агністы поўдзень.**
З асенніх акварэльных эцюдаў вучня 9 класа сярэдняй школы (в. Мільча Гомельскага раёна) Юрыя Астапенкі, які займаецца ў студыі выяўленчага мастацтва Палаца культуры чыгуначнікаў імя У. І. Леніна (кіраўнік В. Казачэнка).